*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС*

Заснаваны ў 1953 годзе



# МАЛАДОСЦЬ

ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

6

ЧЭРВЕНЬ

МІНСК, 1971

Выдавецтва ЦК КП Беларусі

## У НУМАРЫ:

Вокладка **М. Пракапенкі.**

Шмуцтытулы **М.** і **У. Басалыгаў** (стар. 3) і фота **В. Ждановіча** (стар. 93).



# ПАЭЗІЯ ✲ ПРОЗА

- Ніл ГІЛЕВІЧ
- Аляксандра УС
- Сяргей ПАНІЗНІК
- Генрых ДАЛІДОВІЧ
- Яўген ПУШКІН
- Уладзімір ФАМІН
- Міхась ПАРАХНЕВІЧ



● Ніл ГІЛЕВІЧ

● Мал. М. і У. БАСАЛЫГАЎ



# НЕДЗЯЛЕНЯ

## паэма



I



Вялікая ў свеце была вайна.
І ў свеце, і ў нас на Гайне
Перакуліла адразу яна
Усё дагары нагамі.
І звыклы парадак, і звыклы спакой —
Усё абярнула хаосам,
Дзе сэнсу і логікі, ну, ніякой —
На наш недарослы розум.
Леўку, якому дванаццаць год,
Мама ўнушае схмурнеўшы:
«Бацька пайшоў — ты замест яго.
Будзеш за бацьку для меншых».
Як гэта можа такое быць?
Леўка — ды нам за бацьку?
Што ж, ён мяне і папружкай біць
Возьмецца па-забіяцку?
Так я і дамся яму! Чакай!
Зараз усім нам воля.
Што сабе хочаш — рабі-вытварай.



Восень, а мы не ў школе.
Кніг не чытаем. Пасём кароў.
Вяжам з бярозы венікі.
Ды рэжамся — так, што будзь здароў! —
У дваццаць адно на «пфенікі».
І нават вучымся пакрысе,
Не баючыся нікога,
Лаяцца ўголас, каб чулі ўсе,—
Па-мацернаму і ў бога.



II



Страшная ў свеце была вайна.
Ні страт, ні ахвяр не лічыла.
Забіваць і знішчаць вучыла яна.
Ратаваць — таксама вучыла.
Банкір свой банк ратаваў той парой.
Кароль ратаваў карону.
А я не быў ні банкір, ні кароль,
Дык я — ратаваў... карову!
Хтось за дзяржаву адказнасць нёс,
Хтосьці — за ўсю Еўропу.
А мне справядліва судзіў мой лёс
Адказным быць за карову.
Са мною рашылася ўсё прасцей —
Аб'ект і маштаб скрамнейшы.
Было нас у маці васьмёра дзяцей —
Малы за малога меншы.
А бацька ў атрадзе. І трэба было
Самім аб ратунку думаць,
Бо калі прыйдуць немцы ў сяло —
Усіх, як шчанят, падушаць.
Таму, калі ў лес было трэба ўцякаць,
Ведалі ўсе без падказкі,
Хто што павінен з сабой хапаць —
Якія ў каго абавязкі.
Мама хапала Алесіка
І клунак з ядою за плечы.
Ліна хапала Мараціка
І клунак з адзеннем за плечы.
Леўка хапаў Міколку
І з коўдрамі клунак за плечы.
Ліда хапала Святланку
І з вобуем клунак за плечы.
А я — хоць і клунак з пасудай хапаў —
Загад меў асобага роду:
Я кідаўся вопрамеццю да хлява,
Кароўку за вяроўку — і ходу!
Я памятаў — маці казала не раз:
«З кароўкі — усе наедкі.

Калі б ды, крый бог, не было яе ў нас —
Што б мы рабілі, дзеткі?
Мы б самі згібелі, і пэўна б былі
Не страшныя нам гітлераўцы.
Калі мы ад голаду йшчэ не злеглі —
Дзякуйце, дзеткі, кароўцы.
Хоць і смярдзючы з травы праснак
І гэта бурда з бацвіння —
Але з малачком, дык і есца ў смак.
Кароўцы мы ўсе павінны».
І мы разумелі: праўду яна
Нам паўтарае ўпарта.
Ні хлеба ж, ні бульбы — нічога няма.
А восем ратоў — не жарты.
Дакуль падціскаў бы нам паяскі
Голад кашчавай рукою,
Калі б не тугія чатыры саскі —
На кожны сасок па двое?!
Вось і мяркуйце: у той вайне —
Пад ценем крывавых свастык —
Значны ці не быў даверан мне
Нябачнага фронту ўчастак?
Нехта адказваў дзесь за плацдарм,
Нехта — за ўсю абарону.
А я — хіба ворагу ў бітве здам?
Хваробу яму — не карову!



## III



Цяпер я ў гісторыю ўласных імён
Экскурс зраблю невялічкі.
У нас звычайна па назвах дзён
Давалі каровам клічкі.
Калі ў панядзелак убачыла свет —
Клічка была Панядзёха.
За панядзелкам аўторак услед,
Значыць, ужо — Аўтарэня.
Калі ў сераду — Серадуля,
Калі ж у чацвер — Чацвярэня,
А ў пятніцу — дык Пяцярэня,
Калі ж у суботу — Субоня.
Наша ў нядзелю зірнула на свет —
Наша была Недзяленя.
Клічка-імя падабалася нам —
Святочна гучала вельмі.
Тым летам, калі пачалася вайна,
Была яна першым целем.
Таму і на дымчатых вілах рагоў —
Як будучыні зарука —
Віднеўся адзін абадок усяго,



Адна кальцавая зарубка.
А масцю — як спелае жыта была.
Імя пасавала да масці.
«У збожжы не бачна — ну, проста бяда!» —
Апраўдваўся я перад маці.
«Па штату» я быў пастухом у сям'і —
Вадзіў Недзяленю на пашу.
Кожны дзянёк — з вясны да зімы —
Дбаў пра карміцельку нашу.
Яшчэ не скранецца туман у раўках —
За вёску кіруешся з ёю.
Повад — як сон абарваны ў руках,
А ў роце — трыумф сырадою.
Росы, як голкамі, ногі табе
Колюць. Няма куды дзецца?
Ступай, дзе карова траву саскубе —
Цяпло там ад губ застаецца.
Памалу вяду-пераводжу далей,
Шукаю, каб свежае месца.
Скубе Недзяленя штораз весялей,
І рад я, што добра наесца.
Скубі, Недзяленька! А я павадок
На рогі табе заматаю
Ды злётаю мігам у Пётраў равок —
Чмяліных там сот пашукаю.
У шкоду не лезь! Хадзі па траве.
Я ў добрае верыць ахвочы;
Я веру, што ўсё разумеюць твае
Вялікія сумныя вочы.



## IV



«Немцы! Ля Гайны ўжо немцы! Эгэ-эй! —
Віхурай па вёсцы трывога.—
Ратуйцеся, людзі! Бяжыце хутчэй!
Хапайце з сабою, што змога!»
Мама схапіла Алесіка
І клунак з ядою за плечы.
Ліна схапіла Марацiка
І клунак з адзеннем за плечы.
Леўка схапіў Міколку
І з коўдрамі клунак за плечы.
Ліда схапіла Святланку
І з вобуем клунак за плечы.
А я — хоць і я не забыў хатуля —
Загад меў асобага роду:
Я кінуўся вопрамецю да хлява,
Кароўку за вяроўку — і ходу!
Аселіцай, межамі, полем наўсцяж —
Бягуць ашалела вяскоўцы.
«Каб толькі да лесу — ратунак там наш.

Алюрам!» — крычу я кароўцы.
Салёныя рагі на вочы — дармо!
Дармо, што займае дыханне.
«Хутчэй, Недзяленька, хутчэй бежымо:
Карнікі ўжо каля Гайны!
Нам толькі да лесу — і ўсёй бегатні.
Шпарчэй жа хоць трохі, ты чуеш?
Ты ж можаш: калі нападуць авадні —
Дык вунь як тады гізуеш!
Ну, што ж ты спынілася?» Кашаль забіў.
Глыбокі — і з пенаю — кашаль.
Стала й ні з месца. Што хочаш рабі.
Бакі толькі ходзяць цяжка.
А людзі бягуць і мінаюць нас —
Ажно выкладаецца кожны.
Яшчэ нейкі час, яшчэ нейкі час —
І я застануся апошні.
«Пайшла! Ну, пайшла ж ты!» — прашу і крычу,
І робіцца млосна ад страху.
Зрываюся ў лютасць і моцна хвашчу,
Луплю вераўчакай з размаху.
Плачу і б'ю па баках, па хрыбце —
Не памагае пачостка.
«Ты хочаш, каб Гітлер забраў цябе?
Ну й стой жа тут, воўчая костка!»
Кідаю са злосцю далоў пававадок —
І джгаю, захаканы, з клункам.
«Хоць бы забегла за гэты грудок —
Можа б ён стаў ёй ратункам...»
І я павярнуўся міжволі кругом —
І ахнуў, замёр ад здзіўлення:
Бяжыць! Недзяленя бяжыць наўздагон!
Капыціць сама Недзяленя!
Ото ж малайчына! Пусцілася ўслед!
Кароўка мая залатая!
Цяпер нас не возьме фашыст-людаед.
Нас пушча з табою схавае.
Хадзі ж, Недзяленька! Давай капыток —
Там повад засеў — я дастану.
Ах, можа ж, на шчасце, не бачыў ніхто,
Што ледзьве бяда ў нас не стала!



## V



Жывём у зямлянцы — на высепе ў бары.
Прывыклі — нібыта й нядрэнна.
Але і ў бары — жыццё да пары:
У дзіч забірацца патрэбна.
А дзіч — гэта дзіч: імшара-дрыгва,
Сасонкі, хмызняк ды багна.
Прарвецца дзе мох — і шусне нага,
І багна засмоктвае прагна.
У дзіч падаёмся, бо карны атрад
Аблавай ідзе па лесе.
На дзіч спадзяёмся. Мяркуем: наўрад
Ці немец у багну палезе.
Вы не блукалі з дзяцьмі па дзічы?
Не? То баронь вас божа!
Мама злуецца: «На куп'е скачы!
Бо твань і закоўтаць можа!»
Скачам. Зрываемся. Ногі ва ўсіх
У чорнай рудзе па калені.
А мне — найгорш: калачуся штоміг
За кожны крок Недзяленi.
Толькі як-небудзь ёй падмагу —
Пярэднія ногі выйме,
Як тут жа задніми ў тую ж дрыгву
Правальваецца па вымя.
«Мама! — гукаю.— Засела ізноў!»
Ды ўчуць мяне ўжо немагчыма:
Быццам адразу сто перуноў
Грымнула дзесь за плячыма.
Потым — застукаў, забіў кулямёт.
«Лажысь!» — нейчы голас суровы.
Я падаю ніцма — тварам у мох,
Амаль пад жывот каровы
Ёй вылезці з багны сіл нестае,
А я — памагаты слабы.
Ляжу, прытуліўшыся к боку яе,
І чую, як дыхаюць скабы.
І чую, як моцна дурманіць багун,
Падмяты на купіне шэрай.
А нашых не чую. Таму і бягу,
Падхоплены страхам, наперад.
А нашых не бачна. Захакаўся. Пот
Сціраю з ілба, з пераносся.
І ў гэту хвіліну, як здань, самалёт —
Над самай імшарай пранёсся.
Цяпер не гляджу ўжо, куды па імхах,
Па куп'і нясуць мяне ногі.
Арыенціраў не ведае страх
І не разбірае дарогі.
Калі адгрымела і пошчак заціх —
Было ўжо амаль на змярканні —
Жывых і здаровых, знайшоў я сваіх:
На шчасце, пачуў іх гуканні.
Мама падбегла, да сэрца хіне.
Малыя гурмой абступаюць:
«А дзе ж Недзяленя?» — пытаюць мяне.
«А дзе ж Недзяленя?» — пытаюць.
«Ну, што вы прысталі? Вы ж знаеце, дзе! —
Рэзоніць іх маці нягнеўна.—
Хіба ж ён па багне адзін прывядзе?
А вось удваіх мы — то пэўна!..»
Зноў квокча і топіцца ў багнішча мох.
Гнілое, глухое няўтулле.
«Цялух-Недзяленя! Цялушка! Цёх-цёх!» —
Гукае пяшчотна матуля.
Без клунка, здаецца, лягчэй удвая
Скакаць мне па шапках гарбатых.
«Цялух-Недзяленя!» — гукаю і я,
А голас — такі вінаваты.
Зусім звечарэла. Пасыпаўся дождж.
І цёмна і вусцішна стала.
Спыніліся. Мама ўздыхнула: «Ну, што ж!
Раніцай знойдзем!» — сказала.
«Раніцай знойдзем! — сказала малым.—
Ноччу бадзяцца не гожа».
Леўка тым часам нарэзаў галін,
Зрабіў для начлегу ложа.

Мама ажэвісты жмых праснака
На восем кавалачкаў дзеліць.
«Ах, каб цяпер хоць глыток малака!» —
Пакутліва думаюць дзеці.
Была б Недзяленя — не грызлі б сухі.
Як моцна, выходзіць, падвёў я!
Што ні кажы, а чатыры саскі:
На кожны сасок — па двое!
Ноччу не спіцца. На сэрцы скрабе.
Шэпчацца, цвеліцца лісце:
«Гэта ж усе праз цябе, праз цябе
Без малака засталіся!»
Нешта Алесік заплакаў у сне,
Затрызніў Марацік спрасоння.
«Гэта ж усё праз мяне, праз мяне
Мучае голад іх сёння!»
Упершыню зразумеў я тады,
Як страшна ў вялікай дзеі
Не апраўдаць давер грамады,
Сваіх ашукаць надзеі!
Можа, адтуль праз усё жыццё —
З грознай пары партызанскай —
Я і нясу, як сцяг, пачуццё
Адказнасці грамадзянскай.



VI



Быў на рагах адзін абадок,
Тым часам чатыры стала,
А ўсё яшчэ ходзіць горам-бядой
Па роднай зямлі навала.
Тым часам і я ўжо амаль дзяцюк:
Не дзесяць, а ўсіх трынаццаць,
І ведаю: Гітлеру скора каюк.
Нядоўга яму ўжо трымацца.
Падвечар пасём на паляне кароў.
А ў вёсцы — заслон варожы.
Бачу: выходзіць бацька з кустоў,
Худы — як пасля хваробы.
Ён падзывае мяне кіўком
І шэптам дае заданне:
Трэба прабрацца ў вёску цішком:
Што там у іхнім стане?..
За хмызам віднеюцца стрэхі хат
І нават шпакоўня на жэрдцы.
Дзяруся кустоўем. І раптам: «Хальт!»
Аж ёкнула нешта ў сэрцы.
Тоўсты, мардаты, яшчэ не стары,
Гранатамі аперазаны,
Ён робіць насустрач крокі са тры
І гаркае: «Дзе партызаны?»



Наіўна паказваю кміну снапок
І паціскаю плячыма,
І — нібы клубок, адлятаю ўбок:
Толькі кругі прад вачыма.
Не даланя — а пранік цяжкі,
Вялізарны пранік драўляны.
«Аўфштэен!» — І зноў ён казерыць бялкі
І гаркае: «Дзе партызаны?»
І зноў паціскаю плячыма ў адказ:
«Не знаю. Не бачыў. Не знаю».
І зноў пад гучны «праніка» пляск
Далёка ў траву адлятаю.
А потым яшчэ, і яшчэ, і яшчэ!
А потым... ляжу нерухома.
Гарачы струменьчык на губы цячэ.
На вейках — ліпучая стома.
Хачу іх расплюшчыць, адплюшчыць хачу!
Чаму ўсё імглой ахінула?
Сплывае імгла, і я нема крычу:
У вочы мне цэліцца дула!
Пасля паднялося, хіснулася ўбок —
Хай куля пабудзе ў патроне.
Лепей без стрэлу. З падкоўкамі ж бот!
...На шчасце — чуць вышай скроні.
. . . . . . . . . . . . . . . . .
Ранак. Ляжу на сухой дзеразе.
На лбе — абячэйкай — хустка.
Мама ўсміхаецца: «Чуеш? Гудзе!
Хутка ўжо, дзетачкі, хутка!»
Я слухаю дол — ён мембранай стаў:
Дзесь кананада далёка.
А побач — глядзіць на мяне з куста
Каровіна сумнае вока.



VII



Даўно адкрывавіла Тая вайна,
І ўжо нават крывяцца недзе:
«Не гэткай была ўжо і страшнай яна,
Шаноўныя сэры і лэдзі.
Падумаеш — могільнік вёсак Хатынь!
Бясплатны музей, якіх многа».
І ўжо аднаго ім шкада: што не тым
Прыйшлася ў вайне перамога!..
І новыя войны грымяць на зямлі,
І, седзячы ў багнішчы дзесьці,
Плачуць — даўно малака не пілі —
Галодныя, хворыя дзеці.
Ах, памяць балючая даўніх дзён!..
Кароль, што кульнуўся з трона,
Марыць, каб зноў вярнуцца на трон

І на лоб уссадзіць карону.
Банкір, што быў ледзьве не страціў банк,
Марыць на зло ўсяму свету
Стаўку зрабіць на бомбу і танк,
На самалёт і ракету.
А я — у былым не кароль, не банкір,
А толькі пастух,— я мару
Пра мір на зямлі. Павінен жа мір
Апраўдаць такую ахвяру!
На тысячы год у імя яго
Ахвяру дало чалавецтва!..
Між іншым, і частку сэрца майго.
Найлепшую частку, здаецца.
Тую, дзе птахам над весняй зямлёй
Радасць звінела зазыўна.
А мне засталася другая — і ў ёй
Смутак ды боль непазбыўны.
Таму б і хацеў хоць аднойчы, хоць раз
Вярнуцца на родны падворак,
У той даваенны, той светлы час,
Пры першых вячэрніх зорах.
І ўбачыць, як мама у дзве рукі
Доіць карову, як льюцца,
Звіняць аб даёнку тугія цуркі
І песняй ва мне аддаюцца.
Як хораша ў ладным шчарбатым гаршку
На вогнішчы варыцца бульба,
А дзеці цярпліва сядзяць у кружку
І слухаюць радасны булькат.
А мама зірне: «Адцэджваць пара!» —
І здыме гаршчок з цаглінаў,
І рушаць за ёю — Святланка, Марат
І Леўка, і Ліда, і Ліна...
Той дружнай вячэры, пакуль буду жыць,
Ужо я ніколі не ўбачу.
І так жа мне горка, і так мне баліць.
Ну, што я без гэтага значу?



Аляксандра УС

Мал. Г. СКАМАРОХАВА



# ВАСІЛІНКА З ЦАРСКАЙ ВЕТКІ

АПОВЕСЦЬ

## СЯРЭБРАНЫ РУБЕЛЬ



Васілінка ходзіць як сама не свая. Маці зусім не звяртае на яе ўвагі. Паабяцала прышыць руку лялькі і ўсё ніяк не возьмецца, усё ёй часу няма. Васілінка сама бярэ іголку і поркаецца з ляльчынай рукой, з якой сыплюцца апілкі. А была ж такая красуня з фарфоравай галоўкай — адна любата. Цяпер нос падрапаны, блакітная фарба з аднаго вока зусім аблупілася. Толькі Васілінка ўсё роўна любіць сваю Машку, выстаўляе побач з ёю цэлы строй бутэлечак, шклянак і бляшаначак, у якіх летам пірагі з пяску пякла, а сама ўсё завіхаецца ля той рукі, што жаласна вісіць на тонкай стужачцы.

— Твая Машка інвалід! — рагоча Сонька.— Ёй германец на вайне руку адарваў, Машка цяпер калека!

Лялька жаласна пазірае на сваю гаспадыню выцвілымі ад старасці вачыма, а Сонька-задзірака, паказаўшы язык, хапае Васілінчын палітончык і, бразнуўшы дзвярыма, выскоквае на двор. Васілінка ледзь не плача, так ёй шкада скалечаную Машку, а заадно і самую сябе.

Усё ў доме цяпер перавернута дагары нагамі. Цэлы тыдзень гасцюе цётка Жэня — бацькава сястра з Тыфліса з трыма дзецьмі: Соняй — Васілінчынай аднагодкай, танклявым даўганогім Валодзькам і маленькім Васем. Усе яны нейкія не такія, як усе дзеці. Твары цёмныя, нібы памазаныя карычневай фарбай, насы

доўгія. Блішчаць белыя зубы, агнём гараць быстрыя чорныя вочы, а ў Сонькі яшчэ матляецца на ланцужку вялікая сярэбраная манета з дзірачкай пасярэдзіне.

І прынесла ж іх з таго Тыфліса ў лёгкіх жакецiках.

— Ах, я не думала, ах, я не ведала,— лемантавала цётка,— што ў вас так холадна! — Быццам бы Васілінка вінавата ў гэтым. Цяпер Сонька носіць Васілінчын новенькі палітончык, перашыты з матчынай жакеткі, а сама Васілінка бегае ў старой куртачцы.

Яшчэ задоўга да прыезду гасцей маці завіхалася, скрэбла, мыла, прыбірала, нічога смачнага не гатавала.

— Вось прыедзе цётка, тады пасвяткуем.

А як там пасвяткуеш, калі гэты пост вялікі цягнецца цэлы век! Васілінка нават забылася, які смак малака і мяса. Толькі і чуеш: «скаромнага есці няможна — грэх». А што такое грэх? Васілінка не ведае. Толькі чуе, як маці выгаварвае бацьку: «Схадзі, Змітра, да споведзі, не бяры грэх на душу». Бацька адмахваецца: «А я не браў таго граха на душу, няма чаго ў царкву ісці».

— Што ты кажаш, Змітра! — не адступаецца маці.— Ты ж толькі першы тыдзень пасціў, а на другі ўжо і не вытрываў. Паеў скваранага булёну ў паездцы!

Васілінка ведала, што маці і сама не вытрывала, як малога Міцьку грудзьмі карміла: малачка ў чай у вялікі пост падлівала.

— Вось і прызнайся табе,— папракнуў сам сябе бацька.— Я ж нікога не пакрыўдзіў, не аблаяў, чужога не ўзяў! Ну, добра, пайду, хай толькі ў хаце будзе ціха.

У той няшчасны дзень бацька з раніцы пайшоў да споведзі. Праз колькі хвілін маці схамянулася: ён жа не ўзяў грошай, каб падстрыгчыся ў цырульніка! Хіба можна ісці да бацюшкі з такімі касмылямі? Яна схапіла насовачку і завязала ў ражок сярэбраны рубель. Падала гэты скарб Васілінцы ў рукі і сказала:

— Бяжы, дачушка, дагані бацьку і аддай яму грошы.

Слёз як не было. Васілінка выскачыла з хаты і панеслася, што віхор, пасярод вуліцы. Бацька ўжо адышоўся далёка. Васілінка пабегла яшчэ шпарчэй, круцячы ў руцэ тую насовачку. Так было неяк спрытней бегчы. Вось яна ўжо зусім блізка, рукой падаць.

— Тата! — крыкнула Васілінка,— мама прыслала рубель, казала, каб ты...

Што гэта? У насовачцы нічога няма! Васілінка мацала за ўсе ражкі — сярэбраны рубель знік, як і не было. У Васілінкі перасохла ў горле, язык не слухаўся, не даваў вымавіць слова. Яна стаяла моўчкі і пазірала пад ногі.

— Ну, нічога, дачушка, не плач. Чаго не бывае! Бяжы назад, я хутка буду.

Лёгка сказаць — бяжы назад! Васілінка ледзьве перастаўляла ногі і не адрываючы вачэй глядзела пад ногі, шукала той рубель. І куды ён знік? Нідзе яго не відаць. Сказаць маме ці не? Васілінка добра ведала, што тая па галоўцы не пагладзіць. «Не скажу»,— нарэшце вырашае Васілінка.

Толькі схаваць сваю збянтэжанасць яна не ўмее. Мама заўсёды здагадаецца, што нешта здарылася.

— Што з табою?

— Нічога.

— Як гэта нічога? У цябе ж у вачах напісана!

Маці заўсёды па вачах пазнавала, калі ў Васілінкі здараліся непрыемнасці.



— Я... я згубіла рубель...

— Згубіла? Такія грошы згубіла? Вось вазьму раменьчык ды перацягну па спіне, тады будзеш ведаць, як грошы берагчы!

Раменьчыка Васілінка баялася. Ёй зрабілася холадна, і яна заплакала.

— Толькі грэх не хачу на душу браць перад споведдзю,— раптам памякчэла маці.— Марш у кут!

Васілінка цярпліва стаіць у кутку. Зусім ужо анямелі ногі. Здаецца, каб маці дазволіла прысесці на падлогу, то яна б поўны дзень сядзела. Ах, хаця б хутчэй вярнуўся тата! Ён, як на тую бяду, недзе забавіўся. А тут яшчэ гэта ненавісная Сонька дражніцца і высоўвае язык.

— Разявака! Рубель згубіла!

Васілінка пераступае з нагі на нагу, ціхенька шморгае носам і паказвае Соньцы кулак. Нарэшце вяртаецца бацька. Разам з ім дзядзька Самсонаў з дэпо. Убачыўшы Самсонава, маці моўчкі ўздыхае: усё ясна! Зноў не схадзіў бацька да споведзі, сядзеў у гэтага бязбожніка, ніяк не нагаворацца!

Самсонаў падміргвае Васілінцы і вымае з кішэні цукерку, але Васілінка ўткнулася носам у сцяну: сорамна перад дзядзькам Самсонавым.

— Амністыя! — рагоча Самсонаў.— Амністыя, выпускайце арыштантаў! — развітваецца і выходзіць з хаты.

— Ну, ладна, маці, хопіць, не ўшчувай ты малую,— лагодна кажа бацька.— Яна ж незнарок.

А маці і самой шкада сваёй дачушкі. Яна нібы не заўважае, што бацька падыходзіць да Васілінкі, бярэ яе за руку і выводзіць з кутка. Бацька садзіцца на табурэтцы, бярэ сабе на адно калена Васілінку, вымае з кішэнькі, што на камізэльцы, вялікі сярэбраны гадзіннік «Павел-Бурэ», націскае на галоўку. Стрэльнуўшы, адскоквае верхняе вечка, а за ім танчэйшае другое. І бацька тлумачыць Васілінцы, як перавесці стрэлку на тую ці іншую лічбачку. Васілінка захапляецца гэтым заняткам і, утульна ўмасціўшыся на бацькавым калене, хутка забывае пра непрыемнае здарэнне.

Але назаўтра Васілінку зноў напаткала бяда. А ўсё праз гэтых гасцей. Сонька так штурханула кулаком у бок, што аж іскры з вачэй пасыпаліся. Ну, вядома ж, Васілінка не дала сябе ў крыўду, хоць маці казала, каб яна была з гасцямі ветлівая і лагодная. Але ад болю Васілінка забылася пра гэта і, размахнуўшыся, пляснула Соньцы па твары.

Маці, сурова глянуўшы, сказала:

— Вось так, мая дачушка,— усе мы пойдзем на памяць фатаграфавацца, а ты астанешся і будзеш сядзець адна дома.

Васілінка яшчэ ніколі адна ў хаце не аставалася. Ці ад таго, што ёй зрабілася вельмі боязна, а мо ад таго, што яна не будзе фатаграфавацца, няпрошаныя слёзы пырснулі з вачэй. Мусіць, тыя буйныя слёзы змякчылі матчына сэрца. Калі ўжо ўсе апрануліся, яна сказала:

— Збірайся ўжо і ты з намі...

Ішлі доўга-доўга. І занесла ж таго фатографа аж за Дзвіну! Асабліва млелі ногі ў Васілінкі, калі паўз іх, цокаючы капытамі, пралятала, нібы віхор, фурманка. Але дзе ж ты на яе сядзеш? Толькі багатыя катаюцца на фаэтоне...

Малодшага брата Міцьку бацька амаль усю дарогу на руках нёс, а Васілінка моцна трымалася за Тоніну руку — Тоня яе старэйшая сястра — і адступала ўсё далей ад Сонькі. Яна і там, у фатографа, не

стала з ёй побач, але Сонька ўплішчылася бліжэй да Васілінкі, знарок наступіўшы ёй на нагу.

Маці і цётка прыгожа апрануліся. Асабліва прывабна выглядала маці з высока ўзбітымі валасамі. Такую прычоску яна рабіла толькі па вялікіх святах. Бацька апрануўся ў святочную тройку з сярэбраным ланцужком ад «Паўла-Бурэ» на камізэльцы. Тоня з распушчанымі валасамі, з вялікім белым бантам на галаве. А Васілінка стаяла засмучаная праз тую Соньку. Ды на яе стрыжанай галаве не завяжаш аніякі бант.

Усе былі насцярожаныя, не такія, як заўсёды, нібы чакалі нечага незвычайнага. Толькі Міцька з белым вязаным каўнерыкам на цёмным пінжачку і ў новенькай, спецыяльна купленай для гэтай падзеі фуражачцы з бліскучым брылем не звяртаў увагі на ўсю гэтую ўрачыстасць і круціўся, нібы вавёрка.

Нарэшце фатограф рассадзіў усіх, як належыць, і сказаў:

— Глядзі ўважліва, Міця, вось адгэтуль,— ён дакрануўся рукой да круглай чорнай плямкі,— зараз птушка выскача.

О, гэта ўжо было цікава не толькі Міцю!

І тут сам фатограф схаваўся пад чорнае пакрыва. Усе затаіўшы дыханне чакалі, калі ж нарэшце вылеціць птушка, а фатограф-чарадзей высунуў з-пад свайго сховішча руку і закрыў тое месца, адкуль так і не паспела выпырхнуць птушка.

А назаўтра госці паехалі дадому, у свой Тыфліс. Калі садзіліся ў вагон, Сонька-задзірака нешта паклала Васілінцы ў руку. «Бывай, Васілінка! — весела крыкнула яна, бліснуўшы чорнымі вачыма і белымі, як часнок, зубамі.— Да пабачэння!»

Як толькі цягнік схаваўся за паваротам, Васілінка расціснула кулак. На далоні ляжала манета з дзірачкай пасярэдзіне... Той самы сярэбраны рубель, што матляўся на шыі ў Сонькі.

Праз колькі дзён Васілінка ўбачыла на фатаграфіі застылыя твары сваёй сям'і і гасцей. Побач з ёю стаяла Сонька і нахабна выскалялася, нібы яна адна ўбачыла тую фатографаву птушку. Васілінка ўжо не злавалася на сваю стрыечную сястру. Ёй было нават шкада, што яны не паспелі пасябраваць. Шкада, што Сонька паехала ў свой Тыфліс!

Васілінка ўздыхнула і на адваротным баку фатаграфіі карандашом накрэмзала:

«Мне хутка 7 год».

## НА ВУЛІЦЫ ЗЯЛЁНАЙ

Цяпер яны жылі ў новым месцы, на вуліцы, што звалася Зялёная. Сказаць, каб на ёй было зелена, то не вельмі. Паабапал пясчаных тратуараў цягнуліся неглыбокія канаўкі, якія параслі травой. На ўсю вуліцу быў адзін сад — Арцёмішын, амаль насупраць іхняга дома, за высокім дашчаным плотам.

Пабываць у тым садзе яшчэ нікому з дзяцей не выпадала, а паглядзець, заплюшчыўшы адно вока, праз шчыліну ў плоце ўсё ж было можна. Там радкамі стаялі абсыпаныя пладамі разгалістыя яблыні, побач з імі ўгору цягнуліся грушы. Навокал зелянела высокая трава. Ля плота, як вартавыя, стаялі вішні, голле іх разраслося і перакінулася на вуліцу. Васілінка любіла ў летнюю спёку схавацца пад зялёную засень. А яшчэ больш яна любіла выскачыць раніцою ды шпацыраваць басанож ля таго плота ды шукаць, ці не ўпала дзе вішня на зямлю. Хай сабе і запэцканая ў пяску, але ўсё роўна смачная.

Але вішні трымаліся на вецці вельмі моцна. А спялейшыя Арцёміха абірала сама, падставіўшы высокую лесвіцу, і несла на рынак.

Хай бы лінуў дождж, ды падзьмуў моцны вецер, ды страсянуў тыя дрэвы, каб з іх пасыпаліся буйныя спелыя вішні! Аднаго разу Васілінка сасніла, што муражок пад плотам густа ўсыпаны вішнямі, а яна іх збірае і збірае ў кошык. Але то было ў сне, а на яве такога цуда не здаралася. Хай бы яны кватаравалі ў Арцёміхі, тады можна было б хоць раз забегчы ў сад!

У Васілінчынага гаспадара, састаўніка паяздоў, не было саду. Сярод градак расло ўсяго некалькі кустоў парэчак і агрэсту. Маці строга наказала, каб нават у той бок, дзе тыя кусты, не глядзелі, бо будзе дрэнна. Яно, вядома, Васілінка не хацела, каб было дрэнна. Але як прайсці міма і не глянуць на тыя кусты? Вочы самі так і цікуюць, так і цікуюць, ці растуць ягады. Спачатку іх зусім не відаць было, а потым, прыгледзеўшыся, Васілінка заўважыла на галінках драбнюсенькія светлыя кропелькі. Тыя кропелькі не так ужо спакушалі, а вось як падраслі, пазелянелі, дык ратунку не было — так хацелася падысці да іх бліжэй. Нічога ж дрэннага не здарыцца, калі яна толькі падыдзе і гляне!

Аднаго разу, перагуляўшы ва ўсе гульні, Васілінка азірнулася навокал, каб ніхто не ўбачыў, адчыніла веснічкі, што вялі ў агарод, і пабегла да склепа, за якім раслі кусты. Проста так стаяць і глядзець на буйныя агрэсціны ў яе не хапіла моцы. Васілінка незаўважна для самой сябе нагнулася, падняла галінку, усыпаную ягадамі, адшчыкнула адну, паклала ў рот.

— Ты што гэта робіш? — пачуўся строгі вокліч.

Васілінка здрыганулася і, адскочыўшы ўбок, войкнула, бо трапіла ў густую крапіву. Побач з ёю стаяў гаспадар і, нахмурыўшыся, глядзеў на яе праз вялікія акуляры. Яна заўсёды пабойвалася гэтага маўклівага дзядзькі, а цяпер зусім разгубілася і не ведала, што рабіць.

— А ну, прэч адгэтуль! — сурова вымавіў гаспадар.— Забаліць жывот — што з табой рабіць тады?

Васілінку як ветрам здзьмула. Яна нават не адчула, як смыляць апечаныя крапівой ногі, і кінулася наўцёкі. Убегла ў двор, накінула зашчапку на веснічкі і прыхінулася да іх. Сэрца яе моцна таххала.

— І што цяпер будзе, як мама дазнаецца?

Некалькі дзён Васілінка жыла ў няспыннай трывозе, чакаючы расплаты за сваё злачынства. Але маці яе чамусьці не лаяла. «Хто іх зразумее, гэтых дарослых?» — думала Васілінка. Яна ў душы была вельмі ўдзячна гэтаму дзядзьку. І зусім ён не злосны: нават не паскардзіўся на яе...

Васілінка любіла сваю Зялёную вуліцу. Тут заўсёды было шмат дзяцей, з імі можна доўга ганяць у квача, гуляць у гарэлкі і хованкі. А колькі цікавага было ў кожным доме! Навокал жылі чыгуначнікі-паравознікі (як Васілінчын бацька) і кандуктары, змазчыкі вагонаў, састаўнікі цягнікоў, стрэлачнікі і мыўшчыкі вагонаў. А ў самым прыгожым зялёным доме з белымі аканіцамі, што стаяў у канцы вуліцы, жыў машыніст.

Амаль у кожным доме было шмат дзяцей, мала дастатку і свой здаўна заведзены парадак. Адны запрашалі: «Заходзь да нас, дзяўчынка, заходзь». Іншыя, вечна занятыя сваімі клопатамі, не звярталі на яе ўвагі.

Кураковы, што наймалі пакой у доме на рагу Зялёнай і Гароха-

вай вуліц, заўсёды ветліва сустракалі Васілінку і яе маці. Але што там цікавага? Там усё даўно ўжо гледжанае ды перагледжанае. Як паклалі калісьці на камодзіку размаляваныя грыбочкі, яблычкі, куфэрачкі, так іх ніхто і не пасуне і не пераставіць. Толькі і было незвычайнага ў Кураковых, што скварак не елі. Падсмажаць сала, блінцоў у тук памакаюць, а скваркі — на сметнік. Дзівакі! Самага смачнага не ядуць!

Зусім іншая справа ў Багданавых. У іх васьмёра дзяцей і старэнькія бабуля з дзедам. Або ў стрэлачніка Івашкіна, што жыў насупраць Васілінчынай хаты — у тых жа дзесяць хлопцаў і дзяўчатак. І вялікія, і падлеткі, і зусім малыя, як Васілінчына сяброўка Зіна. Васілінка адчувае сваё старшынства і ўважліва яе апякае. Дзяўчынкі часта гуляюць разам. Васілінка настаўніца, яна ўжо ў трэці клас перайшла, а Зіна прыгатавішка. Васілінка прынесла дваццаць бліскучых, нібы адпаліраваных, каштанаў і бесперапынку ганяе Зіну:

— Скажы, а колькі будзе, як да трох,— і кладзе перад Зінай тры каштаны,— дадаць яшчэ два?

Зіна доўга думае, пакуль рошыць. А Васілінка цярпліва чакае адказу і ў залежнасці ад яго — то злуецца, то задаволена ўсміхаецца. І ставіць Зіне адзнакі.

У Зіны ў доме цікава, асабліва калі старэйшых сясцёр і братоў няма дома. Маці яе заўсёды занятая бясконцымі хатнімі клопатамі, і дзяўчаткі незаўважна пераступаюць парог чыстай палавіны. Там на століку — грамафон з вялікай бліскучай трубой, у якую можна глядзецца, нібы ў люстэрка. А як добра пакруціш ручку з правага боку, то загаворыць ці заспявае. Толькі завесці грамафон малыя не адважваюцца. Ды і ручка вельмі тугая, круціць не хапае сілы.

А яшчэ Васілінку вабіць плеценая з лазовых пруткоў этажэрка (у доме ў іх няма такой), шчыльна застаўленая тоўстымі і тоненькімі кніжкамі. Васілінка ўважліва прыглядаецца, якую з іх выцягнуць. Тут у яе памяці ўсплываюць словы дарослых Зініных сясцёр: «Раманы дзецям чытаць забаронена». Толькі чаму і кім забаронена, Васілінка не ведала. Зайздрасць бярэ, што гэтым дарослым усё можна. А ім, дзецям, столькі навыдумлялі: таго не бяры, таго не рабі, спаць кладзіся разам з курамі. А самі круцяць грамафон аж да поўначы і не даюць маме спаць. Васілінцы так хочацца, каб і ёй не давалі спаць, хоць бы разок уволю наслухацца тых спеваў. Ужо колькі разоў давала сабе слова вытрымаць, не заплюшчваць вачэй, ляжаць і слухаць музыку. Але не паспее галаву пакласці на падушку, як вочы самі сабой заплюшчваюцца, і яна правальваецца ў глыбокі сон.

Васілінка шукае на этажэрцы раман і выцягвае кніжку пад назвай «Страшное дело». Неўпрыкметку ад Зіны (бо яна ніколі без дазволу сясцёр не дасць кнігу нават ёй, Васілінцы, сваёй лепшай сяброўцы) захінае гэтую невялічкую, без вокладкі, пацёртую кніжку пад крысо куртачкі і спяшаецца дадому.

Але нічога цікавага ў тым рамане яна не знаходзіць. Ну, судзяць там аднаго хлопца, памылкова палічыўшы яго забойцам. Ну, памагае яму вызваліцца адна дзяўчына. І ўсё. Не знайшоўшы нічога недазволенага, Васілінка хутка траціць цікавасць да рамана. Што ж, тады і пра качагара Сініцына таксама варта пісаць раман? Ён судзіўся (толькі Васілінка не ведае, з кім) за тое, што яго скалечылі на чыгунцы. І бацька хадзіў за яго сведчыць. Яна не ведала, што ён там сведчыў, толькі чула, як паміж сабой гаварылі, што «аўчынка не варта вырабу».

Канчаткова страціўшы цікавасць да раманаў, Васілінка пільна на-



зірае за дочкамі паравознага машыніста Міржыеўскага, што жывуць у прыгожым зялёным доме з вялікім ганкам і васьмю белымі аканіцамі. Вельмі ж яны адметныя, не падобныя да Васілінчыных знаёмых дзяўчат. Ніколі не ўбачыш, каб яны сядзелі на ганку, як сядзяць жанкі і дзяўчаты ў святочныя дні ля кожнага доміка ў два або тры акны, як любіла пасядзець у вольны час на ганку і Васілінчына маці, накінуўшы на плечы вялікую тортаўскую хустку, купленую яшчэ да замужжа.

Васілінцы не было ходу ў той зялёны дом. Парадны ганак і веснічкі заўсёды былі на засаўцы. Толькі аднойчы адважылася яна забегчы на двор да Міржыеўскіх: папяровы змей, якога дзеці пускалі на нітцы ў паветра, адарваўся і спусціўся акурат за высокі плот.

— Не прападаць жа такому прыгожаму змею!

Васілінка з Зінай з усёй сілы націснулі на жалезную клямку, і веснічкі расчыніліся. Змей ляжаў ля цэментнага калодзежа. А Васілінчына маці хадзіла па ваду далёка, за некалькі кварталаў, да Цітавага калодзежа. Кожны апускаў сваё вядро, чэрпаў вады і выцягваў яго па драўляным зрубе. Дашчэнту выбіралі ваду ў Цітавым калодзежы. А тут такая шыкоўная студня на адну сям'ю!

Пасярод двара стаяў мажны гаспадар — машыніст Міржыеўскі і крычаў на сваю кухарку:

— Дзе абед, я ў цябе пытаюся, га?

— Я катлет не згатавала, бо пані дома не было,— апраўдвалася кухарка.

— Чхаў я на тваю пані і на твае катлеты! Ты мне бульбу падавай.

Васілінка вельмі здзівілася: такі важны пан — і хоча бульбы. Гэтакі прысмак і ў іхнім доме гасцюе.

...Паненкі Міржыеўскія ніколі ні з кім на вуліцы не віталіся. А Васілінцы маці колькі разоў напамінала:

— Глядзі ж, не забудзься пры сустрэчы з людзьмі паздароўкацца.

Васілінка заўсёды казала «добры дзень». А вось паненак Міржыеўскіх, відаць, іхняя маці не вучыла быць далікатнымі. Яшчэ здалёк Васілінка заўважала дзве высокія хударлявыя постаці. Паненкі моўчкі міналі яе, нават не заўважыўшы. Паненкі Міржыеўскія нечым падабаюцца Васілінцы. Можа тым, што ходзяць яны так паважна, нібы плывуць, як лебедзі, што жывуць у манастырскай сажалцы. Шыі паненак таксама нагадваюць лебядзіныя, такія ж доўгія і выгнутыя. Блузкі на абедзвюх бялюткія, з высокімі каўнярамі-стойкамі на костачках. Спадніцы доўгія, нібы мятлой па вуліцы мятуць, а ўнізе тасёмачкай такой, нібы шчоткачкай, падшытыя. Па таліі паненкі падперазаныя шырокімі скуранымі паяскамі. А якія спражкі бліскучыя на тых паясах! Так і ззяюць, так і пераліваюцца ў сонечны дзень. Маці казала, што гэта служанка іхняя, Домна, так начышчае мелам тыя спражкі. У Васілінчынай маці не было такіх паясоў. Яна толькі штосуботы медны самавар тоўчанай цэглай, а потым мелам церла, аж покуль той не заблішчыць, і ў яго можна глядзецца, нібы ў люстэрка.

Васілінцы таксама хочацца быць гэткай самай, як паненкі Міржыеўскія. Яна пачынае пераймаць іх манеру хадзіць, высока задзірае галаву, выпроствае свае худыя вострыя плечыкі і таксама, як і яны, не ідзе, а плыве па вуліцы. Маці ўсміхаецца і кажа:

— Што ты ходзіш, нібы аршын праглынуўшы?

Але Васілінка не крыўдуе на маму. Хіба ведае яна, што Васілінцы хочацца быць такою, як старэйшыя. І можа гэтаксама вучыцца ў гімназіі, як вучыцца Надзейка Кавалёва.

Праўда, Надзейцы не пашанцавала. Ды ў Кавалёвых цяпер бяда

за бядою. Пра гэта гаворацъ усе кабеты з Зялёнай вуліцы, калі збіраюцца каля сваіх ганкаў, ды, мабыць, і ўсёй Царскай Веткі. Так зваўся вялікі пасёлак, дзе жылі рабочыя дэпо, кандуктарскіх рэзерваў, дрывянога і вугальнага складаў, вартаўнікі, пасыльныя і іншыя, хто быў так ці інакш звязаны з вялікім чыгуначным вузлом.

Кавалёву Надзейку, дачку паравознага качагара, выключылі з гімназіі, бо не было чым плаціць: бацька цяжка хварэў.

— Не пашанцавала Надзейцы,— шкадавалі жанкі.

Насустрач паравозу, на якім стаяў Надзейчын бацька, з вялікай хуткасцю рухаўся таварны састаў. Дошкі па адкрытай платформе раз'ехаліся, і адна з іх ударыла Надзейчынага бацьку ў грудзі, ды так моцна, што ледзь яго адхадзілі. А цяпер ён ужо каторы месяц ляжыць у пасцелі і ўсё кашляе, як у бочку. Суседкі раілі Надзейчынай маці судзіцца з дарогай: хай заплацяць за лячэнне. Толькі тая не згадзілася.

— Баюся, мае даражэнькія, каб зусім мужа з дарогі не прагналі. З дужым не бярыся, а з багатым не судзіся...

На Царскай Ветцы ўсе памяталі, як хадзілі людзі да начальства бараніць пакрыўджанага чалавека. Нічога з гэтага не выйшла.

Васілінка і пра гэта чула. Нібы і не прыслухоўвалася, што гаварылі жанчыны, але ўсё чула і запамінала. Вось і гэтая гаворка пра Надзейку запала ёй у памяць. Ведала яна, што жанчыны збіралі грошы для сям'і хворага качагара. Бачыла нават, як маці разам з бацькам падымалі шафу, якая стаяла на шуфлядцы, і даставалі адтуль нейкі скрутачак: «на чорны дзень»,— казала маці.

— Няхай ён, Змітрачка, нас ніколі не напаткае, чалавеку трэба памагчы.

У Васілінкі было і сваіх шмат клопатаў. Як толькі ў канцы вуліцы паказваўся марожанік у белым халаце і з драўляным кадобчыкам на галаве, ніякія размовы яе больш не цікавілі. Цяпер быў адзін клопат: «ці купіць маці марожанага?» А марожанік тым часам набліжаўся і гучна крычаў:

— Купляйце марожанае, купляйце марожанае!

Ад гэтых слоў у Васілінкі смактала пад лыжачкай, аж ратунку не было. Марожанік падыходзіў да ганка, дзе сядзелі жанчыны, спускаў з галавы кадобчык, ставіў яго на зямлю і адкрываў усе тры высокія бляшанкі з марожаным. У адной з іх было белае, нібы снег, у другой — абрыкосавае, а ў трэцяй — шакаладнае.

Васілінка ўмольна глядзела ў матчыны вочы і нецярпліва чакала, пакуль тая не скажа:

— Ну бяжы па шклянку.

Васілінка з хуткасцю маланкі неслася дадому, хапала самую вялікую шклянку і, вярнуўшыся да марожаніка, глытала сліну, покуль той націскаў у шклянку салодкі ласунак. Маці вымала з кішэні медны пятак, расплачвалася і толькі тады драўлянай лапатачкай чэрпала марожанае і па чарзе клала ў рот Тоні, Міцю і самой Васілінцы. Пасля салодкага на душы Васілінкі рабілася хораша-хораша. А марожанік зноў ставіў на галаву свой кадобчык і ішоў далей.

— Марожанае, каму марожанае!

Але вось на вуліцы з'яўляўся шарманшчык. Ён здымаў з плячэй трыногу, уладкоўваў дашчаную скрыначку з круглым акенцам, з якога высоўваў галаву папугай. Шарманшчык круціў шарманку і галасна, на ўсю вуліцу, зацягваў:

«Маруся ты, Маруся, открой свои глаза...»



Нарэшце, нібы неўпрыкметку, падкрадваўся вечар. Стомленая за дзень Васілінка, забыўшыся памыць ногі, падала на бацькаў паношаны кажушок, разасланы на падлозе, і імгненна засынала.

## НА ЧЫМ ХЛЕБ РАСЦЕ

— І не кажы, бацька, нічога, не пярэч. Неяк перакідаемся з дзецьмі лета, з сабою што-кольвечы прывязу, усё ж эканомія будзе. Палітончыкі дзецям да зімы справім. Ды і малым трэба пабыць на ўлонні. А то вырастуць і не будуць ведаць, на чым хлеб расце.

Бацька не згаджаўся, ён не любіў «рассыпаць сям'ю». Васілінка слухала і дзівілася: як можа рассыпацца сям'я, гэта ж не крупы, якія яна аднойчы ненаўмысна рассыпала, а маці загадала: «Збяры да крупіначкі». Поўзала тады па падлозе, аж спіна забалела. Яна вельмі хацела паехаць і спадзявалася — возьме матчын верх, яна пераканае бацьку, паставіць на сваім.

І маці пачала завіхацца: мыла, шыла, прасавала. Жартачкі ж: яна едзе на радзіму, дзе яе ўсе ведаюць. Нарэшце падрыхтоўка скончана, вось і вакзал. Чмыхае белай парай паравоз, нібы воблакамі навокал засцілае. Бацька ўносіць у вагон рэчы, а іх цэлая працьма: кошыкі большыя і меншыя, клункі вялікія і малыя. Маці рассоўвае, што можна, пад лавачку, самы вялікі мяккі клунак бацька закідае на верхнюю полку, туды чамусьці ніхто не ўзбіраецца. Народу ў вагоне многа, і ўсё яшчэ прыбывае і прыбывае. Робіцца цесна і шумна.

Настае час развітання. Бацька разгладжвае вусы і ўсіх па чарзе цалуе: Міцьку, Васілінку і маці. Побач стаіць заплаканая Тоня. Яна астаецца дома за гаспадыню.

— Хутчэй бы ўжо адышоў поезд,— думае Васілінка. Не падабаецца ёй гэтая мітусня. Цяпер, упершыню за ўсе апошнія дні, ёй не хочацца развітвацца з бацькам, шкада заплаканай Тоні. Хай бы і яны ўсе ехалі разам. Васілінка хоча пра гэта сказаць маці, а тая падхоплівае яе пад пахі і падсаджвае на другую паліцу, дзе ля самага акна ўжо размясціўся Міцька. Васілінка разумее, што ён ёй зручнага месца не ўступіць. Прывык, што яму, як самаму меншанькаму, усе зважаюць.

Васілінка бачыць, што бацька з Тоняй стаяць на пероне. Бацька выцягвае з кішэні гадзіннік і ўзнімае адзін палец, паказвае, што засталася ўсяго адна хвіліна. З платформы да слыху Васілінкі даносіцца металічны гук, апошні ўдар у звон: «бом-м-м!» Трэці званок...

Цягнік павольна, зусім непрыкметна кранаецца і нібы плыве наперад. Бацька з Тоняй махаюць рукамі і хутка знікаюць з вачэй.

Васілінка неадрыўна сочыць, як мільгаюць высокія слупы, як бягуць у працілеглы бок сцяна роўна падстрыжаных ёлачак, бягуць чыгуначныя будкі, ля якіх дзеці махаюць рукамі пасажырам. Цягнік прыбаўляе ходу, вагон боўтае з боку ў бок, падкідвае і штурхае. А маці ўжо развязвае паркалёвую хустачку і падае дзецям па лустачцы хлеба і па адным яйку. У Васілінкі ўжо даўно ссе пад лыжачкай, і яна прымаецца за яду, чокнуўшыся з Міцькам. Той радуецца, што Васілінчына яйка разбілася.

Раптам чуецца чыйсьці загадны голас. «Рэвізор!» — шэпчуць навокал. У гэтым шэпце адчуваецца і боязь, і павага. Васілінка бачыць форменнае паліто, бачыць шапку, акуляры, але больш за ўсё яе ўвагу прыцягваюць рукі рэвізора. Яны так лоўка заціскаюць бліскучымі

шчыпчыкамі білеты, а з-пад шчыпчыкаў вылятаюць маленькія кружочкі паперы.

Усе білеты прабітыя, але тут здараецца нечаканае. Рэвізор асвятляе ліхтарыкам падлогу, нахіляецца і выцягвае з-пад лаўкі абарванага і запэцканага падлетка. Той вырываецца, але шырокая рука з тоўстымі пальцамі моцна ўпілася ў плячо безбілетніка. А пасажыры, на хвіліну прыціхшы ад здзіўлення, зашумелі, як разварушаны вулей. Нехта кажа:

— Заяц!

Васілінка аглядаецца навокал і нідзе не бачыць зайца.

— Ведама ж, зладзюга, а то чаго ж бы ён пад лаўку палез,— чуецца піскрявы голас старой бабулі, што сядзіць насупраць Васілінкі на ніжняй лаўцы.

— А мо ў хлопчыка няма грошай,— гаворыць стары з барадой.

— Чаго ж ездзіць, калі няма грошай, хай дома сядзіць,— не супакойваецца бабуля і цясней прыціскае да грудзей свой куфэрачак.

— А ці ёсць у яго дом? Можа бацькоў няма?

Васілінцы вельмі карціць хоць што-небудзь дазнацца пра хлопца, але маці пераводзіць гутарку на іншае. У вагоне патроху спакайнее.

— Ну вось, дзеткі, праехалі Забалоціна, Язвіна, Сіроціна, Вобаль, там Гарані і далей наша станцыя. Сустракаць нас прыедзе на кані цётка Гапуля.

Пра цётку Гапулю Васілінка даволі наслухалася. Гэта жонка старэйшага матчынага брата, дзядзькі Андрэя, гаваркая і памяркоўная жанчына. Праўда, маці неяк казала, што тая не вельмі калісьці раскашэлілася на яе вяселле. Але чаго не бывае. А цяпер яны добра сябруюць. Васілінку не вельмі цікавяць адносіны маці і цёткі Гапулі. А вось тое, што яна на кані прыедзе сустракаць іх,— іншая справа.

А як каня таго завуць? І якой ён масці?

Маці не зусім упэўнена адказвае:

— Здаецца, буланы.

Васілінка не разумее, што такое буланы. Можа чырвоны, блакітны ці зялёны? А якая жыўнасць, акрамя каня, ёсць у цёткі Гапулі? І маці пачынае пералічваць. Карова Падласка, авечкі, некалькі падсвінкаў. Васілінцы зноў жа цяжка ўявіць, як выглядае тая Падласка. Міцьку цікавяць толькі пеўні і сабакі: вогненнага колеру певень і рыжанькі Бобік жывуць у іх дома. Тут усё ясна і зразумела.

Ад прадчування сустрэчы з цікавай невядомасцю ў Васілінкі заміpae сэрца. Хутчэй бы ўжо тахкалі тыя колы па рэйках! Хутчэй бы вырвацца на тую прыроду.

Нельга сказаць, што Васілінка зусім незнаёмая з прыродай. Недзе з вясны яна была на Юр'евай горцы. У Юр'еў дзень туды тысячы людзей збіраюцца. Маці з бацькам, як выпадзе яму быць дома, таксама спяшаюцца туды. Бацька расказваў, што вельмі даўно абшарнік у Юр'еў дзень адпускаў заняволеных сялян на волю. Вось і чакалі людзі гэтага дня, як манны нябеснай, спадзяваліся вызваліцца ад пана. А бацькаў дзед так і не вызваліўся, не паспеў. Памёр, не дажыўшы да шчаслівай хвіліны.

А цяпер сыны і ўнукі тых, хто не вызваліўся, святкуюць Юр'еў дзень. Маці з самае раніцы абварвае яйкі, адразае кавалачак сала і ўсім па лусце хлеба і нясе ўсё гэта на Юр'еву горку. Спачатку яны падыдуць да капліцы, трохі пастаяць там і пойдуць павольна, не спяшаючыся, гуляць на той горцы. Там разрасліся высокія сосны, зелянее маладая травіца. Любіць Васілінка Юр'еву горку. Колькі тут прыгажосці і прастору! Дарослыя пасядуць на траве і вядуць бясконцую



гутарку, а Васілінка з дзецьмі дзе толькі не пабывае, сто разоў збяжыць уніз і зноў паднімецца. Зусім знясіленыя і знямоглыя, пад самы вечар ідуць дадому.

А яшчэ Васілінка бывала на Дзвіне. Круты бераг ракі парос густым хмызняком. Там трохі боязна, можна згубіцца. Бацька выразае ўсім па свістку і папярэджвае:

— Калі заблудзіцеся — падавайце сігналы, прыйду на выручку. Пасля гэтых слоў дзеці хаваюцца ў хмызняку, а бацька сядзіць на беразе на бярвеннях, якіх тут заўсёды процьма.

Але маці кажа, што ўсё гэта не тое, як на яе радзіме. Там густыя лясы стаяць сцяною. Хоць увесь дзень ідзі, няма ім ні канца ні краю. Грыбоў пасля дажджу — хоць касой касі. Вось зайдзі глыбей у гушчар, пастаў кошык і толькі паспявай падразаць карэньчыкі. Яна з дзяцінства ведае такія мясціны, дзе баравічкі купамі з-пад зямлі лезуць.

Васілінка сядзіць на верхняй лаўцы і ўяўляе, як яна прынясе з лесу паўнюткі, аж з верхам, кошык адных баравікоў. А ягады! Буйныя і духмяныя суніцы, маліны, чарніцы з брусніцамі носяць вялікімі кошыкамі і вёдрамі. К восені нарасце арэхаў, толькі збірай, не лянуйся. А купанне ў возеры, а кветкі на шырокім лузе!

У Васілінкі аж дух займае. Дачакацца не можа, пакуль той цягнік прывалачэ іх да месца. Вось каб выскачыць з душнага вагона і назбіраць васількоў і рамонкаў! Васілінка ўмее плесці вянкі, але ж на Царскай Ветцы, за іхнім домам на мокрым лузе, растуць толькі жоўтыя дзьмухаўкі...

## МЫ ЕДЗЕМ НА БУЛАНЫМ!

Падарожжа Васілінцы даволі ўжо надакучыла. Сядзець нерухома на верхняй лаўцы не такая ўжо асалода. За акном вагона ўсё беглі і беглі слупы, зялёная яловая сцяна вартавала чыгуначныя шляхі. Але ў вагоне патроху заварушыліся. Старая, што сядзела на ніжняй лаўцы насупраць, бліжэй да сябе пацягнула ладны вузельчык, а куфэрачак так і не выпускала з рук. Дзядок выцягнуў з-пад лаўкі свой мяшок.

Бабуля не стрымалася:

— І куды спяшаешся, за тваім мяшком нагі не параставіш.

Усе заварушыліся, аглядалі свае клункі, перавязвалі, умацоўвалі.

Васілінчына маці таксама ўсё агледзела і сказала: «Ну вось, дзеткі, мы і прыехалі». А цягнік яшчэ даволі доўга пасля гэтых слоў не спыняўся, сунуўся і сунуўся наперад, запаволіўшы ход.

Не паспелі выйсці з вагона і дыхнуць вольным паветрам, як Васілінка заўважыла, што да іх спяшаецца даволі яшчэ маладая жанчына ў саматканай спадніцы ў дробную клетачку, паркалёвай кофтачцы, унізе абшытай зборкамі, і белай хусцінцы, завязанай ражкамі пад бараду. Ці не яна гэта і ёсць цётка Гапуля? А тая, падышоўшы, пачала цалаваць Васілінчыну маці, прыгаворваючы: «Здарова, сястрыцка!»

Вясёлая, гаваркая цётка Гапуля адразу спадабалася Васілінцы. Цётка падвяла іх да запрэжанага каня («Буланы» — запомніла Васілінка), паклала на воз усе кошыкі і клункі, дапамагла ўладкавацца Васілінцы з Міцькам: «Сядайце, сядайце мае птушаняты. А ты, сястрыцка, бліжэй да мяне садзіся».

Пры гэтых словах яна лоўка адвязала лейцы ад паркана і лёгка ўскочыла на воз. У адной руцэ цётка Гапуля трымала лейцы, а ў другой — пугу, якой раз-пораз сцёбала каня. Цяпер Васілінка бачыла толькі плечы цёткі Гапулі і пасмачку цёмных валасоў, што выбілася з-пад хусцінкі.

Цётка і маці ўсё гаварылі і гаварылі, ні на хвіліну не спыняліся. Гаворка Васілінку не займала. Сыпаліся незнаёмыя імёны, і гэта было зусім нецікава. Васілінка пазірала навокал. Вуліца была брудная. Навокал стаялі невялікія драўляныя домікі. Ніводнага двухпавярховага, цаглянага. Ад грукату па бруку разломвалася галава, і Васілінку пацягнула дамоў, успомнілася заплаканая Тоня, невясёлы бацькаў твар.

Воз падкінула — абарваліся Васілінчыны думкі. Колы мякка зашорхалі па пяску, выехалі на бальшак. Паабапал бальшака цягнуліся канавы, поўныя зялёнай вады. Цётка тузала лейцы, аб'язджаючы выбоіны і лужыны. Паабапал дарогі цягнулася балота, усыпанае купінамі, дзе-нідзе на іх тырчэлі невысокія крывыя сасёнкі.

Праз нейкі час наперадзе Васілінка заўважыла зялёны вялікі лес. О, гэта ўжо цікавей! Колькі казак расказвалі ёй пра густы цёмны лес! Там водзяцца лесавікі, што хапаюць непаслухмяных дзяцей. А што, як выскачыць той лесавік ды схопіць яе ці Міцьку? Васілінка заплюшчыла вочы, бліжэй падсунулася да маці і пацягнула за сабой Міцьку. А той упіраўся, яму падабалася сядзець, спусціўшы ногі, і боўтаць імі.

— У лесе ваўкі бегаюць! — шапнула яму на вуха Васілінка.— Вось як цапне цябе за нагу!

Міцька схамянуўся і пасунуўся бліжэй да Васілінкі.

«А што, калі сапраўды на іх кінецца воўк?» — і Васілінцы ўжо мроілася, што конь стаў на дыбкі, што цэлая зграя галодных звяругаў цахкае вострымі клыкамі. Па спіне пабеглі мурашкі. «Але каго першага схопяць раз'юшаныя ваўкі?» Яна падціснула пад сябе ногі і прыкрыла дзяружкай Міцькавы: напэўна, ваўкі хапаюць дзяцей за ногі.

«А што, калі яны кінуцца на маці?»

Хваля пяшчоты і шкадавання заліла сэрца дзяўчынкі.

«Ну няхай сабе хапаюць ужо, калі на тое пайшло, цётку Гапулю! Але не, цётку таксама шкада, яна харошая!»

І раптам воз спыніўся, Буланы ўтоўпіўся — і ні з месца, хроп і стрыг вушамі. Цётка Гапуля мацней нацягвала лейцы і штосілы сцябала каня пугай, а ён падаваўся назад і ледзь не вылузваўся з аглобляў. Цётка лупцавала перапуджанага каня з усёй сілы. Той, нарэшце, ірвануў, ды так, што цётка не ўседзела і паваліліся на воз, на Васілінку з Міцем. Тыя закрычалі ад болю і страху, а конь нёсся, як шалёны. Нарэшце цётка паднялася і села — ёй дапамагла маці, якая нейкім цудам утрымалася на возе, ухапіўшыся за драбінкі.

— Што гэта ў цябе на руцэ? — спалохана спытала яна ў цёткі Гапулі.

Вышэй запясця, дзе былі накручаны лейцы, у цёткі была садрана скура. Цётка спачатку нават не адчула болю, а цяпер, убачыўшы кроў, галасна залемантавала:

— Сястрыцка мая, гад гэты пужлівы пачуў ваўка ды і звар'яцеў. Казаў мой Андрэй, каб пільнейшаю з канём была, а я загаварылася, не ўгледзела.

Між тым конь трохі супакоіўся і, касавурачыся на бакі, пайшоў трушком. Маці перавязала хусцінкай цётчыну руку, і яны зноў завялі гаворку пра колішніх знаёмых.



Цяпер ужо ехалі полем. Навокал усё зелянела. Удалечыні бялелася царква: там, Васілінка ведала гэта, на Міколу будзе кірмаш. Перад ад'ездам маці рыхтавалася да кірмашу і шыла сабе новую суkenку. Яна любіла пакрасавацца перад людзьмі, а на тым кірмашы збярэцца многа знаёмых і сваякоў.

Мінаючы царкву, цётка Гапуля тры разы перахрысцілася, следам за ёй хрысцілася і маці. Побач з царквой, на невялікім узвышшы, тырчэлі драўляныя крыжы на магілках. Некаторыя з іх былі пафарбаваны ў блакітны колер, былі і проста белыя, нефарбаваныя, а іншыя пачарнелі ад дажджу і пахіліліся набок.

— Тут, сястрыцка, летась,— загаварыла цётка,— я Ірынку сваю пахавала. Царства ёй нябеснае. Якраз у жніво памерла. Уначы сканала, раніцой пахавалі, а з полудня выйшла на жніво. Жыта асыпа́лася...

Цётка Гапуля гаварыла пра гэта, як пра нешта звычайнае, нібы і не смуткавала. У яе амаль штогод нараджаліся дзеці, адны паміралі, больш моцныя выжывалі. Пасля Ірынкі ў яе нарадзілася яшчэ адно малое.

Уз'ехаўшы на двор, цётка Гапуля лёгка саскочыла з воза і кінула лейцы ў рукі дзядзькі Андрэя, які прыйшоў з поля, каб сустрэць сястру.

— Выпрагай, Андрэйка,— сказала цётка Гапуля і весела ўсміхнулася, нібы нічога ў дарозе і не здарылася. Схапіла тры вузельчыкі і панесла іх у хату.

Вялікая, з тоўстага бярвення дзядзькава хата была на дзве палавіны. У адной палавіне жылі, а ў другой складалі ўсялякі хатні скарб: бляшаныя вёдры, кадушкі, вялікія драўляныя ночвы, прасніцы, ставы, калаўроты, скрыні... У сенцах адгароджана стопка, на дзвярах вісіць ладны замок. Там, як потым даведалася Васілінка, стаяла сала ў кадушцы, яйкі ў кошыку, мука ў скрыні і мех абдзёртых круп. Да жылой палавіны была прыстаўлена лесвіца, па якой лазілі на гарышча.

Увайшоўшы ў хату, маці пачала раздаваць гасцінцы. Цётцы Гапулі яна прывезла паркаль на кофту ў дробненькія ружовыя кветачкі, дзяўчынкам — шаўковыя стужкі ў косы. А тым, што хадзілі каротка падстрыжанымі, прывезла па круглым грабянцы, якім можна было закалоць валасы, падняўшы іх угору, каб не лезлі ў вочы. Хлапчукам падала саламяныя кепачкі. А дзядзьку Андрэю паднесла вышываны сваёй рукою кісет і некалькі пачкаў махоркі і, падаючы, прамовіла:

— А гэта табе, брацітка.

А яшчэ ўсіх пачаставала цукеркамі-падушачкамі з фруктовай начынкай, якія вельмі любіла Васілінка. Па адной дала і ёй з Міцькам. Надзяліўшы падарункамі ўсіх, маці развязала яшчэ адзін пакунак, паклала на лаўку некалькі пачкаў чаю і, нарэшце, выцягнула некалькі селядцоў.

Цётка Гапуля сказала:

— Ну ладна, сястрыцка, давайце будзем палуднаваць.— І пачала завіхацца ля печы, а дзядзька тым часам загарнуў у паперу селядцы і панёс з хаты са словамі: «Хай на посны дзень будуць».

Праз якую хвіліну на стале дымілася вялікая гліняная міска з засквaранай крупеняй і побач з ёй яшчэ адна, больш ёмкая, з сыраквашай. А навокал стала, што тыя гракі, паселі і большыя і меншыя дзеці з драўлянымі лыжкамі. На покуце пад абразамі сядзеў дзядзь-

ка Андрэй і, прыціскаючы да грудзей бохан хлеба, адразаў па скібачцы і перадаваў кожнаму па чарзе.

Цётка Гапуля прысела на ўслоне ў канцы стала, узяўшы на рукі малую, і прыклала яе да грудзей. Васілінка ўважліва пазірала і дзівілася, што ўсе сядзяць моўчкі і не пачынаюць яды. Але як толькі дзядзька Андрэй зачарпнуў крупеню, усе пачалі моўчкі спорна завіхацца і сёрбаць гарачую страву. Толькі чутно было, як то адзін, то другі старанна дзьмуў на лыжку.

## ВОЛЯ-ВОЛЬНІЦА

Увесь дзень занятая рознымі справамі маці не вельмі пільна сачыла за малымі. Яна тут дазваляла ім надоўга адлучацца з хаты. Засядзе за сваю машынку, што стаіць на лаўцы пад акном, і круціць яе поўны дзень. А цётка Гапуля вымае з вялікай абабітай жалезам скрыні нейкія лапікі і просіць: «Вось з гэтага, сястрыцка, сукеначкі змайструй дзяўчатам. А гэты,— і яна цягне сіні ў белую палосачку лапік,— добра будзе хлопцам на кашулі».

І дзе толькі за дзень не пабываюць Васілінка з Міцем! Тут на кожным кроку столькі цікавага. Вунь чорная з белым воллем птушачка носіць пад страху казявак сваім птушанятам. А тыя ўсё разяўляюць шырокія роцікі.

Вёска стаіць высока над возерам. А як спусцішся да яго па вузкай, пакручастай, нібы змейка, сцяжынцы — убачыш на другім баку сіне-зялёную сцяну лесу. Навокал цішыня і спакой. Возера нібы прыціхла і замерла. Але гэта толькі спачатку так здаецца. А як прыглядзішся бліжэй, то ўбачыш, што яно жыве і дыхае. Колькі рыбы ў ім водзіцца! А яшчэ Моця кажа, што там вадзяны сядзіць на дне ў падводным царстве, а вакол яго плаваюць русалкі і ў зорныя ночы выходзяць на бераг. Толькі ўсё гэта таямнічае царства існуе там, ля лесу, а тут возера як возера. Дзеці бегаюць па водмелі, падкасаўшы штонікі і падняўшы сукенкі. Амаль ад кожнай хаты да возера ўецца вузенькая сцежачка. Вось падышла жанчына, стала на дашчаную кладачку, нахінулася долу, махнула драўляным вядром, што аж кругі пайшлі па возеры, зачэрпнула вады. А тады махне другім вядром, і зноў далёка разбягуцца кругі, а потым падхопіць на каромысла паўнюткія вёдры, ускіне на плечы і пойдзе па сцяжынцы высока ўгору. Не паспее яна схавацца — глядзіш, па сцяжынцы збягае яшчэ жанчына, з мокрай бялізнай на плячах. Скіне з плячэй сваю ношку і пачне драўляным пранікам перыць, аж адгалоскі ідуць па наваколлі. «Трах, трах, трах!» — адзываецца за возерам на тым беразе.

Васілінка любіць хадзіць па траўцы ля самага возера і назіраць, як снуюць маленькія рыбкі ў вадзе. Колькі разоў патыкалася яна прыгаршчамі злавіць хоць адну з іх — нічога не выходзіць. Вось у дзядзькі Андрэя зусім іншая справа. У яго сетка такая доўгая-доўгая ёсць — брадніком завецца. Выбера часіну і са старэйшым сынам Пілiпам, як той з горада прыедзе пагасцяваць, возьмуцца за абодва бакі таго брадніка і пойдуць далёка-далёка ў возера, покуль па самыя пахі вада ім не стане, распусцяць сетку і цягнуць яе да берага. Васілінка з іншымі малымі бегае, мітусіцца: так хочацца пабачыць, што ў тым брадніку заблыталася. А якая радасць убачыць серабрыстых плотак у невадзе! Нібы яна сама іх злавіла.



Васілінка бяжыць да рыбакоў і падносіць ім кошычак, сплецены з лучыны, донца якога выслана зялёнай асакой. Плоткі выслізгваюць з рук, б'юць хвастамі, падскокваюць. Але Васілінка не палохаецца, яна хапае рыбак рукамі і кідае ў кошык. Адна, з дробнымі лусачкамі жаўтаватага колеру, затрапяталася і аж да крыві ўкалола далонь. Не вытрываць, як баліць, але Васілінка, сціўшы зубы, маўчыць, нікому не скардзіцца. Баіцца, каб зноў з яе не смяяліся.

У нядзелю большыя хлопцы ездзілі на лодцы лавіць рыбу. Пашанцавала ім тады — злавілі вялікага шчупака. Шчупак дыхае, хапае паветра раскрытай пашчай. «Васілінка! — сказалі хлопцы,— пакладзі палец яму ў рот». Васілінка паслухмяна сунула палец і войкнула: шчупак балюча ўкусіў. Васілінка плакала ад болю, а хлопцы рагаталі, аж за жываты хапаліся.

Вельмі любіла Васілінка, ды і не толькі яна, катацца па сене ў пуні. Дзеці ўзбіраліся высока, аж пад бэльку, і з'язджалі з тае вышыні ўніз. Ведама ж, сена ўсё больш і больш ссоўвалася. Праз колькі хвілін такой гульні пуню было не пазнаць.

Аднаго разу цётка Гапуля, ідучы з Васілінчынай маці палівадь гуркі, наказала сваім дзяўчынкам глядзець малую Валю, і як толькі яна заплача, уціснуць у рот ражок з малаком і гушкаць яе ў зыбцы. А малая ніяк не засынала. То ў яе мокра пад бокам, то мухі панасядуць. І тады зыбай ці не зыбай, шугай хоць да самай столі тую калыску — усё роўна крычыць.

Тады вырашылі ўзяць малую з сабой у пуню. Усе пагадзіліся, бо нікому не хацелася сядзець з ёю ў душнай хаце. Выцягнулі Валю з калыскі, захінулі ў пялёнку і пабеглі ўсім гуртам у пуню.

Па лесвіцы, што стаяла, прыслоненая да ўтрамбаванага сена, узнеслі дзіця наверх, аж пад дах, раскудлачылі трохі сена, выскублі ямачку і паклалі Валю. А яна на гэты раз разаспалася і не падавала голасу. І тут пачалася такая весялосць, такая гульня! Адзін за другім, як мурашкі, узбіраліся высока, хто як мог, аж пад самую бэльку. Хто лез па лесвіцы, а хто, трымаючыся за сцяну. Гужком садзіліся адзін за другім і з рогатам ссоўваліся ўніз.

Невядома, ці дзядзька Андрэй пачуў дзіцячы піск і рогат, ці мо яму што спатрэбілася ў той пуні, толькі ў самы разгар гульні, калі ўжо ва ўсіх былі мокрыя на спіне кашулі і сукенкі, скрыпнулі дзверы, і паказалася дзядзькава постаць. Смех адразу змоўк, усе разгубіліся, чакаючы суровага прысуду. Толькі дзядзька не спяшаўся яго выносіць. Ён узяў у рукі граблі і пачаў зграбаць раскіданае сена. А дзеці, сцяміўшы, што рабіць, пачалі адзін за другім уцякаць з пуні. У спешцы забыліся пра Валю.

Сэрца Васілінкі аж захлынулася. А што як дзядзька возьме вілы і пачне кідаць сена наверх? Або засыпле Валю ці, крый божа, параніць яе?

Дзядзька Андрэй моўчкі падгроб сена, ускінуў наверх і, навёўшы поўны парадак, зачыніў шырокія дзверы і павесіў замок. Перапалоханыя дзяўчаткі стаялі за вуглом і назіралі за бацькам. А як толькі той адышоўся ад пуні, яны кінуліся да дзвярэй і толькі цяпер заўважылі замок.

— Што рабіць?

Ні Ягоркі, ні Паўла, ні Міхася нідзе не было. Разам з імі, падтрымліваючы мужчынскую палавіну, увязаўся і Міцька.

— Ці жывая хоць Валя? — плакала Васілінка.

Моця хуценька збегала і прынесла лапату. Перапалоханыя дзяўчаткі выкапалі ямку ў падваротні, і Моця папаўзла ў пуню, а Саша

з Васілінкай стаялі на варце. Праз некалькі хвілін убачылі, як з-пад дзвярэй высунуўся белы скрутачак. З яго тырчэлі маленькія голыя ножкі. Валя ўсё яшчэ спала...

Многа радасці прыносіла Васілінцы субота, калі пасля палудня пацягне дымок з лазні над возерам. Гэта дзядзька ў лазні паліць. Спачатку пойдуць мыцца мужчыны, потым бягуць жанкі і дзеці. Міцька раней у горадзе заўсёды хадзіў у лазню з Васілінкай, маці і Тоняй, а тут запярэчыў, заўпарціўся. «Я мужчына,— паўтараў ён у адказ на матчыны ўгаворы.— Я толькі з мужчынамі пайду!»

Мыццё ў лазні Васілінцы не сказаць каб спадабалася. Часам горка бывае ад дыму, у вачах шчыпле і духата, як жанкі лінуць вады на каменку. Гарачай парай абдае ўсё цела, аж няма куды дзецца. Жанчыны, добра насцябаўшыся бярозавым венікам, выскакваюць з лазні, бягуць па кладцы і кідаюцца ў возера. Васілінка таксама бяжыць за дарослымі, толькі з кладкі кідацца боязна, яна паціхеньку ступае ў сцюдзёную ваду з самага беражка, боўтнецца некалькі разоў і зноў бяжыць у гарачую лазню.

У хату вяртаюцца позна ўвечары. На стале шуміць вялікі, з уціснутым бокам, самавар. Дзядзька кладзе кожнаму па невялічкім драбку цукру, і ўсе п'юць чай. Хто колькі здолее выпіць з тым драбком...

Пасля лазні моцны сон зморыць Васілінку. І яна, і Міцька так соладка спяць, што маці раніцой не адважваецца іх будзіць. Яна спусціцца з гарышча і без іх пойдзе ў грыбы з дзяўчатамі.

Васілінка шкадуе, што праспала. А маці абяцае схадзіць з ёй у грыбы днём. Васілінцы так хочацца самой знайсці грыбок!

Лес не хоча раскрываць перад ёй сваіх таямніц. Маці раз-пораз нагінаецца і кладзе ў кошык то сыраежку, то махавічок, а Васілінцы не шанцуе, нічога яна не бачыць. Навокал яе толькі прыгожыя яркія мухаморы. Але маці сказала, што іх няможна браць, яны атрутныя. Доўга ходзіць Васілінка, пакуль не натрапіць на цэлае гняздо лісічак.

— Вось на тым астравочку,— кажа маці,— растуць сыраежкі-кубачкі, а на тым узгорку — лісічкі, а ў сасновым бары, што за вёскай, па той бок бальшака,— баравікі.

Васілінцы цікава, адкуль маці ўсё ведае, і яна тут жа заручаецца яе згодай схадзіць і на астравок праз дрыгву, і ў вялікі сасновы бор у баравікі.

Не менш цікава пайсці ў ягады. Толькі збіраць іх Васілінка зусім не ўмее. Конаўка яе ўвесь час пустая. Убачыць спелую ягадку, хоча ўкінуць у конаўку, а яна неяк сама трапляе ў рот. Усе дзеці ідуць з поўнымі конаўкамі дадому, а Васілінка — з пустой, хоць ты кінь яе дзе-небудзь у хмызняку. Але як выйдуць з гушчару, дзеці пасядуць гуртком і кожны па жменьцы ягад сыпане ў конаўку Васілінцы, аж покуль не стане поўная.

Цётка Гапуля ведае такія мясціны ў лесе, што ніхто туды не дойдзе. Аднаго разу павяла яна Васілінку з маці ў брусніцы. Знайшла такую палянку, што дух захапіла ў Васілінкі: навокал аж чырвана! Маці з цёткаю пільна завіхаюцца, шморгаюць у кошыкі буйныя спелыя ягады. Шморгае і Васілінка, але мала астаецца ў яе руцэ, усе сыплюцца на зямлю. Шморгае, аж покуль не забаліць спіна.

Тады цётка Гапуля падводзіць Васілінку да купіны-кургана і паказвае шэра-блакітныя буйныя ягады. Васілінка смакуе адну, другую, трэцюю. Смачна! Толькі ёй вельмі хочацца спаць, моцы няма на нагах трымацца. Яна садзіцца на курган і раптам спаўзае з яго. Да яе



падбягае ўсхваляваная маці. Праз сон недзе далёка-далёка Васілінка чуе голас цёткі Гапулі:

— Не пужайся, сястрыцка, гэта яна ад п'яніц ап'янела. Хай паспіць крыху. Кінь ёй пад бок маю світку.

Больш Васілінка нічога не чуе. Колькі яна праспала, не ведае. Нарэшце маці тузае яе за плячо і кажа:

— Прачніся, дачушка, прачніся, час дадому падавацца. Міцька там сумуе без нас з табою.

Васілінка ледзьве ўзнімаецца на ногі, пацепвае плячыма ад холаду і бачыць, што ўсе кошыкі — і яе таксама — паўнюсенькія чырвоных ягад, а яшчэ з дзвюх хусцінак — ёмкія вузельчыкі з брусніцамі. Маці і цётка бяруць па кошыку і вузельчыку ў рукі і кіруюцца дадому...

## ТАЛАКА

Васілінка заўважае, што ў хаце рыхтуюцца да нейкага свята. Цётка Гапуля мяркуе, каго запрасіць на талаку.

— Хаця б людзі добрыя падабраліся,— заклапочана кажа яна,— ды паспелі ўсё вывезці за дзень.

— Што такое талака? — пытаецца Васілінка ў маці.

— Пачакай, убачыш,— адказвае тая.

Назаўтра раніцою за вялікім сталом паселі маладыя дзяўчаты і хлопцы, сталыя дзядзькі. Цётка Гапуля і маці паставілі на стол гліняныя міскі з кашай, клёцкамі і гарачай бульбай. Моця прынесла з клеці вялікую талерку маласольных гуркоў. Госці як мятлой змялі ўсё да крошачкі і выйшлі на двор.

Мужчыны, пабраўшы вілы, пайшлі ў хлеў і пачалі капаць гной і ўскідаць на калёсы. Як толькі воз быў гатовы, хлопчыкі-падлеткі бралі каня за вуздэчку і вялі ў поле, а вярталіся з поля стоячы на парожніх калёсах. І Васілінцы так захацелася пракатацца, стоячы з лейцамі ў адной руцэ і з пугай у другой!

— Мікітка, вазьмі мяне з сабою,— умольна просіць яна суседавага хлапчука.

— А як не ўтрымаешся? Ты ж малая,— не згаджаецца той.

Васілінка з тугой у вачах праводзіць яго, але не траціць надзеі. Просіцца ў Васілька і Мікалая. Нарэшце Мікалай згаджаецца.

— Бяжы туды,— ён паказвае рукой на лес.

Васілінка ведае той лес. Аднаго разу, ідучы ў арэхі, яна схапіла дзядзькаву пугу, каб ямчэй было згінаць галіны. Яна бачыла, што так рабілі пастухі. Увайшоўшы ў лес, яна падышла да арэшыны, на якой так спакусліва бялеліся ў зялёным убранні гронкі арэхаў, злаўчылася, падскочыла і, ухапіўшыся за адну з галін, хацела яе сагнуць. Але тая пружыніла, не давалася. Тады Васілінка накінула на яе пужку і прыгнула. Не паспела яна сарваць некалькі арэхаў, як галінка вырвалася ў яе з рук і пацягнула з сабою дзядзькаву пужку.

Так і вярнулася дахаты без арэхаў і без пужкі.

Дзядзька Андрэй падвечар хапіўся тае пугі, пытаўся, дзе яна падзелася, але ніхто не ведаў, усе маўчалі. Маўчала і Васілінка, не падавала выгляду, што яна адна ведае праўду. Пра гэтае здарэнне Васілінка нікому, нават маці не пахвалілася.

А цяпер Васілінка не бегла, а ляцела да таго лесу з надзеяй

пракатацца, ды не як-небудзь, а стоячы на возе і трымаючы ў руках лейцы.

— Лезь на калёсы,— прапанаваў Мікалай,— я цябе правязу як мае быць!

Васілінка ўзлезла на воз, стала побач з хлопчыкам. Вецер развяваў кароткія Васілінчыны валасы, яна моцна трымала Мікалая за кашулю і ўяўляла сабе, як здзівіцца маці, убачыўшы яе на кані. А яшчэ больш хацелася, каб гэта ўбачылі ўсе дзеці. Хай ведаюць, што яна не якая-небудзь там баязліўка. Адчуванне сваёй моцы так падбадзёрыла Васілінку, што ёй было аніколечкі не боязна. Але тут Мікалай крута, на ўсім скаку, павярнуў каня ў завулак да дзядзькавай хаты. Ад нечаканасці Васілінка падалася наперад і не ўстояла. Грымнулася на перапэцканыя дошкі і ледзь не звалілася з калёсаў.

Усе, хто быў на двары, замест спачування дружна рагаталі. Настрой у Васілінкі ўшчэнт сапсаваўся. Але ненадоўга: вось ужо і яна смяецца разам з імі.

А ўвечары дзядзька Андрэй іграў на скрыпцы.

Едучы ў госці, Васілінка думала, што дзядзька Андрэй вялікі і дужы, а ўбачыўшы яго, крыху расчаравалася. Ён быў невысокага росту, шчуплы, з рыжаватым рэдкім шчаціннем на твары і, не ў прыклад сваёй жонцы, пануры, маўклівы. Здаецца, нічога яму не абыходзіла, апрача гаспадарчых спраў, і рукі ягоныя — шурпатыя, з грубымі, тоўстымі пальцамі — маглі трымаць толькі сякеру, касу ды сахор. А тут — скрыпка... Дзядзька Андрэй асцярожна зняў яе са сцяны, прыклаў да падбародка, правёў смычком раз, другі — і раптам тнуў вясёлую полечку, і ўсе заўсміхаліся, нібы і не адчувалі ніякай стомы. Маці з цёткай Гапуляй запрашалі да стала, а людзі не спяшаліся заходзіць у хату, яны слухалі, як іграе дзядзька Андрэй, і ўсім было хораша і весела.

Гэты вечар ускалыхнуў у душы Васілінкі калісьці пачутае ад маці апавяданне. Здаецца, яна стаіць ля акна і бачыць, як да хаты падлятае парка сытых коней. Фурман саскоквае з козлаў і дапамагае пажылому распаўнеламу пану выбрацца з брычкі. А потым вядзе, ледзь не цягне яго ў хату. Спачатку пан іграе на скрыпцы, а дзядзька Андрэй — тады яшчэ не дзядзька, а хлопец-падлетак, стаіўшыся за вуглом, з прагнасцю слухае чароўныя гукі. А потым пан доўга і многа п'е гарэлку. Дзядзька ўсё стаіць і чакае, спадзяецца зноў пачуць цудоўную музыку. Праз нейкі час пан і сапраўды ўзяў у рукі скрыпку, але зайграў, нібы іншы чалавек, зусім нясткладна. А потым скрыпка заціхла, і пачуліся ўсхліпванні п'янага пана. Слёзы змяніліся выбухам страшэннага гневу, пан крычаў, кагосьці лаяў, камусьці пагражаў, а потым падняў высока над галавой скрыпку і бразнуў яе аб падлогу, што тая рассыпалася на драбнюсенькія кавалачкі. Пан суцішыўся і заснуў, а дзядзька Андрэй, поўзаючы на каленях, збіраў шчэпачкі ад разбітай скрыпкі.



Хто ведае, як удалося склеіць тую скрыпку! Толькі штоночы з тае пары з-пад павеці, дзе заўсёды спаў дзядзька Андрэй, чуваць быў яе голас. А неўзабаве дзядзька Андрэй стаў вядомы чалавек ва ўсёй акрузе. Да яго ішлі і ехалі людзі, прасілі іграць на вяселлях і вечарынках.

Хораша іграў дзядзька Андрэй. Васілінка слухала і не магла наслухацца.

Не перастаючы іграць, дзядзька Андрэй узышоў на ганак.

— Заходзьце, людцы добрыя.

Талака яшчэ не скончылася.

## У ГАСЦЯХ ДОБРА, А ДОМА ЛЕПЕЙ

— Пабудзь яшчэ, сястрыцка,— просіць цётка Гапуля.

— Не, дзякуй, час нам дахаты збірацца,— адказвае маці.— Ты ж чытала пісьмо, як Змітрок мой там без мяне і дзяцей сумуе. Дзякуй вам за прывет і ласку, але паеду.

Васілінка таксама засумавала, успомніла бацьку і Тоню.

— Паедзем, мамуля, паедзем, родная! — упрошвала яна.



— Добра, у нядзелю выедзем.

Марудна цягнуўся час!

— Ну вось, пераспім сённяшнюю ноч і заўтра раніцой — у дарогу,— нарэшце сказала маці.

Звечара не спалася. На досвітку Васілінка прачнулася, мацнула рукой, а маці няма побач. Васілінка падхапілася і ледзь не заплакала. Аказваецца, маці пайшла ўладкоўваць рэчы.

Хутка настаў час развітання. Васілінка пацалавалася са стрыечнымі сёстрамі і братамі, падышла да дзядзькі Андрэя і прыклалася да яго рукі. Так маці вучыла: «Пацалуй дзядзьку ў руку». Перад ад'ездам усе паселі: «на шчасце ў дарозе». Садзіцца і Васілінка, але першая ўскоквае з зэдліка. Думкі яе ўжо далёка адгэтуль.

Воз застаўлены кошыкамі і вузламі. Цётка Гапуля садзіцца наперадзе і бярэ ў рукі лейцы.

І зноў доўгая-доўгая дарога. Лес, балота, чыгуначны вагон. Нарэшце вось ён, родны горад! Вакзал як стаяў, так і стаіць на сваім месцы. Таксама, як і раней, ад яго разбягаюцца чыгуначныя пуці. А вось і пераезд. Маці спыняецца пагаманіць са знаёмай вартаўніцай і пакідае ў яе будачцы некалькі кошыкаў і вузельчыкаў. Кошык, сплецены з лучыны, у якім варушыцца некалькі курак і белы певень, маці бярэ ў руку, а ў другую яшчэ адзін кошык з вялікай бутляй чарніц, засыпаных цукрам. Васілінка з Міцькам таксама згінаюцца пад клункамі. Тоня, сустрэўшы іх на пероне, перакінула цераз плячо два клункі і ў руцэ цягне невялічкі трэці. Бацькі няма, ён у паездцы. Васілінка заўважае, як падрасла за гэты час і пасталела Тоня. Маці ўсю дарогу распытвае пра навіны.

Нарэшце пераступаюць парог, уваходзяць у хату. Як тут хараша! Пафарбаваная падлога блішчыць, як люстэрка, на вокнах цюлевыя кароткія фіранкі, пасцелі акуратна засланыя, на матчыным ложку высока ўзнімаюцца ўзбітыя Тоняй падушкі, а пуховы ясічак зверху нібы дыхае.

— Як хараша!

Васілінка кідаецца на вуліцу шукаць сваіх сябровак. Але хутка вяртаецца і кліча маці. Дзіва-дзіўнае: ля іхняга ганка сядзяць жанчыны з дзецьмі, побач нейкія клункі. Вакол іх расце натоўп. Усім хочацца ведаць, хто гэтыя людзі і адкуль іх прынесла. Васілінка чуе незнаёмае слова: «бежанцы».

— Мама, што такое бежанцы? Ад каго яны бягуць?

— Ад гарманцаў, дачушка, ад ворага,— адказвае ўстрывожаная маці.

— З Беластока мы, з Беластока,— паўтарае светлавалосая жанчына, прыціскаючы да грудзей малую рыжанькую дзяўчынку. Вакол яе ўюцца два хлапчукі-падлеткі, побач сядзіць старая бабуля.

— Прытулку шукаем. Муж там астаўся. Чыгуначнік ён.

Маці Васілінкі ўсё ясна, усё зразумела. У яе таксама трое дзяцей і муж чыгуначнік. А што, як і ёй, бараніі божа, давядзецца падняцца з дзецьмі?

Гэтая думка ўсё вырашае. І яна запрашае светлавалосую жанчыну ў хату.

— Як-небудзь уладкуемся, у цеснаце, ды не ў крыўдзе,— гаворыць маці.

Васілінка радуецца. У іхняй кватэры цяпер заўсёды шумна. Яны сваёй сям'ёй размясціліся ў самым вялікім пакоі, праз які ходзяць старыя Клімовічы. Сам Клімовіч, высокі сівы чалавек у акулярах, працуе пасыльным у канторы. Гарнітур у яго заўсёды чысценькі, не тое што ў Васілінчынага бацькі. Пасля работы Клімовіч выходзіць на ганак, выходзіць з ім і яго вечна хворая жонка, Іванаўна. Сядзяць і буркуюць, што тыя галубкі. Клімовіч разгортвае газету і голасна чытае, насунуўшы на нос акуляры. Васілінка паслухала раз, але ёй было нецікава і зусім незразумела. Іншая справа пастаяць і паслухаць размову, якую вядуць паміж сабою жанчыны, сабраўшыся на ганках.

На змярканні Клімовічы вяртаюцца ў свой пакой. Адтуль яны бяруць бліскучы нікеляваны самавар. Яго ўрачыста нясе сам Клімовіч, а кволая жонка — фарфоравы чайнічак для заваркі. Абое цярпліва сядзяць на кухні і чакаюць, пакуль самавар зашуміць і запыхкае парай. А потым доўга п'юць чай з чорным хлебам і сядзяць яшчэ бог ведае колькі, запаліўшы лямпу з зялёным прыгожым абажурам. А часам, сумуючы, ці што, запрашаюць да сябе ў госці Васілінку, просяць пачытаць ім з кніжкі. Васілінка тады ўладкоўваецца на цёплай ляжанцы і пачынае чытаць.

У невялікім пакойчыку ля кухні размясціліся бежанцы. Там нібы мурашнік, кешкаюцца малыя і дарослыя. Стасік з Зыгмунтам — школьнікі. Адзін голасна чытае, другі піша. Бежанка гушкае і забаўляе рыжанькую Вікцю, а старая бабуля мые посуд.

Маці цяпер часта адлучаецца. Выправіць Тоню з Васілінкай у школу, а сама пойдзе шукаць якога-небудзь харчу. З кожным днём, кажа маці, яго ўсё цяжэй знайсці. Бацька амаль зусім не бывае дома, увесь час у паездках.

А Васілінцы так яго не хапае. Ёй так хочацца расказаць бацьку, што адбываецца ў школе. У суседзяў Багданавых сканала бабуля. Стары мужык яе не адыходзіў ад труны, і з яго вачэй бесперапынку каціліся слёзы. Васілінку ў гэтым здарэнні хвалявала толькія тая несправядлівасць, што малых не запрашаюць на памінкі. Праўда, на могілкі яна збегала, ухапіла тры лыжачкі куцці на памін бабулінай душы. Так усе рабілі. Падыходзілі да свежага пясчанага курганочка, пад якім толькі што пахавалі нябожчыцу, тры разы клалі крыж на сябе і чэрпалі тры разы з міскі маленечкай лыжачкай куццю. Тры жменькі жоўценькага пяску Васілінка таксама ўкінула ў яму, як апусцілі труну ў магілу.

Яна і раней, як пачуе званы на Міхайлаўскіх могілках, бегала туды, каб пасмакаваць куцці. Раней там ставілі салодкую рысавую з разынкамі, не тое што цяпер. Па старой Багданісе паставілі посную кашу.

На памінкі запрасілі толькі адну маці. А які смачны халадзец з сухой таранкі там быў! Праўда, ён не застыў, юшку лыжкамі сёрбалі. У Васілінкі аж слінкі пакаціліся, як пра такое пачула.

А з харчамі зрабілася яшчэ цяжэй. Ля крамаў стаялі вялікія чэргі. На плячах кожнага, хто стаяў у чарзе, мелам пісалі нумар, каб не збіцца з парадку. Усю ноч прастаяла і маці Васілінкі, дый дня яшчэ прыхапіла немалую часіну, покуль дачакалася гнілых селядцоў. Перш чым прынесці іх дахаты, абабіла аб вугал будыніны, узяўшы за хвост, кожны селядзец, каб высыпаліся з іх чэрві. Пра гэта па сакрэце Васілінцы сказала Тоня, якая сама ўсё бачыла. Але селядцы ўсё роўна былі смачныя.

У доме суседкі Жаўняровай, што жыве ў маленькім доміку, які чамусьці называўся «флігелем»,— свая бяда. Ужо з паўгода, як мужа яе забралі ў салдаты. Яна мые посуд у салдацкай сталоўцы, працуе, а хлопцы зусім ад рук адбіліся. Малодшы, Пецька, курыць пачаў і кінуў школу. А старэйшы, Іванька, збег з дому. Што ўжо слёз выліла

Жаўнярова, адзін бог ведае. Усё чакае, што хлопец вернецца, а яго няма, і немаведама, што з ім здарылася.

— Не плачце і не сумуйце, Пятроўна,— суцяшае Жаўнярову Васілінчына маці.— Неяк будзе!

Васілінка глядзіць на белыя, нібы ў вары вывараныя, уздутыя рукі Пятроўны, якая раз-пораз адкідвае пасівелую пасмачку валасоў, што лезе ёй у вочы.

— А як ён на пазіцыю падаўся?

— І такое здараецца, дык не пакрыўдзяць жа яго салдаты. Мо сынам палка зробяць? — зноў суцяшае цётку Пятроўну маці.— А мо пападзе ў аркестр?

Часам па Зялёнай маршыравалі салдаты ў шэрых шынялях і шэрых, пад баранок, папахах. За строем беглі дзеці. Разам з усімі бегла і Васілінка. Забаўна было паслухаць, як салдаты па камандзе голасна запявалі:

Салавей, салавей, пташачка,
Канарэечка жаласна пяе...

А бабы, павыскокваўшы з хат, праводзілі строй сумнымі вачыма.

Толькі Шурка, суседава дачка, на вуліцу не выходзіла. Яна пазірала праз акно і плакала. Яе жаніх без вестак прапаў на германскім фронце. Усё ўжо было да вяселля падрыхтавана. Заручыны справілі і белай альпагі на шлюбную сукенку купілі, а яго, жаніха, хоп — і ў салдаты. Вось і лье слёзы цяпер Шурка. Усе яе цяпер нявестай-удавой на вуліцы клічуць.

А неўзабаве прыйшла бяда і ў Васілінчыну хату.

Вярнуўся з паездкі бацька. Як і заўсёды, узышоў ён на ганак у зашмальцаванай вопратцы з драўляным куфэрачкам за плячыма. Васілінка, глянуўшы на бацьку, адразу сцяміла — нешта здарылася нядобрае. Па збялелым твары каціліся буйныя кроплі поту. Відаць было, што бацька захварэў.

Маці дапамагла яму пераапрануцца і паклала на ложак. У хаце адразу зрабілася жудасна, сумна, нібы цяжкія хмары спусціліся нізка і душаць, душаць, замінаюць дыхаць. Васілінцы было не да гульні. Паскідала ў куток свае цацкі і ціхенька прытулілася ў кутку.

— Што з табою, Змітрачка? — пытала маці.

— Сам не ведаю. Напіўся вады з тэндэра, і стала мне кепска. Пакліч Зоркіна.

Маці пабегла па фельчара. Васілінка яго даўно ведала. Аднойчы яна захварэла, і маці выклікала таго лекара. Зоркін сказаў тады, уважліва выслухаўшы Васілінку:

— Інфлуэнца.

Тая загадкавая «інфлуэнца» надоўга прыкавала Васілінку да ложка. Колькі ёй тады давялося выпіць саладкаватай празрыстай мікстуры, покуль не стала на ногі! Колькі разоў маці націрала яе шмальцам са шкіпінарам і абвязвала калючай шарсцяной хусткай!

Вось і цяпер прыйдзе фельчар, паглядзіць бацьку і скажа:

— Інфлуэнца.

Так разважае Васілінка, слухаючы, як стогне на ложку бацька. Не, яна так не стагнала. Хоць бы хутчэй вярнулася маці. Бацьку зусім дрэнна. Ён ужо крычма крычыць і просіць Тоню:

— Расцірай мне нагу, расцірай, моцы няма цярпець.

Тоня адхінае коўдру, і Васілінка бачыць, які пад скурай на назе ў бацькі гузак, нібы клубочак. Тоня расцірае яго далонямі, а бацька заходзіцца ад болю і крыку. Бацька раней ніколі ні на што не скардзіўся, не тое, што маці, якая не-не, ды часам прыхварэе.



Нарэшце ў хату ўваходзіць у прыгожым гарнітуры і ў акулярах з залацістай аправай Зоркін. Кінуўшы вокам на бацькаву нагу, адразу падаецца назад і кажа:

— Вязіце ў бацьніцу... На Пясчаную.

Маці кідаецца да яго:

— Доктар, што з ім?

— Зараз жа вязіце ў бальніцу,— паўтарае Зоркін і хуценька выходзіць з хаты.

Маці галасна плача. Толькі яна адна ведае, што на Пясчанай, далёка за горадам, пабудавалі баракі, у якіх змяшчаюць хворых на «халеру».

Неўзабаве Васілінка бачыць, як ля іхніх варот спыняецца чорная крытая карэта. З яе выскакваюць з насілкамі санітары. Уваходзяць у хату, бяруць за рагі прасціну, на якой ляжыць бацька, і кладуць яго на насілкі. Маці хоча развітацца, нагінаецца пацалаваць бацьку, але яе не пускаюць. Яна бяжыць услед за насілкамі, якія знікаюць у расчыненых дзвярах чорнай карэты, санітар паганяе коней.

Васілінка, Тоня, Міцька і маці, разгубленыя, стаяць ля варот і глядзяць у той бок, дзе схавалася карэта з бацькам. На двары на ланцугу ля будкі кідаецца і вые рыжанькі Бобік, нібы чуючы бяду.

А ў хаце ўпраўляюцца санітары. Не шкадуючы, паліваюць нейкай смярдзючай вадкасцю ўсё без разбору. Спырскалі фікус, запэцкалі стол, падлогу. Пасцель, на якой ляжаў бацька, санітары загадваюць маці вынесці і спаліць.

Раніцою, ледзь пачало на дзень брацца, маці трасе за плячо Васілінку і кажа:

— Прачніся, дачушка, прачніся. Пойдзем бацьку адведаць.

Васілінка ўскоквае, ад холаду пацепвае плячыма, але не скардзіцца, хутка апранаецца, і яны з маці крочаць па вуліцах Царскай Веткі. Ідуць праз увесь горад. Маці, нібы малую, моцна трымае Васілінку за руку і ўсё прыспешвае.

Ужо яны далёка за горадам, калі ўзыходзіць сонца. Да баракаў рукой падаць. Але заходзіць туды забаронена. Хаця б каго-небудзь знайсці!

Насустрач ідзе стары ў ватняй салдацкай сцёганцы. Маці запускае ў кішэню свайго паліто руку, і на далоні яе блішчыць сярэбраны рубель. Вартаўнік не адмаўляецца, бярэ рубель і кажа пачакаць, а сам хаваецца ў бараку.

Маці прыхінае да сябе Васілінку:

— Вось як нам пашанцавала, дачушка! Хутка ўсё даведаемся пра бацьку.

Толькі нічога яны не даведаліся. Вартаўнік сказаў, што ў спісе памерлых бацька не значыцца.

— Прыходзьце заўтра, можа што-кольвечы дазнаюся.

Больш як два тыдні маці досвіткам падымае з пасцелі Васілінку, і яны доўга і моўчкі ідуць адведаць бацьку. Кожная пра сябе думае сваю думку. Васілінка ведае, што нябожчыкаў ноччу выносяць у трупярню, кладуць у труны і засыпаюць вапнай. Поп, стоячы за парогам, махае кадзілам і моліцца за душы праведныя. А потым вопрамеццю ляціць у санпрапускнік. Вартавыя грузяць труны на падводу і вязуць далей ад баракаў, у поле, і там закопваюць нябожчыкаў.

А што, як яны з маці спозняцца? Прыйдуць і не ўбачаць больш бацькі? Вытрываць такое Васілінка не мае моцы. Хіба можа стацца такое, што разумныя, ласкавыя бацькавы вочы засыплюць пякучай вапнай?!

Вартаўнік і на гэты раз не адмаўляецца ад рубля, ён жа не ведае, што ў маці іх так мала.

Пасля маці ідзе з Васілінкай у царкву і заказвае абедню за здароўе раба божага Змітра. Моліцца на каленях і плача, просіць госпада бога выратаваць ад смерці бацьку, моліцца за сваіх малых дзяцей, нічога не заўважаючы навокал. І толькі выйшаўшы з царквы, хапаецца за кішэню, у якой ляжаў кашалёк з апошнімі грашыма. Там пуста... Маці ідзе па вуліцы і горка плача. Плача, што няма грошай, плача і ад таго, што на свеце ёсць дрэнныя людзі.

Па дарозе яны заходзяць да знаёмай вартаўніцы, у якой пакідалі кошыкі, вяртаючыся з вёскі ад родзічаў.

— Не плач, Анісся, не трэба. Хай той злодзей больш, чым у тваім кашальку, ніколі не мае,— і старая жанчына, пакапаўшыся па кішэнях у вопратцы, што вісіць на сцяне, вымае і дае маці нейкую паперку. Маці трохі супакойваецца. Будзе раніцою з чым пайсці ў бальніцу.

Як і дамовіліся з вартаўніком, бягуць да таго акенца, ля якога ляжыць бацька. На гэты раз паркалёвая белая фіраначка крыху рассунута (гэта санітары па просьбе вартаўніка зрабілі), і праз невялічкую шчыліну Васілінка бачыць, што бацька ляжыць, прыхінуўшыся галавою да біла, не спіць. Ёй хочацца крыкнуць, пазваць, а маці прыкладае далонь да яе рота:

— Маўчы, дачушка, маўчы. Бачыш, бацька наш папраўляецца!

## ДОМАЎЛАСНІКІ

Матуліна сястра цётка Ганна жыве ў суседнім доме з сынам Рыгоркам і мужам Карпам. Яна зусім непадобная да Васілінчынай маці: такая сухенькая-сухенькая, носіць некалькі доўгіх спадніц, і ўсе адна на адной пакамечаныя, выцвілыя і пацёртыя. У Васілінчынай маці споднее белае, паркалёвае, з карункамі свае работы. А на адной, зялёнай, унізе прымацаваны шаўковыя зборкі, што шумяць, як маці ідзе. Толькі і чуваць: шух, шух, шух...

Маці Васілінкі вялікая аматарка вязаць. Любыя карункі вывяжа. Дзень і ноч будзе сядзець, а свайго даб'ецца. Яна ніколі без справы не сядзіць. То прошвы для навалочак майструе, то каруначкі дзяўчатам вяжа, а аднаго разу і сумачкі Тоні з Васілінкай павывязвала для выхаду ў людзі. Васілінцы вельмі да спадобы жоўтая, нібы сонейка, сумачка на зялёнай сацінавай падкладцы. Яна з гэтай сумачкай у царкву ходзіць і так у святочныя дні носіць.

Васілінцы падабаецца ўсё матчына вязанне, асабліва сурвэткі на маленькім камодзіку і на стале, што пасярод пакоя. Маці вяжа невялічкія кружочкі, а потым счэплівае іх, а пасярэдзіне павучкі з гэтых жа нітак устаўляе. Гатовую сурвэтку абвязвае каймой, а як толькі абвяжа, то ў кожную дзірачку прымацуе кутасікі. Памые і адпрасуе сурвэтку, на стол пакладзе, а потым доўга стаіць і з любасцю разглядае. А як бацька вернецца з паездкі, павядзе яго ў пакой з кухні і спытае:

— Ну як табе, Змітрачка, падабаецца?

Бацьку заўсёды падабалася матчына работа. Прыгледзеўшыся, ён усміхнецца, падкруціць доўгія вусы і скажа:

— Малайчына ты, мая Аляксееўна! — Падыдзе і пацалуе маці ў вусны.

А цётка Ганна ніколі нічога не вяжа. Жывуць яны ў цесным пакойчыку за кухняй. Ён такі маленькі, што няма дзе павярнуцца.



Дзядзька Карпа — мужык цёткі Ганны — лічыць, што большага ім і не патрэбна. Толькі грошы дарэмна пераводзіць.

Сам ён вельмі ашчадны, гарэлкі не п'е і не курыць. Шмат гадоў грошы ў банк складае, каб купіць свой, уласны дом. І ўдзень і ўначы мроіцца яму гэты дом. Цётка Ганна таксама з ім згодна. Яна з ім заўсёды згаджаецца.

— Мне такі пакой трэба, каб на ложку седзячы дастаў паесці са стала, а паеўшы — адпачыць на ложку не падымаючыся.

У іх і праўда ля жалезнага вузкага ложка стаіць столік. Дзядзька Карпа, седзячы на ложку, снедае ці палудцуе за ім. Рыгорка сядзіць з другога боку на крэсельцы з драўляных планачак, а цётка Ганна — тая проста так, стоячы, сёрбае з міскі якуюсьці страву. А часцей за ўсё яна зачэрпае ў вядры конаўку сырой вады, адразае скібку хлеба, адламвае ад яе невялікія кавалачкі, мачае ў соль, што на ражку стала насыпана, і запівае вадой.

У святочныя дні дзядзька Карпа пасля абедні ідзе на «таўкучку». Там ён доўга ходзіць і прыглядаецца, што больш танна можна купіць. Часам прыносіць грушы-гнілкі і яшчэ абразаныя рэбры, з якіх мяснікі на каўбасы ўсё мяса паабразалі. Дух ад тых костак непрыемны ідзе, асабліва, як гатуецца страва. Толькі дзядзька Карпа не чуе яго. А ўсім астатнім хоць з кухні ўцякай.

Цётка Ганна сама нічога ніколі не купляе. Дзядзька Карпа лепш за яе гэта робіць. Набываць што-кольвечы ў краме ён лічыць непатрэбным — толькі грошы дарма выкідаць.

Ён прыносіць з «таўкучкі» паношаныя чаравікі з доўгімі насамі на чырвонай падкладцы і падае цётцы. Тая надзене іх і скажа:

— Дзякуй табе, Карпачка. Вельмі добра, вельмі, толькі нумары на два большыя, чым мне патрэбны.

— Нічога, з вялікіх не выскачыш, а малыя хіба толькі на нос насунеш.

Так і ходзіць цётка Ганна ў тых вялізных чаравіках, пакуль не рассыплюцца.

Калісьці, як Васілінка была малая, яны кватаравалі ў адной хаце. Васілінка памятае, як маці гаварыла бацьку:

— Не магу я, Змітрачка, на іх жыццё глядзець, сэрца не трывае. Давай новую кватэру шукаць.

І яны перайшлі ў суседні дом, нумар пяць. З тае пары да іх найбольш цётка Ганна сама заходзіць. Зойдзе, падыме адну спадніцу, другую, выцягне з патаемнай кішэні кісет з махоркай, скруціць цыгарку і зацягнецца дымам. Курыць цётка Ганна даўно і ўпотай ад дзядзькі Карпы. Той не тое каб супраць курыва, толькі лае, што цётка грошы пераводзіць.

Васілінчынай маці крыўдна за сястру. Але тая і выгляду не падае, што ёй дрэнна. Наадварот, імкнецца схіліць маці Васілінкі на свой бок.

— Няправільна ты жывеш, Аніська, няправільна. Капейкі не беражэш. Дзеці растуць, час і пра ўласны домік падумаць. А ты ўсё праядаеш, усё праядаеш. Пашкадуеш, ды будзе позна. Дасі кішкам волю — праясі шчасце і долю.

Памаўчаўшы, дадае:

— І за што толькі цябе твой Змітра кахае?

Маці не падабаецца такая размова, але пярэчыць старэйшай сястры не хоча. Толькі і адкажа на тыя словы:

— Жыві, сястрыца, як ведаеш. А я так жыць, як вы з Карпам, не хачу.

Цётка пасядзіць, пасядзіць, з'есць што-небудзь, чым маці пачастуе,

а потым падымецца і пабяжыць дахаты. Дзядзька Карпа з начной адпачывае. Ён на дрывяным складзе пазменна працуе. Паравозы дрывамі або вугалем загружае ды яшчэ падзарабляе на выгрузцы з вагонаў. Вось і спяшаецца цётка, каб не праваронiць састаў, што пададуць на ветку. Каб лепш было відаць, яна раз-пораз узлазіць на лесвіцу, што на двары прыстаўлена да хаты. Адтуль добра відаць, ці прыбылі тыя вагоны. А як толькі заўважыць, што падаюць састаў на запасныя пуці, хуценька спусціцца ўніз і разбудзіць дзядзьку Карпу. Той ускочыць, хвілiначку пасядзіць на ложку, разганяючы сон, ускіне на плечы шырокі жалезны шуфель і пабяжыць на склад. А цётка Ганна, крыху патупаўшы, таксама ўзваліць на свае кволыя плечы цяжкі шуфель і затрухае наўздагон дзядзьку Карпу. Без яе дапамогі ні адзін вагон вугалю або дроў не выгружаецца. Бывае, яна і ўначы падсцерагае вагоны, па некалькі разоў бегае на склад, пакуль дачакаецца.

У Васілінкі з Рыгоркам, які на адзін год старэйшы за яе, вялікага сяброўства не атрымліваецца. Часам яна забягае да яго, толькі ненадоўга. Рыгорка сядзіць на дашчаным крэсельцы ля шафкі, локці яго звісаюць са стальніцы. У пакоі, акрамя ложка, шафкі, драўлянага крэсельца і вышмальцаванай шафы, нічога няма. Акно бруднае, без фіранкі, у пакоі заўсёды пахне нейкай гніллю.

У Рыгоркі ў шуфлядзе паўнютка цацак. Там схавана ўсё, што яму купляў бацька ці хто падараваў са сваякоў, пачынаючы ад бразготкі для немаўляткі да паравоза з вагончыкамі. Толькі Рыгорка не любіць, як Васілінка бярэ яго рэчы, баіцца, каб чаго не паламала, і хутчэй хавае іх у шуфляду.

І яшчэ ў Рыгоркі ёсць адна цацка, якой няма ні ў Васілінкі, ні ў Тоні, ні тым больш у Міцькі. Гэта маленькая, зьлепленая з гліны, савіная галава са шчылінкай на макаўцы. Скарбонкай завецца тая цацка. Рыгорка ўкіне ў шчыліну грош або капейку, а яна лясне і праваліцца, нібы ў пастку. Васілінка пераверне савіную галаву ўніз, трасе, трасе, а манета назад не выскаквае. Аднаго разу яна, узлаваўшыся, так трасянула, што савіная галава выслізнула ў яе з рук, ударылася аб падлогу і разбілася. Рыгорка пачырванеў ад злосці і пачаў поўзаць па падлозе, збіраючы капейкі. Адчуваючы сябе вінаватай, яму дапамагала Васілінка. Пасля гэтага здарэння Васілінка баялася паказвацца на вочы дзядзьку Карпу, хоць Рыгорка склеіў тую савіную галаву і зноў накідаў туды капеек.

Маці даўно не заходзіць да цёткі Ганны, не хоча бачыць дзядзьку Карпу: ён ужо зусім звар'яцеў, складаючы грошы. Нарэшце купіў ён хату — тую самую, дзе ён здымаў пакойчык з кухні. Зусім схуднела цётка Ганна. Рыгорка ходзіць зашмальцаваны і галодны.

— Чаму ты не глядзіш сына? — пытае ў цёткі Ганны Васілінчына маці.

— Нічога,— кажа тая,— прыйдзе лізун месяц і выліжа яго.

Васілінка думае, што ніякі месяц лізун не выліжа Рыгорку, як не вылізаў дзядзьку Карпу. На яго шурпатым, нібы пасечаным градам твары вугальны пыл так глыбока ўеўся, што не адмываецца нават гарачай вадой у лазні. Васілінка разумее, што маці не падабаецца дзядзька Карпа, хоць бацька заўважае часам:

— Не сярдуй на яго, маці. Жыццё — складаная справа. Кожны жыве, як умее.

Па ўсім відаць, што бацька шкадуе дзядзьку Карпу.

— Падумай, як яму давялося купіць тую хату. Крывёй і потам, па капейцы, ва ўсім сабе адмаўляючы, наскроб тыя грошы.

Ад гэтых слоў нешта мякчэе ў сэрцы Васілінкі, слабее крыўда на



дзядзьку. І яна бяжыць да Рыгоркі. Жывуць яны ўсё ў тым жа маленькім пакойчыку. Два іншыя пакоі як займалі жыхары раней, так і займаюць. Аслабаняць пакоі не жадаюць.

## МЫ, ДЗЕЦІ ПРАЛЕТАРЫЯЎ...

Да бацькі стаў заходзіць слесар з паравознага дэпо Самсонаў. Кожны раз, сышоўшыся ўдвух, яны доўга пра нешта размаўляюць. То пра грошы, якія вельмі патрэбны, каб набыць літаратуру, а то пра нейкія сходы. Хто каго падтрымаў, а хто не па адной дарозе ідзе.

— Вось металісты, гарбары ды з фабрыкі «Дзвіна» з намі пойдуць,— кажа дзядзька Самсонаў.

«З кім гэта з намі? — імкнецца ўцяміць Васілінка.— І куды збіраюцца ісці паравознікі?» Толькі б пасядзець ды паслухаць, ды дзе там. Дзядзька Самсонаў просіць Васілінку пайсці пабегаць па вуліцы. Чаму ж і не выйсці? На вуліцы заўсёды занятак знойдзецца.

Вуліца ў тым канцы, дзе яны жывуць, амаль заўсёды сухая, пясчаная, нават рэдкай траўкай зарасла, бо мала калі хто па ёй праедзе. І наогул Васілінка сваю Зялёную вуліцу ні з якой іншай зраўнаць не можа. На Гарохавай, як толькі дождж пройдзе, або вясной ці восенню ног з гразі не выцягнеш. А на Рыжскай і Кіеўскай навокал чарната адна, няўтульна. Паабапал тых вуліц глыбокія канавы, поўныя зялёнай смярдзючай вады, у якой увесь час квакаюць жабы. Там не толькі вуліцы, нават гароды засыпаны шлакам ад перагарэлага вугалю.

Калі ні пойдзеш па гэтых вуліцах, заўсёды сустрэнеш чыгуначнікаў з мяхамі шлаку на плячах. Усё нясуць, усё цягнуць той перагар і сыплюць ля сваіх хат і агародаў, каб менш было гразі.

Кажуць, што раней на месцы паселішча чыгуначнікаў была суцэльная дрыгва. А потым гэты дрыгвяны абшар адвялі чыгуначнікам. І атрымала гэтая гарадская ўскраіна з тае пары назву — Царская Ветка.

А як з Зялёнай у другі бок падацца, на Шырокую, там весялей крыху. Дзе-нідзе травінка на свет прабіваецца, і вада ў канавах не скрозь стаіць. А Манастырскую Васілінка не паважае. Тая каменнем выбрукавана, па ёй увесь час коламі тарахцяць вялізныя брычкі з акаванымі коламі. На незамошчаных тратуарах заўсёды гразка, гразь гэтая ў дажджлівае надвор'е залівае брук. На гэтую вуліцу Васілінка толькі па загадзе маці ў краму Штэмберга бегае або на Міхайлаўскія могілкі, што за чыгуначным пераездам.

На Гарохавай Васілінка бывае даволі часта. Там стаіць вялікі двухпавярховы дом, першы паверх яго зялёны, а другі — блакітны. Самы вялікі на ўсёй Царскай Ветцы. Васілінцы ён падабаецца таму, што ў ім на ніжнім паверсе жыве яе хросная маці. У яе таксама трое дзяцей — дзве дзяўчынкі, Нюша і Маня, і хлопчык Вася. Маня аднагодка Васілінкі. У двары гэтага дома шмат усялякіх закуткаў, і тут вельмі зручна гуляць у хованкі. Можна схавацца так, што ніхто не знойдзе.

Сам Васіленка на паравозе ездзіць. У апошні час і ён да іх заходзіць, прыносіць тоненькія кніжачкі ці лісточкі тонкай паперы, на якіх нешта надрукавана. Ну хай сабе чытаюць, хіба Васілінцы абыходзіць? Яна таксама ў руках трымала нейкія брашуры, што Стасік і Зігмунд на двары ў сабачай будцы ад маці хаваюць. Бо тая як зловіць за чытаннем тых тонкіх кніжачак, толькі і выскажа: «Зноў Пінкертоны!» — і, размахнуўшыся, плясне катарага з холпцаў па вуху. Васі-

лінка аж задрыжыць уся. А хлопцы маўчаць, не пярэчаць і не плачуць.

Больш даставалася чамусьці старэйшаму, Стасю. Гэта ён тых Пінкертонаў прыносіў. Ад Васілінкі Стась не хаваўся, давяраў ёй свой скарб, і Васілінка нікому не казала пра Стасеву таямніцу...

Аднаго разу падвечар забег у хату дзядзька Самсонаў.

— Рэвалюцыя! Рэвалюцыя! Чуеш, Аляксееўна?

Ён схапіў матчыну руку, сціснуў яе ў сваёй шырокай чорнай далоні.

— Ад таварышаў маю даручэнне, Аляксееўна, абысці ўсіх жыхароў вуліцы і сказаць, каб заўтра раніцой ішлі на Вакзальную. Будзе вялікая дэманстрацыя.

Не паспела маці распытаць наконт тае дэманстрацыі і рэвалюцыі, як Самсонаў выбег з хаты. А Васілінка не разгубілася і тут жа, прыхінуўшыся да пляча маці, якая сядзела на табурэтцы, стала лашчыцца да яе і прасіцца, каб заўтра ўзяла яе з сабою на Вакзальную.

А раніцою па вуліцы ішлі да вакзала мужчыны і жанчыны, некаторыя разам з дзецьмі. Большых трымалі за руку, а самых малых неслі. Мужчыны ішлі невялікімі купкамі, з чырвонымі сцягамі, на якіх белымі літарамі нешта было напісана, але што — Васілінка не паспела разабраць. Надвор'е стаяла сухое, толькі дзьмуў моцны вецер. З абодвух бакоў Вакзальнай рухаліся калоны дэманстрантаў з чырвонымі стужачкамі на грудзях.

— Гэта чыгуначнікі ідуць,— гавораць у натоўпе.

Над калонамі трапяталіся чырвоныя сцягі, грымела музыка. Духавы аркестр іграў бесперапынку, а барабаншчык так жарыў па барабане, што Васілінка дзіву давалася, як ён не разбіў яго на шматочкі. Дэманстранты ішлі па чатыры чалавекі ў шарэнзе і спявалі не знаёмыя Васілінцы песні:

...Смело мы в бой пойдем...
...Мы наш, мы новый мир построим...

Праз колькі дзён настаўніца паведаміла, што заўтра пасля заняткаў яны ўсёй школай, усімі трыма класамі, пойдуць на сустрэчу ў сталоўку кандуктарскага рэзерву. І папярэдзіла, каб кожны з вучняў абавязкова захапіў з сабою відэлец і лыжку. Там для дзяцей будзе падрыхтаваны пачастунак.

Васілінка так і не магла растлумачыць маці, з кім адбудзецца тая сустрэча, толькі пра відэлец і лыжку яна добра запомніла. Маці з вечара адпрасавала Васілінчыну сукенку, памыла і высушыла пад прасам яшчэ мокры белы фартушок і каўнерык. Жартачкі ж — дачка збіраецца на сустрэчу! З вечара маці паклала ў Васілінчын ранец побач з кнігамі і сшыткамі відэлец і бліскучую металічную лыжку (ведайце нашых!). Трывожна спалася ў тую ноч Васілінцы: яна ўсё баялася, каб не спазніцца.

І вось, нарэшце, заняткі скончыліся. Настаўніца паставіла ўсіх па двое. Васілінка, як самая меншая ў класе, трапіла ў першую пару з Сашам Каліцкім. Моцна пабраўшыся за рукі, дзеці пашыбавалі да кандуктарскага рэзерву. Васілінка добра ведала, дзе той рэзерв знаходзіцца: бацька некалькі разоў браў яе з сабою, як ішоў туды па нарад перад паездкай.

Сталоўка размяшчалася на першым паверсе. Уся яна заастаўлена доўгімі сталамі, накрытымі цыратай. Голыя сцены пабелены вапнай, і толькі на адной сцяне вісіць партрэт, абвіты вянком з зялёных яловых лапак. Дзеці ўладкаваліся за доўгімі сталамі, і пад тым партрэтам устаў сівы чалавек у форменнай тужурцы чыгуначніка.



Васілінка сядзела далёка ад гэтага чалавека і мала чаго пачула, што гаварыў ён, у памяць урэзаліся толькі апошнія словы: «Перад вамі, сынамі і дочкамі пралетарыяў, раскрываюцца шляхі да новага жыцця». Васілінка так і не паспела асэнсаваць, ці дачка яна тых пралетарыяў, перад якімі раскрываюцца шляхі да новага жыцця, як дзеці па прыкладзе настаўніцы гулка запляскалі ў далоні. Разам з усімі пляскала і яна.

А потым перад кожным паставілі па талерачцы гарачага варыва. Васілінка спяшалася, каб не адстаць, сёрбала гарачую страву, дзьмула ў тую металічную лыжку, апякала вусны. Хай яна прападзе, чаму ж было не ўзяць драўляную! Толькі не было чаго спяшацца, прайшло можа хвілін з пятнаццаць, покуль падышлі да іх дзве жанчыны з вёдрамі і пачалі раскладаць у тыя ж талеркі па лыжцы кашы і катлеце. Такога пачастунку Васілінка даўно не бачыла.

Васілінка павольна вярталася дадому. Ёю авалодала пачуццё невядомай раней павагі да сябе. Не спяшаючыся, яна падышла да зялёна-блакітнага двухпавярховага дома на Гарохавай. І тут яе нібы маланкай апякло: лыжку і відэлец забылася ў сталоўцы!

Васілінка кінулася назад. Толькі на тым месцы, дзе яна сядзела, на стале нічога не было. Жанчына ў фартуху выцірала анучкай цырату.

— Цётачка...

Не, яна нічога не ведае, не бачыла, увесь посуд здалі ў пасудамыйку. А ісці туды Васілінка пабаялася. Прыйдзецца ўсё расказаць маці. Што цяпер будзе?

Васілінка стаіць супраць маці, якая нешта цыруе, седзячы на зэдліку, і расказвае пра сённяшні дзень.

— Пры размове заўсёды глядзі чалавеку проста ў вочы,— перапыняе Васілінку маці.

А як глядзець проста ў вочы? Маці ж можа ў вачах прачытаць, што яна не прынесла відэлец з лыжкай. А такіх у іх больш няма.

Маці ўважліва слухае Васілінку. Ёй карціць даведацца, што той прамоўца гаварыў, але акрамя «сыны і дочкі пралетарыяў» і «перад вамі шырока расчынены дзверы ў новае жыццё» Васілінка нічога не запомніла.

Маці ўздыхае і доўга сядзіць моўчкі, нешта думае. Успаміны захапілі яе і перанеслі ў далёкае дзяцінства.

...З расчыненых насцеж дзвярэй шугае хвалямі халоднае паветра. Дзяўчынкі і хлопчыкі ляжаць упокат, звесіўшы ўніз галовы, на цёмных закураных нарах. Горкі дым выядае вочы. Ляжаць доўга, покуль перагарыць паленне ў нізкай, без коміна, печы. Старэйшая сястра, што гаспадарыць пасля смерці маці, рыхтуе сняданне — кулеш з жытняй мукі і бульбу ў шалупайках. Пасля яна зачыняе дзверы, і ў хаце трохі цяплее. Бярэцца на дзень. У адзінае акенца пакажацца спачатку маленькі шэры квадрацік святла, а часам і кавалачак сонца.

Побач з ёй ляжыць брат Міша. На яго ў вёсцы глядзяць хто з павагай, а хто і з зайздрасцю: Міша хутка скончыць прыходска-царкоўную трохгадовую школу. Да яго прыходзяць хто прачытаць пісьмо, хто напісаць прашэнне валаснаму старасце. Міша прыгожа піша. Яна і сама любавалася. Толькі шкада, прачытаць не ўмее. Як пазнаць той сакрэт, каб скласці тыя літары ў словы, як даведацца, што там напісана?

— Татачка, родненькі, пусці і мяне ў школу! — прасіла Аніська.

— А навошта табе тая грамата? Хіба хлопцам пісьмы пісаць станеш? — адказваў бацька. Аніська не магла растлумачыць бацьку, на-

вошта ёй тая грамата. Але гарачае жаданне навучыцца пісаць і чытаць жывуць у яе душы ўвесь час.

...Васілінка доўга глядзіць на задуменную маці, аж пакуль тая сама не вымаўляе тыя словы, што сёння пачула Васілінка: «Перад вамі шырока расчынены дзверы ў новае жыццё».

— Дай бог, дай бог, дзеткі! — І яна моцна прыціскае да грудзей Васілінку, цалуе бялявую стрыжаную галаву.

Расчуленая Васілінка прызнаецца ў сваёй няўдачы. Маці не сварыцца. Яна кінула сваё цыраванне, гладзіць Васілінку па плячах і мякка кажа:

— Нічога, нічога, дачушка. Ліха яе бяры, тую лыжку!

І ціха паўтарае:

— Сыны і дочкі пралетарыяў...

## СУМНА ЖЫЦЬ БЕЗ СВЯТАЎ

Час ляцеў так хутка, што Васілінка не паспявала агледзецца. Вось і каляды надышлі. Бацька прынёс зялёную густую елачку, і Тоня па вечарах пасля ўрокаў рыхтуе для яе ўбранне. З бліскучай рознакаляровай паперы выразае нажнічкамі зорачкі, клеіць каробачкі і ліхтарыкі, ланцужкі. Васілінцы сядзець і проста глядзець на тое, што робіць Тоня, нецікава. Куды лепш яна любіць упрыгожаную ёлку, асабліва з запаленымі свечкамі. І Васілінка хутка засынае.

Прачнуўшыся, Васілінка бачыць упрыгожаную ёлку з вялікай бліскучай зоркай на макаўцы. На ёй усё, як і даўней, бывала, нават цукеркі вісяць. Толькі адкуль яны ўзяліся? Іх жа даўно няма ў продажы. Аказваецца, здагадлівая Тоня ў кожную бліскучую паперку замест цукеркі паклала па скарыначцы хлеба. Усё як мае быць!

Увечары на ёлку збіраюцца дзеці, ходзяць вакол яе, пабраўшыся за рукі. Усім святам кіруе маці — бацькі няма дома. Толькі на гэты раз няма пачастунку.

— Выбачайце, дзеткі, цяпер так цяжка з харчамі,— нібы сароме-ючыся, нібы вінавацячыся, гаворыць маці.

Прыкра зрабілася на душы ў Васілінкі. Толькі тая прыкрасць яе засмучала не вельмі доўга. Наперадзе немалаважная падзея: ўпершыню наладжвалася ёлка ў школе.

Васілінка разам з Тоняй вучылася цяпер у чыгуначнай школе першай ступені. Тоня зноў заклапочаная, яна рыхтуецца да школьнай ёлкі. Абышла ўсе крамы ў горадзе і нарэшце знайшла ў адной аптэцы два пачкі ваты. А цяпер, разгарнуўшы яе тонкім пластам на стале, нешта майструе.

— Скажы, што робіш? — пытаецца Васілінка.

— Хіба не бачыш — шапачку.

— Глядзіце, глядзіце, што выдумала Тоня! — крычыць Васілінка.— Хто ж гэта з ваты робіць шапачку?

На вокліч Васілінкі да стала падыходзіць маці. Адарваўшыся ад сваіх паравозаў, ляціць Міцька. Усім цікава глянуць на тую шапачку.

— Цяпер многія з ваты шыюць шапачкі, мода такая,— адказвае Тоня.

— Мода, мода! — паўтарае за ёй Васілінка і заходзіцца ад смеху.

А Міцька, той вырашае па-свойму:

— Толькі дзяды-марозы ходзяць у шапках з ваты.

Падвечар Васілінка з Тоняй збіраюцца на ёлку ў школу. Васілінка



апранае сваю карычневую сукенку з чорным фартушком, а Тоня надзяе на галаву белую ватную шапачку і доўга не адыходзіць ад люстэрка, любуючыся сабою.

Вялізная ёлка стаіць пасярод прадаўгаватай школьнай залы. Убрання на ёй, акрамя маленькіх чырвоных папяровых сцяжкоў, нічога няма. Настаўніца запрашае ўсіх станавіцца па двое. У пару з Васілінкай трапляе Саша Каліцкі, той самы Саша, што аднойчы сказаў: «Я хацеў бы вучыцца так, як вучыцца Васілінка».

Васілінцы пасуе такі партнёр. Тым больш, што ён запрашае яе на польку-какетку. Васілінцы весела. На развітанне ўсім даюць па невялічкім пакуначку. Васілінка не ўцерпела, яна разгортвае сурвэтачку з папяроснай паперы і разглядае падарунак: дзве тонкія лустачкі хлеба, а між іх скрылёк варанага мяса. Васілінка задумваецца, ці варта зноў загортваць пачастунак, але тут да яе падыходзіць Тоня і строга загадвае:

— Зараз жа давай сюды падарунак. Усё панясем дадому. Там паласуемся і пачастуем маму і Міцьку.

Васілінцы падабаецца не новая школа, якая размясцілася ў вялікім драўляным доме з высокім ганкам. Хоць дайсці да яе па пуцях нялёгка, так і глядзі, каб пад цягнік не трапіць. Ідзе па пуці, а нейкі чалавек у кажарцы, як у яе бацькі, крычыць:

— Уцякай, дзяўчынка, тут хутка смаленскі пойдзе!

Васілінка пераходзіць на другі пуць і ўвесь час азіраецца, каб незнарок не наскочыў які-небудзь таварняк. Але як дабярэшся да школы — адна любата. Не тое, што ў прыхадской, няма тут строгай Вольгі Іенаўны, што вяла ўсе тры класы. На ўроках сядзі як прыклееены, не паварушыся. Толькі і радасці было, што выскачыш у цёмную раздзявальню пасля званка і трохі пабегаеш. Як толькі што не так, Вольга Іенаўна паставіць у кут. А настаўнік, што хлопчыкаў вучыў, раззлаваўшыся, хапаў лінейку і біў па галаве. «Але так ім і трэба, хуліганам,— думала Васілінка.— Хай не падстаўляюць падножак!»

Пасля заняткаў Васілінка з Тоняй беглі хутчэй дамоў рыхтавацца да спектакля.

Пры размеркаванні роляў выпала адна і на Васілінчыну долю. Яна рэпеціруе танец «сняжыначку». Жартачкі, ці што — удзельнічаць у спектаклі?

Васілінка не ўяўляе сабе ўсяго хараства, бо яна спектакляў ніколі не бачыла. За ўсё сваё жыццё адзін раз хадзіла ў кінематограф — як прыязджаў мамін пляменнік Піліп. Піліп запрасіў маці, Васілінку і Тоню ў кінематограф. Маці надзела святочную сукенку, доўга расчэсвала Тоніны валасы, запляла ёй косы і завязала блакітныя банты. З Васілінкай доўга не важдалася: махнула грабянцом па яе рэдкіх бялявых валасах — і годзе. Банта Васілінцы так і не давялося ні разочку завязаць.

«Ты галамызая»,— смяялася Тоня. Толькі бацька гладзіў Васілінку па стрыжанай галаве і суцяшаў:

— Не слухай, дачушка, усё яшчэ наперадзе. Была б галава, а косы выраступь.

Васілінка верыла бацьку, хоць маці яе зноў і зноў стрыгла пад хлопчыка.

Па-святочнаму апранутыя, з чыстымі насовачкамі ў кішэнях, Тоня з Васілінкай трымаюцца за рукі. Маці з пляменнікам ідзе за імі. Васілінцы здаецца, што ўсе сустрэчныя ведаюць, што яны выправіліся ў кінематограф.

Яшчэ здалёк Васілінка заўважае святло над уваходам і надпіс:

«Скерца д'ябла». Яе не засмучае назва. Ёй усё роўна, толькі б хутчэй пачалося прадстаўленне. Нарэшце пагасла святло, і на вялікім белым палатне заскакалі фігуркі людзей.

Дамоў Васілінка вярталася нейкая засмучаная. Усё было не так, як яна сабе ўяўляла. А маці і Піліпу, відаць, спадабалася.

Штодзень Васілінка астаецца пасля заняткаў. Узяўшыся за рукі, шэсць дзяўчынак ідуць па крузе, утварыўшы зорачку, а настаўніца пляскае ў далоні і камандуе: «раз і два, раз і два». Потым спыняе дзяўчынак і тлумачыць:

— Галоўку вышэй, не згінайцеся, уважліва слухайце музыку.

Васілінка з усім згаджаецца, толькі ногі ў яе, як не свае, хоць яна і дома рэпеціруе, плешча ў ладкі, прыгаворвае: «раз і два, раз і два» і кружыцца ля стала.

Да спектакля рыхтуюцца доўга. Усе ў школе ведаюць, што Каця Высоцкая будзе снягурачкай, а Маня Іванова спявае песню Леля. На іх з цікавасцю зыркаюць хлопчыкі. Толькі да Васілінкі ўсе абыякавыя. Яна разумее, што роля ў яе невялікая, нямая, як у тым кінематографе. Але настаўніца казала, што поспех спектакля будзе залежаць ад кожнага з іх. Значыць, і ад Васілінкі таксама. На спектакль запрашаюцца бацькі — самыя строгія і патрабавальныя суддзі.

Падрыхтоўка ідзе на поўны ход. Васілінцы маці накрухмаліла белую спаднічку з марлі, акуратненька зацыравала белыя шкарпэткі, што пратапталіся на вялікіх пальцах. Васілінка хвалюецца, хаця каб не відаць было. Маці супакойвае:

— Нічога, нічога, дачушка, сцэна вялікая, ніхто тваіх латачак не заўважыць.

Васілінка ідзе на апошнюю, як сказала настаўніца, генеральную рэпетыцыю. Праз два дні — спектакль! І яна — «сняжыначка»!

## ПІРОГ НА ІМЯНІНЫ

— Дзеці, а заўтра ў нашай Васілінкі дзень нараджэння! — сказала маці.

— Ура! — закрычаў Міцька.— У нас будзе свята!

Маці ўздыхнула і моўчкі паківала галавой. А Міцька прыціснуў да грудзей локці і, прыгаворваючы: «чух, чух, чух»,— рынуўся вакол стала: пачаў гуляць у паравоз.

Маці заўсёды спраўляла кожнаму з іх дзень нараджэння. Але ж то было раней. А цяпер? Учора ледзьве дастаялася ў вялікай чарзе, пакуль атрымала пяць фунтаў чорна-шэрай, нібы зямля, мукі з ільнянога семя. Узрадаваная Васілінка скакала на адной назе і пляскала ў далоні: будзе з чаго піраг спячы!

— Мам, а гасцей запрашаць будзем? — запытаў Міцька.

— Будзем, сынок, будзем. Хай ужо Васілінка прывядзе сваіх сяброў.

Пра ўсё астатняе дамовіцца не паспелі: нехта стукнуў у шыбіну. Пад акном стаяла Зіна і падавала знакі рукой, каб Васілінка выйшла з хаты.

— Мама, я зараз. Зіна кліча.

— Бяжы ўжо, бяжы,— усміхнулася маці.

Маці ўсё больш прыкмячала, што яе дзяўчынкі пасталелі, дзіцячыя забавы ўжо іх не захаплялі. Гуляць бы ім абедзвюм з цацкамі,





лялькам сукенкі апранаць. А Тоня бярэ іголку, шыла, сураўую нітку і пачынае майстраваць туфлі сабе і Васілінцы на вяровачнай падэшве. Бач, спрытная якая, ніхто ж яе не вучыў гэтаму!

А ўзімку Тоня шапачкі з ваты майстравала бялюсенькія. Нібы сняжок зацярушыць цёмныя кучаравыя валасы...

У пакой убегла Васілінка.

— Мама, у Арлоўскім парку з вагона патака цячэ. Зіна кажа, што бочкі ў вагоне паразбіваліся і патака капае з вагона. Трэба толькі падставіць гаршчочак... Можна, я пайду? Мама, заўтра ж свята,— просіць Васілінка. А Тоня ўжо схапіла гліняны глячок.

Маці ледзьве паспявае сказаць «асцярожна», як дзяўчынкі вопра-

меццю кідаюцца з хаты. Бягуць, спяшаюцца, каб хаця не спазніцца. Сагнуўшыся, лезуць пад вагоны, перабягаюць рэйкі. Нарэшце знаходзяць і той вагон, з якога і сапраўды капае патака.

Васілінка падставіла далонь, дачакалася, пакуль нешта ліпучае капнула, з боязззю паднесла да губ: а што, калі гэта дзёгаць ці мазута?

Лізнула, адчула гаркавата-салодкі, не вельмі прыемны смак. Яшчэ разок паспытала. Нічога, што гарчыць. І Васілінка прымошчваецца пад вагонам.

Сядзіць доўга, сядзяць і Тоня з Зінай — можа гадзіну, можа дзве. Ломіць спіну, а ў глячку на донцы паблісквае толькі невялічкая цьмяная плямка.

Вось каб можна было адчыніць вагон і стукнуць чым-небудзь па той бочцы! Няхай бы пацякла патака хоць танюсенькім струменьчыкам.

Спачатку Васілінка дала зарок: назбіраць салодка-чорнай патакі па верхні паясок, потым перадумала — няхай сабе па сярэдні, а потым, як ужо вельмі занылі спіна і ногі і захацелася есці і піць, то пагадзілася — да самага ніжняга пояска. Можна было б адной з траіх збегаць па ваду дадому, але гэта лёгка сказаць — збегаць. А што як вагон падчэпяць і пераганяць на іншае месца? Добра, што аглядчык вагонаў іх не бачыць. Трэба сядзець, хоць стынуць босыя ногі.

Так і не дачакаліся дзяўчаты, каб накапала да першага пояска. Аднак будзе чым пачаставацца.

Назаўтра раніцой, як толькі Васілінка падхапілася, маці павіншавала яе і павяла на кухню. На вялікай патэльні пёкся святочны «пірог»,— чорны, як вугаль, праснак. Васілінка ад радасці заскакала на адной назе.

А вось пачалі збірацца і яе сяброўкі. Першай прыйшла Тася. Павіншаваўшы Васілінку, яна падала ёй невялічкі пакуначак, загорнуты ў бліскучую серабрыстую паперку. Там было некалькі каляровых паштовак. Каця прынесла вялікі букет духмянай чаромхі.

— Адкуль гэта ў цябе? — спытала Васілінка.
— Схадзіла на той бок Дзвіны і наламала.
— І ты не пабаялася ісці праз мост?
— Не, ніколечкі. Я заўсёды па ім хаджу.

Міцька ёрзаў на крэсле, ніяк не мог дачакацца пачастунку. Нарэшце маці паставіла на стол «пірог» у патэльні. Ён нібы прырос да дна. Маці спрабавала парэзаць пірог на кавалкі, падчапіць нажом, але нічога не выходзіла, і яна расклала яго на талерачкі лыжкай, нібы кашу. Усе паспыталі і пахвалілі: «Які смачны!»

А потым дзеці дэкламавалі вершы, спявалі. Разам з усімі спяваў і Міцька:

Як на Васіны імяніны
Ды спяклі мы каравай,
Вось такой вышыні,
Вось такой шырыні...

## МОСТ

Вялікі букет чаромхі, Кацін падарунак, патрохі асыпаўся. Дробныя белыя пялёсткі зацерушылі абрус. Васілінцы зрабілася самотна. Яна ўяўляла сабе, як Каця перабіралася па Смаленскім чыгуначным мосце на той бок Дзвіны. Пешаходам хадзіць праз той мост забаранялася. А Каці дазвалялі: яе маці была вартаўніцай. І будка (так называўся домік, у якім жыла Кацiна сям'я) стаяла ля самага моста.

Васілінка ўжо не раз была ў Каці. Ёй вельмі падабалася стаяць на крутым беразе і глядзець на шырокую паўнаводную раку. Няспынна цякла магутная плынь, і гэты бясконцы рух вабіў Васілінку. Міжволі ўспомнілася запытанне настаўніка: «Што завецца жывым прадметам?» — і як яна адказала:

— Рака!
— Чаму ты так думаеш?
— Яна цячэ,— выпаліла Васілінка.

Каля моста глыбокія ямы. Там заўсёды віруе вада. Цікава толькі, чаму не тонуць параходы і баржы? Вось каб стаць капітанам і праверсці пад мостам судны! — думае Васілінка. Або як хочацца паплысці на плыце далёка-далёка, аж да самага мора. А якое яно, мора? Бацька расказваў, але ж гэта не тое, што глянуць сваімі вачыма! Толькі ўсё гэта мары. Нават каб пабываць на тым баку Дзвіны, трэба папрасіцца ў Кацінай мамы. Толькі наўрад ці дазволіць яна.

Нарэшце, знайшлася такая неадкладная і сур'ёзная, на думку Васілінкі, патрэба. Трэці дзень маці з Тоняй няма дома. Пайшлі ў вёску, каб хоць бульбы прыдбаць. Бо бацьку няма чаго ўзяць з сабой. Тая кадушка капусты, што заквасілі з восені, даўно пустая. А то, бывала, насячэ капусты і пакладзе ў бацькаў сундучок. Яшчэ бульбін сырых і хлеба маленькі кавалачак. А калі маці таўсцейшую скібку адрэжа, бацька нізашто не возьме.

— Не трэба, не трэба, хай дзецям будзе.

Толькі нязменнай засталася ў сям'і звычка. Ад'язджаючы, бацька абавязкова рукой расправіць свае доўгія русыя вусы і пацалуе маці, а калі дзеці не спяць, то і іх. А маці скажа яму на развітанне: «Шчаслівага шляху!» І будзе гаварыць дзецям: «Бацька вернецца праз двое або трое сутак».

Праз акно на кухні відаць, як прыбываюць паязды. Маці сядзіць ля акна і чакае, а як толькі ўдалечыні заклубіцца белай парай паравоз, яна пакліча дзяцей і скажа: «Глядзіце, дзеткі, поезд прыбывае, хутка бацька прыйдзе». І дзеці радуюцца, а часам хвалююцца, бо маці паабяцала расказаць бацьку, хто не слухаўся або дурэў задужа. Праўда, яна не спяшалася адразу расказваць пра іхнія грахі, але ўсё ж таму, хто правініўся, рабілася няёмка.

А бацька прыходзіў чорны-чорны, увесь перапэцканы мазутам. Тут жа на парозе скідаў з плячэй куфэрачак, здымаў брудную вопратку. А маці ўжо вымала з печы вялікі чыгун з гарачай вадою і налівала ў вялікі эмаліраваны таз, каб бацька памыўся. А потым ставіла на стол талерку гарачай стравы. Бацька пытаў: «А вы елі?» І толькі ўпэўніўшыся, што ўсе елі, браўся за лыжку.

Сёння бацька вернецца апоўдні, а маці няма дома. За гаспадыню Васілінка. Чым яна сустрэне бацьку? Хоць і добра ведае, што нічога няма ў хаце, а ўсё ж выходзіць у каморку, падымае вечка ў кадушцы, чыркае запалкай. Але там пуста, у скрынцы — таксама. Пасвяціла — і раптам заўважыла на палічцы костку ад шынкі. Узрадавалася: цяпер зможа прыгатаваць ежу.

Праўда, сама яна яшчэ ніколі ў печы не паліла. Хоць бы жменьку яшчэ круп якіх ці мукі знайсці, і было б цудоўнае варыва.

Пашукала ў кухонным шкафчыку — пуста. Што ж рабіць?

«А ці не пайсці на той бок ракі па шчаўе?» — падумала Васілінка. Каця хвалілася, што там нарасло яго цэлая прорва.

— Цётачка, міленькая, пусціце на той бок!
— Не прасі, дзяўчынка, не дазволю. Небяспечна!

І Васілінцы нічога не застаецца, як сказаць Кацінай маці, што яна хоча згатаваць бацьку гарачага шчаўя. І цётка Лабаніха памякчэла. Дазволіла. Толькі папярэдзіла:

— Глядзі ж, будзь асцярожная. Ступай акуратна са шпалы на шпалу. Уніз не глядзі, каб не закруцілася ў галаве.

Вядома ж, яна будзе асцярожная. Ёй зусім не боязна, бо наперадзе пойдзе Каця.

Папярэджаная цёткай Лабаніхай, Васілінка ступае са шпалы на шпалу. Крокі трэба рабіць шырокія, абаперціся няма на што, адпачыць нельга. Каця ідзе і ідзе — ёй што, не першы раз. А Васілінцы нялёгка. Зрабіліся цяжкімі ногі. Так хочацца глянуць уніз! Каля сярэдняга быка, на якім трымаецца мост, бурліць і віруе вада. Цікава! І Васілінка не вытрывала — глянула ўніз. І раптам перад яе вачыма закруцілася вялікая чорная пляма. Васілінка хацела крыкнуць, паклікаць на дапамогу. Можа з хвіліну яна стаяла, заплюшчыўшы вочы. А пад мостам бурліў, шумеў, круціўся чорны вір. Сабраўшы ўсе свае сілы, Васілінка ступіла на другую шпалу, зноў захісталася і ледзь устояла на нагах...

Цяпер, седзячы ля стала на табурэціку і перабіраючы шчаўе, Васілінка ўспамінае сваё небяспечнае падарожжа. І адчувае нешта новае, раней ёй не вядомае — радасць ад таго, што перамагла боязь.

Васілінка ніколі не накладала паленняў у печы. Але ж трэба! І яна ўспамінае, як маці спачатку пакладзе ўздоўж два паленцы, а потым упоперак, а затым зноў удоўж — і так некалькі разоў. Так зробіць і яна, вось толькі абдзярэ з бярозавага паленца кары, дастане з печы лучынкі і запаліць у печы. А які ж чыгунок паставіць? Адзін, здаецца ёй, занадта малы, і яна бярэ большы, амаль з вядро. Кідае туды костку, ставіць на прыпечак і налівае бляшанай конаўкай ваду. Дровы весела патрэскваюць, можна паставіць ужо чыгун да агню. Толькі ж яго не скранеш з месца. І тады Васілінка знаходзіць драўляны каток, бярэ ў запечку вілкі на доўгім шастку, падважвае імі чыгун. Вада з яго выплёхваецца, але дармо, яе хопіць, не шкада.

Ледзь паспявае Васілінка ўкінуць пасечанае ў карытцы секачом шчаўе ў чыгун, як дзверы адчыняе бацька.

— Што ты тут робіш? — перш за ўсё пытаецца бацька.
— Полудзень табе рыхтую.
— Ах ты, мая дачушка! Ах ты, мая разумніца! — І бацька, разгладзіўшы вусы, цалуе ў галаву Васілінку.
— Дзякуй табе, дачушка, дзякуй!

Васілінка, узрадаваная бацькавай падзякай, тут жа вырашае нічога яму пра мост не гаварыць...

## КРЭМЕНЬ

Пасля дажджлівых дзён нарэшце праяснілася. Сонечны прамень глянуў праз вокны ў школу і лёг Васілінцы на плечы. Лашчыць і прыграе востры плячук дзяўчынцы. Хочацца выскачыць на ганак. У іх школьным двары цяпер так хораша!

Яшчэ з восені ў школьныя «суботнікі» скрозь, каля ўсяго плота пасадзілі кусты акацыі. Цяпер на іх заселянелі кволыя лісточкі. Там



недзе расце і яе, Васілінчын, куст. Як выйдуць паліваць тыя пасадкі, Васілінка абавязкова падалье паболыш вады пад той «свой» куст. Робіць яна гэта неўпрыкметку, каб ніхто не заўважыў. Мікіта Максімавіч, настаўнік прыродазнаўства, увесь час паўтарае: «Нашы агульныя кусты, нашы дрэвы, нашы градкі, нашы клумбы. Уяўляеце, дзеці, як будзе хораша ў нашым школьным двары праз нейкі час?»

Васілінцы цяжкавата ўявіць, што калісьці будзе. І як толькі размова заходзіць пра кусты акацыі, ёй чамусьці лезуць у галаву словы з песні, што аднойчы чула, як спявала Тасіна маці, а бацька падыгрываў ёй на піяніна. «Белой акации гроздья душистые...»

З белай акацыі думкі Васілінкі пераходзяць на іншае. «Чаму гэта Тасі трэці дзень няма ў школе?» І яна цвёрда вырашае забегчы да сяброўкі.

Праўда, Васілінка, рэдка калі бывае ў Тасі. Там неяк халадна і няўтульна. Дзеці без дазволу старэйшых баяцца заходзіць у пакоі, увесь час сядзяць у «дзіцячай». У Васілінкі няма «дзіцячай», яна нават такой назвы не ведала. У іх адзін пакой, праз які ходзяць старыя Клімовічы, а яшчэ для ўсіх жыхароў адна кухня з акном на агароды.

Тасіны бацькі не заўважаюць Васілінкі. Хоць Васілінка пільна глядзіць ім у вочы, знарок маўчаць. Васілінка нават маці не можа прызнацца пра гэта. А маці і сама заўважала, толькі не гаварыла нічога, бо як растлумачыць дзяўчынцы складаныя адносіны паміж людзьмі. Тасін бацька — чалавек адукаваны, настаўнік музыкі. А хто яны? Простыя чыгуначнікі. І маці асцярожна раіць Васілінцы:

— Не хадзі на Манастырскую, гуляй з дзяўчаткамі са сваёй вуліцы...

Выводзяць Васілінку з задумення словы Мікіты Максімавіча. Ён паўтарае:

— Запомніце, дзеці: заўтра замест урокаў прыродазнаўства мы пойдзем у падарожжа. Збярэм узоры грунту, распалім вялікае вогнішча...

Васілінка, узрадаваная, імчыць дамоў. Там яе сустракае Тоня. Маці паехала ў вёску памяняць тое-сёе з адзежы на бульбу. Як будуць канікулы, і Васілінка з ёю паедзе, абавязкова паедзе. Яна ж не малая ўжо, трэці клас заканчвае.

Заўтрашняе падарожжа хвалюе яе. Васілінка бярэ ў рукі шыла і дратву, каб падшыць тапачкі, толькі ў яе нічога не выходзіць. Выручае Тоня. Тая заўсёды ўсіх выручае.

Назаўтра раніцой Тоня торгае за плячо Васілінку.

— Уставай, а то праспіш падарожжа.

Васілінка любіць паляжаць пад цёплай коўдрай, але тут хуценька ўскоквае і плёскае халоднай вадой на твар, прычэсвае шчарбатым грабеньчыкам свае рэдзенькія валасы. А Тоня тым часам завіхаецца на кухні. Яна нікога не выпусціць з хаты без снедання. Толькі бяда — няма ў доме нічога з яды. Але Тоня знаходзіць выйсце. У кладоўцы ў плеценым кошыку ляжаць высеўкі ад аўсянай мукі. Бацька ўжо каторы месяц замест «жалавання» прыносіць дамоў пуд аўса. Маці з Тоняй сушаць яго на патэльнях у гарачай печы, ссыпаюць у торбачкі і ідуць далёка за горад да нейкіх знаёмых малоць той авёс у жорнах.

Васілінка бачыць, як задаволеная Тоня ўносіць вялікі кошык з высеўкамі. Рэшата так і скача і тахкае ў яе руках. Толькі чутно: тах, тах, тах... На стол памалу высейваецца жменька мукі. Нездарма ўсе

лічаць Тоню спрытнай дзяўчынкай. Васілінка ніколі не здагадалася б узяцца за тыя высеўкі.

Ярка палаюць у печы сухія дровы. На патэльні пячэцца даволі тоўсты сачэнь. Праўда, ён не скварчыць, як калісьці скварчэў блінец з цёртай бульбы са скваркамі...

І дзе цяпер маці, ці выменяе хоць той бульбы?

Хутка Васілінка з бляшанай конаўкай і кавалкам аўсянага праснака, загорнутых у анучку, спяшаецца ў школу. Хутчэй бы ўрок прыродазнаўства!

...Ля шырокай ракі дыхаецца лёгка-лёгка. Раз-пораз чуюцца галасы:

— Мікіта Максімавіч, гляньце, што я знайшоў!

Настаўнік бярэ ў руку камень і, нібы ўзважыўшы яго, кажа:

— Крэмень.

Дзеці ўважліва разглядаюць крэмень.

Настаўнік расказвае пра далёкія часы, расказвае, як з поўначы на нашу зямлю паўзлі леднікі і цягнулі за сабою вялікія і малыя каменныя глыбы.

Васілінка стараецца ўявіць сабе вялізнае мора, што разлівалася хвалямі на тым месцы, дзе яны сёння сабраліся вясёлым гуртам. І мёртвыя ледзяныя палі, што няўмольна напаўзалі на дно таго мора, якое паспела знікнуць і зарасці дзівоснымі казачнымі лясамі. І дзікіх, апранутых у звярыныя шкуры людзей, якія красалі агонь з крэменя, магчыма, з таго самага, які ляжыць зараз на далоні ў настаўніка. Няўжо ўсё так і было, як расказвае Мікіта Максімавіч? Васілінка, здаецца, бясконца слухала б ягоную гутарку, але Мікіта Максімавіч камандуе:

— Вогнішча!

Дзеці цягнуць, хто што можа, на высокі зялёны ўзгорак, з якога відаць шырокая рака, далёкае Задзвінне з неабсяжным зялёным лугам.

Настаўнік тлумачыць, як раскласці вогнішча ў дажджлівае надвор'е, як знайсці кірунак, калі заблудзішся ў лесе. Дзеці ўважліва прыглядаюцца да сонца, моху на дрэвах, зрэзаў на пнях. А потым памагаюць настаўніку ўладкаваць над вогнішчам вялікі пузаты чайнік. Чырвоныя языкі агню ліжуць яго з усіх бакоў. Хутка блакітны чайнік робіцца чорным, пачынае ўсхліпваць, булькаць і падкідаць накрыўку.

Мікіта Максімавіч асцярожна разлівае кіпень па конаўках.

З кішэняў і сумачак дзеці вымаюць сняданак — што ў каго ёсць. А ў некаторых няма нічога. Тыя моўчкі сядзяць, панурыўшы галовы. Неяк няёмка і тым, у каго ёсць з сабою што паесці. Мікіта Максімавіч раіць:

— А вы выкладвайце ўсё, хто чым багаты, і падзяліцеся, каб усім дасталося па кавалачку.

І ён вымае з кішэні газету і рассцілае на траве.

Васілінка не спяшаецца разгарнуць анучку і пакласці ў агульную кучку свой пачастунак. А настаўнік нібы і не глядзіць у яе бок, але ўсё бачыць, чытае ўсе яе думкі.

— Васілінка, і ты пакладзі свой сняданак на агульны стол.

— Я... я...— імкнецца растлумачыць Васілінка,— саромеюся. У мяне блін з ашакоў і вельмі горкі.— Яна разломвае на кавалачкі свой сачэнь і кладзе на газету.

Кіпецень без заваркі і без цукру здаецца Васілінцы смачным, як нішто на свеце. Мікіта Максімавіч з асалодай запівае гэтым «чаем» яе сачэнь і хваліць:

— Вельмі смачны! І зусім не горкі!



Мурзаты чайнік хутка пусцее. Лустачкі хлеба, чорныя аладкі і праснакі, што ляжалі на «абрусе»-газеціне, зніклі да апошняй крошкі. Мікіта Максімавіч кажа:

— Дзеці, а хто сёння не прыйшоў на заняткі?

Васілінка падымае руку, нібы ў класе на ўроку:

— Тасі няма, яна хворая. Я сёння збегаю яе праведаць.

— Вельмі добра,— хваліць настаўнік.— Схадзі да Тасі і занясі ёй наш падарунак.

І ён працягвае Васілінцы каменьчык, пра які толькі што расказаў такую цікавую гісторыю.

У Васілінкі на далоні ляжыць цёмна-шэры, цёплы ад настаўнікавай далоні крэмень.

## СКІБКА ХЛЕБА

...На гэты раз маці ні з чым, ледзьве жывая вярнулася дадому. Паклаўшы на стол скібку хлеба, ад якой ушчыкнула і ўкінула сабе ў рот каліўца, яна ціха і знясілена расказвала дзецям пра сваё няўдалае падарожжа. Міцька, прыціснуўшыся да матчыных грудзей, слухаў моўчкі, а Тоня і Васілінка горка плакалі.

...Колькі часу яна ішла — не памятала.

Яшчэ ў цягніку надумалася сысці на гэтым супынку, хоць добра ведала, што трэба да тых хутароў вёрст пяць дыбаць праз лес. «Бяда вялікая, хай сабе і трохі далей, абы што-небудзь прывезці дзецям». Не ісці ж ёй зноў у тое Забалоцце, дзе ўсе вяскоўцы самі ніяк не дачакаюцца навіны!

Цягнік спыніўся на хвілінку. Загурчэлі цяжкія шырокія дзверы, і з вагона адзін за адным пасыпаліся людзі. Кожны спяшаўся: хто да сваякоў ці знаёмых, а большасць, як і яна — выменяць на адзежу хоць якога харчу.

Хтосьці дужы адштурхнуў яе ад дзвярэй. Цягнік скрыгатнуў буферамі і пасунуўся наперад, набіраючы ход. Сабраўшы ўсе сілы, яна скокнула на хаду з вагона і паляцела ўніз з крутога адхону. Расплюшчыўшы вочы, убачыла ля сябе нейкіх незнаёмых людзей і глуха, як праз вату, дайшлі да слыху іхнія галасы.

— Ці табе жытка надаела, што на хаду скачаш? — са спагадай гаварыў пажылы чалавек з сівой барадой.

— Гэта ёй будзе навука, больш так не зробіць,— азваўся другі, у шэрай саматканай світцы, што стаяў побач.— Добра, што хаця так абышлося. Жывая.

— А мая ж ты кабетачка, як ты мяне напужала! — лементавала жанчына ў канаплянай хустцы, закручанай адным рогам вакол шыі.— Божачка, як спужалася, аж у грудзях усё захлынулася!

Мужчыны яшчэ трохі пастаялі, скруцілі па цыгарцы з самасаду і пайшлі сваёй дарогай. А жанчына ў хустцы яшчэ доўга не адыходзіла, покуль пра ўсё не дазналася, адкуль і куды спяшаецца кабеціна, што на хаду скача з вагона. «І ці ж ёсць у цябе дзеці — у мяне самой пяцёра». Згадзілася, што і сапраўды лепей падацца на тыя хутары, да багацеяў.

— Можа чаго і наменяеш. Толькі не ведаю, ці каму спатрэбяцца твае фіраначкі,— яна перабірала ў руках гэтыя, на яе погляд, зусім не патрэбныя рэчы.

— А гэта навошта? — яна са здзіўленнем паглядала на маленькі слоічак: на накрыўцы намаляваны дзявочы твар: злева — густа ўсыпаны рабаціннем, справа — белы і чысты.

— Ніколі не паверу, што ад гэтай мазюкі можна так папрыгажэць.

А яна ўскладала вялікія надзеі на гэты слоічак. Няўжо ж не клюне якая, глянуўшы на гэтую любату!

Спагадлівая жанчына яшчэ доўга размаўляла пра сваё ўдовінае жыццё з малымі дзецьмі і, нарэшце, параіла на развітанне:

— Ідзі, кабетачка мая, вунь так, напрасткі,— і яна паказала рукой у бок хмызнякоў.— Тут як рукой падаць да тых хутароў. Ідзі па сцяжынцы, нікуды не збочвай.

Да хмызнякоў і сапраўды вяла сцяжынка, па якой, відаць, ступалі не адны ногі. Глядзіш, і сапраўды хутчэй можна дайсці, чым кружной дарогай па лесе.

А пад нагамі ўсё больш хлюпала вада, і сцяжынка ў ёй то патанала, то зноў паказвалася на сушэйшых мясцінах. Пераскокваючы з купіны на купіну, хапаючыся за чэзлае то бярозавае, то альховае вецце, яна ішла і ішла. Але раптам патанула, расплылася і знікла з вачэй сцяжынка, нібыта правалілася скрозь дрыгву. Яна памкнулася падацца назад — сцяжынкі няма. Кінулася ў другі бок — непраходны хмызняк. Падала голас.

— О-го-го!..

Недзе далёка і глуха адазвалася:

— О-го-го!..

Не пазнаючы ўласнага голасу, жанчына клікала і клікала на дапамогу. Але нічога не чула, акрамя адгалоскаў. Нейкі час нерухома стаяла на купіне — і нарэшце пайшла напрасткі на захад сонца, якое апускалася ніжэй і ніжэй.

Ішла доўга, то зусім губляючы надзею выйсці, то спадзеючыся на ўдачу. Наперадзе нешта нібы пасвятлела, і яна раптам апынулася на зялёнай прагаліне. Хмызнякі расступіліся, і, як магло бачыць вока, перад ёй ляжала залітая вадой дрыгва, з якой там-сям тырчэлі шматкі шэрага моху.

— Вось каб прысесці, спачыць! Толькі дзе там — навокал вада.

Абапіраючыся на кіёк, ідзе і ідзе, правяраючы кожны крок. Ці хопіць сілы? Ці выйдзе да змяркання на тыя хутары?

А сонца спускаецца ўсё ніжэй над дрыгвой і вось-вось патане ў ёй. Патане тады і яна.

— Божачка, пашкадуй маіх дзяцей,— шэпчуць засмяглыя вусны.— Яны ж застануцца сіротамі і ніколі не даведаюцца, дзе падзелася іх маці!

Жанчына ідзе на захад сонца. Вось ужо на небе астаецца ад яго толькі бледнае зарыва, якое паступова патухае. Вакол мёртвая, маўклівая дрыгва. Маленькі клуначак за плячыма становіцца важкім і цягне ўніз. Перасохла ў роце, зводзіць сківіцы. Крычаць яна больш не можа: гукі засядаюць недзе там, у горле. А за дрыгвой стыне, слабее зарыва і хутка зусім пагасне.

Ледзь не з-пад яе ног выкачваецца шэры камяк, падскоквае некалькі разоў і лопае крыламі. Следам за ім мітусліва хаваюцца пад купіну жоўценькія камячкі. Патрывожаная качка пільна сочыць за сваім пужлівым племем: ці добра яно схавалася ад небяспекі?

Жанчына ўжо больш не спыняецца. Яна ідзе, ідзе што ёсць сілы, нібы яе хто штурхае наперад. Пад нагамі ўжо менш хлюпае, кіёк абапіраецца на нешта цвёрдае, ногі не грузнуць так глыбока. У цемры, што завалакла ўсё навокал, яна нічога не заўважае, аж покуль не выходзіць на сухое месца. Ногі больш не трымаюць, жанчына асядае і падае на зямлю...

Ёй мрояцца снежныя сумёты, снег растае і зноў замярзае, скоўвае цела ледзяным лубам. Не паварушыць ні рукой, ні нагой.

Дзе яна? І як трапіла ў гэткую лядэчу?

Азіраецца навокал — адна на ўскрайку нейкага поля. Здаецца, тут павінна быць чыё-небудзь селішча. Але навокал нічога не відаць. Жанчына тупае на месцы, махае рукамі, каб хоць крышачку сагрэцца. Ад холаду і знямогі яна не адчувае нават радасці свайго выратавання. Хочацца толькі знайсці якую-небудзь хату. І каб дазволілі ўзлезці на цёплую печ і абсушыцца.

Навокал паступова святлее: ужо бярэцца на золак. Жанчына павольна ўзнімаецца на ўзгорак, з якога бачны абрысы нейкай будыніны, і збочвае на зарослую трыпутнікам вузкую дарогу.

Вось і хутар! У ранішнюю цішыню ўрываецца надрыўны брэх. Насустрач навыперадкі мчацца два вялікія сабакі. Жанчына адбіваецца, махае кійком.

А тыя, адскокваючы на крок назад, насядаюць яшчэ больш, брэшуць што ёсць сілы, шырока разявіўшы пашчы і ашчэрыўшы зубы.

Нарэшце ў варотах паказваецца чалавек у белых споднiках і белай доўгай кашулі:

— Арол, Такса — сюды!

Гладкі, нібы вылізаны, Арол і кудлатая Такса не адступаюцца.

— Ка мне! — грозна крычыць гаспадар. І паступова сабачая злосць крыху астывае, яны махаюць хвастамі і ўжо не так заядла брэшуць.

Жанчына падаецца наперад, хоча папрасіцца ў хату, але барадаты не звяртае на яе ўвагі і паварочваецца назад.

— Дзядзечка, дзядзечка! — галасна просіць жанчына, а той на хаду кідае крыўдныя словы:

— Ці мала вас тут такіх шляецца!

Ён зачыняе вароты. Грыміць завала...

На другім хутары жанчыну сустрэлі крыху лагадней. Паклікалі ў хату. Але як толькі даведаліся, што няма на абмен ні солі, ні газы, адразу страцілі да яе цікавасць.

Баючыся ўпусціць зручны выпадак, жанчына ўсё ж разгортвае анучку і растрасае ў руках карункавыя фіраначкі. У хаце роем гудуць мухі, і адна, сытая, вялікая, б'ецца, спрабуючы вырвацца на вуліцу, аж дрыжыць шыбіна. На тыя фіраначкі абыякава глядзіць не толькі сівы стары гаспадар, але і даволі маладая гладкая дзеўка, твар якой густа пабіты рабаціннем.

«Пакажу румяны»,— вырашае жанчына. І тыцкае ёй у рукі слоічак з тым цудам-крэмам, які да белай белі можа выбеліць твар.

— Дармо, усё гэта пустое, маладзіца,— скрыпіць стары. Усё роўна ў векавухах дачка сядзіць.

— Няпраўда, тата! Сем сватоў мяне сваталі! — і чырвань, прабіўшыся праз рабаціннe, заліла шырокі скуласты твар дзяўчыны.— А вы не дазвалялі выйсці, усе вам не да спадобы, усе галадранцы...

— Маўчаць! — Стары аж кіпіць ад злосці, і праз рэдзенькія сівыя валасы бачна, як наліўся крывёю ягоны твар.— Выганю! Будзеш бадзяцца па хатах, як во гэтая гарадская жабрачка!

Рабая векавуха, заліўшыся слязьмі, выбягае з хаты, а стары расчыняе дзверы і кажа:





— Вось бог, а вось парог. Ваш тавар, паненка-таварышка, не для нас, мы людзі простыя, нам ваша гарадская мазь не патрэбна...

Ля кожнага хутара ўсё пачыналася спачатку. Найперш апаноўвалі сабакі, потым ішлі запытанні, што прынесла, а зрэшты — нікога не вабіў яе тавар.

— Гаспадынька, можа дасце чаго паесці, хоць скарыначку? — узмалілася яна нарэшце. — З учарашняй раніцы макавай расінкі ў роце не было...

— Ці ж усіх вас, жабракоў, накорміш? — кінула гаспадыня.

Пры гэтых словах ногі «жабрачкі» пахіснуліся, яна як стаяла, так і асунулася ля плота на зямлю...

Праз колькі часу вярнулася прытомнасць, яна не ведала. На грудзях у яе ляжала чэрствая скібка хлеба. За наглуха зачыненымі варотамі кідаліся на ланцугах і заходзіліся ад брэху сабакі...

## ЖЫТНЁВЫЯ КАЛАСЫ

Падвечар у хату зайшоў Самсонаў. Патупаўшы ў кухні ля дзвярэй, прысеў ля стала на табурэтцы. Васілінка ўважліва сачыла за госцем. Заўсёды ён заходзіў да бацькі па нейкіх справах. А якая ж цяпер справа ў яго? Бацькі даўно няма дома. Як паслалі яго на той Паўднёвы фронт, так і невядома дзе падзеўся.

Мо гэты чалавек у зашмальцаванай куртцы прынёс ім добрыя навіны? Васілінка затаіўшы дыханне чакае, што ён скажа. Толькі Самсонаў таксама, як і яны, нічога не ведае пра брыгаду, з якой выехаў яе бацька.

— Зайшоў даведацца, як жывяце з сям'ёй, Аляксееўна?

— Хваліцца няма чым,— адказвае маці.

— Цяпер усім нясоладка. Скончыцца грамадзянская вайна, тады па-іншаму зажывём! З перамогай сусветнай рэвалюцыі прыйдзе сапраўднае жыццё.



— Ці ж хутка настане тое сапраўднае жыццё? — нясмела пытаецца маці.

— Само не прыйдзе, за яго трэба змагацца, усімі сіламі змагацца.

Васілінка не ўяўляе, як змагацца. Мусіць, і маці не ведае, што рабіць. Бо яна завяла гутарку пра дзяцей, якіх няма чым карміць.

— Вось-вось, я пра гэта і прыйшоў пагаварыць. Таварышы паслалі паведаміць, што тым сем'ям, кармільцы якіх на фронце, будзе выдана па пуду аўса.

Пачуўшы такую навіну, Васілінка больш не чуе добрага госця. Хоць і не любіць яна слізкага аўсянага кісялю, а ўсё ж узрадавалася. Яна таксама за тое, каб ужо сёння ці заўтра прыйшла сусветная перамога, каб вярнуўся дахаты тата і ёй не трэба было б стаяць за васьмушкай хлеба па некалькі гадзін у чарзе. Вось і сёння адстаяла ад рання да полудня, але не хапіла ёй васьмушкі, так і прыйшла з пустымі рукамі.

З вечара Васілінка доўга не засынае. Пільна цікуе за маці, як тая, маўклівая, заклапочаная, сядзіць ля стала. У хаце гарыць газнічка. Жоўты язычок полымя то выцягнецца і павернецца ўбок, то выпрастаецца і асвеціць матчыны рукі, якія нашываюць латку на Міцькавы штонікі. Міцька зусім яшчэ малы, нічога не разумее, ён просіць перад сном хлеба. А маці ўгаворвае:

— Спі, сынок, спі, маленькі. Раніцой дадуць аўса, хопіць вам, пакуль буду я ў заработках.

Крыху пахліпаўшы, Міцька засынае, зліпаюцца вейкі і ў Васілінкі.

Раніцой маці зноў збіраецца ў



паездку. Толькі ніякіх рэчаў не бярэ з сабой. Праўда, яно і браць ужо няма чаго. Няма на сталах сурвэтак, няма святочнай ружовай капы, якую засцілалі толькі ў вялікае свята.

— Мамачка мілая, родная, вазьмі мяне з сабою! — просіцца Васілінка.

— Не гуляць жа я еду і не ў госці да родзічаў,— тлумачыць маці.— Работу шукаць буду.

Васілінка і сама ведае, што не да родзічаў. Яна ж не маленькая. Ах, як шкада, што яшчэ не выгналі немцаў з мамінай радзімы. Вось каб паехаць туды ў госці! І яна часта ўспамінае тое далёкае лета, як гасцявалі ў цёткі Гапулі...

...Цягнік спыніўся позна ўвечары. Недалёка ад станцыі, мо вярсты са тры адгэтуль, жыве маміна знаёмая. Васілінка басаног ідзе побач з маці і нясе ў руках свае пантофлі. Навокал ціха-ціха. Спіць воддаль цёмны лес, спяць палеткі, спіць вёска і зморяныя цяжкай работай за дзень людзі. Васілінка з маці ідуць па шырокай вясковай вуліцы, абапал якой стаяць шэранькія хаткі з адным або двума маленькімі акенцамі.

Нарэшце маці падыходзіць да невялікай хаціны, акно якой замест шыбы застаўлена лучынкамі, узбіраецца на прызбу і стукае ў раму. За акном маўчаць. Маці стукае зноў, больш настойліва. Нарэшце ў акне паказваецца нечы заспаны твар з ускудлачанымі валасамі.

— Гэта ты, Аляксееўна? Заходзь, заходзь. Зараз адчыню сенцы.

Васілінка з маці пераступаюць парог хаты. Тхае прэлымі анучамі, нечым кіслым.

— Кладзіцеся на лаўках, запаліць няма чаго,— чуваць хрыпаты голас гаспадыні. Маці дапамагае Васілінцы ўладкавацца на лаўцы пад абразамі, а сама кладзецца насупраць. Хоць Васілінцы няёмка ляжаць на мулкай пасцелі, але яна імгненна засынае.

— А твой усё вяое? — далятае да Васілінчынага слыху. Яна падхопліваецца і бачыць, што на двары ўжо раніца, што маці сядзіць ля печы на нізенькім зэдліку, скобліць маладую бульбу і кідае ў вялікі чыгун з вадой.

— Ваюе, а я адна кідаюся з дзецьмі.— І гаспадыня скіроўвае гутарку на іншае, відаць, на самае галоўнае, што яе хвалюе і непакоіць.

— Зямельку панскую па душах падзялілі. Вось каб цяпер Яўхіму майму за яе ўзяцца — ёсць да чаго прыкласці рукі. А што ж я адна зраблю? І абрабляць няма чым, і наняць няма за што...

— Нічога не зробіш, мая даражэнькая,— вайна. І мой мужык усё роўна, як мабілізаваны. Як ездзіў па Рыжска-Арлоўскай дарозе, то праз два-тры дні дамоў вяртаўся, а цяпер недзе на Паўднёвым фронце. Не ведаю, ці жывы хаця.

— Наўрад ці вернецца мой Яўхім,— сумна кажа гаспадыня.— Гадала тут мне адна, дык карта не паказвае, каб вярнуўся.

— А ты не зважай на карты. Хіба ім можна верыць?

Васілінка, лежачы за сталом на лаўцы, яшчэ доўга слухае сумную гаворку. Нарэшце ціхенька ўстае і падыходзіць да маці. У печы варыцца бульба, і так смачна пахнуць верхнія, гарэлікі...

Паснедаўшы маладой амаль без солі бульбай, Васілінка з маці ідуць наймацца на жніво. Ідуць да Скарабагатага, што жыве на хутары за вёскай. Хаты яго не відаць за вялікім садам. Пагнулася вецце ў яблынь. Амаль кожная галіна падпёрта калом. А на зямлі пад тымі яблынямі нібы знарок хто разгарнуў каляровы дыван.

— То канюшына чырванее, дачушка,— тлумачыць маці.



— А ці ўмееш ты жаць?

— А як жа, я вясковая, усё ўмею!

Васілінка задаволеная, што маці ўсё ўмее. Яна паспела заўважыць дзяўчынку, гаспадаровай парабчанкі дачку, якую завуць Зоськай. Было б вельмі цікава пабегаць з ёй у садзе па густой канюшыне.

Нарэшце гаспадар згаджаецца наняць Васілінчыну маці за жняю.

— А толькі гэтую навошта прыцягнула? — і ён паказвае на Васілінку. Хоць ты праз зямлю праваліся, хоць дзе хочаш падзенься! Васілінка нават не чуе, што маці гаворыць. Нарэшце гаспадар згаджаецца, махнуўшы рукой: «хай маё прападае!»

Васілінка прыглядаецца да жанчын, што сядзяць на лаўцы. Гэта таксама жнеі-падзёншчыцы. Хутка ўсе ідуць на поле і пачынаюць жаць.

— А вы, дзяўчаткі,— звяртаецца гаспадар да Зоські і Васілінкі,— каб часу марна не цёрлі, насіце снапы і збірайце каласы.

І яны шчыруюць з Зоськай, ледзьве паспяваючы падбіраць важкія снапы за жнеямі і цягаць на тое месца, дзе потым іх паставяць у бабкі. Пільна прыглядаючыся, каб дзе не застаўся каласок, Васілінка носіць і носіць снапы, аж млеюць рукі і спіна.

— Гэта ад непрывычкі,— суцяшае маці,— нічога, дачушка, прыцерпішся.

А як прыцерпішся да болю ў нагах? Іржышча такое калючае і вострае. З драпінак на лытачках і ступнях выступаюць кропелькі крыві. Ногі страшэнна свярбяць і баляць.

Так і не давялося пабыць Васілінцы ў тым вялікім прыгожым садзе ні ў першы, ні ў іншыя дні. Да цямна яны з Зоськай на жніве. Зморыныя, ледзьве не засынаюць за вячэрай. А раніцой, пабраўшы ў рукі стаўбуны з піцвом для жней і кошык з яблыкамі-падалкамі, ідуць на поле.

Маці не шанцуе. Завіхаючыся, вострым сярпом яна шмарганула па мізінцы. Толькі зважаць не было калі. Так і жала да вечара. Перавязаць палец не было чым. Кроў запяклася струпком, гэтак і абышлося.

Увечары, як ішлі спаць на сена, маці сказала Васілінцы, што заўтра яны апошні дзень на жніве. Хутка дамоў паедуць, толькі і клопату цяпер, як завезці тое, што зарабілі.

Дажынкі так і не паспелі зрабіць. У той апошні дзень жалі да глыбокай цемры, ледзьве паспелі схапіць тое жыта. Затое назаўтра раніцой снедалі не спяшаючыся. Васілінка з нецярплівасцю чакала хвіліны, як гаспадар, адчыніўшы клець, выставіць ім з маці зароблены хлеб.

А той нешта ўсё не спяшаўся падыходзіць да клеці. Тым больш, што ў маці не аказалася з сабою мяшка. Яна доўга ўпрошвала гаспадара пазычыць мех, абяцала абавязкова прывезці наступным разам. Гаспадар не згадзіўся.

Тады маці выпрасіла нітку з іголкай і пашыла мяшок са сваёй сподняй. Такі мяшок, каб увайшло два з паловай пуды мукі, зароблены за пяць дзён. Дамаўляліся ж па паўпуда за дзень.

Толькі гаспадар вырашыў па-свойму.

Васілінка з маці стаяць ля вялікага пляскатага каменя, што ляжыць ля дзвярэй клеці, і чакаюць, покуль гаспадар адважыць муку. Сэрца-вяшчун зычыць нядобрае.

Гаспадар у адной руцэ трымае мамін мяшок, у якім не так ужо і многа мукі.

— Вось, маеш,— падае ён мяшок маці.— Чаго стаіш, як слуп? Бяры, што зарабіла!
— А як жа, Спірыдонавіч, з умовай? Па паўпуда ж за дзень, казалі, плаціць будзеце?
— Казаў, казаў! — перадражнівае гаспадар.— А гэтую тваю дармаедку пяць дзён за што карміў?
Маці як трымала ў руцэ мяшок з мукой, так і выпусціла.
— Бога пабойцеся, Спірыдонавіч!
А той, засунуўшы вялікі ключ за пояс саматканай кашулі, махнуў рукой і пайшоў прэч.
Развітацца ў хату маці не пайшла: сціснула сэрца ад болю, а слёзы засцілі ёй вочы. Не пайшла і Васілінка, толькі памахала рукой на развітанне сваёй новай сяброўцы Зосьцы, і яны падаліся з маці паўз вялікі зялёны сад на чыгуначны прыпынак.

## СПЕКТАКЛЬ

Васілінка даўно сумуе па сваіх школьных сяброўках. За ўсялякімі клопатамі ніяк не выпадае з імі сустрэцца. Але цяпер яна цвёрда вырашае пабыць у Тасі на Манастырскай, у Каці, што жыве ля чыгуначнага моста праз Дзвіну, і, вядома, у сёстраў Расказавых, Валі і Раі, па Ганчарнай. Блізкі свет, але падганяе пільная справа, яна карціць Васілінцы яшчэ з зімы.
Яна глядзела спектакль пра Грышу Нязнамава, яго згубіла маці яшчэ малым і сустрэлася праз шмат гадоў.
— А што, калі б гэты спектакль паставіць самім, на іхняй Зялёнай вуліцы?
Але дзе знайсці п'есу? Яна не ведае ні назвы, ні пісьменніка, што яе напісаў. Нарэшце адважылася і пайшла да Мікіты Максімавіча, а той, кажуць, падаўся на лета ў вёску. Але адступіцца ад свайго Васілінка ўжо не можа. Яна ўспамінае, хто з артыстаў і каму што гаварыў на сцэне, і запісвае ў сшытак. Спярша ўсё запар, адно за адным, але Тоня, глянуўшы ў яе запісы, параіла:
— Ты лепей пазапісвай кожнаму ягоныя словы і раздай, няхай завучваюць напамяць!
Малайчына Тоня! Яна і будзе выконваць галоўную ролю. Старэйшая сястра вельмі-вельмі любіць Васілінку і Міцьку, як тая Кручыніна — свайго згубленага і знойдзенага хлопчыка. Тоня старанна даглядае іх і шкадуе, можа нават адмовіцца ад сваёй пайкі хлеба дзеля іх.
Ролю Грышы Васілінка пакідае сабе. Вось толькі бяда, якой знайсці рады: у Грышы кучаравая галава, а ў яе, Васілінкі — прамыя, як салома, стрыжаныя валасы. Але, можа, не так ужо і важна, што ў яе не кучаравяцца валасы, не ўсе ж дзеці бачылі сапраўднага Грышу.
А хто будзе Шмага? Можа Стась? Але ён дарослы, хутка скончыць школу і з малымі не гуляе. У Зыгмунта слабая памяць, ён ніяк не можа завучыць нават самы маленькі вершык. Хіба толькі Пецька Жаўняроў? Вось ён дык быў бы найлепшы Шмага, ён як пачне выдумляць ды перадражніваць, усе аж кладуцца ад рогату! Нядаўна ён і Васілінку перакрыўляў, як гулялі ў квача. Але не трэба помсціць за старыя крыўды! Пецька будзе іграць!
— Я не буду! — панура кажа Пецька, пазіраючы некуды ўбок.— У мяне маці хворая.
— Ну, Пецечка, гэта ж толькі адзін вечар! — умольна просіць Васілінка.— Ты толькі скажаш свае словы і адразу пойдзеш. А то ў нас ніхто так, як ты, не здолее...
— Не, не магу! — уздыхае Пецька.— Як маці, можа, папраўіцца, тады... Ты лепей Зыгмунта папрасі...
Клопату было больш, чым меркавала Васілінка. Трэба падумаць, у што апрануць герояў, дзе знайсці для Кручынінай прыгожы капялюш з вэлюмам. Хіба пазычыць у бежанкі Ванды? У той ёсць такі, з чорнага аксаміту, з букецікам чырвоных ружаў. Мабыць, вэлюм у Ванды знойдзецца. А ёй самой як апрануцца? Яна ўжо некалькі разоў вымала з шафы, як не было маці дома, бацькавы святочныя штаны і нацягвала на сябе. Толькі, глянуўшы ў люстэрка, ледзь не плакала: бацькавы штаны трэба было падвязваць папругай аж пад пахі.
Яна доўга ўпрошвала Стася пазычыць ёй сваю вопратку: ягоныя кашуля і доўгія вузкія штаны былі таксама велікаватыя, але ўсё ж больш падыходзілі. Стась нехаця згадзіўся, але паставіў умову: ён дае напракат свой гарнітур не больш як на гадзіну...
Работа закіпела. Тоня сшывала посцілкі для заслоны. Стась з Зыгмунтам змайстравалі з негабляваных дошак некалькі лавак. Ну а яшчэ вынесуць з пакояў некалькі крэслаў і табурэтак. І тут Васілінку агортваў страх: «а калі раптам прыйдзе столькі дзяцей, што сесці не будзе дзе?»
Але адступаць не было куды. «Бяда вялікая, пасядзяць на падлозе або пастаяць ля сцяны. Плата за ўваход не бог ведае якая, усяго пяць капеек».
Нарэшце на дзвярах паявілася аб'ява, напісаная Тоняй пад Васілінчыну дыктоўку (Тоня вельмі прыгожа пісала):
«Сёння ў 7 гадзін спектакль аб згубленым сыне (сапраўднай назвы яго Васілінка так і не ўспомніла). Запрашаюцца дзеці-школьнікі з Зялёнай вуліцы. Просьба не пазніцца».
Чым бліжэй падыходзіў назначаны час, тым больш мітусілася і хвалявалася Васілінка.
— Усім жа казала: не пазніцца. А яны цягнуцца, што нежывыя.
Нарэшце паявіліся першыя гледачы. Стрыечны брат Рыгорка сказаў, што білета купляць не будзе, і Васілінка мусіла пусціць яго задарма, як сваяка. За ім і ўсе астатнія як прыйшлі, так і паселі на лавы. Але Васілінка была радая, што хоць было перад кім раскрываць заслону: ёй так не цярпелася выступаць!
— Сядайце, сядайце, дзеці,— запрашае Васілінка гледачоў. А сама ўсё пазглядае, ці прыйшлі хоць усе акцёры. Трэба пачынаць, а Зыгмунта ўсё няма.
— Будзем без яго выступаць,— вырашае Васілінка.— Не зрываць жа пастаноўку!
Дзеці з цікаўнасцю сочаць за акцёрамі і чамусьці голасна рагочуць. Васілінка разумее, што ўсё ідзе наўскасяк. Акцёры пазабываліся свае ролі! «Столькі развучвала з імі, а яны нібы аслупянелі». То вярзуць абы-што, то зусім маўчаць як вады ў рот набраўшы. А гледачы рагочуць і пытаюцца:
— А што далей?
Тоня-Кручыніна лашчыць Васілінку-Грышу, апранутую ў вузенькія Стасевы штаны, гладзіць па галоўцы. Толькі няма ў яе слёз на вачах. Тоні таксама смешна! Усё не так, усё не падобнае на тое, што Васілінка бачыла на спектаклі. Нават пасля таго як захінулася заслона, гледачы ніяк не маглі суняцца ад смеху.
— Дзе яны гэткі капялюш выкапалі? Якраз як рэшата!
— А Васілінка якая смешная!

Горка дзяўчынцы. А тут яшчэ бяда. Днямі пахавалі Пецькаву маці, суседку Жаўнярову. Хоць усе даўно ведалі, што ад сухотаў яшчэ ніхто не ўратаваўся, але ж шкада гэтую ціхую добрую жанчыну. Яны з маці заходзілі праведаць Жаўнярову, якая ўжо не падымалася з ложка. У Васілінкі і цяпер гучаць у вушах яе словы:

«Каб мой Фомка быў багаты ды звазіў мяне ў Крым! Пажыла б яшчэ на свеце!»

Маці заходзіла да хворай часта, толькі Васілінку з сабой больш не брала. Яна і прыбраць Жаўнярову на покуце жанчынам дапамагала, і кветкамі труну ўпрыгожвала. Пах жоўта-вогненных настурцый, пах смерці надоўга запомніўся Васілінцы.

Пецька Жаўняроў не плакаў, але як апускалі труну ў магілу, ён раптам захістаўся і ўхапіўся рукой за дрэва — мусіць, каб не паваліцца. Побач стаяў бацька, Фомка Жаўняроў, і часта-часта хрысціўся, і потым нагнуўся і кінуў у магілу жменю жоўтага пяску.

Па Зялёнай разнеслася чутка, што Пецьку забірае за сына багаты селянін, матчын аднавяскоўец. Пецька сказаў Васілінцы па сакрэце, што цяпер ён не будзе звацца Жаўняровым, цяпер яго прозвішча будзе новае — Марозаў.

Праз якія два-тры дні ля хаты Жаўняровых спынілася брычка. З яе саскочыў чорнабароды, яшчэ даволі малады мужчына ў суконнай світцы, падпяразанай поясам з чырвонымі кутасамі. Здагадаўшыся, хто гэта, Васілінка кінулася да Жаўняровых, толькі ў хату заходзіць не адважылася. Там ля веснічак моўчкі тоўпіліся дзеці з суседніх хатаў.

— Ідуць! — крыкнуў нехта. І на вуліцу выйшаў незнаёмы мужчына, а следам за ім, уцягнуўшы галаву ў плечы, павольна крочыў Пецька.

— Бывай, Пецька! — хацелася крыкнуць Васілінцы, толькі так і заселі ў грудзях гэтыя словы. Як анямелыя, маўчалі ўсе дзеці.

Чорнабароды адвязаў лейцы ад плота і гучна загадаў:

— Сядай, Пятрок, на воз, чаго стаіш, як слуп.

Пецька моўчкі павярнуўся да сяброў: відаць, нешта хацеў сказаць, але, мусіць, перадумаў. Моўчкі ўзабраўся на воз і сеў за спіной свайго новага «бацькі».

— Прыязджай да нас! — крыкнула Васілінка. Толькі Пецька, мусіць, не пачуў, бо нават не зварухнуўся.

Дзеці яшчэ доўга не разыходзіліся. Яны не маглі ўцяміць, як гэта можна — пакінуць роднага бацьку і нейкага чужога дзядзьку называць татам. Не, Васілінка ніколі б не згадзілася на гэта.

Праз колькі хвілін зноў адчыніліся дзверы ў хаце Жаўняровых, і з іх выйшаў дзядзька Фомка. З хвіліну пастаяўшы, ён павольна ўсеўся на верхняй прыступцы, выцягнуў з кішэні махорку, скруціў цыгарку, але не закурыў і доўга сядзеў нерухома, апусціўшы галаву.

## ДАРОГІ

Провады і сустрэчы... Бацьку Васілінка бачыць часцей у дарожнай апратцы: чорную скуранку ён надзявае і зімою і ўлетку, калі на сваім паравозе едзе ў рэйс. У дзень апошняга ад'езду скуранка блішчэла, як новая, бо маці пашаравала яе алеем. Дарожны куфэрак зіхацеў медзянымі вугалкамі і цвічкамі. А вярнуўся з паездкі — скуранка ўся пашарпаная, у белых плямах-лысінах, куфэрак запэцканы.



І толькі вялікія шэрыя бацькавы вочы на запацелым стомленым твары такія, як і заўсёды — ласкавыя і вясёлыя.

— Як вы тут жылі, што рабілі без мяне? — пытаецца бацька,— кажуць, вы тут усіх жанок паднялі — вунь колькі дроў насеклі для паравозаў...

— Гэта мама! — выткнулася з-за Тонінага плечука Васілінка і адразу асеклася, змоўкла пад матчыным строгім позіркам. А бацька, адсунуўшы ўбок міску з заціркай, прыгарнуў Васілінку, ласкава дзьмухнуў на стрыжаную макаўку, на якой нізавошта не хоча трымацца белы банцік, і ласкава спытаўся:

— А ці праўда, што ты дзіцячы сад адкрыла?

— Дзіцячую пляцоўку,— удакладняе Васілінка.— І не я, а Тоня. А я,— уздыхае Васілінка,— толькі цацкі збірала. І сваю Машу занесла, хай малыя гуляюць, нашто яна мне, я ж чацвёрты клас скончыла.

Васілінка ўтульна прымасцілася ля бацькі. Уся сям'я сабралася нарэшце разам, і ў хаце цёпла, і маці наварыла заціркі такі вялікі чыгун, што можна наесціся і яшчэ астанецца. Васілінка не бачыць, як бацька пазірае на іх — і з жалем, і з любасцю, і з гонарам, пільна ўглядаецца ў дзіцячыя твары і заўважае нешта новае ў кожным з іх. Прыкметна пасталела Тоня. Выцягнуўся Міцька і яшчэ больш схуднела Васілінка.— «Растуць дзеці!» — думае ён сам сабе.

— А ты раскажы, маці, як вы ездзілі,— просіць ён ціха.

— Ды што там расказваць,— смеючыся, адбіваецца маці.— Хіба я адна? Усе нашы бабы ездзілі, пілавалі дровы. Хіба я зломак... А пачалося з таго, што паклікалі нас у дэпо...

Усе ўважліва слухаюць маці, хоць дзеці ўжо чулі пра ўсе тыя падзеі. Васілінцы здаецца, што яна сама стаіць і слухае гарачую прамову жанчыны ў чырвонай хусцінцы.

— «Ці згодны вы, жонкі чыгуначнікаў, памагчы ў цяжкі час рэвалюцыі? Спыненне транспарту — гэта голад, пакуты, смерць...» Так гаварыла тая жанчына. Ды мы і самі ведалі гэта,— расказвае маці.

Васілінка ўважліва слухае матчын расказ. А Міцьку дык хоць бы што. Пад'еў, пагушкаўся ў бацькі на каленях, саскочыў на падлогу і ўмомант знік за дзвярыма, пабег гуляць з хлопцамі. Маці звыкла саставіла адну ў адну пустыя талеркі і сказала ўсмешліва:

— Ну што ты тут зробіш! І шкада было пакідаць дзяцей адных, ды як уздумала пра цябе, пра ўсіх нашых мужыкоў, пра тых, хто на франтах ваюе,— не вытрымала маё сэрца. Крычу: «Пішыце мяне ў спіс! Паеду! Паедзем, бабы! Мы ж да працы прывычныя, мы ж усе чыгуначныя. Нашы мужыкі Савецкую ўладу ў горадзе ўстанавілі. Дык хто ж цяпер ім паможа, як не мы!» Жанчыны загаманілі. А Зінаіда, жонка Іванова, качагара — папракнула мяне: «Ты за нас не гавары, Аляксееўна. Лацвей табе: у цябе дзяўчаткі ўжо ладныя павырасталі. А мне з кім трох малых пакінуць?» Але ж неяк абышлося. Тоня з дзяўчаткамі сваімі забаўляла дзяцей, пакуль мы былі ў ад'ездзе...

Бацька з павагай глядзіць на старэйшую дачку. Вось табе і Тоня, вось табе і ціхоня!

— Гэта не я, тата,— аднекваецца, сумеўшыся, Тоня.— Гэта ўсёй школай, і настаўнікі, і вучні. Даведаліся, хто паедзе на лесанарыхтоўкі, і пайшлі па хатах. Штораніцы прыводзілі малых у сад чыгуначнікаў, там настаўнікі дзяжурылі. І Зінаідзіны хлопцы туды хадзілі...

Тыя трое хлапчукоў даліся ў знакі. Маленькія, ды ўдаленькія... Тоня, здаецца, ні дня ні ночы не бачыла — то кашулькі, то штонікі

Жаўнярова, адзін бог ведае. Усё чакае, што хлопец вернецца, а яго няма, і немаведама, што з ім здарылася.

— Не плачце і не сумуйце, Пятроўна,— суцяшае Жаўнярову Васілінчына маці.— Неяк будзе!

Васілінка глядзіць на белыя, нібы ў вары вывараныя, уздутыя рукі Пятроўны, якая раз-пораз адкідвае пасівелую пасмачку валасоў, што лезе ёй у вочы.

— А як ён на пазіцыю падаўся?

— І такое здараецца, дык не пакрыўдзяць жа яго салдаты. Мо сынам палка зробяць? — зноў суцяшае цётку Пятроўну маці.— А мо пападзе ў аркестр?

Часам па Зялёнай маршыравалі салдаты ў шэрых шынялях і шэрых, пад баранок, папахах. За строем беглі дзеці. Разам з усімі бегла і Васілінка. Забаўна было паслухаць, як салдаты па камандзе голасна запявалі:

Салавей, салавей, пташачка,
Канарэечка жаласна пяе...

А бабы, павыскокваўшы з хат, праводзілі строй сумнымі вачыма.

Толькі Шурка, суседава дачка, на вуліцу не выходзіла. Яна пазірала праз акно і плакала. Яе жаніх без вестак прапаў на германскім фронце. Усё ўжо было да вяселля падрыхтавана. Заручыны справілі і белай альпагі на шлюбную сукенку купілі, а яго, жаніха, хоп — і ў салдаты. Вось і лье слёзы цяпер Шурка. Усе яе цяпер нявестай-удавой на вуліцы клічуць.

А неўзабаве прыйшла бяда і ў Васілінчыну хату.

Вярнуўся з паездкі бацька. Як і заўсёды, узышоў ён на ганак у зашмальцаванай вопратцы з драўляным куфэрачкам за плячыма. Васілінка, глянуўшы на бацьку, адразу сцяміла — нешта здарылася нядобрае. Па збялелым твары каціліся буйныя кроплі поту. Відаць было, што бацька захварэў.

Маці дапамагла яму пераапрануцца і паклала на ложак. У хаце адразу зрабілася жудасна, сумна, нібы цяжкія хмары спусціліся нізка і душаць, душаць, замінаюць дыхаць. Васілінцы было не да гульні. Паскідала ў куток свае цацкі і ціхенька прытулілася ў кутку.

— Што з табою, Змітрачка? — пытала маці.

— Сам не ведаю. Напіўся вады з тэндэра, і стала мне кепска. Пакліч Зоркіна.

Маці пабегла па фельчара. Васілінка яго даўно ведала. Аднойчы яна захварэла, і маці выклікала таго лекара. Зоркін сказаў тады, уважліва выслухаўшы Васілінку:

— Інфлуэнца.

Тая загадкавая «інфлуэнца» надоўга прыкавала Васілінку да ложка. Колькі ёй тады давялося выпіць саладкаватай празрыстай мікстуры, покуль не стала на ногі! Колькі разоў маці націрала яе шмальцам са шкіпінарам і абвязвала калючай шарсцяной хусткай!

Вось і цяпер прыйдзе фельчар, паглядзіць бацьку і скажа:

— Інфлуэнца.

Так разважае Васілінка, слухаючы, як стогне на ложку бацька. Не, яна так не стагнала. Хоць бы хутчэй вярнулася маці. Бацьку зусім дрэнна. Ён ужо крычма крычыць і просіць Тоню:

— Расцірай мне нагу, расцірай, моцы няма цярпець.

Тоня адхінае коўдру, і Васілінка бачыць, які пад скурай на назе ў бацькі гузак, нібы клубочак. Тоня расцірае яго далоняй, а бацька заходзіцца ад болю і крыку. Бацька раней ніколі ні на што не скардзіўся, не тое, што маці, якая не-не, ды часам прыхварэе.



Нарэшце ў хату ўваходзіць у прыгожым гарнітуры і ў акулярах з залацістай аправай Зоркін. Кінуўшы вокам на бацькаву нагу, адразу падаецца назад і кажа:

— Вязіце ў бацьніцу... На Пясчаную.

Маці кідаецца да яго:

— Доктар, што з ім?

— Зараз жа вязіце ў бальніцу,— паўтарае Зоркін і хуценька выходзіць з хаты.

Маці галасна плача. Толькі яна адна ведае, што на Пясчанай, далёка за горадам, пабудавалі баракі, у якіх змяшчаюць хворых на «халеру».

Неўзабаве Васілінка бачыць, як ля іхніх варот спыняецца чорная крытая карэта. З яе выскакваюць з насілкамі санітары. Уваходзяць у хату, бяруць за рагі прасціну, на якой ляжыць бацька, і кладуць яго на насілкі. Маці хоча развітацца, нагінаецца пацалаваць бацьку, але яе не пускаюць. Яна бяжыць услед за насілкамі, якія знікаюць у расчыненых дзвярах чорнай карэты, санітар паганяе коней.

Васілінка, Тоня, Міцька і маці, разгубленыя, стаяць ля варот і глядзяць у той бок, дзе схавалася карэта з бацькам. На двары на ланцугу ля будкі кідаецца і вые рыжанькі Бобік, нібы чуючы бяду.

А ў хаце ўпраўляюцца санітары. Не шкадуючы, паліваюць нейкай смярдзючай вадкасцю ўсё без разбору. Спырскалі фікус, запэцкалі стол, падлогу. Пасцель, на якой ляжаў бацька, санітары загадваюць маці вынесці і спаліць.

Раніцою, ледзь пачало на дзень брацца, маці трасе за плячо Васілінку і кажа:

— Прачніся, дачушка, прачніся. Пойдзем бацьку адведаць.

Васілінка ўсхоквае, ад холаду пацепвае плячыма, але не скардзіцца, хутка апранаецца, і яны з маці крочаць па вуліцах Царскай Веткі. Ідуць праз увесь горад. Маці, нібы малую, моцна трымае Васілінку за руку і ўсё прыспешвае.

Ужо яны далёка за горадам, калі ўзыходзіць сонца. Да баракаў рукой падаць. Але заходзіць туды забаронена. Хаця б каго-небудзь знайсці!

Насустрач ідзе стары ў ватняй салдацкай сцёганцы. Маці запускае ў кішэню свайго паліто руку, і на далоні яе блішчыць сярэбраны рубель. Вартаўнік не адмаўляецца, бярэ рубель і кажа пачакаць, а сам хаваецца ў бараку.

Маці прыхінае да сябе Васілінку:

— Вось як нам пашанцавала, дачушка! Хутка ўсё даведаемся пра бацьку.

Толькі нічога яны не даведаліся. Вартаўнік сказаў, што ў спісе памерлых бацька не значыцца.

— Прыходзьце заўтра, можа што-кольвечы дазнаюся.

Больш як два тыдні маці досвіткам падымае з пасцелі Васілінку, і яны доўга і моўчкі ідуць адведаць бацьку. Кожная пра сябе думае сваю думку. Васілінка ведае, што нябожчыкаў ноччу выносяць у трупярню, кладуць у труны і засыпаюць вапнай. Поп, стоячы за парогам, махае кадзілам і моліцца за душы праведныя. А потым вопрамеццю ляцяць у санпрапускнік. Вартавыя грузяць труны на падводу і вязуць далей ад баракаў, у поле, і там закопваюць нябожчыкаў.

А што, як яны з маці спозняцца? Прыйдуць і не ўбачаць больш бацькі? Вытрываць такое Васілінка не мае моцы. Хіба можа стацца такое, што разумныя, ласкавыя бацькавы вочы засыплюць пякучай вапнай?!

● Сяргей ПАНІЗНІК





## У дарозе

Мой адрас:
пошта палявая,
дзе над прасторам снегавым
аднолькава усім жывым
зара ўзыходзіць агнявая.

А дзень наступіць на сумёты —
І ападаюць маразы.
І зноў у небе палазы —
след рэактыўных самалётаў.

У нашым,
з вытрымкай,
народзе
цярпеннем кожны даражыць.
Усё тут можна пераджыць,
хоць пошта часта і падводзіць.

У несупынлівай трывозе
вятры трапечуцца ў гаях...

...Зямля далёкая мая!
Я — твой!
Я толькі у дарозе.

●

Адышла пара узбудных пеўняў.
У вайсковым раніца страю:
Я краіну родную сваю
клятвай пажыццёваю запэўніў,
што пакуль
у верным сэрцы
змога, —
я стаю пад сцягам з кумача,
што ў баях за праўду Ільіча
ёсць і будзе —
толькі перамога!

## Зямля такая

Нам ніколі не памерці,
ні у якім горы.
Застануцца для бяссмерця
назвамі азёры.

Тая ж Нарач або Свіцязь...
Хіба выпаліш, растопчаш
неўміручых гукаў віцце,
слоў — вякоў праточын.

Нам ніколі не памерці,—
гэта ўжо бясспрэчна...
Прападуць азёры ў свеце,
застануцца
рэчкі.

Тая ж Ясельда ці Шчара,
Свіслач або Нёман...
Калі ёсць на свеце чары —
ў назвах ўпамянёных.

Нам ніколі не памерці,
бо — зямля такая,
дзе народ у шчасце верыць,
дзе жыццё народу мерыць
крыніца жывая.

## Нарачанская песня

Ночы золкія пеняць
пожні зёлкавых траў.
Нарачанскую песню
прытулю да кастра.

У разбуджаных хвалях
будзе біцца прыліў,
адгукнецца Купалле
ў ціхай песні зямлі.

Сэрца вырвецца з дому,
бо я волю люблю.
Я знямелую стому
па зямлі разгублю.

І куды б не занесла
маладая пара, —
нарачанскую песню
данясу да кастра!

● Генрых ДАЛІДОВІЧ

● Мал. В. ШРАМЯКОВА



# НЕСПАДЗЯВАНАЯ ПАСАЖЫРКА

АПАВЯДАННЕ



Стаяў цёплы і вясёлы чэрвень. Прыпякала сонца, выпарвала апошнюю вясновую ваду.

Дарога была сухая, цвёрдая, добра выкатаная — «Волга» ішла лёгка: стрэлка на спідометры не апускалася ніжэй «90».

Парнасць,— відаць сёння выстойвалася на дождж,— лагодны і аднастайны шоргат колаў, добры настрой — усё схіляла Аўсяновіча на сон.

Сённяшні дзень яму ўдаўся. Да вечара было яшчэ далёка, а ў яго кішэні ляжала і радавала душу «чыстая» дзесятка; ён толькі што завёз са сталіцы ў далёкую вёску польскую сям'ю. Выпіць у радасных гаспадароў адмовіўся, а сунічак сваёй дачушцы і грошы ўзяў.

Цяпер Аўсяновіч вяртаўся дамоў. Імчаўся, слухаў музыку і выглядаў крыніцу ці якую рачулку — хацеў прыпыніцца ды спаласнуцца да пояса, разуцца, патрымаць у халоднай вадзе ногі.

Падумаў, што трэба сёння пастарацца яшчэ выбіць пяцёрку, заўтра — таксама не менш дзесяткі: усё ж будзе бліжэй да жаданай мары — да ўласнай машыны. Павінна быць на кніжцы недзе ўжо каля трох тысяч.

Успомніў, як вазіў учора па горадзе адну пасажырку, і засмяяўся.

Быў вечар, прыйшоў маскоўскі цягнік — высыпала на перон мноства люду, замітусілася, паімчалася да таксі. Да Аўсяновіча падбегла інтэлігентная бабулька, прыемна сказала: «Здароў, мілы!» — і папрасіла падкінуць на аўтобусны вакзал.

Ён хацеў спярша паказаць ёй гэты вакзал, да якога было не больш трохсот крокаў, пасля ўсміхнуўся, выключыў таксометр, павазіў старую па прывакзальных вуліцах, прывёз на аўтобусны вакзал і садраў паўтара рубля.

Праўда, вечарам яго прысарамаціў Ліпавец, так і сказаў: «Які ты паганы чалавек! А калі б тваю маці так хто павазіў?»

«Сам ты — погань! — успомніўшы ўчарашняе, узлаваўся Аўсяновіч.— Салага яшчэ, толькі два гады робіць на таксі, а на вёску не паедзе. Машыну беражэ. Дабрадзей. Мне жыць трэба, у мяне жонка, двое дзяцей. Мне машыну купіць трэба. Свой домік пабудаваў, сад і агародзік маю. Цяпер усе думкі пра «Масквіча». Цяпер усе хочуць добра жыць». «Выскачка! Шчанюк!» — злаваўся Аўсяновіч.

Сонца прыпарвала, але неба было яснае і блакітнае. Ад гэтага і на душы зноў станавілася ясна і шырока. Аўсяновіч глядзеў у акно і бачыў прысадзістыя садкі, загоны маладой бульбы, разасланае сена на грудах. На лужку пры рэчцы ляжалі і смалілі бакі маладыя хлопцы і дзяўчаты.

«Вывернуліся!» — злосна падумаў Аўсяновіч пра дзяўчат. Пасля разважыў, што дарэмна злуецца на тых, хто загарае. Можа і яго Верка з дочкамі пайшла сёння на пляж. Ляжаць цяпер недзе на жыватах, чытаюць кніжкі, жмурацца ад яркага летняга сонца і п'юць цёплае сітро ці смокчуць марожанае...

Па абочыне дарогі ехалі на веласіпедах і матацыклах няголеныя мужчыны ў гумавых ботах, везлі звязаныя косы і граблі.

«Майму каню толькі бензін патрэбен,— падумаў Аўсяновіч.— Не, ужо з-за адной каровы я не жыў бы ў вёсцы. Сена, подсціл шукай, гной вывозь, бульбу садзі; яшчэ свінні, куры... І Верка мая менш на пляж хадзіла б ці па тэатрах бегала.

У горадзе, канечне, лепш. Купіў сто грамаў свежага мяса, каўбасы, бутэльку малака — на дзень хопіць. Цесць прывалачэ кумпяк ці мяшок агуркоў, капусты і бульбы — зусім не трэба ў магазін хадзіць. А жыць у вёсцы цяпер — не. У госці, канечне, добра ездзіць...»

Аўсяновіч уехаў у стары лес. Замільгалі ствалы стройных сосен і елак, кусты ядлоўцу, запахла сухім шыльнікам і пахучай цёплай смалой, сунічнікам і маладой папараццю — усім тым лясным, летнім і цёплым, што ён любіў, прыязджаючы ў лес са сваёю Веркай.

Машыну затрэсла на карэннях, яловыя лапы шарганулі па ветравым шкле. У кабіну насыпалася ігліцы.

«Нешта не разумею ў апошні час я сваёй Веркі. Вучыцца ўздумала, адукацыі захацела. Нават мяне ў вячэрнюю гоніць. Ніводнай прэм'еры не прапусціць, усе выстаўкі наведвае. Распусціў я яе, даў патолю».

Аўсяновіч аб'ехаў лясную лагчыну, якая ўжо амаль высахла, засталося толькі чорнае мокрае месца. Нехта нядаўна праехаў па ёй з калясьмі. Гразь ліпла да колаў і конскіх капытоў.

За паваротам Аўсяновіч убачыў маладую дзяўчыну. Яна сядзела на абочыне і расчэсвала свае доўгія валасы. Босыя яе ногі ляжалі амаль на дарозе, побач стаялі туфлі, крыху далей — чамадан.

Аўсяновіч вырашыў прыпыніцца і спытаць карацейшай дарогі да шашы.

Калі машына наблізілася, дзяўчына борздзенька змахнула пясок з босых ног, уссунула на іх туфлі, скруціла валасы ў вузел і цяжка паднялася. Аўсяновіч убачыў, што яна цяжарная.



— Дзядзечка, падвязі,— яна першая падышла і папрасіла яго, — не магу болей ісці, зусім стамілася. Ратуйце.

Дзяўчына, маленькая, дробненькая, уся ў рабацінні, глядзела на яго ў гэтую хвіліну, як на бога.

«Падвязі, падвязі! І пагнаў мяне чорт спыніцца. Чаму гэта я не падумаў, што яна сядзіць і чакае машыны. Рассыплецца яшчэ ў машыне. Толькі клопат лішні. Усё роўна ўсім добры не будзеш».

— Мне тут недалёка,— прасілася дзяўчына,— на аўтобус спазнілася, а ісці цяжка. Я заплачу.

— Ладна! — недавольна і пагардліва сказаў Аўсяновіч. — Садзіся, толькі без агітацыі.

Ён выключыў радыё, лянiва вылез з машыны, узяў яе цяжкі, быццам нагружаны жалезам чамадан, і кінуў у багажнік. Дзяўчына сказала, што яна магла б патрымаць і на каленях свае рэчы. Ён перабіў яе: «Ладна!» — і паехаў.

Яны маўчалі. Дзяўчына, відаць, была рада, што яе ўзялі, сцішылася і глядзела на лясную дарогу. Аўсяновіч жа ўсё не мог дараваць сабе, што прыпыніўся, са злосці закурыў.

«Стараюцца ўдваіх, а ў дарогу едзе адна. Нанімала б таксі».

Аўсяновіч зацята цягаў папяросу, але ўсё ж дзеля сваёй неспадзяванай пасажыркі стараўся аб'язджаць купіны, абабітыя калясьмі карэнні.

Паступова злосць улеглася, Аўсяновіч палагоднеў: усё ж у кішэні была дзесятка, ды і з гэтай прынцэсы капейку возьме. Што яму да яе цяжарнасці?

«Грошы — дрэнь. Але лепш, калі іх болей».

Дарогу перайшоў лось — вялікі, сыты.

— Бачыла? — ажывіўся Аўсяновіч.— Во мяса! І катлетак і халоднага было б!

Дзяўчына маўчала.

— Перасталі біць, дык развялося. Багацце прыроды...



Дзяўчына прамаўчала і цяпер. Яму не спадабалася яе маўклівасць. Відаць, падумаў, асуджае яго за такія словы.

— Адкуль, куды, чаго? — спытаў ён прыціхлую маладзіцу, добра агледзеў яе.

— Дамоў еду. Толькі здала сесію.

«Студэнтка! Вучоная!» — падумаў ён злосна, а ўголас спытаў: — Чаго адна выперлася? Жыццё надакучыла, ці што? Раптам у дарозе...

— Мне яшчэ месяц,— сказала дзяўчына і зачырванелася.

— Я таксама некалі думаў паступаць у інстытут, але перадумаў, не захацеў сушыць мазгі,— змяніў Аўсяновіч (ён скончыў гадоў дванаццаць назад усяго восем класаў),— я здольны быў, настаўнікі мяне заўсёды хвалілі. А муж твой дзе жыве ці працуе?

Дзяўчына апусціла галаву, доўга не адказвала, пасля ледзь выціснула:

— У мяне няма мужа.

— Як гэта няма? — павесялеў ён, кінуў злавацца, зазірнуў ёй у вочы.— А гэта — з кім? Ці само з'явілася? — Аўсяновіч кіўнуў на яе жывот. Сарамлівым ці баязлівым ён ніколі не быў, гаварыў, што думаў, хлопцам нават біцца любіў. Праўда, за гэта не любіць яго жонка, яна лічыць, што ён — самы бессаромны і нахабны на свеце. Асабліва злавалася і доўга не размаўляла тады, калі застала яго дома з адной жанчынай. На пагрозы і слёзы жонкі Аўсяновіч толькі пасміхаўся, жартаваў: «Хіба я вінаваты, што мяне любяць бабы?..»

— Каханы з другімі ходзіць, шукае другой дурніцы.

— Ясна,— сказаў Аўсяновіч, а сам падумаў: «Не трэба было быць варонай!»

— Ясна,— паўтарыў яшчэ раз.— Гаворыш, падлюгам аказаўся твой студзент?

Дзяўчына не адказала, толькі кіўнула галавой, сціснулася ўся, стала яшчэ драбнейшай.

— Бываюць і такія! Трэба ўмець пазнаваць такіх людзей,— паспачуваў ён дзяўчыне.— Злачынцы пераводзяцца, а падлюгаў хапае.

Аўсяновіч сказаў гэта і спалохана глянуў на дзяўчыну: яму здалося, што яна неяк уважліва і пільна глянула на яго.

Аўсяновіч дастаў хусцінку і стомлена выцер спацелыя лоб і шчокі. Мімаходзь глянуў на сваю суседку і спалохаўся: тая, збялелая, што снег, адкінулася на спінку і цяжка дыхала.

Аўсяновіч прыпыніў машыну.

Дзяўчына адкрыла вочы.

— Дрэнна? — спытаў Аўсяновіч.

— Не, нічога,— тая села, замітусілася, відаць, баялася, каб ён не высадзіў яе, квола ўсміхнулася: — Горача толькі нешта і галава кружыцца.

Сказала і зноў адкінулася на спінку. Аўсяновічу здалося, што яна млее.

«Вось узяў на сваю галаву, во ўлез!»

Аўсяновіч нечага спалохаўся, нават не ведаў, што цяпер рабіць, зусім разгубіўся. Узяў дзяўчыну за руку — тая, здаецца, нават ужо і не дыхала.

Пасля ён апамятаўся, схапіў капронавую шклянку і выскачыў з машыны. Пакруціўся, пажмурыўся ад яркага сонца — убачыў непадалёку свежы драўляны мост, пясчаны, выбіты каровамі і коньмі высокі бераг ля яго. Здагадаўся: блізка рака.

Аўсяновіч спусціўся з дарогі і ўбачыў пад мастом жанчыну. Сха-





ваўшыся ад спякоты, яна старанна паласкала бялізну — з усяе сілы мянташыла пранікам.

Аўсяновіч пабег. Жанчына выпрасталася, каб узяць новую порцыю бялізны, і ўбачыла задыханага Аўсяновіча.

— Жанчына, дапаможыце! У машыне цяжарная, паглядзіце.

Жанчына спалохана глянула на яго, на таксі, але стаяла на месцы. Пасля борздзенька страсянула ваду з рук і пабегла да машыны. Аўсяновіч зачарпнуў шклянку вады і таксама пабег.

«Што будзе? — думалася яму. — Як выйсці сухім з гэтага здарэння? Вось і дапамажы, выратуй!»

— Якая маладзенькая! — жанчына адчыніла дзверцы, тупала ля маладзіцы і штурхала яе. — Сама ты дзіцё яшчэ, а ўжо радзіць сабралася.

Аўсяновіч намачыў хусцінку і выцер ёю твар сваёй неспадзяванай пасажырцы. Тая раскрыла вочы, глянула на іх, квола і сарамліва ўсміхнулася.

«Ну, дзякуй богу!» — уздыхнуў Аўсяновіч і падаў дзяўчыне ваду.

— Напалохала ты мяне, паненка, — сказаў ён і прыкурыў, спытаў у жанчыны, ці далёка адсюль да бальніцы.

Тая падрабязна растлумачыла.

«Падкіну, спакайней будзе на душы!»

Аўсяновіч прапанаваў жанчыне сесці ў машыну.

— Што ты, чалавек! У мяне ж там бялізна.

— Чорт яе не возьме, тваёй бялізны, баба. Што ж буду я рабіць, калі раптам пачнуцца роды?



Жанчына нездаволена нешта прамармытала, але пасля пабралася на задняе сядзенне.

— Вы б выклікалі ўрача, а то сапраўды можа здарыцца што ў дарозе,— азвалася адтуль.

— Была б мая жонка ці сястра — выклікаў бы,— растлумачыў Аўсяновіч,— падабраў на дарозе, сядзела і сапла. Нават не ведаю, як зваць. Няведама чаго папёрлася адна ў дарогу. А мог бы ніхто і не ўзяць.

— Не думаюць цяпер маладыя, што робяць,— сказала жанчына.

Аўсяновіч пачуў сябе неяк смялей, больш упэўнена. Нават зноў уключыў радыё, злавіў музыку.

Да бальніцы даехалі праз хвілін дваццаць. Дзяўчына адчувала сябе добра, з цікавасцю паглядала кругом.

Аўсяновіч вылез з машыны, закурыў і сам пайшоў у бальніцу. Паблукаў па чыстых і ўтульных калідорах, знайшоў дзяжурнага ўрача, які драмаў ля акна, і ўсё яму расказаў. Тут Аўсяновіч не стрымаўся, каб не пахваліцца, не паказаць сваю дабрату, некалькі разоў паўтарыў, што дзяўчына яму незнаёмая.

Урач сонна глянуў на яго, але не падзякаваў, толькі нечага хмыкнуў і з цікавасцю паглядзеў на яго. Пасля ён паклікаў жанчыну, відаць, сястру, і пайшоў з ёю на двор. Урач прывітаўся з жанчынамі і вывеў цяжарную, павёў яе ў бальніцу.



Аўсяновіч адчуў незвычайную палёгку.

— Э, а багаж свой каму пакідаеш? — гукнуў Аўсяновіч, адкрыў багажнік і выставіў чамадан.

Дзяўчына ўсміхнулася і вярнулася, цёпла глянула на Аўсяновіча і сказала: «Вялікае вам дзякуй! Якія вы добрыя! Ой, ледзь не забылася...»

Яна хуценька дастала недзе з рукава маленькі белы кашалёк, раскрыла яго і пачала выбіраць капейкі.

«Апошнія, відаць,— падумаў Аўсяновіч,— колькі тае стыпендыі! Аддала ўсё на дзіцячае. Можа, аддаць ёй тую дзесятку?»

Неяк так выняць і аддаць пры людзях ёй грошы пасаромеўся. Пасля ён перадумаў: з якой гэта нагоды ён будзе даваць свае грошы чужому чалавеку? Хопіць таго, што падвёз яе, патраціў свой час.

— Ладна, маладзіца, шчасліва раджай! Мне нічога не трэба,— сказаў Аўсяновіч і ўспомніў яе словы «якія вы добрыя!»

Дзяўчына яшчэ раз прапанавала свае капейкі, яшчэ раз падзякавала і пайшла.

— Як завецца гэтае месца? — спытаў Аўсяновіч у жанчыны, калі дзяўчына схавалася ў сенцах.

— Сялец.

Ён кінуў акурак, сеў у машыну, націснуў на стартэр.

— Чалавек, дык ты ж не кідай мяне,— пачуўся голас жанчыны.— Абяцаў жа...

Аўсяновіч пачакаў, пакуль тая сядзе, пасля рвануў машыну. Жанчына не ўтрымалася, упала на сядзенне.

«Якія вы добрыя!»

Так сказаў незнаёмы яму чалавек, зусім чужы чалавек, але такога ніколі не гавораць яму ні жонка, ні дочкі, ні сябры па рабоце...

«І чаму мяне так усе не любяць? Чаму ўсе бачаць ва мне толькі дрэннае?»

Аўсяновіч нават не заўважыў, як давёз жанчыну да яе бялізны.

— Ой, чалавек, ці паспею я да дажджу ўправіцца? Ну, дзякуй табе. На во яблык.

Аўсяновіч глянуў на неба: з поўначы нацягвалася сіняя цёмная хмара. На дварэ пасвяжэла, пацягнула ветрыкам — сапраўды збіралася на лівень. На душы ў Аўсяновіча было і радасна і горка, трывожна і неяк нядобра. Ён сам пакуль не ведаў, што з ім, заўсёды спакойным і задаволеным, сталася сёння.





● Яўген ПУШКІН

● Мал. К. ЦІХАНОВІЧА

# БОЦЯ

АПАВЯДАННЕ



Як і ўсе мінулыя дні, заўтра зноў паімчыць навыперадкі сотня чалавек. І зноў мяккі асфальт будзе патыхаць гарачынёй, колы будуць разматваць вузкія, як ізаляцыйная лента, палоскі.

І калі да фінішу застанецца не больш кіламетра, кожны захоча заняць зручную пазіцыю для апошняга рыўка. Кожны будзе імкнуцца заняць сваё месца ў групе.

Боця будзе ўперадзе. Ён пачне спурт. І ніхто ўжо нічога не зробіць супраць гэтага спурту. Ніхто не перашкодзіць яму. Не здолее. Не застанецца часу. Ну а што, калі Боця празявае? Што, калі праз першы рад будзе цяжка прабіцца? Тады...

Разумею, што я павінен згасіць заўчаснае нервовае напружанне. Але для гэтага трэба расплюшчыць вочы. А іх не расплюшчыш, пакуль не змыеш мыльную пену.

Шухнуў вадою на галаву. Расплюшчыў вочы. У гарачым тумане выразней відаць постаці хлопцаў, слых напаўняецца гучным рознагалоссем лазні. Хлопцы расказваюць пра эпізод з сённяшняга этапа гонкі, пра тое, як нехта перад рыўком шпульнуў убок флягу, так і не паспеўшы адведаць пітва. Усё перасыпана жартамі, анекдотамі, усё слухаеш і амаль не запамінаеш. У гэтай размове не пачуеш толькі ні слова пра апошні, заўтрашні этап.

Сюды, у лазню, не далятае вулічны шум. Не чуваць і матораў машын нашай групы суправаджэння — аўто-

бусаў, «тэхнічак», хуткай дапамогі, судзейскіх легкавушак. Я ўяўляю, як шчыльна зляпіліся яны вакол лазні: на пятачку перад уваходам, на вуліцы, на заднім двары. Яны абвешаны веласіпедамі, плакатамі, маршрутамі гонкі. Ім, як і гоншчыкам, няма скідак на надвор'е. Яны газавалі ў дождж, у спякоту, аб'язджалі закрытыя на рамонт участкі дарог, трэсліся па бруку. І машынам не пашкодзіла б лазня. Мы мыемся, а яны быццам таксама чакаюць сваёй чаргі. Не ляпаюць, як у звычайныя дні, уваходныя дзверы. Расчыніліся раз, прапусцілі ўсю гонку і зачыніліся за апошнім. Працокалі па падлозе металічныя шыпы на велатуфлях, прашаркалі кеды. Цяпер часам толькі даносіцца шыпенне пульверызатара — гэта дактары прамываюць зялёнкай некаму рану. Чуецца раз-пораз:

— Пацярпі, галубок!

Дрыжыкі бяруць, хоць на гэты раз «апрацоўваюць» не цябе. Але ўсё гэта нішто ў параўнанні з марганцоўкай. Яна ў лазні, калі тут мыюцца мнагадзёншчыкі,— пан. Без яе гоншчыку не абысціся. Марганцоўка ўмацоўвае тыя часткі цела, якія шліфуюць з дня ў дзень сядло, раму, руль. Вада едкага чырвонага колеру ўсюды — у цынкавых тазах, на лавах, на каменнай падлозе...

Пра лазню можна многа расказваць. Ну, хаця б пра бярозавы пах, што розніць беларускія лазні ад іншых. Пра гэты пах успамінае веласіпедыст, калі імчыць паўз бярозавыя прысады. Тут, у лазні, прымушаеш сябе ўспамінаць бярозавыя прысады. Гэта для таго, каб не думаць пра бярозавы венік. Многія ідуць на розныя хітрыкі. Скажам, купляюць дужа пахучае мыла. Зноў жа, каб не вабіў пах бярозы.

Многа можна расказваць пра нашу лазню. Асабліва пра хлопцаў, якіх за час гонкі добра ўведаў. Але я думаю зараз пра аднаго толькі Боцю, бо я думаю пра заўтрашні, апошні этап.

...Боця, ясна ж, выбера зручную фінішную пазіцыю. Але пра яго здольнасць спуртаваць, пра яго нястрымны фінішны рывок ведаюць усе гоншчыкі. І Боцю будуць пільнаваць, каб апярэдзіць, збіць яго рывок. Толькі Боця можа прынесці нам першае месца, а з ім — камандную перамогу. Нас у камандзе шасцёра. Калі б стартавалі заўтра толькі мы, яно было б, першае месца. Але такіх шасцёрак-каманд каля дваццаці. І кожнай неабходна першае, другое, трэцяе месца... Ну, хопіць! Зараз жа зачэрпнуць з таза прыгаршчы летняй вады, шухнуць яе ў твар.

Відаць, я ўгаварыў сябе памарудзіць яшчэ нейкую секунду і заставаўся сядзець нерухома, калі раздаўся дружны рогат, а на мяне выплеснулі таз вады.

— Глянь на Боцю,— заходзячыся ад смеху, гаварыў Валька Лоўгач.

Нават сярод нашай голай братвы няцяжка было адразу знайсці Боцю. Ён вызначаўся не толькі высокім ростам і гнуткай, зусім не спартыўнай паставай. Была ў ім нейкая асаблівая манера перастаўляць ногі ў часе хады. Ён хадзіў, як босы па дзядоўніку. Мне здавалася, што ён, перш чым зрабіць крок, прыкідваў, як бы гэта ступіць так, каб не патраціць лішняе каліва энергіі, не нагрузіць без патрэбы аб'ёмныя мышцы ног. І была яго хада падобная нечым на бусліную. З гэтага і мянушка да яго прыліпла — Боця, бацян.

Боцю я ўбачыў адразу і зразумеў, што адбылося. Такое здараецца часта з кожным. Бывае, распранаешся і сунеш па звычцы ручны гадзіннік у кішэню майкі і забудзешся пра яго. Успомніш толькі тады, калі пачнеш выкручваць майку пасля мыцця, калі рукі намацаюць у ёй нешта цвёрдае. Сёння ў майцы раструшчыў гадзіннік ніхто іншы,



як Віця Маркін — Боця. Над ім не жартуюць, бо ведаюць — жартам яго не завядзеш. Над ім здзекуюцца ў адкрытую:

— Боця, не чуў як гадзіннік плакаў? А, бязлітасны ты чалавек!

— Чэрствы!

— Боця, ну вылайся хаця, адляжа ад сэрца.

— Як не спачуваць табе, Боця, гадзіннік з-пад малаточка.

— Гэта той, што за ўчарашні этап адхапіў, ці старая «Пабеда»?

Лічыцца, што Віця скупы і ўсё астатняе ў яго характары ідзе менавіта ад гэтага. Боця глухі да жартаў, Боцю «да лямпачкі» ўсё, што не датычыць яго. Калі б не скупасць, быў бы іншым Боця.

— Дык ці старая «Пабеда» плакала, га, Боця?

Але і гэтыя кпіны не могуць разбіць мур, за якім жыве Боця. Віця моўчкі складае ў таз вільготныя майку, трусы, белую шапачку з чырвонай палоскай праз брылёк і сваёй буслінай хадой дыбае да дзвярэй.

— Пабацяніў Боця варэннем ласавацца,— смяюцца ўслед яму.

Толькі Віцю цяпер не да варэння. Я ўяўляю, як ён нацягвае трыко, таропка спяшаецца да нашай «тэхнічкі», каб паспець, пакуль упраўляцца ў лазні астатнія, агледзець свой веласіпед. Там корпаецца каля машын механік. Гэта яго абавязак. Але які ж гоншчык пакіне свой веласіпед на механіка. Ніхто не скажа, што на яго нельга спадзявацца. Проста механік працуе на мнагадзёнцы больш, чым, скажам, суддзі, дактары ды і самі гоншчыкі. Мнагадзёншчык ведае гэта і шкадуе яго. На этапе лёс каманды шмат у чым залежыць ад механіка. І ніхто з каманды не можа яму дапамагчы. Пасля этапа працу механіка дзеляць на ўсю каманду. За веласіпеды бяруцца звычайна пасля вячэры. Кожная каманда аблюбоўвае сабе месца, дастаюцца з «тэхнічкі» ўсе веламашыны, баявыя і запасныя, скрынкі з інструментам і запчасткамі. І, здаецца, да цямна зацягваецца рамонт і прафілактыка. Тут і механік, тут і трэнер, тут і ўся каманда. Толькі ў нашай «майстэрні» заўсёды на аднаго чалавека менш — ніколі не бывае Віці. Боця веласіпед ведае не горш за самага лепшага механіка. Ён лічыць, што кожны сам павінен даглядаць свайго «каня», тады механіку застанецца толькі за запаснымі глядзець. Не ведае наш Боця, што механік «прашчупвае» кожны вечар і яго веласіпед.

Сёння ўсё паўтараецца. Па дарозе ў сталоўку мы сядзім на лавах, бліжэй да кабіны. Пасля лазні прыемна раскінуць па борце рукі, адчуваць свежыя струменьчыкі паветра, што б'юць пад брэзент і лашчаць распаранае ў лазні цела. Адзін Боця корпаецца з веласіпедам. Перапэцкаўся, як чорт.

У сталоўцы садзімся за столік у кутку, не спяшаючыся вывучаем меню. За вячэрай кожны сам можа думаць пра свой апетыт. Занадта распяразвацца не рэкамендуецца, і ўсё ж вячэра — не абед за дзве гадзіны да старту. Там у нас адно, трэнерскае меню — бульён, кавалак курыцы з бульбяным пюрэ і шклянка мінералкі. Трэнер усур'ёз лічыць і ўсур'ёз даводзіць нам, што гэта лёгка, каларыйна і гэтага хопіць на дзвесце кіламетраў для чалавека, які з вясны наматаў на колы свайго веласіпеда тысячы кіламетраў.

За нашым столікам адно незанятае крэсла: усё яшчэ няма Боці. Вярнуўся трэнер з судзейскай. Ён не стаў, як мы, вывучаць меню, кінуў афіцыянтцы:

— Мне абы хутчэй.

Праглынуў ежу, пачаў нешта падлічваць на адваротным баку меню. Нешта? Канечне, усё тыя ж секунды і месцы ў розных варыянтах. Потым гэтае меню пайшло па крузе. Усё было так, як і меркавалася. Для агульнакаманднага першага нам патрэбна адно асабістае першае

месца. Меню дайшло да незанятага Боцінага крэсла. Трэнер моўчкі кіўнуў галавой:

— Пакіньце!

Мы сустрэлі Маркіна ля ўваходу. У руках у яго быў загорнуты ў газету пакунак. Я бачыў, як ён сеў за столік, дзе мы толькі што вячэралі, узяў у рукі меню з падлікамі трэнера.

Усё паўтараецца. Зноў Боця адзін, зноў ён прынёс у сталоўку слоік з варэннем, якое будзе ўмінаць пасля яды...

Перад тым як легчы спаць, я загадваю сабе:

— Не думаць пра заўтра! Не думаць!

Мабыць, кожны з нашай шасцёркі, ды і кожны з астатніх каманд, што начуюць у іншых пакоях, загадваюць сабе не думаць пра заўтра.

«Не думаць пра заўтра». Але карціць яшчэ раз прагледзець веласіпед. Мне ўсё здаецца, што задняе кола «васьмярыць». Пачынаю падцягваць і да таго тугія спіцы. Дз...з...ынь — адна луснула. Кола, якое я ў роспачы крутануў, мільгаціць спіцамі. Не спяшаюся спыніць яго. Штосьці ўткнулася ў спіну. Паварочваю галаву. Віця клаўся спаць. Адсоўваю крэсла ад яго ложка і смяюся:

— Ты, здаецца, пасля варэння яшчэ большы стаў.

— Пасмяешся, калі падрасцеш, паглядзім, як тады ўладкуешся на маім месцы.

Ложкі, на якіх мы спім, кароткія для Боці. Галава — на прыціснутай да адной спінкі падушцы, а ногі з парэпанымі падэшвамі, з мазалямі на мезенцах ад туклепсных рамянёў — далёка тырчаць праз пруты другой спінкі. Плечы — на шырыню ложка. Сагнутымі ў локцях рукамі Боця трымае на жываце «Спідолу». Драпінамі і «зялёнкай» цямнеюць на белай пластмасе пальцы.

— Чаго глядзіш, стары? Давай спаць.

— Кола ў мяне...

Не спяшаючыся, Боця ставіць «Спідолу» на крэсла, побач з капронавай біклажкай, устае з ложка. Абапёрся рукамі на матрац — зазвінела сетка. Нагамі шукае кеды. Потым, шаркаючы імі па падлозе, сунецца да мяне.

— Лыжню мацнейшаму!

Гэта ў Віцевай манеры — гаварыць з падначкай, да абразы едка. Сеў на маё крэсла — яно, быццам скардзячыся, рыпнула. Падцягнуў бліжэй машыну, імгненна ўправіўся з колам.

— Трактарныя б вам колы — тады правіць не давялося б.

Я не крыўдую на Боцю і за гэтыя словы, бо вельмі добра яго ведаю...

Мы з Боцем з аднаго горада. Больш таго, жылі на адной вуліцы, вучыліся ў адным класе і сябравалі. Да таго, як трапіць у веласіпедную секцыю, разам усе дарожкі выбегалі ў лесе, што падступаў да нашай вуліцы, усе ўзгоркі ўзімку лыжамі пратапталі. Мабыць, гэта і вызначыла нас сярод аднагодкаў, што прыйшлі той вясной у секцыю. Праз нейкі год мы сталі вядучымі і першымі нумарамі, увайшлі ў зборную горада. Нас чакалі абласныя спаборніцтвы, а перад імі — медыцынскі агляд. Памятаю доктарскі кабінет спартшколы, памятаю здзіўленыя вочы дакторкі, якімі яна глядзела на Віцю.

— Вам, малады чалавек, (тады я аж падскочыў ад гэтых слоў) я нават на ўрокі фізкультуры забараняю хадзіць. А каб спортам займацца — ні-ні... Мінімум год ніякай нагрузкі. Вось даведка для школы. Рэжым і спакойная хада...

Дакторка гаварыла многа, а Віця маўчаў. Ён і кабінет пакінуў



моўчкі і за дзвярыма не вымавіў ні слова. Трэнер, відаць, па яго выглядзе здагадаўся, што нешта не так і ўскочыў у кабінет:

— Што, не прайшоў? Мой першы нумар...

— Ціск. Мне нат боязна за яго. Патрэбны адпачынак. Працяглы. Потым — усё спачатку. Нават і тады я не ўпэўнена,— з гэтымі словамі дакторка туга сцягвала на маёй левай руцэ чорную і халодную, як змяіная скура, стужку. Трэнер змоўк. Я чуў за спіной яго частае дыханне...

Я паехаў на абласныя спаборніцтвы. Потым з камандай і трэнерам гастраляваў усё лета. З горада ў горад, па шашэйных дарогах і па прасёлкавых. Калі настала зіма, я не клікаў, як звычайна, Віцю на лыжы. Я памятаў доктарскія словы:

— Год спакойнай хады.

І не заўважыў, як замкнуўся, як адышоў ад мяне і ад аднакласнікаў Віця. Толькі ў сакавіку зразумеў, што перажыў ён сваю бяду ў адзіноце, што даравацъ сваю адзіноту яму будзе цяжка.

Тым сакавіцкім надвячоркам я выбраўся апошні раз прайсціся на лыжах. Вяртаўся дамоў, калі сонца скацілася за лес, а снег адліваў фіялетавым колерам. Доўгі цень бег наперадзе мяне і капіраваў кожны мой рух. І раптам я ўбачыў другі цень, які хутка набліжаўся да майго. Азірнуўся — Віця.

— Ты?! Табе ж забаронена!

— На ўрокі фізкультуры я і не хаджу. Чорт з імі. А трэніравацца кідаць я не збіраўся. Нагрузку толькі крыху зваліў. Ды парэчкі чорныя рэгулярна пачаў лопаць. Яны і падтрымалі.

Тады я і даведаўся, што Віця трэніраваўся адзін і кожны месяц бываў у доктара. Праз некаторы час той аж здзівіўся: здаровы, як слон!

— Дык зноў у нашу секцыю!

— У вашу?.. Не!..

У той год на ўсіх гарадскіх спаборніцтвах Віця выступаў асабіста і займаў месцы недзе ў першай дзесятцы. Наступнай вясной, на адкрыцці сезона, ён выйграў гонку, увайшоў у зборную горада. Тады і прыкмецілі ў яго слоік з варэннем.



...Я расплюшчваю вочы. Нада мной неба і хмаркі на ім. Вунь тыя пяць, што плывуць дружнай чарадой,— наша каманда без Боці. Хмарка наперадзе — Боця. Усё астатняе — прыдарожныя кусты і дарога, судзейскі аўтобус і «тэхнічкі» — хавае трава, высокая, сакавітая, ласкавая. Прыціснешся да яе мацней спіной — і адчуеш прыемную прахалоду. Цягне на сон. Санлівы стан перад стартам — гэта добра. Гэта значыць — ты ў форме. Гэта значыць — будзеш працаваць на дыстанцыі, як машына.

Пара размінацца. Нібы не сваімі рукамі бяру веласіпед. Асцярожна, як апошнюю запалку ў часе дажджу, падымаю яго і іду па шаўкавістай траве да шэрай стужкі асфальту.

...На дыстанцыі Віця быццам не ведае нас, быццам адзін — уся каманда. Толькі аднаго разу, калі я, пралідзіраваўшы свае метраў трыста-чатырыста, адыходзіў у хвост, ён спытаў:

— Коля дзе?

— Вунь уперадзе. Зараз на змену выйдзе.

Зноў Боця ў хвасце. Беражэ сілы для фінішу. Ён не баіцца, што пярэднія зробяць рывок і адарвуцца ад асноўнай групы. Без яго ніхто не адважыцца. Часам ён робіць рывок (каб праверыць, ці гатовы мыш-



цы да вялікай нагрузкі), і тады за ім кідаецца ўся група. Хуткасць адразу павялічваецца...

Прайшлі паваротку. Зараз трэба сачыць за мацнейшымі і за сваімі. Пасля паварота яны дзесьці ззаду. Зараз падцягнуцца. І раптам за спіной чуецца трэск, брынчыць аб асфальт чыясьці помпа. Завал! І нашы там! Пярэднія робяць рывок. Адрыў. Я азіраюся. Тыя, хто хутчэй ускочыў і ў каго не пашкоджаныя веласіпеды, па адным гоняцца за галоўнай групай. Але дзе там дастанеш у адзіночку! Хуткасць у нас шалёная. Змена не больш, як праз сто метраў. З нашых у галоўнай групе Боця і я. Нам патрэбна адно першае асабістае месца. У мяне яго не будзе. Яго можа заняць толькі Боця. Калі яму ўдасца выбраць момант для фінішнага рыўка і калі ніхто не паспее «сесці» яму на кола. Але ўсе пільнуюць толькі яго. Кожны гатовы рвануцца ўслед за ім.

Тэмп знізіўся. Усе рыхтуюцца фінішаваць. Быццам не група коціць да ўзгорка, на якім палымнее чырвонае палотнішча са словам «фініш», а ўзгорак імчыць насустрач нам. Мацнейшымі заняты першы рад. Яны цераз плячо косяць вочы на Боцю. Яны пільнуюць яго раптоўны рывок. Віцю ніяк нельга прайграць апошні этап. Тады ён прайграе і ўсю гонку. У Боці большая, чым у каго, верагоднасць выйграць мнагадзёнку. І кожнаму зразумела, што Боця аддасць апошняму рыўку ўсё, на што здольны. І ўсе чакаюць гэтага рыўка. Ідзе паядынак нерваў. Хто не вытрымае, той кінецца на фініш першым. Тады за ім можна прыстроіцца і імчаць, як за лідэрам, эканомячы за чужой спіной сілы для свайго рыўка. Ніхто не сумняваецца, што сёння ролю лідэра возьме на сябе Боця. Я ўяўляю, як за ім прыстроіцца «хвост», як за некалькі метраў да фінішнай лініі «стрэльне» нехта з гэтага хваста ўперад і выйграе. Не новая тактыка, але для Боці рызыка вялікая. Для каманды яшчэ большая.

Боця побач са мной. Ён марудзіць з рыўком. Я бачу разгублены твар Боці — яму трэба прымаць нейкае рашэнне. І не марудзіць ні хвілінкі. Інакш не вытрымаюць і рвануцца ўперад іншыя.

Віцеву задуму я зразумеў, як толькі пачуў ягоны шэпт:

— Садзіся за мной!

І я «саджуся» — прыстройваюся за Віцем. Адчуваю, як зніжаецца ход, бачу, як утвараецца прасвет паміж намі і групай.

Нам ён патрэбен, каб набраць хуткасць і не даць магчымасці «зачапіцца» іншым.

— Сеў? Трымайся! Я раскачу цябе.

У групе яшчэ ні пра што не здагадваюцца... Віця рэзка забірае ўлева. За ім «на коле» — я. Групу мінаем ходам. Там спазніліся з рыўком, «не злавілі» нашага. Але патрэбна толькі доля секунды — і яны кінуцца ў пагоню.





Я бачу толькі «фініш» і Віцевы ногі, напружаныя, мускулістыя. У мяне адна думка: «Зараз Віця, выціснуўшы з сябе ўсё, выключыцца, рэзка адыдзе ўбок, даючы мне дарогу. Я, скарыстаўшы Віцеву хуткасць, павінен зрабіць свой рывок».

Мне здаецца, што звязкі галенастопаў не вытрымаюць і вось-вось лопнуць. Мне хочацца падняць галаву, прыгнутую да руля. Каб схапіць свежага паветра, каб падняць твар ад пякельнай гарачыні асфальту. І зараз, вось толькі Віця выключыцца, я падыму галаву і схаплю паветра. Адзін толькі глыток. І гэтага імгнення дастаткова, каб расслабіцца мышцам... Віця рэзка адыходзіць убок. Я бачу, як ён выпроствае мокрую ад поту спіну і расслаблена кладзе рукі на верх руля — ён «адпрацаваўся».

Сустрэчны вецер, які да гэтага разразаў Віця, абрушваецца на мяне. Нагінаюся яшчэ ніжэй. Да самага руля. Быццам хачу праскочыць пад ветрам, як пад нізкай, на вышыню веласіпеда, паветкай. А калі да фінішу застаецца не больш дзесяці метраў, устаю з сядла. З ветрам на плячах фінішую. Першым. На паўкола ўперадзе групы.

...Мы зноў прыехалі ў лазню, апошні раз на гэтай гонцы. І зноў вызначыўся Боця — цяпер ён дастаў з кішэні мокрай майкі размыты аркуш паперы. Усе рагаталі, гледзячы на разгубленага Боцю. Толькі з нашай каманды ніхто не смяяўся — Боця трымаў у руках меню з учарашнімі падлікамі трэнера.

● Уладзімір ФАМІН





## Ветэраны

Лёс цяжкі
на долю выпаў
Рэвалюцыі байцам.
Быў у іх адзіны выбар:
Воля
Ці агонь свінца.
Гарт у іх —
На дзесяць трэба:
Турмы,
экзекуцыі.
Волю іх
Прычэсваў грэбень
Нашай Рэвалюцыі.
Пазнаём іх па паходцы,
Хоць узрост немалады.
Гарт іх —
першых пяцігодак,
Першых домнаў
У скронях дым.
Не даелі,
не даспалі
На шляху нятораным.
Па іх спінах,
Як па шпалах,
Крочыла гісторыя.

●

«Жыццё пражыць —
Не поле перайсці»...
А я не згодзен з прымаўкай —
І баста.
І поле ёсць,
Якое у жыцці
Не так ужо
праходзяць людзі
Часта.
Вось той,
на п'едэстале,
Не прайшоў.
У час вайны
ён стаў над полем
Вечна.
І сёння мы,
праз дваццаць пяць гадоў,
Прад іх схіляем галавы
Сардэчна.
Ён не прайшоў,
Каб мы прайшлі,
Каб хмары нам не засцілі
Блакіту.
Як ён,
такія дзеці у сяброў,
А ён, юнак,
на нас глядзіць
З граніту.
Ён перажыў даўно
сваё жыццё,
Нагой ступіў у бессмяротнасць
Смела.
Я паважаю прымаўкі,
А ўсё ж
Не прызнаю
Дагмат закамянелы.

## Ружы ў канцлагеры

Зімою ў канцлагер прынёс хтосьці ружы.
Сабраўся ўвесь блок,
Нават той,
хто нядужы.
Глядзелі на ружы
Змарнелыя людзі.
І раптам...
Усмешкі, якіх не забудзем.
Быццам ачнуліся вязні-жанчыны,
Успомнілі любага,
мужа
ці сына.
Успомнілі дом свой.
Свяціліся вочы
Сярод гэтай страшнай
Канцлагернай ночы.
...Тут, у Равенсбруку,
На брацкай магіле
Чырвоныя ружы галовы схілілі.
Над ёю маўкліва
Стаяць у жалобе,
Схіліўшы галовы,
мужчына і хлопец.
Здаецца,
Устануць з магільнае пашчы
І скажуць жанчыны:
— Дарыце на шчасце
Чырвоныя ружы.
Дзяліце пароўну
Жывым і каханым...
Нам — мёртвым —
ўсё роўна.



Леанід АСЯДОЎСКІ. Будаўніцтва нафтаправода «Дружба».



Віталь ЦВІРКА. Мой горад.

## *Лістапад*

На стрэхі хатаў неба села,
Яго падперлі
Каміны.
Сняжынкі пырснулі нясмела —
Зімы разведчыкі
Яны.
Бярозы загулі пад ветрам,
Нібыта струны
Пад смычком.
А ўночы
Звонкае паветра
Павее густа
Халадком.

●

Ходзіць восень —
Позняя модніца,
І зіму маладую
Да лета
Усё раўнуе,
Ды толькі не згоніцца,
Як за дзеўчынай юнай
Кабета.

**«ПАЭМУ РАССТАННЯ»**
**Генадзя БУРАЎКІНА**
**вы прачытаеце**
**ў наступным нумары**



● Міхась ПАРАХНЕВІЧ

● Мал. А. БАРАНОЎСКАГА



# ДАЛЁКАЕ РЭХА

АПАВЯДАННЕ



Ужо на тым беразе ракі Варвару дагнаў «козлік». Варвара хацела збочыць, але машына спынілася.

— Ці не ў раён, цётка Варвара? — расчыніў дзверцы старшыня калгаса.

Варвара кіўнула галавой.

— Тады сядайце.

Старшыня калгаса — гэта сын Марціна Рабкова, Юра. Ззаду ў машыне сядзіць старэйшы Рабкоў.

— Куды гэта на досвітку? — гаворыць ён.

— У раён, пенсіі дабівацца еду.— Варвара ўсміхаецца і ўжо цішэй на вуха гаворыць Рабкову: — Вы ж мяне некалі такой маладой зрабілі... Цяпер на наружны від трэба...

— Хы, я...— паднімае галаву Рабкоў.— Быццам я не разумеў, што трэба, а што не трэба!

Варвара задумёна глядзіць уперад праз Юрава плячо, зноў паварочваецца да суседа:

— Я і цяпер бы жыла без гэтай пенсіі, каб толькі быў Косця...

...Тады яшчэ было далекавата да зімы. Стаяў ціхі верасень без дажджоў і туманаў. І вечары былі адзін на другі падобныя: ледзь над вёскай пасказваўся поўнік, як ад вуліцы далятаў голас гармоніка. Пад Дзянісавай грушай ляжалі абчэсаныя

калоды, і на іх сядзелі хлопцы і дзяўчаты. Праўда, хлопцаў было небагата: Варварыны равеснікі, закончыўшы вайну, усё яшчэ служылі. А гэта былі не хлопцы, а блазнота, як іх часта звалі дзяўчаты-парасткі, такія, як сама Варвара. Толькі адзін з іх, кульгавы Петрык Кашоўскі, выглядаў больш стала, і не так за свой узрост, як за тое, што іграў на хромцы. Петрык зверху глядзеў на кожнага, бо ў вёсцы быў на віду: ніводнае вяселле ці радзіны не абыходзіліся без яго. Іграў ён усе танцы без уступаў і пераходаў — як старая заезджаная пласцінка,— і толькі цыганачка ў яго выходзіла з рознымі каленцамі, як песня ў салаўя. Тут ён быў сапраўдны мастак. Шырока расцягваў гармонік, у такт музыцы тупаў здаровай нагой, па-заліхвацку іхкаў і ахкаў, і, гледзячы на яго, цяжка было ўтрымацца, каб не пусціцца ў круг.

А танцаваць цыганачку ніхто, бадай, лепш не ўмеў, чым Варвара. Тут яна Петрыку, як кажуць, два лапці — пара, адзін аднаго даводзілі да сёмага поту. Тады ўсю вуліцу запруджвалі вяскоўцы, больш спрытныя залазілі нават на грушу, каб паглядзець на танцорку. Не верылася, што гэта тая самая Варвара Зарэцкая, якая сёння разам з іншымі жанчынамі і дзяўчатамі слала ў лузе лён, піла ваду з аднаго вядра. Маладыя дзяўчаты глядзелі на Варвару з затоенай зайздрасцю, пажылыя жанчыны, гаспадары якіх толькі што вярнуліся з вайны, пагардліва крывіліся, цягнулі за рукі мужчын дамоў:

— О, скасюрыліся, як Варкі век не бачылі! Хай паспрабуе столькі параджаць, як мы, дык з печы не ўстане...

Аднойчы Варвара спазнілася на вечарынку. Нават ісці не хацела. Цэлы дзень жала грэчку, і гула спіна, ламала рукі. Павячэраўшы, доўга думала: перапранацца ці не? Бацька варочаўся на ложку, потым праскрыпеў грудным голасам:

— Духата нешта, донька. Мо хіба дзверы расчыні трошкі...

Варвара расчыніла дзверы, і ў гэты момант да яе слыху даляцеў знаёмы акорд хромкі. Доўга не думаючы, выбегла з хаты.

Петрык Кашоўскі даўно чакаў яе. Таму адразу, як толькі Варвара падышла да групы, заліхвацка расцягнуў хромку і тупнуў праваю нагою. Знаёмая мелодыя халодным струменьчыкам абдала ўсё Варварына цела, стому як рукою зняло. Павольна і плаўна выплыла Варвара на круг, шырока кінуўшы на плячо квяцістую хусцінку. Потым, ёмка стукнуўшы абцасікамі, быццам адарвалася ад зямлі, пайшла па крузе. На гэты танец ёй ніколі не знаходзілася напарніка, і Варвара ажно разгубілася, калі ўбачыла, як невядома адкуль узяўся, усё бліжэй да яе падступае высокі цень. Не, гэта быў не проста хлопец-зух, які, узяўшы чарку, гатоў танцаваць як і што папала. О, ён не падладжваўся пад Варвару — ён наступаў. Пругкімі рысінымі крокамі раптам адскокваў ад Варвары і, матнуўшы густым чубам, плыў на яе — плыў хутка і лёгка, прыгожа рассякаючы рукамі паветра, і медалі на яго грудзях падзвонвалі ў такт музыцы.

Ад танца ў Варвары кружылася галава. А яшчэ кружылася ад таго, што з кругу, беражна трымаючы вышэй локця, вёў яе да дзяўчат гэты незнаёмы хлопец.

— Ну што, Петрык, закурым па адной? — сказаў незнаёмы і падаў гарманісту папяросу.— Ох і цыганачку ты нам даў!

Увесь вечар яны танцавалі ўдваіх. А калі нарэшце Петрык зайграў свой марш і ўсе пачалі разыходзіцца, ён узяў яе пад руку і над самым вухам сказаў:

— Дазвольце?



Варвара нічога не адказала, і гэтае маўчанне ён прыняў як знак згоды.

Ціхая месячная ноч стаяла над Крушлянамі. Яны спыніліся каля Варварынай хаты.

— Эх бы вадзіцы, а?

— Я квасу прынясу. Бярозавага...

Хутка Варвара вярнулася з поўнай квартай. Ён піў павольнымі глыткамі, быццам смакуючы.

— Пахне як! У нас на Смаленшчыне такі!.. Даўно я не быў там...

— Да каго вы сюды?

Ён выпіў, выцер губы далонню. Потым дастаў папяросу, але прыкурваць не стаў.

— Да таго, каго ўжо няма... Тут, у вашага гарманіста, жыў мой бацька.

— Дзямід Аляксееў?

— Ён самы...

— Ваш бацька ўсім боты шыў.

— Так, гэтага ад яго не адымеш. Дык вось ягоны сын, сержант Канстанцін Дзямідавіч Аляксееў, прыехаў забраць бацьку-бежанца дамоў. А ён, значыцца, не дачакаўся сына. Вельмі доўга дабірацца было да яго...

Косця, прыпёршыся спіною да жэрдкі, моўчкі глядзеў у неба. Маўчала і Варвара. Пасля ўсяго пачутага цяжка было пачаць размову.

Развіталіся стрымана, суха. Ён крышку затрымаў яе шурпатую руку ў сваёй, папрасіў:

— Прыходзьце заўтра на танцы. Мы ж, здаецца, сёння ўволю і цыганачку не патанцавалі...

Раніцою, ідучы з жанкамі на поле, Варвара не пераставала думаць пра ўчарашні вечар. Усё атрымалася так проста, як часам і не прыдумае чалавек. Цяпер, канечне, дзяўчат колькі нарасло, не тое, што яна, Варвара. А хлопцы, яны такія: падбіраюць маладзейшых. Ці даўно і Варвара была маладой. Здаецца ж, нядаўна праводзіла Федзю на фінскую. Пагулялі адно лета, нацалавацца нават не паспелі. Так і не вярнуўся Федзя з вайны. «У яго голас, як у Федзі,— падумала Варвара, і ад гэтай думкі ёй стала горача ў грудзях.— А ў прыцемках не бачыла, які ў яго вочы, валасы які. У Федзі дык былі белыя, як кужаль. І вочы, як у мяне,— сінія.»

Варвара заняла самую крайнюю палоску каля дарогі. Жанчыны падаліся далей да лесу, у далінку, дзе грэчка была больш высокая. Варвара хацела пабыць сам-насам, паразважаць, каб ніхто не перабіваў думкі. Махаючы сярпом, яна не-не, ды і аглядвалася на дарогу, што вяла на Крушляны. А можа? Хіба ж ён не ведае, што яна сёння цэлы дзень на полі? Часам ёй здавалася, што нехта цікуе за кожным яе рухам. Варвара выпросталася, трывожна аглядвалася, але ўскрай загона стаялі толькі рэдкія кусты алешніку.

Неўзабаве на кані вярхом прыехаў брыгадзір Мікіта Пячонік. Ён прайшоўся з «казою» па Варварыным участку, нешта запісаў у паперу і, сунуўшы яе за пазуху, хітра падміргнуў:

— Памагае, значыцца, цыганачка... На пяць сотак больш у цябе, дзеўка, чым учора...

І ўжо сеўшы на каня і перакінуўшы праз плячо «казу», дадаў:

— Бачыў учора, як выбівала з салдатам... Цяпер ён каля хаты тваёй сядзіць...

У Варварыным нутры нешта як абарвалася. Яна нерухома стаяла і доўга глядзела ўслед брыгадзіру, пакуль той не схаваўся за хмызня-



ком. Хацелася вось так доўга стаяць пасярод загона, аж пакуль наступяць прыцемкі, а нейкі голас унутры гаварыў: «Ідзі дамоў. Ну ідзі ж...» І гэты голас перамог. Варвара хутчэй спусцілася да ручая, памыла твар халоднай вадой і подбежкам кінулася на лясную сцежку, якая напрамкі вяла ў вёску.

Яшчэ з валокаў Варвара ўбачыла каля хаты дзве постаці. У адной пазнала бацьку: белая барада здалёк відаць. Другога чалавека не пазнала. Пазнала, толькі падбегшы бліжэй; моцна ёкнула сэрца: ён!

Косця, пачуўшы таропкія крокі, аглянуўся і ўбачыў Варвару. Ён падхапіўся з зэдліка, трымаючы ў адной руцэ бульбіну, у другой сцізорык, растлумачыў:

— А мы тут ужо от з бацем пазнаёміліся... Бульбу збіраемся варыць. Вы не супраць, Варвара Андрэеўна, прызначыць мяне да сваёй кухні?

— Калі ласка. Толькі бульба так у вас да ночы не зварыцца. Парэзаць трэба. Вось так,— і Варвара, узяўшы нож з бацькавых рук, пачала пераразаць кожную бульбіну напалам.

Пакуль варылася бульба, Варвара заслала стол чыстым абрусам, нарэзала хлеба. Потым збегала ў склеп і прынесла міску агуркоў.

Стары Андрэй каля комінка сек смалякі на калодцы, Косця складваў іх у акуратную кучку.

— У вас, чалавеча, мо няма такога? Мо лямпы гараць?.. А ў нас от і газы нямашака.

— Вайна, баця, вайна. І ў нас такое — смалячкі. У зямлянках людзі жывуць: усё фрыцы спалілі...

Стары Андрэй паклаў некалькі смалякоў на комінак, Косця чыркнуў сярнічку. Весела затрашчала смала, хату заліло казачнае мігатлівае святло.

— То мо і вячэра гатова? Як там у цябе, доня? — спытаўся бацька.

— Гатова, тата, гатова. Сядайце за стол.

Гаспадар пакорпаўся пад падлогай, дастаў бутэльку самагонкі.

— Я асабліва не пітушчы, але ж вам, маладзейшым, трэба па кілішку. Мо ўжо застоелася ад той восені...

Косця ўзняў поўную чарку:

— За што вып'ем, баця?

— А за што хочаце піце. За вас, маладзёж.

Варвара, пакуль госць гаварыў з бацькам, паспела заўважыць, што ў Косці вельмі светлыя валасы і бровы. і што сам ён яшчэ занадта малады, хоць і прайшоў усю доўгую вайну.

— Тады за нашага адмысловага повара,— усміхнуўся Косця і чокнуўся чаркай з Варварай. На яе блізка-блізка, цераз стол, з-пад белых веек паглядзелі сінія вочы, і Варвары на міг здалося, што яна даўным-даўно ведала гэтага чалавека. Косця паспешліва ўзяў агурок, павярнуўся да старога Андрэя: — Усю вайну, баця, без такога дэлікатэсу жыў сержант Аляксееў. Як можна было, га? — і ён з апетытам папачаў есці.

Гаспадар зноў наліў чаркі.

— Гэта ўжо хіба за цыганачку нашу... Ух, пякучая, як спірт!

Косця абапёрся на стол, кінуў стомлены позірк на комінак, дзе дагаралі смалякі, пакруціў галавою:

— Дзівак я, скажаце. Трое сутак не спаў, а яшчэ цыганку ўчора пайшоў выбіваць. Дзівак, дзівак...

Стары Андрэй цярнуў рукой па белай барадзе, паглядзеў на дачку:

— Праўду кажаце, чалавеча. Сам быў салдатам, ведаю, што такое не спаць. То начуйце ў нас. Якая розніца — у Кашоўскіх ці ў нас? Сцялі чалавеку, донька.

Ад вуліцы даносіўся людскі гоман, скрозь яго ўрываўся скрып гармоніка. Варвара, паслаўшы Косцю ў той хаце, яшчэ доўга не клалася спаць. Моўчкі сядзела каля комінка, дзе дагараў апошні смаляк, розныя думкі лезлі ў галаву. Звесіўшы ногі з палатак, сядзеў і стары Андрэй.

— Салдацкі сон такі,— сам сабе гаварыў гаспадар,— выпіў чарку і зваліўся, як сноп. Перажыў чалавек, хоць і малады.

Апошняе бацькава слова разанула Варварын слых. Гэтым словам стары Андрэй быццам раскрыў вочы ёй на тое, пра што яна дасюль не задумвалася. Так, ён вельмі малады, гэта яна адразу заўважыла, калі ўчора яны вярталіся з вечарынкі. А быццам Варвара старая! Што яна яшчэ бачыла ў жыцці, апрача сярпа ды галадоўкі? Усю акупацыю хадзіла захутаная ў старую матчыну канаплянку, ні сонца, ні месяца не бачыла. Яшчэ дасюль пякуць рукі ад ядавітых люцікаў: ледзь не стала калекай, каб толькі выратавацца ад таго раю ў Германіі. А колькі бацька хаваў яе ў сырым халодным склепе, пакуль не канчалася аблава ў вёсцы! Маці да смерці збілі карнікі, у бацькі дасюль рука, як драўляная. І нага такая. Хіба яна не чуе па начах, як ён войкае, як доўга стогне, пакуль адпусціць боль?..

Цяжкія ўспаміны доўга не давалі заснуць Варвары. Ледзь зашарэла, яна зноў была на нагах. Пакуль згатавала снеданне, усталі бацька і Косця. Косця быў у добрым настроі, як чалавек, у якога ўсе цяжкасці і турботы засталіся далёка ззаду. Ён доўга фыркаў каля калодзежа, доўга абціраўся вышываным ільняным ручніком, які выняла з куфра Варвара. Вярнуўся ў хату свежы, расчырванелы, на хаду зашпільваючы гімнасцёрку, падсеў на лаву да старога Андрэя:

— Цяпер, баця, сержант Аляксееў гатоў зноў дайсці да Берліна.

Гаспадар лагодна пагладжваў бародку, ківаў кудлатай галавою:

— Бярлін забралі, пранцы цяпер з ім. Вам, маладзёжы, пра другое думаць трэба. І табе, голуб, і Варвары маёй, і ўсім вам...

— Гэта так,— пстрыкнуў партсігарам Косця і закурыў.— Цяпер пра другое трэба думаць нам. Праўда, Варвара?

Варвара зачырванелася і хуценька ўзяла ў рукі вілкі, каб выцягнуць чыгун.

Пасля снедання Аляксееў прытуліў да сябе старога Андрэя:

— Дзякуй вам, баця, за гасціннасць. За словы добрыя дзякуй.

З Варварай яны выйшлі на двор. Зноў, як і ўчора, сталі каля плота.

— Еду на Смаленшчыну,— сказаў ён.— Такія-сякія справы засталіся.

— Шчаслíва,— ледзь чутна адказала Варвара.

— І толькі ўсяго? — ён злавіў яе за кончыкі пальцаў. Яна вызваліла руку.

— Вазьміце сланечнік на дарогу. Вось гэты, што на плоце. Ён самы вялікі і спелы.

— Праўда, лускаць яго да самага Смаленска хопіць усяму вагону.— Ён узяў пад паху цяжкі круг, і не губы, а вочы яго сказалі:

— Бывай, цыганачка...

Стройнай лёгкай хадою пайшоў за вароты. Яна не стала стаяць каля плота: яшчэ ўбачаць вяскоўцы, прыдумаюць большае, чым ёсць. Барзджэй скокнула ў хату і, пераадольваючы сорам перад бацькам, які пільна глядзеў на яе, прыпала да акна. За платамі пагойдвалася зялёная пілотка. Мільганула — і знікла.

— У салдата так: пайшоў — і ўсё за ім пайшло,— узбіраючыся на палаткі, пракрактаў стары Андрэй. Варвара нічога не адказала бацьку. Наогул, ні пра што гаварыць не хацелася. Моўчкі сабрала полудзень і, ужо ідучы да дзвярэй, сказала:

— Там у печы бабка. А ўзвар у чыгуне на лаве.

Першыя дні Варвара верыла: атрымае пісьмо. А калі не пісьмо, то хоць паштоўку. Ці ж мала пісьмаў ёй прысылалі салдаты? Нехта знаёмы дасць адрас — вось і пісалі. І яна адпісвала. А з гэтым жа два вечары знаёмая. Нават танцавалі разам...

Паштальён жа як знарок абыходзіў хату. І на вуліцы, сустрэўшыся з Варварай, нічога не гаварыў. Так і міналі дні за днямі — і падобныя, і не падобныя адзін на другі.

Аднойчы, падхапіўшыся на досвітку, Варвара заўважыла, што на дварэ вакол бела. Але гэта быў не снег. На плоце, на траве, на клетцы дроў белым карункам ляжаў іней. Ад яго белізны ажно калола ў вачах. «А ў калгасе ж яшчэ не выбраны агарод,— думала Варвара, гледзячы ў акно.— Праўда, там засталіся толькі буракі ды капуста. Ну, ды гэта для іх не страшна...»

Нехта ціха, здалося Варвары, пабарабаніў клямкай. Яна прыслухалася. Можа гэта бацька выходзіў на двор, калі яна спала? Глянула на палаткі. Там, у цёмным кутку, бялела барада. Стук зноў паўтарыўся — мацнейшы, патрабавальны. Ніхто да іх не прыходзіў так рана. Ды калі б хто і ішоў, то каля вакон былі б сляды...

З загадкавай трывогай выйшла ў сенцы. Не паспела спытаць, хто, як там, па той бок дзвярэй, пачуўся знаёмы голас:

— Свае, Варуха, свае!

Косця стаяў перад ёю ў шынялі, у пілотцы, з рэчавым мяшком за плячамі. Прыклаў руку да скроні, строга, быццам камандзіру, даляжыў:

— Сержант запасу Аляксееў прыбыў для далейшага праходжання службы.

Варвара не паспела апамятацца, як ён прыгарнуў яе да сябе дужымі рукамі, пачаў цалаваць то ў адну, то ў другую шчаку, гаворачы:

— Толькі з падарожнай. Гародам проста да цябе.

Варвара білася ў абдымках, як злоўленая птушка, але рукі моцнамоцна трымалі яе. Тады яна пачала плакаць, нешта таропкае і злое гаварыць, намякаючы на маладых дзяўчат, а ён не слухаў яе і гаварыў сваё:

— Вось так яно, цыганачка. Сёння ж пойдзем і запішамся, каб гэта ўсё было чын чынаром, як у добрых людзей. Табе сержант запасу Аляксееў гэта сур'ёзна гаворыць.

Толькі цяпер заплаканая Варвара ўбачыла, што ў Косці няма пагонаў на шынялі...

...Варвара абула свае жоўтыя, на шырокіх абцасах, лодачкі, надзела блішчастую, амаль новую плюшавую жакетку, завязала кветкавую хустку.

Косця доўга ваксаваў боты, потым гэтак жа старанна чысціў іх суконкай. Белы падкаўнерык акуратна выглядаў з-пад гімнасцёркі.

Стары Андрэй моўчкі сядзеў на ўслоне і не спускаў вачэй з маладых. Калі Косця стаў перад люстэркам і прымераў пілотку, гаспадар падхапіўся з услона, замахаў рукамі:

— Нягожа, Кастусь, па холадзе ў пілотачцы. Пачакай жа, пачакай...

Стары хуценька скокнуў у сенцы, моцна грукнуў векам куфра. Адтуль вярнуўся з новай зімовай шапкай.

— Гэта Зміцер наш мне прысылаў, калі ўжо нашы прыйшлі. Лейтэнантам быў... Бяры-тка прымерай. От якраз на цябе. І насі на здароўе...

Сельсавет быў у канцы вёскі. Размяшчаўся ён у новай хаце былога старасты, які невядома, куды знік з жонкай, як толькі наблізіўся фронт.

Ідучы з Косцем па вуліцы, Варвара не пераставала думаць, як гэта ўсё выйшла хутка і нечакана. Ад нязведанай радасці хацелася лясцець, а разам з гэтай радасцю падкрадвалася трывога. Ён жа яшчэ такі малады! Гэта яна ўжо, мусіць, ганяла кароў на луг, а яго яшчэ на свеце не было...

Яны прайшлі каля Дзянісавай хаты. За высокімі варотамі чуўся гоман дзяцей. Колькі гэта іх у Дзяніса? Ага, чацвёра. Дзяніс на шэсць гадоў маладзейшы за Аксінню. Больш ніхто так не жаніўся ў вёсцы. Сцяпан Курыла, дык той, як толькі памерла жонка, прывёз аднекуль на трое дзяцей зусім маладую. Кажуць, што на пятнаццаць гадоў маладзейшая. Яна, Варвара, аднойчы сваімі вушамі чула, як



падвыпіўшы Сцяпан кпіў з Дзяніса: «Не па-мужчынску ты жаніўся, браце. Маладому — маладзейшая, а ты без разбору-перабору шух — і за спадніцу»...

У Варвары ні метрыкаў, ні пашпарта. У вёсцы і без гэтага кожны ведае ўсё пра цябе. Нават больш, чым ты сама пра сябе. Старшыня сельсавета Марцін Рабкоў заплюшчыць вочы і скажа, калі хто нарадзіўся, калі хто памёр. Ён нейкі далёкі Варварын сваяк. Па маці. Раней часта бываў у іх. Цяпер, як маці памерла, рэдка заглядвае...

З гэтымі думкамі Варвара пераступіла парог сельсавета.

За сталом у выцвілай гімнасцёрцы сядзеў Марцін Рабкоў. Ён ніколькі не здзівіўся, калі маладыя прывіталіся з ім. Рабкоў быццам даўно ведаў, чаго прыйшла сюды гэта пара, на прывітанне ветліва адказаў «добра здароўечка» і аднекуль з-пад стала выцягнуў тоўстую кнігу. Паспешліва надзеў акуляры, дужкі якіх былі абматаныя кужэльнымі ніткамі. Тут жа надаў твару строгасці і афіцыйнасці:

— Ітак, пачнём з кнігі актаў грамадзянскага стану. Ваша прозвішча, малады чалавек? — Рабкоў бліснуў шкельцамі акуляраў на Косцю.

— Аляксееў, Канстанцін Дзямідавіч.

— Год нараджэння?

— Дваццаць другі...

Пяро рыпела, і гэта рыпенне балюча аддавалася ў Варварыным сэрцы. «На цэлых восем гадоў... Божухна! Гэта будзе страшней за ўсё, калі Рабкоў пачне пытаць і мяне...» — з хваляваннем думала Варвара. У роце ўсё перасохла, яна ледзь трымалася на нагах. Але Рабкоў усё моўчкі пісаў. Вось ён загарнуў тоўстую кнігу, сунуў яе зноў некуды ў стол, зноў пачаў пісаць на невялічкім лістку. Потым дастаў з кішэні гімнасцёркі пячатку, доўга хукаў на яе, затым з усяе сілы бухнуў на паперку:

— Акт грамадзянскага стану закончаны. Дазвольце павіншаваць вас, маладажоны, пажадаць дзетак, як мядзведзяў! — Ён, шырока ўсміхаючыся, устаў з-за стала, доўга трос Косцеву руку, Варвару пацалаваў у лоб.— Яшчэ раз віншую равеснікаў-камсамольцаў дваццатага года.— І, хітра прыжмурыўшыся, строга паківаў на Варвару ўказальным пальцам: — Толькі не думай, грамадзянка Аляксеева, на сухую аддзелацца ад Рабкова!

Варвара, не памятаючы сябе, кінулася да старшыні сельсавета і, прытуліўшыся да яго, шчасліва сказала праз слёзы:

— Ну што вы... Як можна... Сёння ж прыходзьце... Такую цыганачку вам станцую!..

...А праз два тыдні Косця збіраўся з дому. За подпісам Рабкова на падаконніку ляжала паперка, змацаваная гербавай пячаткай. У паперцы гаварылася, што ён, Аляксееў Канстанцін Дзямідавіч, павінен ехаць траляваць лес. Такіх паперак шмат каму ўручылі ў вёсцы. Казалі, што гэты лес пойдзе на падпоры ў шахты.

Дзялянкі былі адведзены ў другім баку раёна, каля вёскі Замошша, пра якую ніколі не чула Варвара. Ёй здавалася, што гэта недзе далёка-далёка, на другім канцы свету.

Яна насыпала ў мех бульбы, у торбу паклала два боханы хлеба, цыбулі, нізку маладых баравікоў. Грыбы — гэта вельмі добра. З іх навар, як з мяса. Што яшчэ даць Косцю ў дарогу? Гэта ж на цэлы тыдзень едзе!.. Насыпала гладыш буйных пераспелых журавін. Калі згатаваць вады з журавінамі, будзе добры чай пагрэцца на марозе...

За Косцем пад'ехаў сусед, Сёмка Баравы. Сякеру і пілу паклала на санкі Варвара.

Дзень быў марозны, яркі.

Сёмка Баравы, скруціўшы цыгарку, скокнуў у хату — мусіць, прыкурыць. Ці мо схітрыў, каб даць маладажонам развітацца.

Косця прыгарнуў Варвару да сябе, пацалаваў:

— Ну, расці вялікая, цыганачка. Хутка прыеду. Лесаруб я бывалы. Слова сапёра...

З хаты выбег Сёмка Баравы і, не выпускаючы з рота цыгарку, бухнуўся ў мяккі воз:

— Паехалі!

Малады неаб'езджаны конь сарваўся з месца. У Варварыных вачах толькі мільганулі растаптаныя Сёмкавы валёнкі і наваксаваныя Косцевы боты.

Ужо ў хаце Варвара не пераставала дакараць сябе. Гэта ж не падумала — Косця ў сваіх салдацкіх парцянках! Такі мароз на дварэ! І хоць бы той воўны не было, а то цэлы клубок нітак...

Доўгімі зімовымі вечарамі Варвара сядзела каля комінка і вязала мужу шкарпэткі. Звязала і павесіла на спінку крэсла, дзе заўсёды вешае Косця гімнасцёрку. Яшчэ ніткі засталіся. Якраз хопіць на рукавіцы. Цёплыя будуць рукавіцы, мяккія, не тое што яго салдацкія з двума пальцамі. Сёння ўжо чацвер. Заўтра пяты дзень, як ён паехаў. Можа заўтра і вернецца? А можа сёння? Яшчэ ж толькі змяркаецца...

От жа чула яе сэрца! Гэта ж конь грукае каля варот! Косця прыехаў!

У адной камізэльцы выскачыла з хаты.

Каля парога, апусціўшы галаву, стаяў Сёмка Баравы.

— На міну трапіў... Сёння раніцой... Аднаго яго...

Дзесьці ў старой грушы гулка стрэліў мароз, белым дымам сыпануўся іней з сухіх галін...



# ПУБЛІЦЫСТЫКА

- Галіна АЙЗЕНШТАТ
- Станіслаў МАРЦЭЛЕЎ
- Валянцін ЖДАНОВІЧ
- Алесь АДАМОВІЧ
- Янка БРЫЛЬ
- Уладзімір КАЛЕСНІК
- Васіль ШАХМУЦЬ
- Дзмітры КІРЫЛЕНКА
- Мікалай КАРАЛЬКОЎ
- Мікалай ЮРКЕВІЧ
- Цімох ЛІЯКУМОВІЧ
- Янка ШПАКОЎСКІ
- Мікола ПРАШКОВІЧ
- Пятро ЮРЭВІЧ
- Васіль СВЯТЛОЎ





Круцільна-выцяжны цэх.



Галоўны пульт кіравання ДМТ.



● Галіна АЙЗЕНШТАТ

# РАДЫУС ДЗЕЯННЯ

З БЛАКНОТА ЖУРНАЛІСТА

Летам 1967 года на Лаўсанбудзе пазнаёмілася з Эдуардам Горскім. Раней ён працаваў на адным з магілёўскіх заводаў. Кваліфікаваны рабочы, нядрэнна зарабляў. Перайшоўшы на будоўлю, капаў катлаваны пад фундамент цэхаў. Аднак не шкадаваў, што перайшоў. Размах будучага гіганта нібы зачараваў яго.

— Прыйшоў я сюды ў ліку першых — васемнаццатага кастрычніка шэсцьдзесят пятага года,— расказваў Эдзік.— Прывялі ў чыстае поле, кажуць: тут будзе буйнейшы ў Еўропе камбінат сінтэтычнага валакна. Не тое, каб не паверылі — проста ўявіць не маглі. Поле — вокам не акінуць, сто дваццаць гектараў.

Маштабы сапраўды здаваліся неверагоднымі.

●

У канцы мінулага і пачатку сёлетняга года — у які ўжо раз! — зноў пабывала на Лаўсанбудзе. Прыехала не спадарожнай, не на аўтобусе — на тралейбусе! Вадзіцель, быццам сам здзіўлены, на кожным прыпынку паўтараў: «Тралейбус ідзе на Лаўсан».



Напярэдадні пазваніла з абкома камсамола ў семнаццаты трэст, каб высветліць, на якім участку працуе зараз Эдуард Горскі. Дзяўчына, што сядзела ў пакоі, страпянулася: «І чаго Горскага на шчыт уздымаюць? Нічога асаблівага ў ім няма. Мая сястра працавала ў яго брыгадзе».

Сапраўды: нічога асаблівага ў ім няма. Бадай, толькі тое, што працуе ўсе гады, а іншыя, як сястра гэтай дзяўчыны, збеглі.

Будоўля — суровая школа. Не кожнаму яна па сіле.

Горскі стаў майстрам, і на ўчастку злавіць яго было цяжка. Затое пра яго расказалі людзі.

Міша Паўлаў, той самы, які ў 1966-м прыйшоў у брыгаду Горскага са Шклоўшчыны, ахвотна выконваў усё, што даручалася, заслужыўшы найвышэйшую пахвалу брыгадзіра («Хачу, каб усе былі такія, як ён!» — сказаў тады Горскі), заявіў, што з Горскім яны «во як спрацаваліся».

Мікалай Палякоў, начальнік участка пяцьдзесят трэцяга будаўнічага ўпраўлення, дадаў больш акрэслена: «З Горскім сустракаўся, калі той быў яшчэ брыгадзірам. Яшчэ тады кінулася ў вочы яго дзелавая струнка. А палове шостай раніцы ён ужо на рабочым месцы, каб забяспечыць брыгаду работай. Даваў, калі патрабавалася, 40—50 кубоў раствору замест

20—25. Адна бетонамяшалка дрэнна спраўлялася з нагрузкай. Горскі рэканструяваў падачу інертнага матэрыялу. Зімой наладзіў абагрэў раствору».

— Хлопец ён увішны,— сказаў Мікалай Пупкоў, майстар БУ-53, а А. Гункевіч, старшы інжынер тэхнагляду камбіната, дадаў: «Горскаму скажаш: «Эдзік, трэба!», і ён — усё, будзе зроблена...»

Самая маладая ў брыгадзе, Валя Клімук, якая пайшла са швачак у бетоншчыцы, дадала: «Горскі за сваіх людзей хварэе».

Адмоўчвалася толькі Ліля Ш. Калі яна выйшла, мне растлумачылі: працуе нядаўна, прагналі з другога ўпраўлення. Лянуецца працаваць, капейка з'явіцца — не затрымаецца...

— Нічога, Горскі з яе чалавека зробіць,— пераканаўча сказала Валя.

●

Выпускнікоў Харкаўскага інжынерна-будаўнічага інстытута звычайна накіроўвалі ў Маскву, Адэсу, Кіеў... Калі ж у спісах упершыню з'явіўся Магілёў, жадаючых паехаць туды аказалася больш, чым прасілі. Мікалай Волчак атрымаў накіраванне на Лаўсанбуд.

Улетку Мікалай з'ездзіў у Магілёў. Сустрэўся з галоўным інжынерам трэста, падзяліўся думкаю, ці варта браць тэму дыпломнага праекта, звязаную з будаўніцтвам камбіната.

Галоўны інжынер параіў заняцца праектаваннем корпуса штапельнай вытворчасці. Атрымаўшы за дыплом «выдатна», Мікалай у лютым 1967 года пайшоў працаваць майстрам, а ў чэрвені 1970 здаваў штапельны корпус ужо старшым прарабам.

З пяці выпускнікоў Харкаўскага інжынерна-будаўнічага інстытута засталося ўсяго двое. З адным з іх, Мікалаем Волчакам, пазнаёмілася летась у чэрвені. На мітынг, прысвечаны здачы штапельнай вытворчасці, камітэт камсамола трэста запрасіў яго бацьку, калгасніка з Брэстчыны.



«Пяцімінутка» ў камсамольска-маладзёжнай брыгадзе будаўнікоў Яўгена Серафімовіча. Дружны калектыў апошняга паўгода ўсе вытворчыя заданні выконвае на 150 — 160 працэнтаў і па праве лічыцца лепшым у будтрэсце № 62.







Эдуард Мікалаевіч Горскі (майстар БУ-53) працуе на будоўлі з моманту закладкі завода.

— Вялікае дзякуй вам, Павел Данілавіч, што вырасцілі такога сына! — прагучэла з трыбуны мітынга.

Потым Мікалай павёў бацьку, жонку і сынка паказваць, як «прадуць і ткуць» штапель. Людзей амаль не відаць, усюды аўтаматы. Калі-нікалі чуўся званок: папярэджвала фотарэле — абарвалася нітка.

— Нават не верыцца, што людзі могуць пабудаваць такі цуд! — вырвалася ў Паўла Данілавіча.

Сын, які будаваў гэты «цуд», усміхаўся.

●

На кліч ударнай камсамольскай спачатку ідуць многія. І тыя, хто чакае ад будоўлі (бо яна — ударная) нейкіх асаблівых даброт і ўмоў працы. Быццам усё тут павінна быць, як у казцы. Потым пацяху адсыпаюцца. Застаюцца самыя-самыя, каму ўсё па плячы.

Камбінат будавалі тыя, у каго ставала пачуцця гаспадара, гонару за прадпрыемства, якое будуеш, на якім працуеш.

Не змаглі б мы будаваць такі гігант, калі б не паднялася на новую ступеньку індустрыяльная моц усёй рэспублікі за мінулыя пяцігодкі.

У сёмай пяцігодцы былі пабудаваны Полацкі нафтаперапрацоўчы, Гомельскі суперфасфатны, Гродзенскі азотнатукавы заводы...

У восьмай іх завяршалі, уводзілі ў дзеянне першыя агрэгаты Лукомльскай ДРЭС, першую чаргу Полацкага хімкамбіната, Мазырскага нафтаперапрацоўчага і Бабруйскага шыннага заводаў, Светлагорскага цэлюлозна-кардоннага камбіната...

Беларусь стала вялікай будаўнічай пляцоўкай, і кожная асобная будоўля ўжо сама па сабе магла быць і гордасцю, і славай яе.



Цэх корда. Намотчыца Аня Скавародкіна.

Фота Віталя БАРАНОЎСКАГА і Рамана ФАРБЕРА.

Камсамольска-маладзёжны калектыў штапельнага цэха. Камсорг змены Люба Свірыдава (ў цэнтры) і апаратчыкі Валянціна Ісачанка і Іосіф Бічэль.





Адзін з участкаў цэха ДМТ. Старшы апаратчык Мікалай Ніколін.

Дырэктывы XXIV з'езда партыі прадугледжваюць ў новай пяцігодцы заканчэнне будаўніцтва камбіната сінтэтычнага валакна. А рэзалюцыя XXVII з'езда Кампартыі Беларусі падкрэсліла: трэба ўвесці ў дзеянне новыя магутнасці, знайсці магчымасці па датэрміновым іх уводзе.

— Уяўляеш, якія наперадзе ў нас перспектывы? — напісала мне пасля гэтага Эля Каласкова, намеснік сакратара парткома камбіната «Лаўсан».— Гэта азначае, што будзе пабудаваны яшчэ адзін такі гігант!

●

Некалькі штрыхоў новай пяцігодкі.

У 1971 годзе камбінат павінен вырабіць 25.200 тон валакна. У 1975 годзе — 82.200—87.000. За пяцігодку больш чым у тры разы! За кошт чаго?

Пабудуюцца новыя вытворчасці. (За пяць гадоў трэба асвоіць 290 мільёнаў рублёў). Прадоўжыцца інтэнсіфікацыя вытворчых працэсаў, павялічыцца выхад гатовай прадукцыі. Палепшыцца структура вытворчых магутнасцяў, мадэрнізацыя абсталявання. На існуючых пляцоўках установяць дадатковае абсталяванне.

У новай пяцігодцы з'явяцца новыя віды прадукцыі — тэхнічная поліэфірная філаментная нітка для гумава-тэхнічных вырабаў, лаўсанавае валакно ў жгуце для камвольнай прамысловасці. Два тыпы высокатрывалага валакна ў жгуце — для шарсцяной і для футравай і дывановай прамысловасці і г. д.

Ставіцца задача: прадукцыйнасць працы павысіць на 36,3 працэнта, дабіцца, каб не менш як пяць відаў прадукцыі атрымалі Знак якасці.



Вытворчасць шоўку. Круцільшчыцы Наташа Шыцікава і Кацл Кускова запраўляюць машыну.

Цяпер на хвіліну азірнёмся назад, у восьмую пяцігодку. За яе гады асвоена асноўных фондаў на суму ў 130 мільёнаў рублёў. Гэта адпавядае прыкладна 2—3 прадпрыемствам хімічных валокнаў сярэдняй магутнасці.

За пяцігодку ўстаноўлена 31 тысяча тон складанага абсталявання.

Ёсць што параўноўваць! Ёсць над чым паразважаць...

●

...У невялікім калектыве здольнага работніка хутка заўважаць. А ў шматтысячным калектыве?

На камбінаце завялі картку з празаічнай назвай «форма «Т-2». Рабілі ў ёй заўвагі аб дзелавых і чалавечых якасцях работніка, з году ў год дапаўнялі згодна цэхавых атэстацыйных камісій.

Многіх спецыялістаў запрасілі з Магілёўскага завода штучнага валакна, з падобных прадпрыемстваў краіны.

Пасылалі вучыцца ў Англію, на фірму «Ай-Сі-Ай», з якой заключылі кантракт на пастаўку і мантаж абсталявання.

На камбінаце адкрылася і сваё спецвучылішча — ГПТВ-98.

Рабочыя і спецыялісты камбіната вучацца. Працуюць курсы мэтавага навучання: рабочых вучаць спецыфіцы таго ўчастка, дзе ім трэба будзе працаваць.

Рабочых, што перайшлі з падобных прадпрыемстваў, накіроўваюць адразу на вытворчыя ўчасткі. Але яны абавязкова заканчваюць курсы павышэння кваліфікацыі.

З першых жа дзён работы тэхаддзела на камбінаце арганізавана практыка навучэнцаў прафтэхвучылішчаў, студэнтаў ВНУ.

Для маладых спецыялістаў распрацоўваюцца асобныя рэфераты для абароны (механікам даюць тэхналагічныя тэмы, тэхнолагам — механічныя, каб і адны, і другія лепш разбіраліся ва ўзаемных пытаннях).

Пад кантроль узята вучоба завочнікаў, вячэрнікаў, на грамадскіх пачатках створаны вучэбна-кансультацыйны пункт.

Для навучання выкарыстоўваюцца машыны «Альфа-24». А паколькі кансультацыі, як правіла, даюць інжынерна-тэхнічныя работнікі, то аддзел лічыць, што яны павінны вучыцца і асновам педагогікі. Ім чытаюць цыкл такіх лекцый. Сама Юлія Рыгораўна Чахоўская, начальнік аддзела тэхнічнага кантролю камбіната, некалі скончыла педінстытут, а пачаўшы працаваць на камбінаце,— хіміка-тэхналагічны інстытут.



Круцільшчыца круцільна-выцяжнога цэха кордавага валакна Ліда Новікава.



Ясна, што такая адукаванасць дае магчымасць ёй упэўнена весці аддзел (у якім усяго тры чалавекі, а кола вырашаемых імі пытанняў, як бачым, даволі вялікае) і зазіраць у будучае. Іменна па ініцыятыве аддзела сумесна з абласной бібліятэкай вядзецца цяпер прафесійная арыентацыя школьнікаў. Аддзел падрыхтаваў памяткі з кароткім расказам аб найбольш цікавых на камбінаце спецыяльнасцях.

У сёлетнім годзе трэст «Лаўсанбуд» і камбінат пераходзяць на новую сістэму эканамічнага стымулявання.

Віктар Васільевіч Бугроў, начальнік планава-эканамічнага аддзела (эканамістам працуе 15 гадоў, крыху іранічны — да ўсіх, хто слаба разбіраецца ў эканоміцы; падцягнуты, абаяльны, эрудзіраваны; гутарачы з ім, міжволі думаеш аб тым, што быць эканамістам сёння не столькі модна, колькі цяжка), расказваў мне пра асноўныя моманты, на якіх трэба заастрыць увагу калектыву ў «пераходны момант». Галоўнае — механізацыя і аўтаматызацыя. Іменна ад іх залежыць паскарэнне прадукцыйнасці працы. Здаецца, дробязь: паміж штапельнымі агрэгатамі няма пераходных мосткоў. Каб перайсці з аднаго на другі, трэба спускацца ўніз, потым падымацца ўгору. Колькі часу марна траціцца...

На камбінаце разгарнулася эканамічная вучоба. Створана 60 гурткоў, у якіх займаецца 2.100 чалавек. Узрост да 30 гадоў.

Выкладчыкі — з ліку інжынераў, тэхнікаў і эканамістаў цэхаў, якія самі спачатку слухаюць лекцыі і здаюць экзамены, а потым ужо выступаюць перад слухачамі.

●



У кабінеце тэхніка-эканамічнай вучобы. Рабочыя цэха ДМТ рыхтуюцца да семінарскіх заняткаў на навучальна-кантралюючай машыне.

У новай пяцігодцы калектыў камбіната мяркуе знізіць сабекошт прадукцыі на суму 5 мільёнаў рублёў.

Ясна, што гэтага не дамагчыся без грунтоўнай эканамічнай падрыхтоўкі.

Дэталёва прадумаў калектыў камбіната, якімі працоўнымі падарункамі адзначыць XXIV з'езд партыі. 122 брыгады і змены сталі на 100-дзённую перадз'ездаўскую вахту, узяўшы павышаныя сацыялістычныя абавязацельствы.

Сярод камсамольцаў разгарнулася спаборніцтва за права называцца калектывам імя XXIV з'езда КПСС.

Калектыў камбіната абавязаўся выканаць квартальны план па вытворчасці штапельнага валакна і пярвічнай сыравіны лаўсану 29 сакавіка, даць звыш плана 100 тон поліэфірнага валакна.

Узятыя абавязацельствы выкананы з гонарам.

●

Камбінат будуецца. Сёлета трэба ўвесці поўны комплекс вытворчасці поліэфірнага філаментнага валакна.

Пачнецца будаўніцтва вытворчасці чыстай тэрэфталатавай кіслаты і поліэфірнага валакна няспынным спосабам — магутнасцю ў 24 тысячы тон у год. Яны ствараюцца ў краіне ўпершыню. Поўнасцю будаўніцтва завершыцца ў 1975 годзе.

У канцы пяцігодкі завершыцца і будаўніцтва трэцяй чаргі камбіната магутнасцю 50 тысяч тон штапельнага валакна.

Трэсту «Лаўсанбуд» работы хопіць надоўга...

●

Разам з вялікімі планамі на будучае ўсплываюць і «старыя праблемы». Галоўная з іх — недахоп людзей, затрымка будаўнікамі здачы жылля, інтэрнатаў; гэтыя дзве праблемы цесна ўзаемазвязаныя.

— Летам прыйдуць на работу да нас 1.200 выпускнікоў з прафтэхвучылішча, а куды іх дзець? — заклапочана гаварыў Анатоль Жыватнюк, сакратар камітэта камсамола.— У мінулым годзе здалі адзін інтэрнат, а сёлета і гэта ці будзе... Мала таго, што будаўнікі марудзяць, дык Белдзяржпраект дакументацыю не дае, хаця і абяцаў...

Камсамольская арганізацыя камбіната расце імкліва. У студзені 1971 года на ўліку было каля 2 тысяч камсамольцаў.

Моладзь — ядро калектыву. І, калі ўлічыць, што за пяцігодку на камбінаце будзе 14—15 тысяч чалавек, можна зразумець Анатоля Жыватнюка.

●

Шмат яшчэ праблем падказвае сённяшні дзень, не менш іх узнікне і заўтра.

З акна будынка трэста «Лаўсанбуд» камбінат здаецца велізарнай будаўнічай пляцоўкай. Цяжка паверыць, што ён ужо працуе, выдае прадукцыю.

...Пяць гадоў бываю на будоўлі. Пяць гадоў — тэрмін дастатковы, каб мець свае адносіны да яе. І пачуццё ў мяне такое, быццам парадзілася з ёю.





# НА КАРЫСЦЬ ІНДУСТРЫЯЛІЗАЦЫІ

Агульнавядомыя поспехі нашай краіны ў развіцці друку. Газета, часопіс, кніга сталі жыццёвай неабходнасцю кожнага савецкага чалавека. Вядома і тое, што ўзровень друку нашых дзён уяўляе сінтэз багатага вопыту, накопленага за ўвесь перыяд свайго існавання. Сённяшнія нашы газеты, часопісы, кнігі па сваім журналісцкім і пісьменніцкім майстэрстве, паліграфічным выкананні, афармленні і вёрстцы не падобныя не толькі на даваенныя, але нават і на выданні, якія выходзілі ўсяго некалькі гадоў назад.

Аднак жыццё імкліва крочыць наперад. Растуць маштабы камуністычнага будаўніцтва. Павышаюцца патрабаванні і да друку. Задачы нашай прэсы такія ж шматгранныя, як і шматгранная дзейнасць Камуністычнай партыі. Цяпер, як і шмат гадоў назад, выключна актуальныя парады У. І. Леніна аб тым, што мы абавязаны ўмець і прапагандаваць, і арганізоўваць, і агітаваць найбольш даступна, найбольш зразумела, найбольш ясна і жыва. Таму друк павінен развівацца няспынна, заўсёды ўзбагачаючыся новым вопытам, а таксама ўмела выкарыстоўваючы ўсё тое лепшае, што выпрацавана папярэдняй практыкай.

У дзейнасці друку Беларусі вельмі прыкметным з'яўляецца перыяд будаўніцтва сацыялізма ў нашай краіне. Па важнасці і складанасці задач, па глыбіні сацыяльна-эканамічных працэсаў, якія прэса адлюстроўвала на сваіх старонках і дапамагала ажыццяўляць на справе, па багацці форм і метадаў работы газет і часопісаў, па актыўнасці і масавасці ўдзелу ў іх шырокіх колаў народа перыяд барацьбы за сацыялізм быў адным з самых гераічных у гісторыі партыйна-савецкага друку. Асабліва вызначаецца барацьба прэсы ў гэты перыяд за эканомію і беражлівасць на карысць індустрыялізацыі, якая вельмі цесна перакрыжоўвалася з рашэннем многіх іншых важнейшых пытанняў, з прапагандай ленінскага плана будаўніцтва сацыялізма і рашэнняў XIV з'езда ВКП(б).

5 студзеня 1926 года ЦК КП(б)Б зацвердзіў тэзісы аб выніках работы XIV з'езда, якія з'явіліся важнай падмогай у вуснай і друкаванай прапагандзе, дапамагалі дзелавіта і мэтанакіравана весці растлумачальную работу. Вусная прапаганда сярод членаў партыі і камсамольцаў арганізоўвалася шляхам чытання дакладаў, а таксама вывучэння матэрыялаў па важнейшых пытаннях, якія абмяркоўваліся на з'ездзе. Сярод беспартыйных яна праводзілася галоўным чынам у форме дакладаў на масавых сходах, растлумачэння шэрагу праблем пры правядзенні розных кампаній, шляхам арганізацыі вечароў пытанняў і адказаў і г. д. У раёнах былі створаны курсы па вывучэнні рэзалюцый XIV з'езда партыі. Агітпроп ЦК КП(б)Б распрацаваў праграму вывучэння рашэнняў XIV з'езда партыі і разаслаў яе ўсім партыйным ячэйкам і камітэтам.

Аднак у вуснай прапагандзе вельмі слабым было адно важнае месца — недахоп кваліфікаваных, тэарэтычна падрыхтаваных лектараў і дакладчыкаў. Асабліва востра адчувалася гэта ў нізавых партыйных і камсамольскіх арганізацыях.

У гэтых умовах роля друку была выключна вялікая і не толькі таму, што ён у руках партыі быў самым масавым сродкам, але і таму, што праз друк можна было найбольш кваліфікавана весці прапаганду партыйных рашэнняў.

Друк Беларусі канцэнтраваў у гэты час сваю ўвагу на наступных трох напрамках: публікаваў прапагандысцкія артыкулы, у якіх растлумачваліся асноўныя палажэнні прынятых з'ездам рашэнняў і перш за ўсё па пытаннях індустрыялізацыі; асвятляў вялікую агітацыйна-масавую работу партыйных арганізацый, якая вялася на месцах, усямерна падтрымліваючы і пашыраючы лепшы вопыт; растлумачваючы рашэнні з'езда аб выступленнях апазіцыі, друк выкрываў антыпартыйны, антынародны характар яе дзейнасці.

Адначасова ЦК Кампартыі Беларусі ўшчыльную падключаў друк да практычнага вырашэння задач індустрыялізацыі і асабліва пытанняў накаплення сродкаў для індустрыялізацыі.

З вялікай ініцыятывай і знаходлівасцю вяла барацьбу за рэжым эканоміі газета «Звязда». У поўнай меры разгарнулася гэтая тэма на яе старонках з сакавіка 1926 года. 21 сакавіка падборку пад агульным загалоўкам «На барацьбу з непрадукцыйнымі выдаткамі» газета суправаджае словамі да рабселькораўскага актыву з просьбай дапамагчы арганізаваць паход за эканомію ва ўсю шырыню, каб ахапіць усе дзяржаўныя, гаспадарчыя і кааператыўныя ўстановы. Пад рубрыкай «Рэжым эканоміі—шлях да сацыялізма» газета з нумара ў нумар змяшчала артыкулы, карэспандэнцыі, інфармацыйныя заметкі аб барацьбе з безгаспадарчасцю, аб павышэнні прадукцыйнасці працы, ганьбавала бракаробаў, расказвала аб рабоце грамадскіх арганізацый і ўсіх працоўных па ажыццяўленні рэжыму эканоміі.

Шматлікія заметкі і карэспандэнцыі «Звязды» дапаўняліся змястоўнай масавай работай рэдакцыі. З сакавіка па май 1926 года яна правяла конкурс на лепшую прапанову ў галіне эканоміі. Асноўнай арганізуючай сілай конкурсу з'явіліся партыйныя ячэйкі і карэспандэнты друку. 2 красавіка 1926 года газета звярнулася да сваіх актывістаў: «Рабкоры шклозаводаў «Камінтэрн», «Кастрычнік», «Ноўкі», «Ільіч», «Труды», ільнопрадзільнай фабрыкі «Дзвіна», мясцпрома № 3, швейнай «Прафінтэрн», панчошна-трыкатажнай (Віцебск), папяровай «Чырвоная зорка», абутковай ВСНГ, Міншвея, «Чырвоны Кастрычнік» і інш.— мы чакаем ад вас карэспандэнцый на конкурс». У адказ на такія заклікі ў газеты ішоў вялікі паток пісем. Толькі ў рэдакцыю «Звязды» ў часе конкурсу паступіла звыш тысячы карэспандэнцый.

У красавіку 1926 года па пытаннях эканоміі «Звязда» змясціла 24 падборкі, 3 перадавыя, 1 падперадавы, 13 аўтарскіх артыкулаў, 4 справаздачы аб дакладах і 3 фельетоны. Толькі ў падборкі ўключаны 109 рабкораўскіх допісаў рознай тэматыкі: 58 допісаў аб рабоце прадпрыемстваў, 24—аб дзейнасці гаспадарчых органаў, 16—аб дзяржаўным апараце, 11—аб ажыццяўленні рэжыму эканоміі ў вёсцы. За першы год—з сакавіка 1926 года па сакавік 1927 года ў «Звяздзе» змешчана 23 перадавыя, 13 падперадавых, 61 аўтарскі артыкулаў, 27 фельетонаў, 610 рабкораўскіх допісаў, 1 агляд і 11 справаздач аб розных сходах і нарадах, прысвечаных эканоміі.

«Дзесяткі тысяч чытачоў і сотні рабкораў, дырэктараў і загадчыкаў,—пісала «Звязда» ў красавіку 1926 года ў артыкуле «За рэжым эканоміі»,—пад уплывам штодзённых допісаў становяцца міжвольна перад гэтым лозунгам, канцэнтруючы свае думкі на пытаннях, як пазбегнуць непрадукцыйных і знізіць накладныя выдаткі, узняць прадукцыйнасць працы, палепшыць якасць прадукцыі, пашырыць творчую ініцыятыву і да т. п. Адным словам, тыя дзесяткі і сотні розных заўваг і артыкулаў, якія штодзённа з'яўляліся на старонках газеты «Звязда», гавораць пра тое, што першая вада кранулася і рака выйшла з берагоў. Чакаецца крыгаход, які павінен усе гэтыя розныя «памылачкі», «выпадковасці», «непрадбачанасці» зняць са шляху нашага сацыялістычнага будаўніцтва і знесці беззваротна, як крыгаходам уносяцца па рацэ ўсе перамешаныя з гразёю кучы снегу».

Адкінуўшы домыслы аб магчымасці эканоміі на шкоду матэрыяльным умовам жыцця працоўных, часопіс «Савецкае будаўніцтва» на аснове аналізу стану розных гаспадарчых участкаў паставіў наступныя задачы, вакол якіх неабходна было сканцэнтраваць работу: 1) цвёрдае правядзенне рэжыму эканоміі ва ўсіх галінах будаўніцтва; 2) мабілізацыя ўсіх унутраных рэсурсаў, сіл і ўвагі для ўзняцця прадукцыйнасці; 3) узмацненне спецыяльных відаў кааперацыі і развіццё прадпрыемстваў па перапрацоўцы сельскагаспадарчых прадуктаў; 4) узмацненне арганізацыі мас вакол прасцейшых і даступных сялянству эканамічных мерапрыемстваў; 5) шырокае развіццё прамысловага будаўніцтва ўсіх відаў; 6) інтэнсіфікацыя сялянскай гаспадаркі і больш трывалае кааперыраванне яе.



Прадметнасць і канкрэтнасць—вось што вызначала многія выданні. «Не голым лозунгам павінна ажыццяўляцца гаспадарчымі і кааператыўнымі арганізацыямі эканомія,—пісаў часопіс «Кааператыўнае жыццё»,— і не дробнымі, тэхнічнага парадку мерапрыемствамі, а комплексам мерапрыемстваў па змяненні асноўных метадаў гаспадарання і іх рэалізацыі».

Значную ролю ў вырашэнні актуальных праблем эканоміі і развіцця гаспадаркі рэспублікі ў першыя гады індустрыялізацыі адыграў «Белорусский коммерческий бюллетень» [1]. Новы тэмп эканамічнага жыцця краіны, хуткі рост гандлю і прамысловасці выявілі патрэбу ў шырокай эканамічнай інфармацыі ў мэтах няспыннай арыентацыі кожнай гаспадарчай арганізацыі ў канкрэтных гандлёвых абставінах. Бюлетэнь садзейнічаў росту эканамічнай аддачы ад хуткай рэалізацыі прамысловай прадукцыі.

Аднак «Белорусский коммерческий бюллетень» не быў толькі інфармацыйным органам. У кожным яго нумары ўзнімаліся розныя праблемы гандлю і абслугоўвання насельніцтва. Прычым разглядаліся яны ў самым шырокім аспекце, у тым ліку і ў плане забеспячэння асобных галін прамысловасці неабходнымі вырабамі іншых галін. Шмат месца адводзілася нарыхтоўцы сельскагаспадарчых прадуктаў, рабоце прамысловай кааперацыі, транспарту і г. д.

Барацьба за ўдасканаленне гандлю, за апаратыўнае і вычарпальнае задавальненне патрэб прадпрыемстваў у сыравіне і вырабах сумежных галін, дапамога дзяржаве ў рашэнні чарговых задач гаспадарчага развіцця—вось шляхі, на якіх часопіс шукаў магчымасць зніжэння непрадукцыйных выдаткаў пры адначасовым паляпшэнні справы.

Кампанія за рэжым эканоміі шырылася не толькі ў горадзе, але і ў вёсцы. Друк паказваў, як працоўнае сялянства ўключалася ў гэтую кампанію, раскрывала яго імкненне па павелічэнні ўкладу ў ажыццяўленне індустрыялізацыі. «Пралетарскі горад,—пісала газета «Чырвоная змена» ў красавіку 1926 года,—пачаў праводзіць вялікую кампанію «За рэжым эканоміі». Водгукі гэтай кампаніі дайшлі і да вёскі. Вясковая камсамолія, якая заўсёды чуйна прыслухоўвалася да таго, што робіць горад, пачынае варушыцца: у асяроддзі яе расце жаданне данесці задачы гэтай кампаніі ў вёску, прымяніць там многае з таго, за што энергічна прыняўся горад. Але як прымяніць?—вось пытанне, з якім зараз сутыкаюцца вясковыя камсамольцы. Як прымяніць лозунгі гэтай кампаніі да вясковых умоў?» «У нас аўтамабіляў няма і нічога такога асаблівага няма»,—гавораць яны. І газета адказвае: «У вёсцы кампанія «За рэжым эканоміі» павінна праводзіцца пад знакам рашучай барацьбы за беражлівыя адносіны да савецкага дабра, да ўсяго таго, што каштоўнае ў справе будаўніцтва сацыялізма...»

«Вёска не меншую мае патрэбу ў эканоміі, чым горад»,—пісала «Віцебская сялянская газета». Растлумачваючы сялянам характар праводзімай кампаніі, яна ўказвала, што «рэжым эканоміі азначае ўменне расходаваць адну капейку там, дзе расходавалася дзесяць, і не траціць ні капейкі на тое, без чаго можна абысціся».

Характэрнай асаблівасцю друку Беларусі ў барацьбе за эканомію з'яўлялася яго рэгулярны і настойлівы зварот да працаўнікоў вёскі. У гэтым заключаецца спецыфіка, якая выцякае з асаблівасцяў становішча рэспублікі ў той час. Колькасць рабочых, занятых у фабрычна-заводскай прамысловасці, складала ў Беларусі толькі 1,27 працэнта ад усяго насельніцтва, у саматужна-рамеснай—2,1, у будаўніцтве—0,29, а ў сельскай гаспадарцы—91,16 працэнта.

X з'езд КП(б)Б, які адбыўся 3—10 студзеня 1927 года, звярнуў увагу, што работа па рэжыме эканоміі хаця і рушыла наперад, але носіць пакуль характар дробнай эканоміі. У ліку прычын, якія абумоўліваюць такую з'яву, з'езд назваў адсутнасць «шырокай агалоскі праводзімай работы і яе вынікаў». Адну з галоўных задач Кампартыі з'езд вызначыў так: «Рашуча праводзіць рэжым эканоміі ва ўсіх галінах работы, скарачаючы, у асаблівасці, адміністрацыйныя выдаткі і ўпраўленчы апарат, змагацца супраць усялякіх скажэнняў рэжыму эканоміі».

Самай баявой і найбольш складанай задачай друку з'явілася ўцягненне ў работу па эканоміі ўсіх дзяржаўных і гаспадарчых звенняў, усіх працоўных. «Уцягнуўшы масу на лозунгу эканоміі ў гаспадарчае будаўніцтва,—гаварыў В. У. Куйбышаў,—мы паставім і яе, і ўсіх гаспадарнікаў тварам да твару з рацыяналізацыяй як з адзіным далейшым шляхам паляпшэння гаспадаркі».

Рацыяналізацыя заняла цэнтральнае месца ў «Звяздзе», «Рабочем», часопісе «Савецкае будаўніцтва» і ў многіх іншых выданнях. Газеты і ча-

[1] Першы нумар бюлетэня выйшаў 2 чэрвеня 1925 г. Выдаваўся Наркаматам унутранага гандлю БССР, Мінскай гандлёвай біржай і Беларускім аддзяленнем камерцыйнага тэлеграфнага агенцтва (БелКТА) перыядычнасцю тры разы на тыдзень.

сопісы растлумачвалі сутнасць і метады сацыялістычнай рацыяналізацыі, яе адрозненне ад капіталістычнай, неабходнасць актыўнага ўдзелу мас ва ўдасканаленні вытворчасці. Друк падкрэсліваў, што асноўныя напрамкі рацыяналізацыі ў прамысловасці, напрыклад, заключаюцца ў механізацыі вытворчасці, спецыялізацыі прадпрыемстваў, устанаўленні стандартаў вырабаў, арганізацыі вытворчасці бесперапынным патокам і г. д. Растлумачваліся асноўныя напрамкі рацыяналізацыі і па іншых сферах вытворчасці. Лепшыя калектывы, партыйныя арганізацыі ставіліся ў прыклад, паказваўся іх вопыт, а адстаючыя—крытыкаваліся. Характэрна, што газеты, як правіла, не пакідалі сваіх крытычных матэрыялаў без увагі, нярэдка выступалі паўторна ўжо з указаннем канкрэтных зажымшчыкаў крытыкі.

У красавіку 1928 года ЦК КП(б)Б падвёў некаторыя вынікі вуснай і друкаванай агітацыі і прапаганды па пытаннях рацыяналізацыі вытворчасці, зніжэння сабекошту ў прамысловасці і рэжыму эканоміі. Нягледзячы на цэлы шэраг дасягненняў, ЦК КП(б)Б прызнаў, што шырокія народныя масы ўсё яшчэ слаба ўцягнуты ў практычную работу. Бясспрэчна, газеты «Звязда», «Рабочий», «Октябрь», «Чырвоная змена» адлюстроўвалі на сваіх старонках дырэктывы партыі па пытаннях рацыяналізацыі вытворчасці, зніжэння сабекошту і рэжыму эканоміі. У той жа час у друку не было звернута дастатковай увагі на асвятленне вопыту вытворчых нарад, на прыцягненне рабкораў, тэхнічнага персаналу і гаспадарнікаў да асвятлення рацыяналізацыі і зніжэння сабекошту.

Мала звярталася ўвагі на тое, якія вынікі даюць публікуемыя ў газетах допісы і як рэагуе на іх адміністрацыя.

Газеты, асабліва «Рабочий», у асвятленні рацыяналізацыі часамі збіваліся на сенсацыі і аднабаковы паказ дзейнасці прадпрыемстваў і ўстаноў—ці хваляць, што ўсё добра, ці пішуць, што ўсё дрэнна, чым дэзарыентавалі чытача.

ЦК КП(б)Б указаў таксама і на недастаткова шырокае асвятленне гэтых пытанняў у насценным друку.

Апрача спецыяльных пастаноў, ЦК КП(б)Б рэгулярна, пры разглядзе іншых пытанняў, выказваў свае рэкамендацыі і даваў адпаведныя ўказанні друку па асвятленні важнейшых праблем. Пленум ЦК Кампартыі Беларусі ў маі 1928 года, разглядаючы палітычныя вынікі гаспадарчых кампаній, пытанні рацыяналізацыі і зніжэння сабекошту, прапанаваў «узмацніць на старонках газет асвятленне пытанняў гаспадарчага будаўніцтва, адзначаючы недахопы і скрыўленні побач з дасягненнямі». Аддзелу друку ЦК КП(б)Б даручалася звярнуць увагу на ўмацаванне кадрамі аддзелаў эканомікі і рабочага жыцця ў газетах. 9 жніўня 1929 года бюро ЦК КП(б)Б даручыла рэдакцыям газет узмацніць асвятленне выканання дырэктыў аб зніжэнні сабекошту і паляпшэнні якасці прадукцыі. Падобнага роду ўказанні даваліся і па многіх іншых пытаннях.

Такое кіраўніцтва прэсай, пастаянная ўвага да галоўных участкаў і праблем дапамагала газетам і часопісам у асноўным паспяхова спраўляцца з ускладзенымі на іх абавязкамі і, галоўнае,—лепш рашаць канкрэтныя пытанні сацыялістычнага будаўніцтва.

У самай цеснай сувязі з ажыццяўленнем рэжыму эканоміі вялася барацьба за зніжэнне цэн. Партыя зыходзіла з неабходнасці няўхільнага правядзення курсу на зніжэнне прамысловых цэн. Гэты курс адпавядаў інтарэсам працаўнікоў горада і вёскі, пашыраў рынак збыту прадукцыі прамысловасці, якая няспынна развівалася. У сваю чаргу, праводзіць палітыку зніжэння цэн немагчыма было без самага строгага рэжыму эканоміі ў гандлёвых арганізацыях, без зніжэння накладных выдаткаў, скарачэння апарату, пераадолення безгаспадарчасці і нядбайнасці.

З усёй вастрынёй перад друкам паўстала задача вывучэння эканомікі, без чаго немагчыма было размаўляць з чытачом на аснове пісьменнага аналізу канкрэтных фактаў і з'яў. У рэдакцыях разгарнулася вучоба журналістаў, што адбілася на эканамічнай сталасці многіх артыкулаў. Вызначаўся часопіс «Савецкае будаўніцтва»[1]. Ён збіраў і сістэматызаваў усё каштоўнае ў эканоміцы Беларусі, даваў парады па эканамічных праблемах. Першыя нумары «Савецкага будаўніцтва» дазволілі саюзнаму часопісу «Плановое хозяйство» канстатаваць, што калі беларускі эканамічны часопіс утрымаецца на вышыні гэтых нумароў, то «ён будзе мець падставу набыць вагу і значэнне не толькі ў межах сваёй рэспублікі, але і перш за ўсё ў агульнасаюзным цэнтры».

Характэрнай асаблівасцю друку Беларусі з'яўлялася паглыбленне яго даследчай дзейнасці. Развіваўся яго аналітычны пачатак. На аснове аналізу падзей і з'яў рабіліся каштоўныя вывады і рэкамендацыі па ўдасканальванні арганізатарскай і ідэалагічнай работы, па выпрацоўцы дзейсных форм кіраўніцтва. Выразна вызначаліся галоўныя напрамкі, на якіх неабходна было сканцэнтравацца. Так, на аснове аналізу канкрэтнай практыкі часопіс «Савецкае будаўніцтва» ў лістападзе 1926 года ўказваў, што ў рабоце па зніжэнні цэн асабліва важныя: 1) барацьба з парушэннямі нізавой кааператыўнай сеткаю ўстаноўленых гранічных надбавак на асноўныя прамтавары; 2) больш жорсткае скарачэнне накладных і гандлёвых выдаткаў у дзяржаўных гандлёвых арганізацыях і кааператывах; 3) спрашчэнне структуры кааператыўнай сістэмы, рацыяналізацыя тавараправодзячай дзяржаўнай сеткі і зніжэнне цэн за кошт атрыманай эканоміі; 4) уцягненне рабоча-сялянскага актыву ў работу па зніжэнні цэн, скарачэнні накладных выдаткаў і г. д.

[1] Пачаў выдавацца ў студзені 1926 года замест часопіса «Народное хозяйство Белоруссии».



Кожны з гэтых пунктаў з'явіўся вынікам грунтоўнага аналізу становішча спраў у гарадах і вёсках рэспублікі.

У наступных нумарах часопіс паказваў, як у Гомельскай, Мазырскай, Полацкай і іншых акругах, на прамысловых прадпрыемствах і гандлёвай сетцы Мінска праводзіліся ў жыццё гэтыя рэкамендацыі, наколькі эфектыўна яны выкарыстоўваліся для вырашэння праблем зніжэння цэн. Часопіс «Беларуская работніца і сялянка» ўключыў у гэтую работу жанчын—работніц прамысловых прадпрыемстваў і жанчын-сялянак, звяртаючы ўвагу на велізарную іх сілу ў сацыялістычным будаўніцтве і падкрэсліваючы, што «пытанне зніжэння рознічных цэн — гэта пытанне сілы ці слабасці саюзу рабочага класа і сялянства».

У пачатку 1927 года ў эканоміцы рэспублікі выявіўся шэраг упушчэнняў, якія тармазілі ўсю работу па эканоміі. За першае паўгоддзе 1926—1927 гадоў сабекошт па прамысловасці ВСНГБ узрос на два працэнты. Па асобных галінах рост яго быў яшчэ большы: па шкляной—да 9 працэнтаў, па папяровай—7 працэнтаў, па фанернай—5,2 працэнта. Друк узяў пад неаслабны кантроль барацьбу за зніжэнне сабекошту. Часопіс «Прафесіянальны рух Беларусі» звярнуў увагу чытачоў, што «пытанні зніжэння сабекошту з'яўляюцца ў гэты час адной з сур'ёзнейшых праблем, над рашэннем якой неабходна сканцэнтраваць увагу самых шырокіх працоўных мас».

Друк з нумара ў нумар звяртаўся да рабочых з настойлівымі заклікамі. «Толькі зніжэннем сабекошту прадукцыі,—пісала газета «Савецкая Беларусь»,—можна замацаваць нашы дасягненні ў справе зніжэння цэн. Толькі зніжэннем сабекошту можна дасягнуць зніжэння выдаткаў вытворчасці і набліжэння іх узроўню да выдаткаў сусветнай прамысловасці. Толькі зніжэннем сабекошту можна дасягнуць паскарэння тэмпу індустрыялізацыі краіны. Толькі зніжэннем сабекошту можна стварыць цвёрдыя асновы для далейшага паляпшэння матэрыяльнага дабрабыту рабочых і сялян».

Ад такіх заклікаў друк ішоў далей—шукаў асноўныя звенні, з дапамогай якіх можна дамагчыся зніжэння сабекошту. У якасці важнейшых і першачарговых высоўваліся наступныя задачы: 1) павышаць прадукцыйнасць працы і кваліфікацыю рабочых; 2) удасканальваць тэхнічныя нормы па выдаткаванні сыравіны, паліва, матэрыялаў, арганізаваць іх бесперапынную дастаўку на прадпрыемствы; 3) лепш выкарыстоўваць рабочую сілу, вытворчыя плошчы і матэрыяльныя сродкі прадпрыемстваў; 4) скарачаць адміністрацыйна-гаспадарчыя выдаткі, рабіць больш танным банкаўскі крэдыт.

Важнай крыніцай грашовых накапленняў з'явіліся дзяржаўныя пазыкі, ашчадныя касы і мабілізацыя сродкаў у насельніцтва праз падатковыя фінансавыя плацяжы. Пры дапамозе друку партыйныя камітэты вялі планамерную прапаганду дзяржаўнай пазыкі і ашчадных кас, разгортвалі арганізатарскую работу па падпісцы на пазыкі і па выплаце падатковых плацяжоў. Дзелавітасць і яркасць у гэтай рабоце была характэрна для многіх газет. Прачытаўшы загаловак, чытач ужо схопліваў галоўнае: «Пазыка індустрыялізацыі дае яе трымальнікам шэсць працэнтаў прыбытку ў год і 93.200 выйгрышаў на суму 12.006.000 рублёў». «Пры падпісцы на пазыку індустрыялізацыі калектывам рабочых і служачых даецца растэрміноўка на 7 месяцаў», «У «Двухтыднёвіку зберажэнняў» абавязак кожнага рабочага, селяніна і служачага купіць аблігацыю пазыкі індустрыялізацыі», «Аблігацыі пазыкі ў руках працоўнага—сведчанне актыўнага ўдзелу ў будаўніцтве сацыялізма», «Ні аднаго члена прафсаюза без аблігацыі пазыкі індустрыялізацыі», «Поспех пазыкі—новы камень у падмурак сацыялістычнага будаўніцтва», «Праз пазыку індустрыялізацыі—да ўзмацнення магутнасці СССР». Усе гэтыя прыклады з газеты «Рабочий». Але такой жа мэтанакіраванасцю вызначаліся і многія іншыя газеты.

Вельмі часта ЦК КП(б)Б, акруговыя, гарадскія і раённыя камітэты партыі прымалі пастановы, якія нацэльвалі друк на самы актыўны ўдзел у рэалізацыі пазыкі. 14 кастрычніка 1927 года ў сувязі з выпускам пазыкі

індустрыялізацыі бюро ЦК КП(б)Б рашыла арганізаваць праз друк конкурс прадпрыемстваў і ўстаноў за павелічэнне падпіскі на пазыку. ЦК КП(б)Б прызнаў неабходным часцей прыцягваць адказных работнікаў для выступленняў у друку, а таксама на сходах рабочых і служачых.

Газеты шукалі і знаходзілі лепшыя формы прапаганды пазыкі, разгортвалі спаборніцтва за яе паспяховую рэалізацыю. Віцебская «Заря запада», напрыклад, прапагандуючы пазыку індустрыялізацыі 1927 года, пісала: «Спяшайцеся падпісацца на пазыку! Калектыўнымі намаганнямі збяром сродкі на індустрыялізацыю краіны. «Самаход» даў 2230 рублёў. Падпісалася 95 працэнтаў рабочых». У наступным нумары газета паведамляе: «450.000 рублёў падпіскі павінна даць Віцебшчына. На цэлым радзе прадпрыемстваў рабочыя падпісаліся на пазыку на 100 працэнтаў. Адстаючыя, падцягніцеся!» 20 кастрычніка «Заря запада» пісала, што «за першыя два тыдні падпіска дала 100.000 рублёў... Трэба спяшацца з падпіскай на пазыку!» 10 лістапада газета адзначала, што «на 1 лістапада падпіска на пазыку індустрыялізацыі дала 285.000 рублёў...», а 29 лістапада паведамляла, што падпіска па акрузе дасягнула 392.000 рублёў. Так з нумара ў нумар газета інфармавала аб ходзе падпіскі, адзначала перадавікоў, называла адстаючых. У студзені 1928 года, як бы падводзячы вынік зробленага, «Заря запада» пісала: «Для ўздыму індустрыялізацыі наш урад выпусціў 200-мільённую пазыку індустрыялізацыі. Мы бачылі, што гэтая пазыка прайшла з вялікім поспехам... У прыватнасці, і наша Віцебшчына паказала, наколькі рабочыя масы прасякнуліся думкаю аб важнасці гэтай пазыкі, якая дала нам (па нашай акрузе) у паўтара раза больш той сумы, якую мы павінны былі выканаць».

Усё шырэй уключаўся ў гэты рух рабселькораўскі актыў. 11 лютага 1928 года рэдакцыі «Зари запада» і «Віцебскай сялянскай газеты» правялі акруговую нараду па пытаннях удзелу селькораў у распаўсюджванні сялянскай пазыкі. У сакавіку такая нарада адбылася ў Сіроціне, а затым і ў многіх іншых акругах і раёнах. Актывісты прэсы арыентаваліся не толькі на асвятленне ходу распаўсюджвання пазыкі, але і на правядзенне арганізатарскай работы на месцах.

Прапагандысцкая і шматбаковая арганізатарская работа Кампартыі Беларусі і яе друкаваных выданняў забяспечылі ў 1927 годзе падпіску на пазыку па рэспубліцы ў суме 5,7 мільёна рублёў, а ў 1928 годзе — 10.264 тысячы рублёў.

Вопыт папярэдніх гадоў браўся на ўзбраенне пры рэалізацыі чарговых пазык. 27 верасня 1929 года ЦК КП(б)Б у сувязі з выпускам пазыкі прапанаваў «рэдакцыям як цэнтральных, так і акруговых газет узмацніць папулярызатарска-растлумачальную работу ў друку, асвятляючы не толькі адмоўныя, але і дадатныя моманты ходу кампаніі, маючы на ўвазе, што дадатныя бакі работы па распаўсюджванні пазыкі сярод сялян павінны з'явіцца ўзорам таго, як трэба рэалізаваць пазыку для тых раёнаў і арганізацый, дзе кампанія праходзіць дрэнна».

З такіх указанняў газеты рабілі вывады. Многія друкаваныя выданні больш пачалі даваць выступленняў рабочых і калгаснікаў, упаўнаважаных па правядзенні падпіскі. З'явіліся і новыя формы, якія прапагандаваліся друкам. Сярод гэтых форм — збор сродкаў на набыццё калектыўных аблігацый. Ініцыятарам такога пачынання з'явілася газета «Калгаснік Беларусі», затым яго падхапілі іншыя выданні. На злёце рабселькораў Дрысенскага раёна, напрыклад, у снежні 1931 года карэспандэнты абавязаліся не толькі актыўна дапамагаць умацаванню маладых калгасаў і паляпшэнню насценных газет, але і рашылі арганізаваць збор сродкаў на набыццё калектыўнай селькораўскай аблігацыі ўнутранай пазыкі. Тут жа, на злёце, яны зрабілі буйны грашовы ўзнос.

Аднак ці ўсё рабілася на месцах для паспяховай рэалізацыі пазыкі? Побач з велізарнай работай партыйных, савецкіх, прафсаюзных і іншых арганізацый там-сям дапускаліся неабдуманыя дзеянні і несур'ёзны падыход да справы. Друк браў такія факты пад востры абстрэл. «Палеская праўда», напрыклад, у 1930 годзе зрабіла масавы рабкораўскі налёт на банкі, фінансавы аддзел і ашчадныя касы, дзе выявілася вялікая запазычанасць па пазыцы і нават факты выкарыстання сум, сабраных па пазыцы, для асабістых мэт. Па матэрыялах налёту гарком партыі прыняў рашучыя меры — некаторыя работнікі былі зняты з займаемых пасад, некаторыя — пераведзены на іншыя, менш адказныя ўчасткі. Арганізаваная рэдакцыяй сустрэча-гутарка за шклянкай чаю работнікаў акругкома, гарпрафсавета, гарсавета, фінаддзела і банка з рабкорамі і ваенкорамі паказала, што падпіска на пазыку заспела амаль усе камісіі садзеяння знянацку, а на машына-будаўнічым заводзе «Пралетарый» камісія даручыла правядзенне падпіскі рабочаму Шаціцыну, які перад гэтым катэгарычна адмовіўся падпісацца на пазыку.





На нарадзе рабселькораў і актыву Якаўлеўскага сельсавета Аршанскага раёна ў ліпені 1932 года сурова крытыкавалася дрэнная работа сярод калгаснікаў і сялян-аднаасобнікаў па размяшчэнні пазыкі. Аднак нягледзячы на крытыку, старшыня калгаса «10-ты з'езд Саветаў» Гаранкоў заявіў: «Навошта весці растлумачальную работу па пазыцы. У час выдачы грошай я проста вылічу з кожнага калгасніка на пазыку». Нарада, а затым і раённая газета «Ленінскі прызыў» далі рашучы адпор гэтаму адміністратару.

Першыя ашчадныя касы з'явіліся ў рэспубліцы ў 1923 годзе. Партыйныя арганізацыі рабілі ўсё, у тым ліку і з дапамогай друку, для таго, каб няўхільна рос іх аўтарытэт і значэнне ў акумуляванні свабодных грошай. Неўзабаве пасля XV партканферэнцыі агітпроп ЦК ВКП(б) разаслаў партыйным арганізацыям дырэктыву, у якой рэкамендаваў у перыядычным друку, асабліва ў сялянскім, рэгулярна змяшчаць матэрыялы пра ашчадныя касы ў выглядзе хронікі і артыкулаў, у якіх папулярызавалася б іх значэнне і асобныя віды іх аперацый. «Ашчадная каса, — пісала мазырская газета «Савецкая вёска», — з'яўляецца адным з надзейных месц, дзе працоўны можа захоўваць сваю працоўную капейку, ад якой карысць як для дзяржавы, так і для таго, хто яе паклаў». «Ашчадная каса — надзейная кішэнь і касір працоўных», — пісала «Віцебская сялянская газета». Смілавіцкая газета «Актывіст» раіла работнікам культурна-асветных устаноў «сістэматычна праводзіць папулярызацыю ашчаднай справы праз хаты-чытальні, бібліятэкі, клубы, чырвоныя куткі, нардом і г. д.» Рэкамендавалася пры гэтым прапагандзе ашчадных кас надаць пэўную ідэалагічную накіраванасць, падкрэсліваючы іх ролю не толькі ў вырашэнні буйных задач сацыялістычнага будаўніцтва, але і ў аздараўленні быту, рацыяналізацыі бюджэту сям'і, у барацьбе з п'янствам і іншымі ненармальнымі з'явамі.

У красавіку 1927 года ў рэспубліцы ўжо дзейнічала 481 ашчадная каса. Работа грамадскасці, прапагандысцкая дзейнасць друку дапамагала хутка пашыраць сферу іх дзеяння. У 1926 годзе сума астатку ўкладаў насельніцтва ў ашчадныя касы рэспублікі вырасла на 181 працэнт у параўнанні з папярэднім годам, а ў 1927 — на 36 працэнтаў у адносінах да 1926 года. Лік укладчыкаў за 1926—27 гады павялічыўся на 97,3 працэнта.

У 1927 годзе ў часе двухтыднёвіка зберажэнняў, што праводзіўся ў краіне, друк Беларусі яшчэ больш узмацніў прапаганду ашчадных кас. Не было ні аднаго нумара «Звязды», «Рабочего» і іншых газет без матэрыялаў на гэтую тэму. Многія газеты ўвялі пастаянныя аддзелы, дзе рабочыя і сельскія карэспандэнты расказвалі аб растучых маштабах ашчаднай справы на месцах. Толькі ў Мінску за першыя тры дні двухтыднёвіка колькасць укладчыкаў павялічылася на 373 чалавекі. Яны ўнеслі 31.414 рублёў. Па тэмпах накаплення ашчадныя касы пераўзыходзілі іншыя крыніцы, па якіх ішло прыцягненне прыватных зберажэнняў (банкі, сельскагаспадарчы крэдыт і г. д.).

Газеты «Звязда», «Рабочий», «Беларуская вёска», акруговыя, а затым і гарадскія, і раённыя ў значнай меры выкарыстоўвалі свой уплыў у мэтах мабілізацыі сродкаў у насельніцтва праз устаноўленыя органамі Савецкай улады падаткі. Так жа, як і па рэалізацыі дзяржаўнай пазыкі, некаторыя газеты практыкавалі спецыяльныя выпускі. У дапамогу насценнаму друку клімавіцкая газета, напрыклад, у лістападзе 1932 года адрукавала макет насценгазеты «Ударнік фінфронту» да конкурсу на лепшую работу па мабілізацыі працоўных на выкананне фінансавага плана. Адзначана вялікай ініцыятывай, знаходлівасцю, пошукам дзейнасць многіх іншых газет.

Дзякуючы намаганням партыйных арганізацый і іх друкаваных выданняў, прывядзенню ў дзеянне ўсіх унутраных крыніц, памеры сродкаў, якія паступалі ў рукі дзяржавы для скарыстання ў мэтах індустрыялізацыі, няўхільна раслі. У 1926—28 гадах Савецкай краіне ўдалося назапасіць і ўкласці ў сацыялістычную прамысловасць 3,3 мільярда рублёў, г. зн. у 2 з лішнім раза больш, чым за пяць гадоў аднаўленчага перыяду. Ажыццяўленне рэжыму эканоміі і накапленне дазволіла ў максімальнай меры выкарыстаць прыбавачны прадукт, які ствараўся на нацыяналізаваных Кастрычніцкай рэвалюцыяй прадпрыемствах, а таксама сродкі працоўнага сялянства, вызваленага Савецкай уладай ад арэндных плацяжоў памешчыкам і запазычанасці за зямлю банкам, для рашэння задач стварэння матэрыяльна-тэхнічнай базы зусім новага грамадства. Усе намеры працоўнага народа і яго свабодныя зберажэнні накіроўваліся на рэвалюцыйнае пераўтварэнне краіны, на будаўніцтва сацыялізма.

Друк у руках партыйных арганізацый з'явіўся тым сродкам, які дапамог аб'яднаць усе намаганні працоўных для ажыццяўлення рэжыму эканоміі, барацьбы з празмернымі і раздутымі штатамі, за рацыяналізацыю

вытворчасці, рацыянальнае выкарыстанне рабочай сілы, тэхнічных магчымасцяў, сыравіны і матэрыялаў, за няўхільны рост прадукцыйнасці працы і г. д.

Друк ажыццяўляў указанні У. І. Леніна аб тым, каб «збіраць камень за каменем трывалы падмурак сацыялістычнага грамадства». Газеты і часопісы зрабілі лозунг барацьбы за эканомію і збіранне сродкаў для індустрыялізацыі здабыткам усяго народа, развівалі рашучасць савецкіх людзей укараняць рэжым эканоміі ва ўсе галіны дзяржаўнага і гаспадарчага жыцця рэспублікі, зрабіць яго метадам сацыялістычнага гаспадарання, накіраваным на дасягненне найлепшых вынікаў з найменшымі затратамі. Прыводзіліся ў дзеянне і ўсе рычагі, якія садзейнічалі прыцягненню свабодных сродкаў насельніцтва.

Друк Беларусі вёў рашучую барацьбу супраць фактаў бюракратызацыі і апашлення рэжыму эканоміі, якія выяўляліся ў тым, што ў радзе выпадкаў рэжым эканоміі спрабавалі праводзіць без сувязі з агульнапалітычнымі задачамі партыі. Газеты і часопісы выхоўвалі ў працоўных нецярпімасць да раскрадальнікаў народнага багацця, стваралі вакол іх атмасферу нянавісці, пагарды і маральнага байкоту. Цэнтральнай думкай, якая пранізвала матэрыялы друку, з'ўлялася тое, што кожны савецкі чалавек павінен разглядаць рост свайго матэрыяльнага дабрабыту праз прызму вырашэння задач камуністычнага будаўніцтва, праз прызму ажыццяўлення задач індустрыялізацыі.

Якi б бок дзейнасці прэсы вы не ўзялі — агітацыйны, прапагандысцкі, арганізатарскі, — кожны з іх быў накіраваны на развіццё творчай актыўнасці мас, зацікаўленасці ў бурным росце грамадскай вытворчасці, што ў сваю чаргу з'явілася галоўным, вызначальным як у вырашэнні праблемы назапашання сродкаў, так і ў ажыццяўленні ўсіх планаў сацыялістычнага будаўніцтва.

У святле ўсіх гэтых вывадаў і фактаў зусім бязглуздымі з'ўляюцца выдумкі ідэолагаў імперыялізму, якія імкнуцца зганьбіць усё тое патрэбнае і карыснае, што рабіў наш народ, будуючы сацыялізм. Буржуазныя крытыкі сцвярджаюць, што галоўнай крыніцай зберажэнняў для развіцця прамысловасці ў СССР з'явілася нібыта рэзкае павышэнне прамых і ўскосных падаткаў на насельніцтва, і ў першую чаргу на сялянства. Факты гісторыі, у тым ліку і тыя, якія ідуць з аналізу дзейнасці друку Беларусі, гавораць пра тое, што не «прымусовасць» мабілізацыі сродкаў, а ўсебаковае выкарыстанне перавагі сацыялістычнай гаспадаркі і савецкай грамадскай сістэмы, уменне партыі арганізаваць масы на выкананне задач сацыялістычнага будаўніцтва з'явілася галоўным у вырашэнні грашовай праблемы для сацыялістычнай індустрыялізацыі.

Праведзеная Кампартыяй Беларусі і яе прэсай работа па эканоміі дала не толькі буйны эканамічны эфект, але і мела велізарнае выхаваўчае значэнне. Масы працоўнага народа выпрацоўвалі ў сабе пачуццё беражлівасці і руплівых адносін да грамадскай уласнасці і да дзяржаўнай капейкі. Кіруючыя кадры выпрацоўвалі ў сабе такі стыль і метады гаспадарання, якія дазвалялі нябачнымі тэмпамі развіваць усе галіны савецкай эканомікі.

Баявітасць, настойлівасць і паслядоўнасць, якія вызначалі газеты і часопісы другой паловы 20-х і пачатку 30-х гадоў, разнастайнасць прыёмаў і форм, якія тады прымяняліся, з'ўляюцца па шэрагу пазіцый добрым прыкладам для плённай дзейнасці сучаснай перыёдыкі.

Станіслаў МАРЦЭЛЕЎ.





# ЁСЦЬ ТАКІ ГАРАДОК...



Расказваюць такую легенду...

У Льва Сапегі былі дзве дачкі: Ружа і Ганна. Атрымалася — Ружанна. У касцёльным ружанскім дакуменце, датаваным 1850 годам, так праз два «н» і напісана. Мясцовыя жыхары кажуць «Ружана» або «Ражана», як і «Пружана». А Пружана належала князям Кобрынскім, назва ж пайшла ад княскай дачкі Пружаны, якую ў малым узросце на рацэ Муха уджаліла змяя, з-за чаго яна памерла і адкуль пайшоў старадаўні пружанскі герб: змяя паглынае дзіця.

Ружаны і Пружаны — суседзі. Паміж імі 45 кіламетраў. Асфальтаваная магістраль, гадзіна язды на аўтобусе.

Пружаны — райцэнтр, Ружаны — гарадок, адміністрацыйна падпарадкаваны Пружанам. А між тым Ружаны заўсёды знаходзіліся



Вясна, вясна... Уладзімір Іванавіч Рэкуць — настаўнік, кветавод.

●

3 «б» — лепшы клас у Пружанскай сярэдняй школе № 1. Яму дазволена займацца ў памяшканні школьнага музея.





Сярод механізатараў Брэсцкай вобласці лепшым у гэтым годзе прызнаны Васіль Брылевіч — трактарыст эксперыментальнай базы «Белавусаўшчына» Пружанскага раёна.

●

У саўгасе «Зеляневічы» — сяўба.



на скрыжаванні бойкіх шляхоў, тут былі развіты рамёствы, існавалі фабрыкі, на якіх выраблялі сукно, аксаміт, карункі, ружанскія гандляры трымалі сувязь з усёй Еўропай.

Пружаны заставаліся недзе ўбаку, хіба што «высокія госці» часам праязджалі сюдою ў Белавежскую пушчу, дзе спрадвеку было царскае паляванне.

Ружаны па сваёй гаворцы і звычаях больш падобны да гродзенскіх гарадоў і мястэчак. Пружаны — гарадок палескі, там і гаворка крыху мякчэйшая — паўднёвая.

Ружаны на ўзвышшы, Пружаны — аселі на краі Палескай нізіны. Ясельду, якая працякае тут, летам і перайсці можна, а ўвесну рачулка разліваецца на многія кіламетры, і шаша тады — як нізенькая дамба на шырокім моры.

Ружаны праз чатыры стагоддзі захавалі свае традыцыйныя абрысы. Высокія шпілі і франтоны старых будынкаў ствараюць урачысты, арганны рытм. Урачысты і разам з тым не без жартаў. У парушэнне ўсіх рэлігійных канонаў у 1617 годзе ружанскія будаўнікі паставілі касцёл алтаром на ўсход, а праз пяцьдзесят гадоў — царкву, абсіда якой скіравана на захад.

Ад старых Пружанаў мала што засталося. Кварталы чатырохпавярховых дамоў запоўнілі цэнтр. Гандлёвыя рады ды будынак 1-й сярэдняй школы — вось, бадай, і ўсё ад старажытнага, што захавалася.

І ўсё ж чалавека, які ўбачыць Ружаны і Пружаны вясной, агортвае асаблівае, магчымае толькі тут адчуванне чагосьці незвычайнага. Невядома, з чаго бярэцца гэтае пачуццё. Мо таму, што жыхары Ружанаў усе як адзін любяць кветкі, настаўнік Уладзімір Іванавіч Рэкуць разам са сваімі выхаванцамі высадзіў іх сёлета тысяч сто — на вуліцах, плошчах, скверах. Мо з-за таго, што ў Пружанскім раёне знаходзіцца большая частка Белавежскай пушчы, а значыць, і зуброў. А мо таму, што побач мяжа — яна ідзе па лясных заставах праз пушчу.



Мяжа ёсць мяжа. У дазоры мінчанін Уладзімір Буслейка і хлопец з Пінска Анатоль Жыдзецкі.







На трэніроўцы — студэнты Пружанскага саўгаса-тэхнікума.

Гэтае пачуццё набывае новае адценне, калі ўспамінаеш, што да вайны ў Ружанах жыло сем з паловай тысяч чалавек, а цяпер толькі чатыры тысячы (астатніх знішчылі немцы), і калі наведаеш музей Пружанскай школы № 1, міжволі думаеш — музей зроблены дзецьмі пра сваіх гераічных бацькоў...

Яшчэ адно адценне настрою паяўляецца ў той час, калі бачыш, як махае крыламі вятрак у вёсцы Смаляніца; калі здзіўляешся маністам ружовага часнаку, што спрадвеку вырошчваюць у Калядзічах і які спрадвеку з'яўляецца абавязковым таварам на ружанскіх і пружанскіх кірмашах; калі глядзіш на дужых дзядзькоў, якія выкідаюць старую каменную агароджу, каб на гэтым месцы пасадзіць жывую; калі бачыш, як чародка юнакоў з Пружанскага саўгаса-тэхнікума прабягае над рэчкай, і калі зірнуць табе ў вочы блакітныя або чорныя вочы высокай зграбнай Ружаны або Пружаны.

Вясна! Кожная з вёснаў прыносіць новыя надзеі, новыя радасці, бо вясна — пачатак, надзея года. У Пружанах гэты год пачаўся з абласнога конкурсу механізатараў, які выйграў трактарыст з эксперыментальнай базы «Беларусаўшчына» Васіль Брылевіч — свой, пружанскі трактарыст.

І сяўба была ранняй. Саўгас «Зеляневічы», што пад Ружанамі, і саўгас «Ліноўскі», які непадалёку ад Пружанаў — перадавыя ў Брэсцкай вобласці — пачалі першымі: сеялі авёс і ячмень. А разам з бусламі на калгасныя землі прыляцелі самалёты, каб падкарміць азімыя.

Вясной у Пружанскім саўгасе-тэхнікуме вывелі сцены спартыўнай залы, якая дасталася спартсменам як узнагарода за шматгадовае першынство сярод сельскагаспадарчых устаноў Беларусі. А на ўскраіне горада ўстаў корпус будучага радыёзавода.

Вясна заўсёды дорыць ласку і цеплыню, поіць маладымі сокамі нашу любоў да чалавека і да зямлі. А на гэтай зямельцы, якая ахінулася аксамітнай мантыяй лясоў, сонца было асабліва ласкавым. Ніводзін цень не падаў на пагоркі, дзе ветрык калыхаў рунь — толькі цені ад пралятаючых буслоў. Стаяла цішыня, цёплая цішыня вясны, якую будзіў толькі звон жаваранкаў.

Валянцін ЖДАНОВІЧ.

Фота аўтара.




# 1971

## ЛІПЕНЬ

**3**

95 гадоў з дня нараджэння (1876) Цёткі (А. С. Пашкевіч), выдатнай беларускай паэтэсы. Памерла ў 1916 г.

15 гадоў з дня адкрыцця (1956) у Мінску Палаца культуры прафсаюзаў.

**4**

75 гадоў з дня нараджэння (1896) А. Я. Пракапчука, вучонага-дэрматолага, акадэміка Акадэміі навук БССР. Памёр у 1970 г.

**6**

120 гадоў з дня нараджэння (1851) Янкі Лучыны (І. Л. Неслухоўскага), беларускага паэта. Памёр у 1897 г.

**11**

40 гадоў назад (1931) у Мінску адкрыўся Клінічны гарадок (цяпер 1-я клінічная бальніца).

**24**

30 гадоў назад (1941) пачаў сваю дзейнасць у тыле ворага Мінскі падпольны абком КПБ.

60 гадоў з дня нараджэння (1911) Анатоля Астрэйкі (А. П. Астрэйкі), вядомага беларускага паэта.

**25**

40 гадоў назад (1931) у Мінску адбыўся 2-гі Усебеларускі злёт піянераў.

**30**

50 гадоў назад (1921) у Мінску адбыўся масавы камуністычны суботнік.

**ЛІПЕНЬ**

40 гадоў назад (1931) у Мінску быў арганізаваны Усесаюзны навукова-даследчы інстытут балотнай гаспадаркі.

30 гадоў назад (1941) у Гомелі быў сфарміраваны полк народнага апалчэння для барацьбы з фашысцкімі акупантамі.



Цётка (А. С. Пашкевіч).



А. Я. Пракапчук.



Янка Лучына (І. Л. Неслухоўскі).

А. П. Астрэйка.



не забудзем ніколі

● Алесь АДАМОВІЧ
● Янка БРЫЛЬ
● Уладзімір КАЛЕСНІК

# ПАМЯЦЬ



Дзе была вёска Тупічыцы — абгарэлыя дубы...

З нас траіх ніводзін не быў у В'етнаме. Краса той краіны, напэўна ж, уразіла б сваёй экзотыкай і нас, як і кожнага, хто ўжо расказваў пра яе,— мовай літаратуры, мастацтва і проста жывой непасрэднасцю слова.

Вёска Байкі на Пружаншчыне не ўразіла нас сваім выглядам, хоць яна і раскінулася на лагодных узгорках даволі маляўніча, хоць мы тут і ўпершыню. Проста — сваё, звычайнае, з чаго мы выраслі, кожны ў іншай мясцовасці.

Чэрвень, раскошнае лета. Пасля кароткага ліўня на вёску зноў свеціць сонца, якое ўжо добра схіліла з поўдня. Раз-поразу равуць па заплоцці старыя пеўні. Здалёк чуваць, таксама ўжо зразумелы тут, працавіты трактарны грукат. Звініць сваю нястомную, сваю бясконцую песню жаўранак. І дзеці гамоняць, крычаць і смяюцца недзе зусім недалёка ад лаўкі, на якой мы сядзім,— мы іх не бачым, а толькі чуем.

Бачым мы толькі адну дзяўчынку, што паміж намі і хатай гуляе ў «класы». Сама з сабою, старанна, засяро-



Бабуля Дар'я.

джана, зусім, што называецца, для душы.

Гэтая светлая, поўная свежасці цішыня, якую не парушаюць, а толькі падкрэсліваюць далёкі трактарны гул, высокі жаўранкаў шчэбет, сытае кукарэканне, ціўканне, галасы і смех малечы,—іменна гэтая родная цішыня і ціхая, шустрая дзяўчынка перад намі напомнілі пра В'етнам. Аднаму з з нас. Ён пра гэта сказаў, і мы пачалі гаварыць. Ён нават выняў блакнот і прачытаў адно, такое вось выказванне:

«Некаторыя з маіх салдат любілі дзяцей, давалі ім ласункі, пячэнне, жавацельную гумку. Але я не любіў дзяцей, не давяраў ім... Я баяўся в'етнамскіх дзяцей. Баяўся я і в'етнамскіх прастытутак. Але ж не, в'етнамскіх дзяцей я баяўся больш, таму што навокал іх былі тысячы».

Зусім няцяжка здагадацца, хто гэта сёння так скардзіцца. Аднак удакладняем: амерыканскі лейтэнант Уільям Колі, адзін з забойцаў сусветна вядомай абшчыны Сангмі.

Вёска Байкі—не сусветна вядомая. Гэта адна з многіх і многіх дзесяткаў беларускіх вёсак, якім чвэртку стагоддзя таму назад давялося перажываць тое самае, што Сангмі і многім іншым абшчынам ды вёскам В'етнама—толькі што ад уільямаў іншых.

На фотаплёнцы і магнітафоннай стужцы мы павязем адгэтуль воблік і голас адной з пакутніц і гераінь, калісьці маці, а цяпер ужо бабулі. Зрэшты, у памяці нашай слёзы і словы яе жывуць і застануцца яшчэ больш дакладна.

Пра такую дзяўчынку, як гэтая, што скача ў сонейку па няроўных квадратах «класаў», пра сваю дачушку, што назаўсёды засталася ў памяці такой, якой пайшла з жыцця, бабуля Дар'я Баран расказвала сёння, светлым апоўднем, так:

«...Адна мая дзевачка кінулася ўцякаць, а немец па ёй—з кулямёта. Яна і ўпала за мяжу. Немец хлопца паслаў... Ён, той хлопец, і сёнека е... «Забяры тое дзецко, што я забіў!». Той пабег. Трасе яе: «Жэня! Жэня!..» (Бабуля плача, не могучы гаварыць)... «Я яе,—потым хлопец расказваў,—узяў на бярэма, прынёс. Немец як закрычаў,—яна і адкрыла вочы. Падняў ён ёй плацечка, глядзіць. «Во,—кажа,—шчаслівае дзецко—як я яго з кулямёта не біў, а ўсё жывое...»

Пакуты гэтага дзіцяці жывуць у матчыных слёзах. Само пра сябе гаварыла нам іншае дзіця вайны,—сёння сама ўжо маці, нават удава з малымі неслухамі. Быстрая маладзіца Дзянка, Аўдоцця Іванаўна Ермаловіч, у вёсцы Святая Воля. Плакала і яна, успамінаючы, як у пустым калодзежы сядзелі яны, некалькі малых, як яны чулі крык і плач і страляніну—наверсе, у вёсцы, дзе засталіся іх мамы, бабулі ды брацікі і сястрычкі, што самі яшчэ не ўмелі ўцякаць. Немцы ўключылі ў сваёй машыне радыё, яно грымела, галёкала на ўсю вёску, і дзеці чулі не ўсё. Не ўсё яны таксама бачылі. Быструю Дзянку падсадзілі па сценцы старога калодзежнага зруба, і яна бачыла—яна дагэтуль бачыць,—як немцы, адных людзей пастраляўшы, мылі ў вялікім цэбры з вадою рукі, выціралі іх белымі ручнікамі, а потым зноў пачыналі расстрэльваць...



Аўдоцця Ермаловіч (Дзянка).



Дзяўчынка,—не тая, што выглядала са зруба, нібыта для маскіроўкі абраслага бур'яном,—дзяўчынка гэтая, што вось скача на пяску! Мы не пытаемся, як ты завешся, мы не пытаемся, з гэтай ты хаты ці з іншай, ці ты дачка чалавека, які нам патрэбен, ці іншага каго-небудзь. Так нават лепш,—гледзячы на цябе, шчасліва бесклапотную, думаецца пра ўсіх дзяцей.

Мы падыходзім туды, адкуль дагэтуль чуўся толькі гоман і смех.

Маляўнічая група босай ды светлачубай каманды «філосафаў і паэтаў», спакушаных многімі таямніцамі кніг, кінакарцін, футбольных і хакейных матчаў—«без адрыву» ад роднае хаты з тэлеэкранам, ад роднай вёскі з клубам і школай. Адпачываюць—хто на жэрдках абгароджы, а хто і на слупе, каму дзе ямчэй пасля добрай палавіны доўгага і змястоўнага дня. Яшчэ не канікулы. Але гэтым мужчынам,—па выглядзе, трэці, чацвёрты, пяты клас,—заканчэнне школьнага года асаблівых цяжкасцяў не прыносіць: ні экзаменаў табе, ні клопатаў пра нейкі інстытут. Смех—іхняе паветра. Нават і перад аб'ектывам фотаапарата смех гэты цяжка стрымаць.

Пагаварыўшы трохі з хлопцамі, вяртаемся да нашай лаўкі. Дзяўчынка ўжо адскакала сваё і некуды пабегла. А таго чалавека, які нам уяўляецца бацькам гэтай скакухі, гаспадара паказанай нам хаты, яшчэ ўсё няма.

Ён неўзабаве вернецца з касьбы, той ваенны падлетак, ён нам раскажа, як вырваўся з агню, з-пад куляў. Адзін з тых, вельмі і вельмі нямногіх, што цудам ацалелі ад фашысцкага знішчэння.

Адно, што мы тым часам ведаем пра гэтага чалавека,—адна дэталь, што загадзя ажыўляе незнаёмы вобраз і трохі інтрыгуе нас,—гэта тое, што нам сказала бабуля Дар'я. Ён, Мікалай Шабуня, у бацькі свайго быў не сынам, а пасынкам, але «дай бог, каб кожны родны бацька любіў свайго роднага сына так, як Мікалая войчым».

І вось ён, Мікалай Сцяпанавіч, нарэшце, прыйшоў. Мужчына за сорак, спакойны і дужы. Што ж, калі трэба, дык ён раскажа. Ён, нам здаецца, умее рабіць усё тое, што трэба, спакойна і добра. І ў полі, і дома.

Касец, адпачываючы на ганку, расказаў.

●

«...Пяць чалавек, ішлі мы раніцай у Ружаны, рэзаць дровы да бургамістра. Выйшлі на шашу, а тут немцы: «Хальт!». Падыходзяць: «Цурык нах гàвус!» Пайшлі дадому. Сказаў я бацькам, яны ўстрывожыліся. Глядзім у акно—едуць да солтыса на машынах і пешыя ідуць.

«Бярыце ўсе дакументы і выходзьце».

Туды, дзе і цяпер вялікая ёлка стаіць.

Вынеслі яны сталы на вуліцу. У каго грошы, гадзіннік, кальцо сярэбранае або пазалочанае—усё чыста забіраюць і ў стол. Калідор з немцаў зрабілі, адзін немец ад аднаго на тры-чатыры метры, і людзей гоняць аднаго за адным—у гумно.

Прыгналі людзей з іншых вёсак, з Навасадаў і Колкаў, капаць магілы.

А мы ў гумне сядзім. Той тое, той тое. Сёння, кажуць, сітка будзе густое. Прасеюць, адных пабяруць, паб'юць, а другіх пусцяць. Паб'юць тых, у каго сваякі ў партызанах або каторыя самі сувязь маюць...

Сядзелі, сядзелі, чакалі, каб праз тое сітка прайсці, каму гэта прыйдзецца, а тут папалі ўсе без разбору.

У гумне сядзелі на сене і курылі, ніхто тады не асцерагаўся. Чулі, што страляюць. «Люс! Люс!»—хто крайні. Не хоча—прыкладам, галава не галава...

Выводзілі з гумна—хто пад руку папаў. Мужчын—не больш як па чатыры, пяць чалавек. Бывае ўсякі характар,—можа супраціўляцца. А жанчын выводзілі—колькі выпаруць, як авячок.

Гэта цяпер ужо, калі хадзяін з хадзяйкай жыве, то дзяцей у іх двоетрое найбольш, а тады было па пяцёра, сямёра.

Палепяцца за спадніцу і так валакуцца...

Чэргі былі кароткія. Толькі, было, раніць. А жанчын з дзецьмі—працэнтаў на шэсцьдзесят жыўцом закопвалі...

Два чалавекі геройскі пагібалі—Шпак Даніла і Кава Сямён.

«Бі,—кажа,—сволач, у твар, а не ў патыліцу!..»

Я спачатку прадраў страху і сам глядзеў. Бачыў. Стаяла ахова каля гумна. Калі не вылазіш, не страляюць. Я памахаў рукою, што вылазіць не буду. Глядзі сабе, вытрымаеш—гля-



Мікалай Шабуня з сынам.

дзі... І пакуль сёстраў і маці не забілі і гэтых двух—глядзеў. А потым... нібы страх... Родных пабілі—страх авалодаў. А так чалавек проста стаўбом стаў, без чусцвія...

Як цяпер гаворыцца, па маскоўскаму часу з васьмі гадзін да шаснаццаці была праверка, а потым пачалі расстрэльваць. Дзве гадзіны расстрэльвалі...

Форма ўся нямецкая, і шэрая, і чорная. У чорнай больш стаялі на пастах. А немцы—выпорвалі, падводзілі. Расстрэльвалі тыя, што пайшлі... ну, паліцыя. З Івацэвіч прыехалі, з Пружан прыехалі, з Ваўкавыска прыехалі, са Слоніма прыехалі, з Баранавіч прыехалі. Тыя, што забіралі дакументы, гаварылі па-нямецку, цераз перагаворшчыка.

Усіх пабілі, а мы з бацькам пад сена зарыліся. Бацька першы, а я яго закідаў сенам. Даскубся я да сцяны, а каля сцяны вялікая бочка, на замок замкнёная, стаіць. Немцы прыйшлі, давай глядзець, што ў бочцы. Прыкладамі разбілі яе. А я якраз да яе дакапаўся. Сена было так на метр трыццаць сантыметраў, а праскубці, каб чалавеку далезці, палучаецца прагіб. На мне стаяў немец. Разбіў бочку, пачаў вакол яе пароць штыхом. Аж да адзежы мае дапорваўся.

«Ну,—думаю,—усё роўна не застанемся, не вырабімся жывымі».

Неяк так... Ці то чалавеку жыць палажана?..

Пайшлі яны. Потым адзін з сабакам зайшоў. Сабака—уядаецца!.. Потым чую—запалкі зашасталі. Чую—салома пачала гарэць...

Вылез я на ток, уздумаў, што і бацька мой тут. Узяў сахор, парнуў—варушыцца. Выцягнуў я яго. Я абгарэў слаба, а ў бацькі ўвесь твар быў з паўгода абгарэлы, нельга было глядзець...

Выйшлі мы з гэтага гумна. Гумны адно ад аднаго—метраў шэсць. Глядзім—чалавек перад намі. Спалохаліся, стаім, як стаўбы, адзін на аднаго пазіраем. А потым пазнаем: сусед. «Гэта вы, дзядзька?—пытаецца.—І хлопец з вамі?..»

Пайшлі мы ўтрох да дарогі. А яны апошні дом, дзе сядзела начальства, падпальваюць. Напароліся мы на немца, які нёс куль саломы. Метры два ад яго я рукі распасцёр, каб тых, што ззаду беглі, затрымаць. У дыме ён мяне не заўважыў, а двор вузенькі. Мы назад. Я—цераз плот. У суседа вуллі былі на зіму састаўлены, я паміж імі, у лужыну,—снег ад пажару растаў,—лёг і ляжу.

Паехалі немцы.

«Давай,—думаю я,—пайду пагляджу на магілу...»

Дзіцячы розум... Пазнаходзіў адзежу, мацерыну і сясцёр. Раздзявалі ўсіх да бялізны...

Тая магіла, дзе мужчыны, паднімалася няшмат, санціметраў на дваццаць. А кроў каля сценкі—фантанам. А дзе жанчыны... Клянуся... ісцінным богам, што на жанчынах не менш, як санціметраў на семдзесят, то паднімецца, то асядзе... Значыць, яны толькі трохі прысыпалі, каб не відно было.

Потым людзей прыганялі, на трэці дзень, дабаўлялі зямлі...»



●

**Азёры. Лес, пералескі. Буйная зеляніна лугоў і палёў. То сонца, то цярушлівая хмарнасць, то зноў грымоты і лівень.**

**Замест вёскі Красніца—проста лес, ужо немалады. І помнічак каля дарогі. Замест Тупічыц і Вя́ды—ні лес, ні поле, ні луг.**

**Дзе былі Тупічыцы, там стаяць самотныя грушы і да сцішнаты незвычайныя, абгарэлыя дубы, што будуць дажываць свой доўгі век ужо без людзей. Сюды мы, выйшаўшы з лодкі, дабіраліся па глыбокім пяску, здорава патужэлым пасля многіх сёлета навальніц.**

**Тое месца, дзе была калісьці вёска Вяда і дзе цяпер пясок, трава і рэшткі дрэў, якія калісьці стаялі ў садах і на вуліцы, мы бачылі здалёк, з узгорка, на якім стаіць самотны абеліск са словамі і лічбамі.**

**Пасля зноў было возера Бабровіцкае. Невыказна ласкавая шэрасць цёплай, амаль зусім спакойнай вады. Навокал—пена пасля нядаўніх баранчыкаў, бела-стракатымі на цёплай шэрасці палоскамі. Мы вярталіся ў імклівай маторцы, над намі тарахцеў верталёт геолагаў, знаёмых старшыні калгаса, які суправаджаў нас па гэтых мясцінах.**

**Там, дзе раней былі Бабровічы, цяпер растуць маладыя бярозы, буяе трава. З-за купіны выскачыў заяц.**

**У новых Бабровічах, адбудаваных на іншым месцы, мы зноў запісвалі расказы ацалелых.**

**Высока зверху—над светлым пакоем калгаснай бібліятэкі, дзе мы слухалі людзей, над новай вялікай вёскай, над усім гэтым азёрна-лясным кутком Заходняга Палесся,—да самых касмічных арбітаў жыве, бушуе ў сонцы наша перамога, наспяваюць новыя небяспекі, ідзе змаганне за тое, каб яны не прыйшлі.**

**А ўнізе, у глыбінях народнага жыцця, у жыццядайнай прастаце яго крынічаць раны памяці, якія нічым не загоіш...**

**Вось і яшчэ адна з гэтых народных ран.**

**Расказвае Барбарка, шасцідзесяцігадовая Барбара Адамаўна Слесарчук. Гаворыць з дзіўнай і сціпнаватай усмешкай—нібыта страшную казку, незвычайна далёкую, перажытую вельмі даўно. Гаворыць часамі амаль што зусім нараспеў, з паўторамі, што не здаюцца лішнімі, на трох мовах адразу.**

**Расказ яе перадаем з магнітафоннай стужкі—жыўцом, толькі з нязначнымі скарачэннямі, без усякага глянцу і якіх-небудзь змен.**

«...Гэто як нас білі? Білі... Ажно цяжко расказваць...

Хазяіна ўпэрэд забілі. Зажглі ў клуні. Я так перабалела. Чацвёра дзяцей, пятым была бярэменна. Запалілі часоў у пяць, пад вечар. Немец прыйшоў, выгнаў. Адзін мой хлопец пасвіў скаціну, а трое са мною. Мая хата была туды далей, дзе цяпер калгасны двор. Немец прыйшоў, выгнаў. Сабраліся мы ў хату, баб пятнаццаць. Немцы ідуць, аглядзелі. Бабы сядзяць, як бы оўцы, у хаце. Думалі: можа толькі мужыкоў пабылы, а жанчын не будуць біць. Адна, Астапава маці, кажа: «Нас жывых запаляць. Не схацеў нас пабіць немец. Жывых папаліць».

А я выйшла з хаты. «Уцякайма, жанчыны, уцякайма!..» А дзве дзевачкі ў мяне і мальчык. Оны, бабы, не схацелі ўцякаці, а я і пайшла.

Немцы стаялі, кругом сэло цэп'ю абнялі, тут цэп і там цэп, і па сяле хадзілі немцы. Так много. Я выйшла на кусты ў Багацце. Я не думала жыць. Але думала, куб ён не глядзеў, куб нам от так чэрапа паздымала, куб мы сваю смерць відалі. «Бяжым туды, куб мы не бачылі смерці! Дзе куля ў галаву альбо ў плечы,—кажу,—нам пападзе, то легчэ нам, а то так трудна дажыдаць вот, каб нас білі. От, каб мы відалі сваю смерць...»

Ніхто не схацеў, ніхто не схацеў, а я ўзяла і сама пабегла. Я пабегла з Астапавага двара, нашага суседа. Ад таго суседа пабегла, а ўжо людзей кулямётам сякуць—і з таго канца, і з таго, людзі падаюць, падаюць... Ужэ і ногі мае не пабяжаць, куды ўжэ мне бяжаць—узяла я дый пад сараем лягла.

Так сарай і так сарай, і так, а я лягла за калодцэм. Дзяцей панакутвала лебядой, панакутвала, вот і ляжу я, і ляжу... Ажно немцы там, ці паліцыянты, толькі вады нап'юцца ды: «А-а-ах!»—скажа. А я ляжу, ляжу, ляжу... Кулі свішчуць, ляцяць. Ну, мяне ўбіла! Слышу—не, ніц не больна. І ляжу, і ляжу...

І вот дзеці мае. Мальчык—два гады было Васілю. Не заплакаў! Маленькі—два гады, тыждзень было на трэці. «Мамо,—кажа,—уцякаймо, уцякаймо! Нас, мамо, не заб'юць!» «Ох,—кажу я,—сынок, зараз бегчы пакінем, адкінем ногі ў тую старану і ў тую, пакінем белы свет, святая нядзелька. За̀ра паб'юць, зара». «Не, мамо, нас не паб'юць!..» Гэта ж два гады!.. О, ён і сёння слесарам у мяне на ГРЭСе работае. Такі чалавек!.. А тая дзевачка, шэсць год, кажа: «Вот відзіш, мамо, дажэ мальчык гаворыць, што нас не паб'юць. Убегаймо!» От і пабеглі. Пад сараем ляглі...

От так, цямнець стало. Ляжымо. Немец одного сарая падпаліў, спічкамы. Опяць одного,—бачу я, спічкамы... У сіняй адзежы два немцы стаяць. Ляжу, ляжу, ляжу, ляжу... З дзецьмі ляжу, і—маўчаць! Это так от—абы мне не пагібнуць, ці што? Малы хлопец і не заплакаў! О!.. І так от ляжу! Ажно там гарыць крыша. Згарэла. І немцы стаяць два. Бы стаўбы сінія. І сцены пачалі гарэці. І пачала ўжо зямля гарэці. Гэта каля самай зямлі тое зелле пачало гарэці. А я ў зеллі ляжу. І студава мне пячэ. і студава мне пячэ... Гэто добра, што сукно на мне з авэчок, зам'ятае. Такэ пальто злажыла. А колі б я ў кофтачцы была—згарэла б. Толькі платка скінула, косы ўсе абсмаліліся. А тут на мне пальто шкварыцца, гарыць, а я яго то пяском, то так. Дзевачка, чатыры гады, вішчы-выць!—спэклася. А я ўжэ то так, то так. От-от погыбаю! От я погыбаю. А воны стоять, немцы. Не хацела, каб забыло мяне ляжачую. От, трэба мне якраз на немца ўзайсці, каб мяне ўжэ гэта ўбіў. Ужэ няма спасення—пячэ. Хай, думаю, заб'е. Толькі ўстану на немца ісці—о, два стаяць,—дзеці завішчалі, а я—бух, упала. Так і ляжу. Упала ўжэ я і ляжу.

І так от, памаленьку, так от і гляджу: чы воны пайшлы, чы не. Ужэ пачало вот-вот гарэць полымя, і студа, і студа. Сматру гэто—пайшлі, пайшлі немцы! А я ящчэ мінутачку паляжала, думаю, хай дальшэ адойдуць. І я за адзежу ўсіх дзяцей як узяла і дзёрнула далей... У-у-у!..

Ляжым на поплаўцы Астапавым. Ужэ так от трэсло, так трэсло сільно нас, о!.. А я ўжэ думала: на ўсёй дзярэўні адна я асталася. Узяла я за дзеці, то однэ сюды пасадзіла, два гады, а чатыры гады дзевачку сюда, а там ящчэ ззадзі ідзе. Пошла, пошла, пошла... А куды от я? Ох, на выганаўскую дарогу цаляю, да Выганішч. Куды мне, думаю, дзеціся? Мая матка з Выганішч. Думаю: там у мяне дзядзька е. Мо возьме мяне? Бо і дабівацімуць нас, ужэ думаю, у нашай дзярэўні. Можа, нада ўжэ нас выбіці. «Партызан!..» Мо зашчыталі ўжэ, што ў саракавом гаду ў калхозе былі. Усё гэта казалі на нас: «Камуніст!..» Можа, нас за гэтым дабіваюць. Вот!.. Узяла я і пошла, пошла да Выганішч.

Іду, іду... Як упаду—як паляцяць мае дзеці цераз галаву ўсе. «А-ах!»—адно галаву пачэшуць. І не плачуць. От гора пазналі!..»

**...У расказ жанчыны ўрываецца вельмі нядаўні ўспамін. Сёння ўранні ў Целяханах пачутыя словы. Скупыя, простыя, поўныя жаху. Гаворыць селянін-пенсіянер Андрэй Куратнік:**

«...А сын у мяне астаўся. У трупах. Маці мая, калі яе расстралялі, упала на яго, і так трохі закрыла. Ранілі хлопца ў бок. Адсунуўся ён метраў пяцьдзесят ад ямы і заснуў. Назаўтра прыйшлі—яшчэ пяць выстралаў па яме далі. А ён дванаццаць дзён праляжаў у стажочку. Дзевяць гадоў было. Не піўшы, не еўшы. Партызаны знайшлі яго, мне наказалі...»

**Цётка Барбара гаворыць далей:**

«...Зайшлі мы да Выганішч. Ужэ васкрасенне. Другое васкрасенне настала, той тыдзень ужэ прайшоў. Прыйшла я, а ўжэ майго дзядзьку, мае мацеры брата, застрэлілі. От, думаю, і мая жалаба, от ён мяне і пажалее... Дзядзіна кажа: «У-у, ужэ так табе, можэ, не надо жыці на свеце, ужэ табе самой у агонь надо бегчы. Дзяцей у цябе многа, да ты бярэменна ящчэ—дзе табе проці зімы!» Самі ў лес выязджалі, хаваліся, а мяне не бралі. А я ў той хаце ляжу, да ўжэ, як мы па-старыннаму, памалюся: «Дай мне, госпадзі, сладкі сон! Ці ўжэ як жывая застануся, ці каб я не слыхала, каб я ўжэ пагібла з гэтымі дзецьмі, заснула ўжэ навек...»

От ужэ партызаны выйшлі адтуль, з Бярэзіны, сільны-сільны атрад. З Вяды быў знаёмы чалавек, пагаварыў са мною, пагаварыў: «Не бойцеся,—кажа,—не дапусцім немцаў, каб вас пабіці...»

Дажд(а)ліся мы другога васкрасення. «От, цётко,—кажу я,—мне сон які сніўся. Плохі, плохі! Я, здаецца, у старцах пахадзіла, хлеба насабірала сумочку. Іду, іду, у глазах пачарнела. У тую хату зайду, а пяць міну, і опяць зайду. Так жалко, што столькі свайго хлеба многа пакінула. Да хазяіна, да скаціну. Лошадзі не было, быкі былі. Тры каровы былі, дзве каровы і цёлка. Да Хаценіч пагналі, на Ганцавічы, у тую старану. Наплакалася я, наглядзелася... От як!»

Ну, а дзядзіна мая кажа: «А мне харашо спалася...» От, чэсна вам гавару, жанчына! Трэсачок тых не дае, зварыць. «Ідзі ў кусты»,—кажа. От людзі якія ёсць, госпадзі! Урэдна была, багата, сільна багата была! Чыгуніка просіш—чыгуніка не дасць. У Красніцу хадзю ўжэ, мэду нанасіла я, і табе, і сабе. Ужэ, думаю: «Хай мяне пчолы... Можа памру». Яй-богу. Закручуся ў якія латы. А мёду, мёду, мёду было!.. У вядры нясу, нясу, нясу, нясу з Красніцы. Гэта—як яе спалілі. Я ўжэ сабе прайдуся. Можа заб'юць. Як не дабівацімуць, то не дабівацімуць. А ўжэ по тры дні кончылася дабіванне. Ужэ я мэду нанасіла і ўжэ сабе кватэру шукаю. Мы ўжэ тыждзень сядзелі там, ужэ яна кажа: «Шукай кватэру. З-за цябе, недабійку, і каб нас не пабілі немцы...»

У Лабановіча кватэру найшла, у Аляксеевай маткі, у беднае жаночыны вынайшла. Сабе думаю: «Пайду я картошкі, хвасолі прынясу». Пайшла я сабе за тымі прадуктамі ў Красніцу. А дзеці тама, у Выганішчах. Нясу я, да гары даходжу—у-ю-юй!—ужэ Выганішчы гараць! Ужэ гараць Выганішчы, з палімёта строчаць!.. Выганішчы га-араць!.. Сільны такі вецер, што чалавека з ног валяе. Яны зайшлі ад Бабровіч, з таго канца, о, ад моста. Ужэ вецер і ко-оціць! Цераз дзесяць хат кідала агонь.

Я плачу: ужэ мае дзеці рукі мне апрасталі. Дзе мае дзеці?..

Пабегла я ў Бярэзіну, куды ўсе людзі пабеглі. Нашла адну жанчыну, кажу: «Мо мае дзеці відалі?» Гаворыць: «Відалі. Пабеглі. Насця на плечы Васіля пасадзіла, панесла ў Бярэзіну. Далёка!..» І я туды. Шукала, шукала, мо ад дванаццаці часоў, знайшла—ужэ сонца заходзіла. І сваіх, і Бартановых дзяцей знайшла, пяць штук. Сарай згарэў—картошкі напякла, накарміла іх, тыя чужыя і свае...»

**...Тут ужо не ўспамін, а цытата:**

**«Калі харчовае забеспячэнне стаіць у нас на першым плане, дык патрэбную для гэтага прастору можна шукаць толькі ў Еўропе... Гутарка ідзе не аб набыцці людзей, але аб набыцці прасторы, прыгоднай для сельскай гаспадаркі... Лепш за ўсё гэтага можна дасягнуць расстрэльваючы кожнага, хто кіне хоць бы косы позірк... Дзіця спажывае больш хлеба, чым дарослы...»**

**Так гаварыў калісьці Гітлер.**

**Цётка расказвае далей:**

«...І вот я думаю: куды мне дзеціся?.. Пайшла ў балота. Сяджу. Ужэ знайшла спічкі, надрала палосся, лапці плесці. І сяджу я там, у На̀длеві, ад Выганішч кіламетраў тры, ад Бабровіч—чатыры. Знайшла, дзе з мужам касіла, дзе нашы пакосы. Не магу, так мне абідно... Ужэ, думаю, пайду пад чужыя стажкі, бо вельмі мне жаль... Дзе касілі, дзе граблі з мужам сена... Пайшла пад чужыя стажкі. Сяджу, ужэ давай картошку чысціць... А тут—зараз немцы бягуць!.. Людзі гукаюць, гукаюць на балоце. Думаю: «Чаго то яны гукаюць? Гэта так, можа? Можа, маці дзеці пагубіла, можа, дзеці маці загубілі ды шукаюць?..» У-ух!.. Ажно вылятаюць да мяне два паліцыянты. Выскачылі з-за куста, за мяне—цап. Да ўжэ майго хлопца, восем гадоў: «Сынок, дзе твой бацька?» «Няма, забілі бацька майго». Ужэ за-



Барбара Слесарчук.

білі немцы Рамана майго. Пацалавала я рукі таму паліцыянту. «Паночак, паночак, я сама з голаду, з холаду загіну, адно вы мяне не беце. Я не хачу, каб вы мяне білі. Хай я сама прападу з дзецьмі...» Ён кажа: «Дзе больш людзі?» «Пабеглі на лес». «Ідзі на воз!..» А самі пайшлі. Каб я пайшла на той воз, да таго бабровіцкага паліцая, што ўсіх дабіваў, што паказваў, дзе хто захаваўся,—ён застрэліў бы мяне, убіў бы. Сільно бабровіцкіх людзей ён выбіваў... Я то не папала да яго. Яны пайшлі за кусты, а я тожа за кусты. Вы мяне не бачыце, а я вас. І я ў такі цё-ёмны пабегла луг—такі луг, што чарот там, папаратнік... Я туды пабегла і ляжу там. Ляжу ўжэ. Яны ўсіх людзей вызбіралі, ціха стала...

Толькі партызаны беглі... Маім дзецям мяса варанага далі—дзе-та цёлку зарэзалі. Цэбар мёду няслі...»

**...Бедная, горкая цётка Барбара. Што яна магла ведаць тады пра баявыя дзеянні партызан?.. Вось што піша пра тыя ж дні ў той жа мясцовасці Павел Васільевіч Пранягін, які камандаваў атрадам імя Шчорса:**

«...Толькі на захадзе сонца бой аціх. Гітлераўцы не адступілі. Калі мы паспрабавалі абмацаць балота, яны адкрылі ўраганны агонь. Каб захаваць атрад, мы вырашылі адарвацца ад ворага, выкарыстаць перавагі лясістабалотнай мясцовасці. Пахавалі загінуўшых. Разабралі гарматы і часткі іх пахавалі ў балоце. Забралі з абозу ўсё, што змаглі, і ў цемры адступілі.

Ішлі мы па высокім трысьнягу і па балоце, часамі па калені ў вадзе, ноч, дзень і яшчэ адну ноч. Ніхто нічога не еў. Ішлі па компасу. На досвітку 13 верасня выйшлі на бераг ракі Шчара, кіламетр ад 10-га шлюза Агінскага канала, тры кіламетры ад Выганаўскага возера. Разведка далажыла, што каля шлюза немцы. Значыцца, вораг спераду і ззаду. Адступаць няма куды, чакаць няма чаго, значыцца, пакуль яшчэ ёсць сілы, трэба ўдарыць самім і ўдарыць неадкладна.

Па камандзе роты займаюць выходныя рубяжы. Папярэджаны былым вартаўнікам рыбацкай арцелі, вораг насцеражыўся. Часткаю сіл гітлераўцы замацаваліся ў вартоўні. А галоўныя сілы былі на самым шлюзе, у лодках. Як мы даведаліся пазней, яны толькі што напярэдадні прыехалі з вёсак Выганішча і Бабровічы, дзе распраўляліся з мірнымі жыхарамі.

Пачаўся бой. Немцы ўпарта абараняюцца, вядуць моцны агонь. Спачатку атакуем і закідваем гранатамі вартоўню. Неўзабаве яна загарэлася, адзін ачаг супраціўлення задушаны. Цяпер бой разгарэўся на каналах. Першы мы пераадолелі параўнаўча хутка і з малымі стратамі, на другім затрымаліся. Калі падышлі ўпрытык, гітлераўцы пусцілі ў ход гранаты. Партызаны Канавалаў, Пілецкі, Хвясеня, Аксёнаў і іншыя паспявалі хапаць кінутыя фашыстамі гранаты і кідаць іх назад—на галовы ворага. У разгары бою аднаму нашаму ўзводу ўдалося перайсці Шчару ўброд. Байцы нечакана атакавалі ворага з правага фланга, чым паскорылі яго разгром.

Было забіта 99 гітлераўцаў. Усіх іх было 100. Адзін пабег у Ганцавічы яшчэ спачатку. Расказвалі, што ў пасёлак ён прыляцеў амаль распрануты і крычаў: «Партызан, немец—капут!»

**Далей гаворыць цётка Барбара:**

«...Навеліся мае дзеці—давай вады!.. Ужэ гэты, што два гады: «Вады, вады, вады!..» А вада павысыхала, мо на метар, нідзе няма напіцца. Цямнее. Ужэ я гэтаму, што восем лет: «Вазьмі,—кажу,—мачы свае ў чыгунчык». Напаілі. «Не,—кажа, мамо, няўкусная вада. Ідзі, шукай смачнае вады! Ідзі!..» Няма нідзе вады. Плакаў той, плакаў... Лягла я. І спічкі е, агню наклаў бы. Ой, ды вады плача. Я вот чэсна гавару вам. Выкапала такую ямачку, выкапала во. Як на сырой зямлі чалавек паляжыць, думаю, то ўмрэ. Выдрала мох, выдрала... Бо малыя, як жа я вас накармлю, як адзену?.. От я ямачку выкапала ў балоце, да самай тарфы, усе мы на яе і пакладаліся. Вот ужэ забалеюць, васпаленіе возьме, ужэ яго і не будзе на свеце, хоч адно мне рукі асвабодзіць... І от жыве! Дажэ ні чуць-чуць не забалеў!..

І выйшла я апяць з таго балота.

«Хадзем,—кажу,—дзеці, у Целяханы, хай нас дабіваюць».

Дзеці не схацелі. «Куды хочаш, мамо, нас у свет вядзі, адно не хадзем да тых немцаў і да паліцаяў!..»

У Вялікай Гаці кватэру нашла... Сталі паліці Гаць... Гэта ўжо я тады ў парцізанах была. Сядзела, сядзела, сядзела, траву сушыла, дзетак травой ахутвала. Здароўе пацярала, раўматызм дастала. От як!..

Дзеці пагадавала, пагадавала. Пайшлі па гасударскай рабоце ўсюды. Дзеці па свеце, а я сабе... Вот, спасіба, дванаццаць рублёў даюць ужэ... Оўцы даглядала, тысячы авечок нагадавала, дзесяць лет на ферме стаяла. Дзеці работалі...

От, усё сваё страданіе пераказала. Можа я і залішне што сказала. Я ніграматная. Ізвініця.»

**Падлікі фашысцкіх злачынстваў на ўсёй Беларусі, у тым ліку і на Брэстчыне, праведзены спецыяльнымі камісіямі. Нашы суды адмералі справядлівую кару многім злачынцам супраць чалавечнасці. Імёны іх, лічбы і факты вядомы шырокай грамадскасці...**

**Лічбы і факты прамаўляюць перш за ўсё да розуму. Да сэрца прамаўляюць жывыя словы ацалелых сведак нечуваных трагедый, якія наш народ перажываў у гады акупацыі. Неабходна, пакуль гэта не позна, ажывіць для сучаснікаў і захаваць для нашчадкаў успаміны тых простых працоўных людзей, ужо старых бацькоў і матак, колішніх падлеткаў і дзяцей, якім давялося цудам ацалець, прайшоўшы праз пекла знішчэння. Няхай гэтыя галасы будуць з намі, з нашым народам і з усімі сумленнымі людзьмі, хай яны не толькі напамінаюць пра мінулае, але і клічуць быць пільнымі.**

**Старонкі, што прапануюцца намі ўвазе чытачоў,—гэта пачатак кнігі, якую мы ўзяліся напісаць.**

Фота **У. КАЛЕСНІКА.**





Спрэчкі працягваліся і ў перапынках.

# ШОСТЫ З'ЕЗД ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

Добры настрой у Рыгора Семашкевіча, Алега Лойкі, Яўгеніі Янішчыц і Юркі Голуба.





Захоплены гутаркай сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў СССР Георгі Маркаў (злева), Аркадзь Куляшоў і Пімен Панчанка.

Два дні — 26 і 27 красавіка — не сціхалі ажыўленыя спрэчкі — і ў зале, з трыбуны, і на калідорах: у памяшканні тэатра імя Янкі Купалы ішоў шосты з'езд пісьменнікаў Савецкай Беларусі.

Было пра што гаварыць на з'ездзе беларускім празаікам, паэтам, крытыкам. Пяць гадоў, што аддзялялі гэты з'езд ад папярэдняга, былі гадамі далейшага ўзмужнення нашай літаратуры, паглыбленага пранікнення яе ў жыццё, пашырэння яе тэматычных абсягаў, былі гадамі бурнага прытоку ў яе маладых творчых сіл. Гэта былі гады з'яўлення новых шматпланавых раманаў, новых аповесцяў, п'ес, апавяданняў, твораў, якія сталі неад'емнай часткай культуры нашага народа.

Шосты з'езд Саюза пісьменнікаў Беларусі праходзіў праз месяц пасля XXIV з'езда нашай партыі, з'езда, які намеціў захапляючыя перспектывы далейшага будаўніцтва камунізма. Літаратуры — навуцы чалавеказнаўства — заўсёды надавалася і надаецца вялікая ўвага нашай партыі і ўрада. У прывітанні Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, якое на пісьменніцкім з'ездзе зачытаў сакратар ЦК КПБ А. Т. Кузьмін, ёсць такія словы: «Духоўныя і культурныя запатрабаванні народа, якія няспынна павялічваюцца, патрабуюць ад пісьменніка плённай працы па стварэнні высокамастацкіх вобразаў сучаснага савецкага рабочага, працаўніка калгаснай вёскі, прадстаўніка народнай інтэлігенцыі. Сілай мастацкага слова кожны твор павінен пастаянна служыць вялікай справе барацьбы за камуністычныя ідэалы, глыбока і ўсебакова раскрываць веліч і маштабы стваральнай працы савецкіх людзей, несці свету праўду пра наша грамадства, пра сацыялістычны лад жыцця».

У гэтых словах — заўсёдная цвёрдая ўпэўненасць партыі ў тым, што нашы пісьменнікі і надалей будуць на пярэднім краі ідэалагічнай барацьбы за новае грамадства, за новага чалавека.

Адкрыў VI з'езд пісьменнікаў народны пісьменнік БССР Кандрат Крапіва.

Са справаздачным дакладам праўлення Саюза пісьменнікаў выступіў першы сакратар праўлення Максім Танк. Справаздачу рэвізійнай камісіі зрабіў Мікола Гарулёў.

У спрэчках па дакладах выступілі: Алесь Асіпенка, Пятрусь Броўка, Кастусь Кірэенка, Уладзімір Юрэвіч, Павел Кавалёў, Еўдакія Лось, член Ваеннага Савета — начальнік Палітупраўлення ЧБВА А. В. Дзебалюк, Іван Шамякін, Павел Дзюбайла, Уладзімір Карпаў, Леанід Прокша, Ніл Гілевіч, Хведар Жычка, Віктар Каваленка, Васіль Вітка, Іван Новікаў, Аляксандр Міронаў, старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па друку Р. В. Канавалаў, Іван Мележ, сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў СССР Георгі Маркаў.

З'езд віталі прадстаўнікі пісьменніцкіх арганізацый: Расійскай Федэрацыі — Аляксандр Смердаў, Ленінграда — Анатоль Чапуроў, Украіны — Юры Збанацкі, Узбекістана — Азат Шарафутдзінаў, Казахстана — Аманжол Шамкенаў, Літвы — Алексіс Хургінас, Таджыкістана — Убайд Раджаб, Карэліі — Марат Тарасаў, Кіргізіі — Шабданбай Абдыраманаў, Туркменіі — Рахім Эсэнаў, Татарыі — Набі Даўлі, Чувашыі — Мікалай Ільбекаў, Азербайджана — Мамед Ібрагімаў, Латвіі — Петэрыс Юрцыньш.

З вялікай прамовай на з'ездзе выступіў цёпла сустрэты дэлегатамі кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі П. М. Машэраў.

З уздымам удзельнікі з'езда прынялі прывітальнае пісьмо Цэнтральнаму Камітэту Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

У заключэнне сваёй работы з'езд абраў кіруючыя органы пісьменніцкай арганізацыі рэспублікі і дэлегатаў на V з'езд пісьменнікаў СССР. На арганізацыйным пленуме праўлення, абранага шостым з'ездам, старшынёй праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі абраны Максім Танк, першым намеснікам старшыні — Іван Шамякін, намеснікамі старшыні — Іван Мележ, Анатоль Грачанікаў, адказным сакратаром праўлення — Мікола Ткачоў. Абраны прэзідыум праўлення.

Адбылося пасяджэнне рэвізійнай камісіі. Старшынёй камісіі абраны Аляксей Зарыцкі.



Пятрусь Броўка і Кандрат Крапіва.



У прэзідыуме з'езда — народныя артысты СССР Ларыса Пампееўна Александроўская і Рыгор Раманавіч Шырма.

Васіль Вітка з украінскім госцем Міколам Нагнібядой.



# ТЭХНІКУМ ХІМІКАЎ

У Бабруйску ўзводзіцца буйнейшы ў Еўропе Беларускі шынны камбінат. Для падрыхтоўкі кадраў вялікай хіміі тут адкрыты тэхнікум гумавай прамысловасці. Размясціўся ён непадалёку ад шыннага камбіната. Ужо гатовы вучэбны і лабараторны карпусы, завяршаецца будаўніцтва студэнцкай сталовай.

У тэхнікуме добра абсталяваныя лабараторыі фізікі, агульнай электронікі і асноў электронікі, арганічнай, неарганічнай, аналітычнай, фізічнай і калоіднай хіміі, тэхнічнага і спектральнага аналізу спецыяльнай тэхналогіі, кабінеты гісторыі і сацыяльна-эканамічных прадметаў, мовы і літаратуры, матэматыкі, курсавога і дыпломнага праектавання.

У тэхнікуме ёсць вытворчыя майстэрні са слясарным, механічным і зварачным аддзяленнямі, тэрмічная майстэрня і кузня. Яны абсталяваны такарнымі, расточнымі, зубафрэзернымі ды свідравальнымі станкамі, добра аснашчана і тэхналагічная майстэрня па вырабе гумы.

Моцная ў нас не толькі тэхнічна-вытворчая база. Пры кабінетах мовы і літаратуры, матэматыкі, фізікі, хіміі працуюць творчыя гурткі, багатая бібліятэка. На яе паліцах — 38 тысяч экземпляраў палітычнай, вучэбнай, мастацкай і даведачнай літаратуры.

Навучэнцы прымаюць актыўны ўдзел ў Рэспубліканскай алімпіядзе па хіміі, фізіцы, матэматыцы. Многія з іх дамагліся добрых вынікаў.

Цяпер у Бабруйскім тэхнікуме гумавай прамысловасці займаецца 712 чалавек на дзённым аддзяленні і 290 — на вячэрнім. Юнакі і дзяўчаты набываюць спецыяльнасці па тэхналогіі гумы, тэхналогіі вырабаў з пластмас, аналітычнай хіміі, па абсталяванні заводаў перапрацоўкі пластмас і гумы, а таксама апрацоўцы металаў рэзаннем.

У мінулым годзе адбыўся першы выпуск у нашым тэхнікуме. Спецыяльнасць тэхнолага гумы атрымала 90 навучэнцаў, а па аналітычнай хіміі — 60 чалавек. Многія паехалі працаваць на Волжскі і Днепрапятроўскі шынныя камбінаты, частка — на Наваполацкі хімкамбінат і ў Салігорск. З сёлетніх выпускнікоў вялікая група накіроўваецца на Краснаярскі шынны завод. Навучэнцы па спецыяльнасці аналітычнай хіміі, што атрымалі дыпломы з адзнакай, будуць працаваць у лабараторыях Акадэміі навук БССР.

Вытворчую практыку навучэнцы тэхнікума праходзяць на перадавых прадпрыемствах краіны: Варонежскім шынным заводзе, на Волжскім і Ерэванскіх шынных камбінатах, на Бабруйскім заводзе тэхнічных вырабаў з гумы. Там для іх створаны ўсе неабходныя ўмовы: ёсць інтэрнат, яны прымацаваны да вопытных спецыялістаў, ім адведзена рабочае месца на вядучых участках вытворчага працэсу. Многія навучэнцы, знаходзячыся на вытворчай практыцы, атрымалі разрады зборшчыкаў пакрышак, вулканізатаршчыкаў і г. д.

Камсамольская і прафсаюзная арганізацыі шмат увагі ўдзяляюць адпачынку навучэнцаў.

У тэхнікуме добрыя ўмовы і для спартыўна-масавай работы. Ёсць спартзала з раздзявальняй і душавымі ўстаноўкамі.

Зборныя каманды тэхнікума прымаюць актыўны ўдзел ва ўсіх спаборніцтвах на першынствах горада, вобласці і рэспублікі. Нашы валейбалісты, футбалісты, баскетбалісты, а таксама каманды па ручным мячы і плаванні — чэмпіёны горада. Баксёры і плыўцы — першыя ў вобласці. Летась каманды па валейболе і плаванні сталі пераможцамі рэспубліканскага першынства сярод навучэнцаў сярэдніх спецыяльных навучальных установ.

Ужо з вясны разгорнута падрыхтоўка да новага навучальнага года. Тэхнікум прыме папаўненне — 300 чалавек.

У тэхнікум залічваюцца юнакі і дзяўчаты з васьмігадовай і сярэдняй адукацыяй. Тыя, хто скончыў васьмігодку, трымаюць экзамены па рускай мове (дыктант) і па матэматыцы (вусна). Асобы з сярэдняй адукацыяй здаюць экзамены па рускай мове і літаратуры (сачыненне) і па хіміі.

У 1972 годзе ўступіць у строй першая чарга Беларускага шыннага камбіната. Яму патрэбна будзе многа спецыялістаў-хімікаў, большасць выпускнікоў тэхнікума будзе заставацца ў Беларусі.

**Васіль ШАХМУЦЬ,**
**дырэктар Бабруйскага тэхнікума гумавай прамысловасці.**

# НАШ ПРАКТЫКУМ

Набліжаецца пара, калі выпускнікі сярэдніх школ, атрымаўшы атэстаты сталасці, стануць перад выбарам далейшага шляху ў жыцці, перад выбарам прафесіі. Юнакі і дзяўчаты будуць паступаць у розныя вышэйшыя навучальныя ўстановы краіны, дзе ім давядзецца трымаць уступныя экзамены, многім — па хіміі.





Хацелася б звярнуць увагу будучых абітурыентаў на тыя пытанні і раздзелы хіміі, па якіх паступаючыя больш за ўсё дапускаюць памылак. На жаль, яны з году ў год паўтараюцца.

Характарызуючы эвалюцыю хімічнай падрыхтоўкі выпускнікоў сярэдніх школ рэспублікі па выніках конкурсных уступных экзаменаў па хіміі ў Мінскім медыцынскім інстытуце, можна сказаць, што за апошнія 3—4 гады навукова-тэарэтычны ўзровень хімічнай падрыхтоўкі вучняў некалькі павысіўся. Гэта асабліва праявілася ў веданні тэорыі будовы атама, сувязі структуры перыядычнай сістэмы элементаў Д. І. Мендзялеева з будовай атама, у разуменні сутнасці акісляльна-аднаўленчых працэсаў, электралітычнай дысацыяцыі, у вытлумачэнні хімічных уласцівасцяў арганічных злучэнняў у святле электронных уяўленняў пра будову малекулаў і г. д.

Адказы некаторых абітурыентаў вызначаліся высокім узроўнем навукова-тэарэтычнай падрыхтоўкі, глыбокімі ведамі прадмета і ўменнем паказаць веданне матэрыялу.

Аднак даводзіцца адзначыць, што большасць абітурыентаў да конкурсных экзаменаў прыйшлі слаба падрыхтаванымі. Гэта адчувалася перш за ўсё ў вельмі абмежаваным аб'ёме ведаў фактычнага матэрыялу, у недастатковасці навыкаў па складанні хімічных ураўненняў, у няўменні рашаць задачы.

Пэўная колькасць здаваўшых экзамен дрэнна ведала ўласцівасці асноўных класаў хімічных злучэнняў. Часта, напрыклад, гідраты вокісlаў цяжкіх металаў атрымлівалі рэакцыяй узаемадзеяння гэтых вокіслаў з вадой, пры растварэнні солі ў вадзе атрымлівалі вокісел і кіслату ці аснову і кіслату, прыводзілі рэакцыі ўзаемадзеяння нерастваральных асноў з солямі. Вельмі часта давалі выдзяленне вадароду рэакцыяй узаемадзеяння кіслотаў з меддзю. Многія абітурыенты не ведалі адметных якасцяў азотнай кіслаты і ў рэакцыі яе з металамі адзначалі выдзяленне вадароду. Большасць здаваўшых экзамен не ведала, напрыклад, саставу паветра.

Да агульных пралікаў падрыхтоўкі выпускнікоў сярэдніх школ варта аднесці недастатковае веданне прынцыпаў вытворчасці асноўных хімічных прадуктаў, хімічнай вытворчасці нашай рэспублікі, хімізму электролізу і карозіі металаў. Многія слаба ўяўляюць хімічныя асаблівасці злучэнняў з пункту гледжання адметнасці іх будовы. Значная колькасць абітурыентаў дрэнна піша акісляльна-аднаўляльныя рэакцыі, не можа разабрацца, губляюцца ці далучаюцца электроны пры змяненні ступені акіслення элементаў.

Большасць абітурыентаў не ўмее пісаць іонныя ўраўненні. Пры напісанні рэакцый у іонным выглядзе яны раскладаюць на іоны ўсё, нават неэлектраліты, хаця, здавалася б, ведаючы, што нерастваральныя рэчывы, маладысацыяваныя і газападобныя рэчывы ў іонных рэакцыях падаюцца ў выглядзе малекул, а моцныя растваральныя электраліты, як цалкам дысацыіраваныя, пішуцца ў выглядзе іонаў,— напісанне ўраўненняў рэакцый у іонным выглядзе не павінна выклікаць цяжкасцяў.

Для прыкладу разгледзім, як напісаць у іонным выглядзе рэакцыю ўзаемадзеяння воцатнай кіслаты з гідратам вокісу натрыю.

Спачатку трэба напісаць ураўненне рэакцыі ў малекулярнай форме:



$$CH_3COOH + NaOH = CH_3COONa + H_2O.$$

Перапісваем гэтае ўраўненне, пакінуўшы слабадысацыіруючыя рэчывы ($CH_3COOH$ і $H_2O$) у выглядзе малекулаў і запісаўшы добра дысацыіруючыя рэчывы ($NaOH$ і $CH_3COONa$) у выглядзе іонаў:



$$CH_3COOH + \underline{\underline{Na^+}} + OH^- = CH_3COO^- + \underline{\underline{Na^+}} + H_2O.$$

Выключыўшы з абедзвюх частак роўнасці аднолькавыя іоны, г. зн. іоны, якія не ўдзельнічаюць у рэакцыі (падкрэслены рыскамі), пішам скарочанае іоннае ўраўненне ў канчатковым выглядзе:



$$CH_3COOH + OH^- = CH_3COO^- + H_2O.$$

Або, напрыклад, ураўненне рэакцыі паміж гідратам вокісу свінцу і салянай кіслатой:



$$Pb(OH)_2\downarrow + 2HCl = PbCl_2\downarrow + 2H_2O.$$

З табліцы растваральнасці соляў і асноў у вадзе відаць, што $Pb(OH)_2$ — нерастваральная аснова, а $PbCl_2$ — мала растваральная соль. Значыць, у іонным ураўненні іх трэба пісаць у выглядзе малекулаў, а саляная кіслата, як моцны электраліт, пішацца ў выглядзе іонаў. Іоннае ўраўненне рэакцыі будзе мець наступны выгляд:



$$Pb(OH)_2\downarrow + 2H^+ + 2Cl^- = PbCl_2\downarrow + 2H_2O.$$

З гэтага ўраўнення нічога нельга выключыць, так як і іон вадароду $H^+$ і іон хлору $Cl^+$ удзельнічаюць у рэакцыі.

Аднак, бадай, самы вялікі прабел у паступаючых выяўляецца ў рашэнні задач, звязаных з разлікамі па хімічных формулах і ўраўненнях і, у асаблівасці,— з пераходам ад адных канцэнтрацый да другіх і разлікам колькасці малекулаў або іонаў у растворы. *Нягледзячы на нескладанасць прапанаваных для экзамена задач* (усе яны былі ўзяты са школьных задачнікаў), звыш паловы абітурыентаў не змаглі з імі справіцца.

Вось прыклад такой «складанай», з пункту гледжання абітурыентаў, задачы:

«Пры растварэнні 44,8 *л* хлорыстага вадароду (вымеранага пры нармальных умовах) у 292 *мл* вады атрымаўся раствор салянай кіслаты з удзельнай вагой 1,10. Патрабуецца вызначыць працэнтную канцэнтрацыю і аб'ём атрыманага раствору».

**Рашэнне.** Каб разлічыць працэнтную канцэнтрацыю, трэба ведаць вагу ўсяго раствору і колькасць рэчыва, якое ў ім утрымліваецца.

Спачатку знойдзем вагу 44,8 *л* хлорыстага вадароду. Для гэтага скарыстаем вынік закона Авагадра:

22,4 *л* HCl важаць 36,5 *г* (1 *г-моль* HCl = 36,5 *г*)
44,8 » » » *x* »

$$x = \frac{44{,}8 \cdot 36{,}5}{22{,}4} = 73 \text{ г HCl}.$$

Вагу 1 *мл* вады прымем роўнай 1 *г*. Тады вага ўсяго раствору будзе роўна: 292 *г*+73 *г*=365 *г*.

Знойдзем працэнтную канцэнтрацыю HCl:

У 365 *г* раствору ўтрымліваецца 73 *г* HCl
» 100 » » » *x* » »

$$x = \frac{100 \cdot 73}{365} = 20 \text{ г}.$$

Такім чынам, раствор 20-працэнтны.

Ведаючы вагу ўсяго раствору і яго ўдзельную вагу, лёгка вызначыць аб'ём раствору па формуле: $V = \frac{P}{d}$ (дзе $V$ — аб'ём, P — вага раствору, d — удзельная вага). Аб'ём шукаемага раствору будзе складаць:

$$\frac{365}{1{,}10} = 331{,}8 \text{ мл}.$$

Аналагічна мы можам рашыць задачы, у якіх патрабуецце вызначыць малярнасць раствору, колькасць малекулаў, іонаў, працэнтныя суадносіны элементаў і г. д.

Разлічым, напрыклад, па ўмовах прыведзенай вышэй задачы: а) якая малярнасць атрыманага раствору; б) якую колькасць *мл* яго неабходна ўзяць для прыгатавання 250 *мл* 0,1 *н* раствору; в) якая колькасць іонаў утрымліваецца ў 250 *мл* 0,1 *н* раствору (лічачы дысацыяцыю поўнай).

а). Малярнасць раствору вызначаецца лікам грам-малекулаў растворанага рэчыва ў літры раствору.

Вызначым вагу аднаго літра раствору (P=V · d):

$$1000 \cdot 1{,}1 = 1100 \text{ г}.$$

Знойдзем колькасць грамаў хлорыстага вадароду, якая ўтрымліваецца ў літры раствору:

У 100 *г* раствору утрымліваецца 20 *г* HCl
» 1100 *г* » » *x* » »

$$x = \frac{1100 \cdot 20}{100} = 220 \text{ г}.$$

1 *г-моль* HCl=36,5 *г*.

Разлічым колькасць грам-малекулаў HCl у 220 *г*.

220 : 36,5=6,0 грам-малекулаў. Такім чынам, раствор 6 М.

б). Нармальнасць раствору вызначаецца колькасцю грам-эквівалентаў рэчыва, якое ўтрымліваецца ў 1 літры раствору.

1 грам-эквівалент HCl=36,5 *г*.

У літры 0,1 н раствору павінна ўтрымлівацца 0,1 *г-экв* рэчыва.

0,1 *г-экв* HCl=3,65 *г* (0,1 · 36,5).





Для прыгатавання 1 *л* (1000 *мл*) 0,1 н раствору трэба 3,65 *г* HCl.

Для прыгатавання 250 *мл* 0,1 н раствору трэба *x г* HCl

$$x = \frac{250 \cdot 3{,}65}{1000} = 0{,}912 \text{ г}.$$

Такая колькасць патрабуецца чыстага рэчыва, а паколькі раствор 20-працэнтны, трэба знайсці колькасць гэтага раствору, у якім будзе ўтрымлівацца 0,912 *г* HCl.

У 100 *г* раствору ўтрымліваецца 20 *г* HCl
» *x* » » » 0,912 *г* HCl

$$x = \frac{100 \cdot 0{,}912}{20} = 4{,}56 \text{ г}.$$

Калі пяройдзем да аб'ёму, гэта складзе: $\frac{4{,}56}{1{,}1} = 4{,}14$ *мл*.

в) Каб вылічыць колькасць іонаў у растворы, спачатку трэба знайсці колькасць рэчыва, якое ўтрымліваецца ў дадзеным аб'ёме яго, пасля, карыстаючыся лікам Авагадра, знайсці колькасць малекулаў. Ведаючы колькасць малекулаў і як дысацыіруе электраліт, лёгка разлічыць колькасць іонаў.

Варта мець на ўвазе, што $6{,}02 \cdot 10^{23}$ малекулаў (лік Авагадра) утрымліваецца ў грам-малекуле рэчыва ў любым агрэгатным стане — цвёрдым, вадкім або газападобным.

Знойдзем колькасць грамаў HCl, якая ўтрымліваецца ў 250 *мл* 0,1 н раствору:

У 1 *л* (1000 *мл*) 0,1 н раствору ўтрымліваецца 3,65 *г* HCl
» 250 *мл* » » » » *x* » »

$$x = \frac{250 \cdot 3{,}65}{1000} = 0{,}912 \text{ г}.$$

36,5 *г* (1 *г-моль* HCl) утрымлівае $6{,}02 \cdot 10^{23}$ малекулаў HCl
0,912 *г* » » » *x* » »

$$x = \frac{0{,}912 \cdot 6{,}02 \cdot 10^{23}}{36{,}5} = 1{,}5 \cdot 10^{22} \text{ малекулаў HCl}.$$

Напішам дысацыяцыю малекулы HCl: $HCl \rightleftarrows H^+ + Cl^-$.

Паколькі малекула HCl пры дысацыяцыі распадаецца на два іоны, іонаў у растворы будзе ў два разы больш, чым малекулаў, г. зн.

$$1{,}5 \cdot 10^{22} \cdot 2 = 3 \cdot 10^{22} \text{ іонаў}.$$

З прыведзеных прыкладаў відаць, што маючы адны зыходныя дадзеныя, у залежнасці ад умоў задачы трэба падбіраць адпаведнае рашэнне. Каб паспяхова рашаць задачы, трэба перш за ўсё добра вывучыць адпаведны тэарэтычны матэрыял і ведаць, што кожнае хімічнае ўраўненне адлюстроўвае колькасны бок хімічных працэсаў і ўтрымлівае дакладныя дадзеныя пра вагавыя адносіны паміж рэагуючымі рэчывамі і тымі, якія атрымліваюцца ў выніку рэакцыі. Калі ж у рэакцыі ўдзельнічаюць газы або ўтвараюцца ў выніку рэакцыі газападобныя рэчывы, то хімічныя ўраўненні паказваюць таксама і іх аб'ёмныя адносіны. Гэта дае магчымасць рабіць самыя разнастайныя разлікі, напрыклад, вылічваць, колькі трэба ўзяць зыходных рэчываў для атрымання адпаведнай колькасці новых рэчываў або якую колькасць прадуктаў рэакцыі можна атрымаць з адпаведнай колькасці зыходных рэчываў і г. д. Такім чынам, пры рашэнні падобнага роду задач неабходна перш за ўсё правільна напісаць ураўненне рэакцыі, пасля чаго ўстанавіць адносіны паміж масамі або аб'ёмамі рэагуючых рэчываў, затым скласці адпаведныя прапорцыі і разлічыць неабходныя велічыні.

Рашаць можна любым спосабам: складаннем прапорцый, алгебраічных ураўненняў, пры дапамозе гатовых формул і г. д.

Няхай абітурыенты ведаюць, што экзаменатары не ставяць мэтай іх «зрэзаць». Але каб вытрымаць конкурс, кожны, хто паступае ў ВНУ, павінен назапасіць неабходны патэнцыял ведаў.

**Дзмітры КІРЫЛЕНКА,**
**асістэнт кафедры агульнай хіміі Мінскага медінстытута.**



# МУЗЫКІ ЧАРОЎНАЕ СВЯТЛО

*Любіце і вывучайце вялікае мастацтва музыкі. Яно адкрые вам цэлы свет вялікіх пачуццяў, захапленняў, думак. Яно зробіць вас духоўна багацейшымі, чысцейшымі, больш дасканалымі. Дзякуючы музыцы вы знойдзеце ў сабе новыя, не вядомыя вам раней сілы. Вы ўбачыце жыццё ў новых тонах і фарбах. Музыка яшчэ больш наблізіць вас да таго ідэалу дасканалага чалавека, які з'яўляецца мэтай нашага камуністычнага будаўніцтва.*

**Д. ШАСТАКОВІЧ.**

У сваім жыцці чалавек штодзённа сустракаецца з музыкай. Можна сказаць, што музыка спадарожнічае яму на працягу ўсяго жыцця.

Раней, каб паслухаць музыку, хадзілі ў тэатр, на канцэрты, наладжвалі хатняе музіцыраванне. Грамзапіс, радыё, тэлебачанне зрабілі даступнай для мільёнаў людзей амаль усю існуючую музыку. У быт увайшлі магнітафон, доўгаіграючыя пласцінкі, і цяпер кожны можа стаць уладальнікам скарбаў сусветнай музычнай культуры.

Але ці ўсе людзі разумеюць музыку? Думаю, што не. Уменне слухаць яе і разумець залежыць ад многіх прычын: тонкасці слыхавых адчуванняў, музычнай памяці, ад музычнага выхавання, якое атрымаў чалавек, ад агульнага яго развіцця. Аднак і той, хто ад прыроды меней схільны да музыкі, пры адпаведных намаганнях і рабоце над сабой можа навучыцца правільна слухаць і ўспрымаць яе.

Музыка з вялікай сілай і глыбінёй паказвае свет чалавечых пачуццяў, перажыванняў, настрояў. Праз душэўныя перажыванні і настроі раскрываецца барацьба светлых і цёмных, добрых і злых сіл, адлюстроўваецца ўся шматграннасць жыцця, сцвярджаюцца эстэтычныя ідэалы эпохі. Апрача таго, музыка перадае гукавое багацце свету.

Прынята падзяляць музыку на сур'ёзную і лёгкую. Добрую лёгкую музыку любяць амаль усе людзі. Што ж датычыць сур'ёзнай, то тут аўдыторыя больш вузкая. Ды яно і зразумела. Сур'ёзная музыка патрабуе максімальнай сабранасці, сканцэнтраванасці. Гэтае спецыфічнае ўменне «чуць музыку» выхоўваецца ў працэсе яе слухання і патрабуе часу і напружанай увагі.

Але чаму нам трэба вучыцца слухаць і разумець музыку? Перш за ўсё таму, што музыцы належыць адно з пачэсных месц у нашым эстэтычным выхаванні. Яшчэ старажытнагрэчаскія мысліцелі (Піфагор, Платон, Арыстоцель і інш.) лічылі музыку галоўным сродкам эстэтычнага выхавання чалавека. Вось што чытаем мы ў адной кнізе пра Піфагора: «...Піфагор прыпісваў і ўстанаўляў сваім знаёмым так званае музычнае настройванне і заахвочванне, прыдумляючы цудоўнае змешванне тых ці іншых дыятанічных, храматычных і энгарманічных мелодый, пры дапамозе якіх ён лёгка накіроўваў і паварочваў да процілеглага стану страсці душы, якія падняліся і зарадзіліся ў неразумным выглядзе; смутак, раздражненне, жаль, недарэчную рэўнасць, страх, прагнасць, сквапнасць, гнеў, распешчанасць, разбэшчанасць, гарачнасць,— кожны з гэтых недахопаў ён накіроўваў да дабрачыннасці пры дапамозе адпаведных мелодый, нібыта пры дапамозе нейкіх выратавальных гаючых саставаў. І калі яго вучні клаліся вечарам спаць, ён вызваляў іх ад дзённай мітусні і гулу ў вушах, ачышчаў усхваляваны розум і падрыхтоўваў у іх бязмоўнасць, добры адпачынак і прыемныя сны. Калі ж яны зноў уставалі з пасцелі, ён вызваляў іх ад начной санлівасці, расслаблення і ляноты тымі ці іншымі спецыяльнымі спевамі і меладычнымі прыёмамі, якія атрымоўваліся ад ліры або голасу».

Гаворачы пра вялікае ўздзеянне музыкі на людзей, успомнім пра «Марсельезу»: гэтая рэвалюцыйная песня стала зброяй паўстаўшых парыжан, дапамагла ім 10 жніўня 1792 года ўзяць штурмам апошні аплот каралеўскай улады — Цюільрыйскі палац. Генералы французскай рэвалюцыйнай арміі, якія змагаліся супраць інтэрвентаў, слалі дэпешы з поля бою: «Прышліце падмацаванне ў 1000 чалавек або 1000 экземпляраў «Марсельезы».

Нарэшце, усім вядома, якую велізарную ролю адыграла наша савецкая песня ў гады грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў. «Смело мы в бой пойдем», «Замучен тяжелой неволей», «Смело, товарищи, в ногу», «Интернационал», «В землянке», «Священная война», «Катюша», «Темная ночь» — гэтыя песні вучылі і вучаць наш народ любіць Радзіму, не



шкадуючы жыцця абараняць яе свабоду ад нашэсця любога ворага.

У. І. Леніна нават у самыя цяжкія гады грамадзянскай вайны цікавілі пытанні музычнага побыту моладзі. «Як моладзь адпачывае? Якія песні ёй падабаюцца?»— пытаўся Уладзімір Ільіч.

Сучасная песенная творчасць — вельмі стракатая і складаная карціна. Аднак можна вылучыць у ёй два *напрамкі*: адзін звязаны з традыцыямі песень 30—40-х гадоў, другі арыентуецца пераважна на сучасную эстраду, перш за ўсё на джазавую і танцавальную музыку. Асабліва прыкметным гэта стала ў сярэдзіне 50-х гадоў. З'явіўся легіён эстрадных спевакоў і спявачак, якія запоўнілі праграмы тэлевізійных і радыёперадач, аглядаў і прадстаўленняў. Лепшыя з іх валодаюць бясспрэчным музычным чуццём і тэхнікай дэкламацыйнай «гаворкі», іншыя ж, скажам шчыра, раздражняюць утрыраванасцю фразіроўкі, вульгарнасцю тэмбраў, наўмыснай арытмічнасцю і алагічнасцю выканання. Гэты «стыль» прыйшоў да нас з-за мяжы. Некаторыя дзеячы Захаду пачалі разглядаць наладжванне культурных сувязяў з нашай краінай як сродак барацьбы супраць прагрэсіўнага савецкага мастацтва, як адзін з метадаў вядзення ідэалагічнай барацьбы супраць савецкай моладзі. Таму яны часта замест добрых узораў мастацтва прыпадносяць нам такую песню, танец і джазавую музыку, месца якім толькі ў прытоне.

Можна запярэчыць, што джазавыя традыцыі ў песеннай музыцы былі і ў нас. Так. Яшчэ ў 30-я гады джаз і танец унеслі нямала новага ў наша жыццё. Успомнім таленавітага артыста савецкай эстрады Леаніда Уцёсава, стваральніка тэатралізаванага джаза. Яго першае выступленне адбылося 8 сакавіка 1929 года ў зале Ленінградскага Малога опернага тэатра. Аднак Л. Уцёсаў не стаў капіраваць заходнія ўзоры джаза. Наадварот, стараючыся вырвацца з пошлага рэпертуарнага кола зарубежных факстротаў, чарльстонаў і г. д., Уцёсаў стварае праграму пад назвай «Джаз на павароце», у якой цалкам адмаўляецца ад традыцыйнай музыкі заходняга джаза. У праграму ўвайшлі чатыры рапсодыі: руская, украінская, яўрэйская і рапсодыя на тэмы песень савецкіх кампазітараў. У рабоце над гэтай праграмай Уцёсаў упершыню творча сустрэўся з І. Дунаеўскім, музыкантам, які адыграў велізарную ролю ў гісторыі савецкай лёгкай музыкі, у тым ліку і джаза.

У гісторыі савецкай джазавай музыкі важнае значэнне меў выхад на экран кінафільма «Вясёлыя рабяты». Тут упершыню Дунаеўскі разгарнуў свой талент у галіне стварэння масавай кінапесні і віртуознага выкарыстання прыёмаў і інструментарыя джаза. Але якога джаза! Калі звярнуцца да партытур не толькі «Вясёлых рабят», але і іншых кінафільмаў з музыкай Дунаеўскага, у прыватнасці «Цырка», можна заўважыць, што па мастацкіх прыёмах яны напамінаюць тыповыя ўзоры «сімфаджаза». Дунаеўскі арыентаваўся на аркестр, у якім спалучаліся інструменты сімфанічнага аркестра і джаза. Таленавіты майстра савецкай песні, Дунаеўскі прыйшоў да натуральнага спалучэння вакальнай прыроды песні і яе аркестровай перадачы. Валодаючы выдатным густам, Дунаеўскі не хаваючы агіды гаварыў пра джазы, якія запаўняюць сваімі банальнымі гукамі танцавальныя залы: «Гэтыя ансамблі і ўяўляюць той сутарганы, агідны джаз, працаўнікам якога павінен быць кожны чалавек, які валодае здаровым эстэтычным пачуццём. Відаць, такі джаз мае толькі рытмічнае прызначэнне, бо музыка, якую ён выконвае, знявечана гарманічным і паліфанічным крыўляннем, пазбаўлена ўсялякага сэнсу».

І сёння ў нас таксама не могуць не выклікаць прыкрасці песні, у якіх танная, прымітыўная музыка штучна спалучаецца з грамадска значнай тэмай, а таксама «мадэрнізацыя» любімых песенных мелодый, спробы «асучасніць» іх сумніцельнай па якасці апрацоўкай і развязнай манерай выканання. Можам успомніць у гэтай сувязі так званае «асучасненае» выкананне ленінградскім эстрадным аркестрам, а затым многімі іншымі эстраднымі аркестрамі уверцюры да оперы Бізэ «Кармен» у стылі рускай «Барыні» і г. д.

Песня патрэбна народу. Яна была і на сённяшні дзень застаецца важным сродкам ідэйнага выхавання. У савецкай песні слаўныя традыцыі. Высокія дасягненні яе агульнавядомыя. Нямала добрых *песняў з'явілася* і *ў апошні час*. Назавём «Рускае поле», «З чаго пачынаецца Радзіма?» Я. Фрэнкеля, «Я люблю цябе, Расія» Тухманова, песні беларускіх кампазітараў І. Лучанка, У. Алоўнікава і многіх іншых.

Лепшыя песні сёння — песні шырокага і магутнага гучання. Так і павінна быць! Наша мастацтва заклікана сцвярджаць ідэалы новага грамадства, прапагандаваць жыватворныя ідэі камунізма. Яно гаворыць з людзьмі ў поўны голас, бадзёра і радасна, і гучыць яго голас не толькі ў нашай краіне, але і далёка за яе межамі. Аднак знаходзяцца «тэарэтыкі», якія сцвярджаюць, што для нашага часу нібыта характэрна «асаблівая інтымнасць» пачуццяў і што песні Высоцкага і выяўляюць гэтую характэрную асаблівасць часу. Трэба сказаць, што падобныя песенькі не з'яўляюцца нечым новым. Яны гучалі ў гады першай сусветнай вайны, калі ўсё дэкадэнцкае мастацтва, прыйшоўшы ў стан разгубленасці, душэўнага заняпаду, імкнулася адысці «ў прыгожае жыццё», у экзотыку... У гэтыя гады ў моду ўвайшлі песенькі Ізы Крэмер. У сваіх успамінах «З песняй па жыцці» Л. Уцёсаў піша пра яе: «Яна спявала, дакладней, зусім інтымна напявала пра Чорнага Тома з гарачымі далонямі, пра мадэль ад Пакена, пра Бразілію і Аргенціну, дзе неба сіняе, як на карціне. Яна сама складала свае песні, у якіх спалучалася крышку экзотыкі, крышку эротыкі і крышачку любавання шыкоўным жыццём». Цэнтральнай фігурай жанру «песень настрояў» становіцца ў перадрэвалюцыйныя гады Аляксандр Вярцінскі, шматгранна таленавіты чалавек, які спалучаў у сваёй асобе аўтара вершаў і музыкі і выдатнага выканаўцу. Яго песні тонка раскрывалі настроі душэўнай спустошанасці, тыповай для часткі рускай інтэлігенцыі тых гадоў.

Наша моладзь спявае песні розных народаў, розных эпох, гасцінна сустракае новыя песні, якія гучаць па радыё, з тэлевізійных экранаў і магнітафонных стужак. Таму ў нашы дні ўсе песні свету знаходзяцца ў пастаянным кругазвароце, як, дарэчы, і іншыя жанры музыкі. Але песня мае адну ўласцівасць: учарашнія слухачы сёння становяцца яе выканаўцамі, яе распаўсюджвальнікамі. Таму вельмі важна захоўваць тут высокі эстэтычны крытэрый.

Любы від мастацтва — ці гэта песня, ці опера, ці балет — цесна звязаны з жыццём. Мастак — свядома або несвядома — заўсёды выступае вешчуном ідэй, узнятых грамадскім рухам. З найбольшай відавочнасцю гэта праяўляецца ў творах на гістарычныя і сучасныя тэмы, звязаныя з канкрэтнымі грамадскімі падзеямі. Можна ўспомніць, напрыклад, оперы маладога Вердзі «Ламбардцы», «Бітва пры Леньяна», «Набука», у якіх увасобіліся думкі і пачуцці, народжаныя эпохай італьянскага нацыянальна-вызваленчага руху. Да розных гістарычных эпох адносяцца сюжэты гэтых опер, але ў цэнтры іх — барацьба народа супраць іншаземных захопнікаў. Або ўзяць «Івана Сусаніна» Глінкі, «Князя Ігара» Барадзіна, «Барыса Гадунова» Мусаргскага, сімфоніі Д. Шастаковіча — яны таксама цесна звязаны з грамадскім жыццём свайго часу.

Валодаючы велізарнымі выяўленчымі магчымасцямі, музыка здольна глыбока пранікнуць у змест паэтычных твораў. Дзякуючы музыцы вялікіх рускіх кампазітараў XIX стагоддзя нам сталі больш блізкімі, зразумелымі многія творы Пушкіна. Савецкія кампазітары А. Новікаў, І. Дунаеўскі, В. Салаўёў-Сядой, В. Мурадэлі, П. Майбарада, М. Аладаў, А. Багатыроў, У. Алоўнікаў і многія іншыя раскрылі ў гуках, наблізілі да нас многія творы паэтаў мінулага і сучаснасці.

Музыка надае эмацыянальную афарбоўку паэтычным творам, узбагачае іх, дапаўняе, пашырае пазнавальную іх каштоўнасць. З другога боку, сама музыка, дзякуючы сувязі з літаратурай, становіцца больш зразумелай, успрымальнай.

У наш час рэакцыйнае буржуазнае мастацтва, якое аб'явіла паход супраць гуманізму, высунула лозунг: «Музыка без чалавека». У гэтых умовах асабліва вялікая і высакародная грамадская роля належыць музыцы, якая выказвае жывыя пачуцці жывых людзей (5-я і 7-я сімфоніі Пракоф'ева, 7-я, 11-я, 12-я, 13-я сімфоніі Д. Шастаковіча і інш.).

Што ж супрацьстаўляюць рэалістычнай творчасці прадстаўнікі іншых напрамкаў? Крайні і ваяўнічы індывідуалізм, фаталізм, няве'е ў чалавека. Так нараджаецца характэрнае для сучаснай буржуазнай культуры «мастацтва без надзеі», мастацтва, якое страціла свае ідэалы. З ім звязана дзейнасць так званага «авангарда».

Каб было зразумела, якое мастацтва прапагандуюць «авангардысты», прывядзём некаторыя прыклады з карэспандэнцый савецкага журналіста Генрыха Баравіка. «...На жаль, цяпер публіку нічым не здзівіш,— гаворыць Шарлота Мурмэн, прадстаўніца авангарда.— Калі два гады назад я ўпершыню іграла на віяланчэлі ў Нью-Йорку напалову голая, мяне нават арыштавалі. А цяпер,— яна зрабіла пагардлівую грымасу,—у любым тэатры... і не напалову, а зусім».

А вось яшчэ адзін прыклад «авангардызму». «...Гэты нумар я вельмі люблю,— гаворыць Шарлота Мурмэн.— Мы іграем з Пайкам традыцыйную музыку. Пасля лезем у бочку з вадой. Вылазім мокрыя і зноў іграем. Гэта ўжо стала класікай «авангардызму». Пасля нас многія залазілі ў бочку, але мы былі першыя. Не ведаю, што будзе з іншымі, але Пайк застанецца ў вяках. Калі-небудзь людзі яго прызнаюць».

«А я чуў **(гаворыць ёй Генрых Баравік.—М. К.)**, што Джон Кейдж у Венецыі ў часе выканання Сен-Санса скакаў у Гранд-канал. Яна паглядзела на мяне яснымі вачыма: — Праўда, скакаў. Але пагадзіцеся, што канал — гэта ўсё-такі не бочка. У бочку — больш арыгінальна».

Авангардысцкія дзеячы заўляюць, што яны нібыта знайшлі сістэму, прыёмы, гучанне, якія з'яўляюцца сапраўды сучаснымі ў мастацтве. На самай жа справе яны даўно парвалі з перадавымі традыцыямі музычнай класікі і супрацьстаўляюць ёй сваё ілжэнаватарства. Музычныя гукі і вобразы яны адкідаюць і замяняюць сумбурным нагрувашчваннем немузычных гукаў і шумаў. Кампазітары-мадэрністы ствараюць сваю музыку не для народа, а для «абраных». Яны нават і не імкнуцца быць зразумелымі народу. Кампазітар Эрнст Тох, які выкладае ва ўніверсітэце штата Мінесота, вучыць студэнтаў: «Будзь звышпрагрэсіўным, вынаходзь заўтрашні стыль, а яшчэ лепш — паслязаўтрашні... Вынаходзь звышатамны стыль, або «стыль планеты Марс», і памятай: ніхто не па-

вінен разумець тваю музыку, і менш за ўсіх — ты сам».

Прыхільнікі канкрэтнай музыкі па-рознаму спалучаюць гудкі паравозаў, вулічны шум, звон шкла, грукат стрэлаў, выццё сірэны і, надаўшы гэтым спалучэнням назву музычных твораў, абрушваюць іх на галовы слухачоў. Чалавечыя ідэі і пачуцці свайго ўвасаблення ў такіх творах не знаходзяць.

Можа ўзнікнуць пытанне: чаму ж не забараняюць такую «музыку» на Захадзе? Ды таму, што вялікі буржуазны бізнес цалкам захапіў у свае рукі прыбытковую галіну музычнай эстрады. А там, дзе запахла бізнесам, катэгорыі густу, маралі, культуры, як вядома, перастаюць існаваць.

Мастацтва — адзін з відаў чалавечага мыслення, вобразнае мысленне аб жыцці. Яно абуджае ў людзей самыя высокія, самыя гуманныя пачуцці. Жыццёвае прызначэнне музыкі вельмі разнастайнае. Гэта і дапамога ў працы, і ўдзел у абрадзе, аб'яднанне мноства людзей агульным настроем, арганізацыя калектыўнага дзеяння, выяўленне глыбокай духоўнай сутнасці чалавека. Мы ганарымся музыкай, якую стварылі савецкія кампазітары ў гады вайны. Веліч ідэй, тэматычная і жанравая разнастайнасць, мастацкая дасканаласць гэтай музыкі робяць яе вечна жывой для будучых пакаленняў. Нас проста ўзрывае напал драматызму Сёмай сімфоніі Шастаковіча, якая нарадзілася ў блакадным Ленінградзе. Гэтая неўміручая музычная фрэска, поўная несакрушальнай веры ў перамогу, з'яўляецца прыкладам найвышэйшай мужнасці і грамадзянскасці мастака, які яе стварыў.

Слухаючы музыку, мы не толькі атрымліваем эстэтычнае задавальненне, але і пазнаем у яе вобразах рэальны свет, людзей, іх пачуцці і думкі. Таму і сама музыка з'яўляецца аб'ектам пазнання. Сутыкаючыся з музыкай, людзі трапляюць пад яе ачышчальнае ўздзеянне. Эстэтычную асалоду адчуваем мы нават тады, калі становімся сведкамі раскрытых у ёй жыццёвых канфліктаў, калі пазнаем праз мастацтва негатыўныя бакі рэчаіснасці,— гэта, безумоўна, пры той умове, калі мастак адлюстроўвае перадавыя ідэалы, прыгажосць духу чалавека, паэзію яго пачуццяў і мараў. У якасці прыкладу можна назваць Шостую сімфонію П. І. Чайкоўскага, якую вельмі любіў У. І. Ленін. Наогул Ленін не любіў павярхоўнай, эфектнай і сентыментальнай музыкі. Ён любіў і цаніў класічную, асабліва сімфанічную музыку. Паказальная ў гэтых адносінах ленінская ацэнка Шостай (патэтычнай) сімфоніі П. І. Чайкоўскага. Праслухаўшы яе, Уладзімір Ільіч пісаў маці: «Нядаўна былі першы раз за гэтую зіму ў добрым канцэрце і засталіся вельмі задаволены,— асабліва апошняй сімфоніяй Чайкоўскага».

Чым жа яна захапіла У. І. Леніна?

Шостая сімфонія — твор вялікага кампазітара. Яна належыць да жанру высокай лірычнай трагедыі. У ёй вырашаецца праблема сэнсу быцця і магчымасцяў чалавечага шчасця. Кампазітар намаляваў карціну жыцця чалавека ад свядомага юнацтва да непазбежнага канца. Чатыры часткі сімфоніі ўспрымаюцца як чатыры важнейшыя этапы жыцця чалавека.

Музыка першай часткі выклікае адчуванне шчасця, цудоўнага росквіту маладосці. У той жа час яна перадае мары пра будучыню, роздум над жыццём, напамінае пра будучую барацьбу і пакуты.

У грацыёзных мелодыях вальса другой часткі паказана прыгажосць і радасць жыцця. Пачуццё радасці часамі змяняецца сумам адзінокай душы. З'яўленне сумнага настрою не можа не парушыць шчаслівага спакою і вышэйшай гармоніі.

Сэнс музыкі трэцяй часткі — у поўнай нечаканасцяў змене пачуццяў. У ёй спалучаецца і захапленне чалавека ўласнай сілай, і трывожнае чаканне будучыні. У свядомасці лірычнага героя праносяцца невыразныя — то вясёлыя, то грозныя — вобразы, якія выклікаюць трывогу за вынік барацьбы.

Апошняя частка сімфоніі, яе фінал увасабляе фінал чалавечага жыцця. Яна стварае адчуванне катастрофы, раптоўнага крушэння надзей у момант найвышэйшага задавальнення жыццём. Жыццёвыя сілы героя паступова слабеюць у напружаным супраціўленні хадзе трагічных падзей. І хоць лірычны герой трагічна гіне, сімфонія не робіць уражання безвыходнасці, а сцвярджае жыццё. Свядомасць лірычнага героя натхнёна прагай быцця, нянавісцю да смерці. Смерць выступае як эпізод у бясконцай плыні жыцця. Музыка Шостай сімфоніі вабіць здзіўляючай прыгажосцю і сілай, яна гаворыць пра ўсё добрае ў жыцці, пра барацьбу чалавека за шчасце.

Працэс пазнання музыкі пачынаецца са слыхавых адчуванняў, з таго, што настрой, адлюстраваны ў музыцы, перадаецца слухачу. Сумная музыка нараджае журботны настрой, вясёлая — радасны. Аднак музычныя вобразы выклікаюць у слухача не толькі эмацыянальную рэакцыю. Яны запальваюць яго ўяўленне, абуджаюць асацыяцыі, праз якія пазнаецца жыццё.

У працэсе ўспрыняцця музыкі важна падкрэсліць цэласнасць успрыняцця і аналіз. Гэтыя два моманты дапаўняюць адзін аднаго. Вядома, калі першы з іх у значнай ступені належыць так званай мастацкай інтуіцыі, то другі мае на ўвазе хаця б некаторую свабоду арыентацыі ў галіне музычнай тэхнікі. Імкнуцца да гэтага павінен кожны аматар музыкі.

Мастацкае ўспрыняцце захоўвае вопыт папярэдніх музычных уражанняў. Па аналогіі з вядомымі ўжо творамі чалавек можа ўлавіць падобныя рысы ў новых для яго творах, а гэта памагае ўявіць іх вобразнае значэнне. Так, жаласная інтанацыя ўздыху, энергічная квартавая фанфара, ледзь прыкметны рух тарантэльнага рытму здольны выклікаць адпаведныя асацыяцыі. У рамантычнай музыцы сфарміраваліся нават своеасаблівыя «інтанацыйныя элементы», напрыклад, року, фатуму. Іх тыповыя рысы — запаволенасць маршавага руху, суровасць акордавага поступу, здранцвеласць меладычнага малюнка, гарманічная ўскладнёнасць, падкрэсленасць мінорнага ладу.

Аднак у працэсе ўспрыняцця мастацтва вопыт можа аказацца і перашкодай. Сапраўды, цяжка бывае ацаніць новую з'яву, калі лічыць ранейшыя эстэтычныя нормы непарушнымі, раз назаўсёды ўстаноўленымі. Дагматычная прыхільнасць да звычнага можа засланіць рэальную каштоўнасць мастацкага адкрыцця. Суадносіны старога і новага ў мастацтве вельмі складаныя, ды і самі гэтыя паняцці не прасталінейна плоскія, а ўнутрана шматгранныя. Новае часта дасягаецца пераасэнсаваннем старога ў працэсе безупыннай эвалюцыі сродкаў выразнасці. Замацаваныя ў практыцы, яны набываюць пэўнае сэнсавае значэнне і расшыфроўваюцца падрыхтаванымі слухачамі параўнаўча лёгка. Прымененыя ж у іншых мэтах, у іншым кантэксце і, такім чынам, пераасэнсаваныя, яны нярэдка дэзарыентуюць інертнае ўспрыманне.

Як жа мастацкае ўспрыманне «прыстасоўваецца» да прыроды мастацтва, якая ўвесь час абнаўляецца?

Вядома, што ў Пракоф'ева доўгі час «не знаходзілі» меладычнасці. Яго раннія творы ашаламлялі ў першую чаргу сваёй мужнай энергіяй, рытмічным напорам. Крытык Б. Асаф'еў пісаў, што лірыка кампазітара з цяжкасцю прабіваецца праз скерцыёзнасць, гратэск. А сёння для нас бясспрэчная прыгажосць пракоф'еўскай музыкі. Як жа гэта растлумачыць? Справа ў тым, што да гэтай музыкі спачатку падыходзілі з крытэрыямі, якія склаліся пад уздзеяннем папярэдніх стыляў, напрыклад, стылю рамантыкаў, для якога характэрна вялікая пачуццёвасць, нават экзальтацыя, інтэнсіўнасць меладычных ліній, вытанчаныя храматызмы. Цікава, што сучаснік Пракоф'ева Рахманінаў у многім пераняў гэтыя рысы, дзякуючы чаму яго творы хутка знаходзілі шлях да сэрца слухачоў.

Відавочна, некаторая запаволенасць эстэтычнай рэакцыі ў нейкай меры характэрная і для сучасных слухачоў, якія маюць справу з мастацтвам складаным, часам — незвычайным.

Дарэчы, ці толькі для сучасных? Вядома, напрыклад, што Гётэ з захапленнем адносіўся да Моцарта, але не прымаў некаторыя творы Бетховена, лічачы, што яны выходзяць за рамкі мастацтва. Музыка Бетховена гучыць больш як 150 гадоў. Мяняліся нашы ўяўленні пра яе; ранейшыя трактоўкі, асацыяцыі саступалі месца новым, больш дакладным. Аб'ектыўна ж творчасць Бетховена, зразумела, не змянілася. Але дзякуючы таму, што ўспрыняцце наша няспынна развіваецца, удасканальваецца, мы адкрываем у ёй усё новыя і новыя бакі. У працы Л. Мазеля «Пра мелодыі», напрыклад, пераканаўча паказана арганічная сувязь лірычнага і гераічнага пачаткаў у мелодыцы кампазітара, якая не прыцягвала раней увагу даследчыкаў.

Такім чынам, музычная ўспрымальнасць развіваецца гістарычна. Яна цесна звязана з сучаснай творчай практыкай, якая патрабуе ад аматара мастацтва не толькі некаторай прыроднай таленавітасці, навыкаў слухання музыкі, але і ўвагі, цярплівасці, патрэбы ўслухоўвання ў новае і настойлівага жадання разумець яго.

Як жа навучыцца слухаць музыку?

Перад праслухоўваннем той ці іншай сімфоніі, балетнай музыкі або оперы неабходна добра пазнаёміцца са зместам твора. Для гэтага дастаткова мець у сябе падручнік па зарубежнай, рускай і савецкай музычнай літаратуры. Пасля таго як вам будзе вядомы змест твора, праслухайце яго з пачатку да канца — гаворка ідзе пра цэласнае ўспрыняцце. Потым, карыстаючыся музычна-тэарэтычным разборам, які дадзены ў падручніку, пастарайцеся прааналізаваць твор. Пры аналізе важна запомніць тэму кожнай часткі твора, а таксама мець на ўвазе яго форму, структуру, стыль кампазітара. Можа здарыцца, што з першага разу тэма не запомніцца. У такім разе не варта засмучацца, трэба паслухаць твор яшчэ і яшчэ раз — не абавязкова ў адзін і той жа дзень. Вельмі важна пастарацца ўзнавіць гэтую тэму голасам. Пасля таго як вы прааналізуеце ўвесь твор, вярніцеся да яго і паслухайце яшчэ раз. Цяпер ён стане для вас ужо нечым сваім, блізкім.

Для тых, хто пачынае захапляцца сур'ёзнай музыкай і хто паставіў перад сабой мэту навучыцца слухаць і разумець музыку, можна рэкамендаваць пачынаць з нескладаных, пажадана праграмных твораў. Напрыклад, «Пораў года» Чайкоўскага, «Карцінак з выстаўкі» Мусаргскага і г. д. Навучыўшыся слухаць і разумець музыку, вы адкрыеце для сябе новы свет, які да гэтага часу быў для вас не вядомы. Як гараджанін, які ўпершыню выехаў «на прыроду» і ўбачыў не вядомае яму раней хараство, вы адкрыеце для сябе новую невычэрпную крыніцу асалоды і будзеце вельмі даражыць ёю.

Эстэтычнае выхаванне не ставіць сва-

ёй мэтай падрыхтаваць абавязкова мастакоў, музыкантаў, пісьменнікаў. Яно павінна абудзіць творцу ў кожным чалавеку, стварыць стымул для творчасці, узняць кожнага чалавека да ўзроўню мастацкага ўспрымання рэчаіснасці, каб ён працаваў, разумеючы напрамак і перспектывы грамадскага развіцця, адчуваў грамадскую каштоўнасць прыгажосці. якую ўвасабляе ў сабе няспыннае абнаўленне жыцця.

Музычна-эстэтычнае выхаванне дзяцей і юнацтва — аснова эстэтычнай культуры ўсёй краіны, яно з'яўляецца важнай часткай камуністычнага выхавання народа. У Праграме КПСС у дастасаванні да школы сказана: «Сярэдняя адукацыя павінна забяспечваць эстэтычнае выхаванне падрастаючага пакалення». Пакуль яшчэ гэтую задачу школа выконвае далёка не ў поўную меру. У пастаноўцы эстэтычнага выхавання школьнікаў наогул і музычна-эстэтычнага ў прыватнасці маюцца сур'ёзныя недахопы. Адзін з гэтых недахопаў можна вытлумачыць недахопам кваліфікаваных настаўнікаў. Але можна спытаць: «Чаму нават на сённяшні дзень не ўсе, хто займаецца ў вышэйшых і сярэдніх навучальных установах краіны, вывучаюць курс марксісцка-ленінскай эстэтыкі?» Вывучэнне марксісцка-ленінскай эстэтыкі неабходнае для ўсіх: і для інжынера, і для настаўніка, і для ўрача, і для агранома, і для вучонага. Кожны чалавек, атрымаўшы спецыяльнасць, павінен працаваць у калектыве, разам з людзьмі, якія, магчыма, не маюць вышэйшай адукацыі. Значыць, на яго ўскладваецца вялікая адказнасць, а іменна: несці культуру ў масы. А каб несці культуру, трэба самому быць чалавекам усебакова развітым.

У апошнія гады назіраюцца досыць значныя зрухі ў вырашэнні гэтага пытання: адкрыты новыя музычныя вучылішчы, музычныя школы, музычныя студыі пры палацах і дамах культуры, арганізоўваюцца музычныя гурткі пры агульнаадукацыйных школах, дзе дзеці вучацца іграць на розных інструментах. Аднак міністэрствам культуры і асветы трэба яшчэ многае зрабіць да таго, каб пастаноўка музычна-эстэтычнага выхавання моладзі адпавядала патрабаванням часу. Вялікая будучыня належыць факультэтам грамадскіх прафесій, якія працуюць пры некаторых ВНУ, але ў іх, на жаль, работа яшчэ не пастаўлена на належную вышыню.

У барацьбе за перамогу камунізма эстэтычнае выхаванне будзе адыгрываць усё большую ролю ў камуністычным выхаванні моладзі як стымул палітычнай і духоўнай актыўнасці грамадства.

Мікалай КАРАЛЬКОЎ.

**Нататкі з падарожжа ў Грузію Янкі СІПАКОВА будуць надрукаваны ў бліжэйшы час**





Мікалай ЮРКЕВІЧ



# ...ТРОЕ ДЗЯЦЕЙ — ДЗІЦЯ

## ДА ПЫТАННЯ АБ СУЧАСНЫХ ТЭНДЭНЦЫЯХ У ДЭМАГРАФІЧНЫХ ПАВОДЗІНАХ БАЦЬКОЎ

**Праблема нараджальнасці — адна з найбольш актуальных грамадскіх праблем. І зусім заканамерна, што беларускія дэмографы ўсё часцей прысвячаюць гэтай праблеме свае працы. У гэтым артыкуле закранаюцца пэўныя пытанні сацыялогіі дэмаграфічных працэсаў, якія знайшлі адлюстраванне ў матэрыялах даследавання, праведзенага пад кіраўніцтвам аўтара на Мінскім камвольным камбінаце ў мінулым годзе. У анкету, з дапамогай якой збіралася інфармацыя для складання плана сацыяльнага развіцця рабочага калектыву, было ўключана і некалькі дэмаграфічных пытанняў. Сярод апытаных было 856 замужніх жанчын. Іх адказы, апрацаваныя на ЭВМ «Мінск-22», і аналізуюцца ў гэтым артыкуле.**

### «АДНАДЗЕТНАЯ СІСТЭМА»

Дадзеныя аб колькасці дзяцей у сем'ях па Беларусі будуць атрыманы ў выніку апрацоўкі апытальных лістоў перапісу насельніцтва 1970 года. Але ўжо цяпер можна сказаць, што ў нашай рэспубліцы, як і ў большасці іншых рэспублік, муж і жонка параўнальна рэдка маюць больш двух дзяцей. Гэтую ісціну пацвярджаюць і вынікі нашага даследавання. Сярод апытаных замужніх жанчын бяздзетных было — 17,1%, з адным дзіцём — 33,25%, з двума — 41,92%, з трыма — 4,82%. І толькі 1,44% мелі больш трох дзяцей. Столькі ж апытаных замужніх жанчын не далі адказу на пастаўленае пытанне. Такім чынам, сярод апытаных больш як 50% — бяздзетныя або маюць толькі адно дзіця. У сярэднім на кожную сям'ю прыпадае каля 1,4 дзіцяці. У сувязі з гэтым значную цікавасць уяўляе прыведзеная ніжэй табліца. Яна дапамагае ўбачыць, як змяняецца колькасць дзяцей у сем'ях апытаных жанчын у залежнасці ад працягласці замужжа.

Табліца 1.

| Працягласць шлюбу | Колькасць дзяцей | | | | | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | няма | адно | двое | трое і больш | няма адказу | |
| Менш 1 года | 81,61 | 8,08 | 8,05 | — | 2,30 | 100,01 |
| 1 год — менш 3-х гадоў | 51,67 | 45,00 | 3,33 | — | — | 100,00 |
| 3 гады—менш 5-ці гадоў | 11,48 | 83,61 | 4,92 | — | — | 100,01 |
| 5 гадоў — менш 10-ці гадоў | 7,10 | 51,48 | 37,28 | 2,96 | 1,18 | 100,00 |
| 10 гадоў — менш 20-ці гадоў | 3,50 | 23,25 | 66,56 | 5,74 | 0,96 | 100,01 |
| 20 гадоў — менш 30-ці гадоў | 4,60 | 21,84 | 49,43 | 22,99 | 1,15 | 100,01 |
| 30 гадоў і больш | — | 15,38 | 30,77 | 53,85 | — | 100,00 |
| Усяго | 17,18 | 33,62 | 41,50 | 6,22 | 1,36 | 99,97 |

Табліца добра паказвае змены ў «дэмаграфічных паводзінах» мужа і жонкі за апошнія 30 з лішнім гадоў. Трое і больш дзяцей маюць 53,85% жанчын, якія замужам 30 гадоў і больш. Сярод сем'яў, якія ўзніклі 10—20 гадоў таму назад, большасць двухдзетныя. Нарэшце, муж і жонка, якія пражылі сумесна ад 3 да 10 гадоў, пераважна схільны да «аднадзетнай сістэмы».

Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на другі і трэці радкі. У шлюбах працягласцю ад года да трох аднадзетных 45%. У наступным колькасць аднадзетных амаль падвойваецца. Што ж датычыць двухдзетных, то іх лічба, мізэрная ў другім радку, вельмі мала змянілася і ў трэцім. Псіхалагічная схільнасць да аднаго дзіцяці ў маладых сем'ях такая моцная, што парушэнні яе сустракаюцца вельмі рэдка.

## ЦІ ДОБРА ГЭТА?

З аднаго боку, быццам бы добра. Мы сёння смачней ядзім і лепш апранаемся, чым у недалёкім мінулым. Гэта нас радуе. Усе ведаюць, што ўзровень дабрабыту народа залежыць ад прадукцыйнасці працы. Але зніжэнне нараджальнасці ўзмацніла рост спажывання на душу насельніцтва. Мы не толькі можам больш купіць. Купленае дзеліцца на меншую колькасць спажыўцоў. Адна і тая ж зарплата аднадзетнай сям'і забяспечвае куды вышэйшы ўзровень жыцця, чым, скажам, трохдзетнай.

Паўтараю, з аднаго боку — нібыта і добра. Але, на жаль, сёння гэта далёка не самае важнае. Няма абсалютных ісцін. Ці добра сухое, сонечнае надвор'е? Так, калі перад гэтым ішлі дажджы і ў глебе дастаткова вільгаці. Дрэнна — калі дажджу даўно не было. Нешта падобнае трэба сказаць і ў дадзеным выпадку. Дэмографы лічаць, што найбольш дакладным сродкам вывучэння будучай нараджальнасці з'яўляецца нета-каэфіцыент узнаўлення. Калі гэты каэфіцыент вышэй адзінкі, узнаўленне насельніцтва будзе дадатным, калі ніжэй — адмоўным. Пакуль нета-каэфіцыент прыросту насельніцтва ў БССР быў вышэй адзінкі, размовы пра карысць зніжэння нараджальнасці часткова мелі падставу. У сучасны момант становішча змянілася. Калі мы не жадаем жыць толькі сённяшнім днём, існуючы ўзровень нараджальнасці павінен выклікаць у нас самую сур'ёзную заклапочанасць. Нават трывогу. Бо калі б «аднадзетная сістэма» замацавалася назаўсёды, хуткае выміранне народа стала б непазбежнасцю. З кожным пакаленнем колькасць насельніцтва скарачалася б болей чым напалову. Ды і чыста эканамічны выйгрыш быў бы зведзены на нішто, бо сярод насельніцтва ў два разы павялічылася б удзельная вага непрацаздольных старых.

Павялічыліся б цяжкасці выхаваўчага характару. Ужо сёння бацькі, якія маюць адно дзіця — часта спешчанае, капрызнае, закормленае,— спазнаюць на ўласным гарбе ўсю «радасць» аднадзетнасці. Адным словам, з якога боку ні падыдзі — бачна, што такая сістэма не для нас, не для нашага грамадства.

## А КОЛЬКІ ТРЭБА?

«А колькі ж, па-вашаму, трэба мець дзяцей у сям'і?» Гэтае пытанне было зададзена 42 выкладчыцам Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. 30 з іх адказалі, што трэба мець двое дзяцей. Але двое дзяцей на сям'ю — таксама мала. Праўда, людзі часта лічаць, што дваіх дзяцей хопіць для стабілізацыі ўзроўню насельніцтва, для поўнай замены аднаго пакалення другім. Але дэмаграфічная навука сведчыць, што знешняя аксіёматычнасць гэтай думкі падманлівая. Калі б сем'і былі строга двухдзетныя, дык выміранне таксама стала б непазбежным, хоць і ў больш далёкай перспектыве. Праз 300 гадоў у краіне засталося б менш 1% цяперашняй колькасці насельніцтва. Не ўсе выходзяць замуж. Некаторыя і замужнія жанчыны па незалежных ад іх прычынах застаюцца бяздзетнымі. Частка жанчын памірае да пачатку ці заканчэння дзетанараджальнага ўзросту. Таму адзін з вядучых савецкіх дэмографаў Б. Ц. Урланіс лічыць, што нават ва ўмовах нізкай смяротнасці для стабілізацыі ўзроўню насельніцтва патрабуецца каля 270 дзяцей на кожныя 100 сем'яў. Кожны муж і жонка павінны ў сярэднім мець 2,7 дзіцяці. У выніку прыходзім да вываду пра поўную навуковую абгрунтаванасць вядомай прымаўкі: «Адно дзіця — не дзіця, двое дзяцей — палова дзіцяці, трое дзяцей — дзіця!».

## МАТЭРЫЯЛЬНА-БЫТАВЫЯ ЎМОВЫ

Чаму дзяцей мала? Мы не можам даць поўны адказ на гэтае пытанне. З аднаго боку, праблема вывучана не больш чым напалову. З другога — мы не ставім на мэце паведаміць чытачу ўсё, што вядома. Тут ідзе гаворка ў асноўным толькі пра факты, лічбы, вывады, якія вынікаюць з праведзенага даследавання.

Нараджальнасць цяпер амаль поўнасцю вызначаецца воляй мужа і жонкі. Яны вырашаюць, ці мець дзяцей, колькі іх мець і калі. Таму падлягаюць вывучэнню фактары, якія вызначаюць волю бацькоў. Сярод гэтых фактараў знаходзяцца, у прыватнасці, матэрыяльна-бытавыя ўмовы жыцця сям'і, узровень культуры мужа і жонкі, характар





узаемаадносін паміж імі, стан здароўя жанчыны-маці. Адносна матэрыяльнага дабрабыту ёсць дзве супрацьлеглыя тэорыі. Адна з іх сцвярджае, што паміж узроўнем дабрабыту і нараджальнасцю ёсць прамая залежнасць: чым большы даход, тым больш дзяцей. Другая тэорыя гаворыць пра адваротную залежнасць: чым большы даход, тым менш дзяцей.

Табліца № 2, у якой велічыня грашовага даходу на аднаго члена сям'і супастаўляецца з колькасцю дзяцей, дазваляе гаварыць пра аднача́совае спалучэнне абедзвюх заканамернасцяў.

Табліца 2.

| Велічыня даходу на душу | Колькасць дзяцей | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | няма | адно | двое | трое і больш | няма адказу | Усяго |
| Да 30 руб. | 15,60 | 31,21 | 41,13 | 9,93 | 2,13 | 100,00 |
| 31—40 » | 11,85 | 24,44 | 54,07 | 8,89 | 0,74 | 99,99 |
| 41—60 » | 8,60 | 33,48 | 54,30 | 3,17 | 0,45 | 100,00 |
| 61—80 » | 18,03 | 48,36 | 24,59 | 7,38 | 1,64 | 100,00 |
| 81—100 » | 38,67 | 36,00 | 22,67 | 2,66 | — | 100,00 |
| 101—120 » | 42,42 | 42,42 | 12,12 | — | 3,03 | 99,99 |
| Усяго | 17,06 | 33,66 | 41,58 | 5,18 | 1,48 | 99,96 |

Табліца распадаецца на дзве часткі. У першых трох радках па меры росту даходу змяншаецца лік бяздзетных. У трох апошніх радках бачна адваротная заканамернасць: па меры росту сярэдняга даходу на душу расце колькасць бяздзетных жанчын, а ўдзельная вага жанчын з двума дзецьмі падае.

Варта памятаць, што не толькі сярэдні даход на душу ўздзейнічае на колькасць дзяцей. Колькасць дзяцей таксама ўздзейнічае на сярэдні даход на душу. Гэтая ўзаемная залежнасць двух фактараў пазбаўляе нас магчымасці гаварыць пра тое, што́ і ў якой меры тут выступае ў якасці прычыны, а што — у якасці выніку. Залежнасць жа нараджальнасці ад велічыні сярэднемесячнага заробку жанчыны-маці гэтак жа, як і ад ацэнкі ёю сваіх матэрыяльна-бытавых умоў у цэлым, выглядаюць не зусім ясна.

Як жа ўздзейнічаюць на нараджальнасць жыллёвыя ўмовы? Каб адказаць на гэтае пытанне, колькасць дзяцей была супастаўлена з характарам жылплошчы бацькоў.

Табліца 3.

| Характар жылплошчы | Колькасць дзяцей | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | няма | адно | двое | трое і больш | няма адказу | Усяго |
| Уласны дом | 3,92 | 21,57 | 52,94 | 19,64 | 1,96 | 100,00 |
| Свая кватэра ў дзярж. або каап. доме | 6,31 | 33,01 | 51,70 | 8,26 | 0,73 | 100,01 |
| Асобны пакой (пакоі) у агульнай кватэры | 9,68 | 37,63 | 47,31 | 5,38 | — | 100,00 |
| Пакой у кватэры (доме) бацькоў | 30,88 | 35,29 | 33,82 | — | — | 99,99 |
| Частка пакоя ў кватэры (доме) бацькоў | 31,03 | 41,38 | 20,69 | 3,45 | 3,45 | 100,00 |
| Пакой у кватэры (доме) іншых асоб | 50,49 | 31,07 | 14,56 | 0,97 | 2,91 | 100,00 |
| Частка пакоя ў кватэры (доме) іншых асоб | 48,39 | 45,16 | 6,45 | — | — | 100,00 |
| Усяго | 17,26 | 33,54 | 41,60 | 6,14 | 1,44 | 99,98 |

Такая моцная залежнасць паміж двума фактарамі, як у гэтай табліцы, сустракаецца параўнаўча рэдка. Па меры паляпшэння характару жылплошчы ўдзельная вага бяздзетных рэзка зніжаецца, а ўдзельная вага сем'яў, якія маюць двое дзяцей, трое і больш — гэтак жа рэзка ўзрастае. Найбольшая колькасць дзяцей аказалася ў тых, хто мае ўласны дом. Але такіх выпадкаў нямнога (41). Часцей за ўсё (505) апытаныя маюць асобную кватэру ці пакой у агульнай кватэры — звычайна ў дзяржаўным доме.

Аднак і тут залежнасць з'яўляецца ўзаемнай. Сама сістэма размеркавання жыллёвай плошчы працуе ў нас на гэтую залежнасць. Значыць, табліца № 3 цікавая з двух пунктаў гледжання. Яна сведчыць пра ўздзеянне жыллёвых умоў на нараджальнасць і паказвае, што жыллёвая палітыка савецкай дзяржавы правільная. У нас у першую чаргу паляпшаюць жыллёвыя ўмовы тых сем'яў, у якіх ёсць дзеці. Пастаўленая партыяй і ўрадам задача забяспечыць кожную сям'ю асобнай кватэрай мае вялікае дэмаграфічнае значэнне.

Важна адзначыць, што матэрыялы даследавання не паказалі выразнай залежнасці паміж памерам жыллёвай плошчы і колькасцю дзяцей. Магчыма, гэта сапраўды так. Для таго, у прыватнасці, каб мець другое дзіця, трэба адчуваць, што ты жывеш дома. А гэтае пачуццё залежыць не столькі ад памеру, колькі ад характару жылля (гл. табліцу 3).

## УЗРОВЕНЬ КУЛЬТУРЫ

Мы паспрабавалі таксама ўнесці пасільны ўклад у праверку гіпотэзы пра тое, што з ростам культуры змяншаецца колькасць дзяцей. Аднак паколькі прамое вымярэнне залежнасці паміж гэтымі фактарамі немагчымае, дык мы выкарысталі паказчыкі, якія ўскосна сведчаць пра ўзровень культуры апытаных жанчын. У якасці такіх паказчыкаў былі выбраны ўзровень адукацыі і час, які жанчына затрачвае на задавальненне найбольш важных культурных запатрабаванняў.

Залежнасць колькасці дзяцей у сям'і ад адукацыі маці паказана ў табліцы № 4.

Табліца 4.

| Адукацыя | Колькасць дзяцей | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | няма | адно | двое | трое і больш | няма адказу | Усяго |
| Не скончыла 7 (8)-годку | 5,84 | 26,28 | 47,45 | 18,98 | 1,46 | 100,01 |
| Скончыла 7 (8)-годку, але не мае сярэдняй адукацыі | 16,25 | 29,69 | 47,19 | 5,00 | 1,88 | 100,01 |
| Мае сярэднюю агульную | 24,37 | 36,55 | 34,45 | 4,20 | 0,42 | 99,99 |
| Сярэднюю спецыяльную | 9,52 | 39,68 | 46,03 | — | 4,74 | 99,99 |
| Вышэйшую | 12,50 | 43,75 | 43,75 | — | — | 100,00 |
| Усяго | 17,10 | 33,25 | 41,92 | 6,26 | 1,44 | 99,97 |

Выразная агульная тэндэнцыя бачна толькі ў другім і чацвёртым слупках. Чым вышэй адукацыя, тым часцей жанчына мае толькі адно дзіця. І чым ніжэй адукацыя, тым часцей яна мае трое і больш дзяцей. Што ж датычыць бяздзетных і двухдзетных, то ў іх нібыта дзве тэндэнцыі. З павышэннем адукацыі — да сярэдняй уключна — удзельная вага бяздзетных расце, а двухдзетных спадае. У межах двух апошніх радкоў мы бачым тую ж заканамернасць, але пачатую з другога ўзроўню. Увогуле сярод спецыялістак радзей сустракаюцца бяздзетныя і амаль гэтак жа часта, як і ў астатніх,— двухдзетныя сем'і. Але больш двух дзяцей не мела ні адна жанчына са спецыяльнай адукацыяй.

У табліцу не ўключаны асобы, якія скончылі адзін ці некалькі курсаў тэхнікума ці вышэйшай навучальнай установы. Многія з іх працягваюць вучобу, і сярод іх шмат бяздзетных, да 45%.

Пытанне пра час, які жанчына траціць на задавальненне найбольш важных культурных запатрабаванняў, было сфармулявана так: «Колькі ў сярэднім у дзень вы траціце на чытанне мастацкай і палітычнай літаратуры, на слуханне музыкі, прагляд кінафільмаў, тэлеперадач, спектакляў, наведванне канцэртаў, выставак, для ўдзелу ў мастацкай самадзейнасці?» Шкала адказаў складалася з нарастаючых адрэзкаў часу ад «0 да 4 і болей» гадзін з інтэрвалам у 0,5 гадзіны.

Мяркуючы па адказах, 70—90% апытаных жанчын лічаць, што яны трацяць на задавальненне пералічаных вышэй культурных запатрабаванняў ад 0,5 да 2 гадзін у дзень.





Аднак выразная залежнасць паміж вывучаемымі фактарамі выявілася толькі ў крайніх пазіцыях. Глядзіце табліцу № 5.

Табліца 5.

| Час | Колькасць дзяцей | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | няма | адно | двое | трое і больш | няма адказу | Усяго |
| 0 гадзін | 11,43 | 27,14 | 47,14 | 12,95 | 1,14 | 99,99 |
| 3 гадзіны | 23,33 | 33,33 | 36,67 | 5,00 | 1,67 | 100,00 |
| Усяго | 17,43 | 32,80 | 42,05 | 6,48 | 1,44 | 99,95 |

Сярод тых, хто адзначыў нулявыя затраты часу, бяздзетных значна меней, а двухдзетных больш, чым у цэлым сярод усіх апытаных. У тых, хто траціць на задавальненне пералічаных запатрабаванняў 3 гадзіны, усё складваецца наадварот. Што ж датычыць жанчын, якія маюць трое і больш дзяцей, то іх колькасць плаўна зніжаецца ўздоўж усёй шкалы па меры павелічэння часу, які затрачваецца на задавальненне культурных запатрабаванняў. Адсутнасць выразных тэндэнцый у астатніх радках і слупках, магчыма, можна растлумачыць недасканаласцю прымененага спосабу вымярэння.

## ШЧАСЦЕ І ДЗЕЦІ

На жаданне бацькоў мець дзяцей уздзейнічае і характар іх узаемаадносін. У інтэрв'ю з выкладчыцамі Белдзяржуніверсітэта было пытанне: «Калі павелічэнне колькасці дзяцей вы ставіце ў залежнасць ад паляпшэння ўмоў, то што маеце на ўвазе?» Сярод атрыманых адказаў быў і такі: «Галоўнае, самае істотнае — нармальныя сямейныя адносіны, а астатняе прыкладзецца». Гэтае сцвярджэнне дазваляе меркаваць, што *ў шчаслівых сем'ях дзяцей павінна быць болей, чым у нешчаслівых.*

Аднак вынікі даследавання сведчаць пра адваротнае. Вось паглядзіце табліцу № 6.

Табліца 6.

| Задаволенасць шлюбам | Колькасць дзяцей | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | няма | адно | двое | трое і больш | няма адказу | Усяго |
| Поўная | 17,68 | 33,84 | 42,68 | 4,55 | 1,26 | 100,01 |
| Частковая | 16,54 | 36,22 | 40,94 | 5,90 | 0,39 | 99,99 |
| Адсутнічае | 3,45 | 32,18 | 49,43 | 14,95 | — | 100,01 |
| Усяго | 16,95 | 33,79 | 41,46 | 6,41 | 1,39 | 100,01 |

Бяздзетныя сярод жанчын, незадаволеных замужжам, сустракаюцца значна радзей, а тыя, што маюць двое і болей дзяцей — значна часцей, чым у цэлым сярод апытаных. Далей. На кожную шчаслівую ў шлюбе жанчыну ў сярэднім прыходзіцца толькі 1,3 дзіцяці, а на кожную нешчаслівую — значна больш, каля 1,9 дзіцяці.

*Гэта тлумачыцца так.* Чым лепшыя ўзаемаадносіны паміж мужам і жонкай, тым радзей у іх рознагалоссе адносна колькасці дзяцей і тым больш паслядоўна праводзіцца ў жыццё рашэнне. Дзяцей тут менш. У сем'ях з ненармальнымі ўзаемаадносінамі — наадварот: дзяцей нараджаецца больш, ды не кожнае дзіця бацькі чакаюць з нецярпеннем. Тут больш спажываецца алкагольных напіткаў, менш узаемаразумення паміж мужам і жонкай. Усялякі ж працэс сумеснага рашэння інтымных спраў патрабуе ўзаемаразумення.

Вядома, што характар сямейных адносін сур'ёзна звязаны з размеркаваннем абавязкаў *паміж мужам і жонкай*. Ад гэтага ў пэўнай меры залежыць і колькасць дзяцей. Табліца № 7 паказвае, які ўдзел у хатняй гаспадарцы прымаюць бацькі.

Табліца 7.

| Колькасць дзяцей | Хатнія абавязкі | | | | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| | выконвае жонка | муж памагае | выконваюць абое аднолькава | іншы адказ, няма адказу | |
| Дзяцей няма | 8,22 | 39,04 | 45,89 | 6,84 | 99,99 |
| Адно дзіця | 27,46 | 44,72 | 23,59 | 4,22 | 99,99 |
| Двое дзяцей | 36,72 | 38,14 | 22,88 | 2,26 | 100,00 |
| Трое | 38,10 | 40,48 | 21,43 | — | 100,01 |
| Усяго | 28,33 | 40,31 | 27,02 | 4,36 | 100,02 |

Чым болей у сям'і дзяцей, тым часцей хатнія абавязкі амаль цалкам ускладаюцца на жонку. Наадварот, чым меней дзяцей, тым часцей муж і жонка дзеляць свае абавязкі пароўну. У гэтым адзін з непрыемных парадоксаў нашай сучаснай сям'і.

## МЫ І ДЭМАГРАФІЧНАЯ ПАЛІТЫКА

Значыцца, мы маем справу з шэрагам узаемазвязаных фактараў. Вызначыць месца і накіраванасць дзеяння кожнага з іх вельмі цяжка. Аднак яскрава бачна — мы лічым неабходна падкрэсліць гэта яшчэ раз,— што любыя фактары дзейнічаюць на нараджальнасць галоўным чынам не прама, а цераз свядомасць мужа і жонкі, якія знаходзяцца пад уздзеяннем грамадскай думкі тых груп насельніцтва, у склад якіх яны ўваходзяць.

Зразумела, агульнае не можа быць адарвана ад адзінкавага. Аб'ектыўныя фактары ўздзейнічаюць на свядомасць індывідуумаў. Затым на аснове поглядаў асобных людзей складваецца меркаванне большасці, пэўнай сукупнасці, якое набывае адносную самастойнасць і пачынае ўплываць адваротна на падыход да гэтай справы асобных людзей. У выніку разыходжанні ў індывідуальных меркаваннях у той ці іншай меры нівеліруюцца. Далей грамадская думка выконвае ролю своеасаблівага абмежавальніка. Для большасці тая колькасць дзяцей, якую грамадская думка аб'яўляе пажаданай, становіцца ледзь не адзіна магчымай.

Толькі гэтым можна вытлумачыць аднагасовыя змены ў дэмаграфічных паводзінах мільёнаў сямейных людзей. Толькі так можна зразумець, чаму 83,6% жанчын, якія замужам ад 3 да 5 гадоў,— аднадзетныя (гл. табліца 1).

Апытанне выкладчыц Белдзяржуніверсітэта дазваляе, здаецца, выказаць меркаванне, што сапраўдная колькасць дзяцей заўсёды будзе меншай за нарматыўную. Калі, напрыклад, грамадская думка сцвярджае «двухдзетную сістэму», то ў сярэднім на кожную сям'ю заўсёды будзе прыпадаць менш дваіх дзяцей. Калі ж жанчыны пажадаюць мець толькі адно дзіця, статыстыцы давядзецца падлічваць дзесятыя долі.

Каб пазбегнуць гэтага, неабходна выпрацаваць і ажыццявіць шэраг мерапрыемстваў прапагандысцкага і сацыяльна-эканамічнага характару. Ад пасіўнага дрэйфу пара перайсці да актыўнага кіравання дэмаграфічнымі працэсамі. Патрэбна ясная, усебакова і навукова абгрунтаваная дэмаграфічная палітыка.

Існуючая сістэма заахвочвання нараджальнасці яўна ўстарэла. У прыватнасці, сёння не з'яўляецца эфектыўнай сістэма выдачы грашовай дапамогі мнагадзетным маціркам. Недастаткова рацыянальныя і ўмовы ўзнагароджвання. Мнагадзетная маці атрымлівае чарговую ўзнагароду тады, калі апошняе дзіця дасягнула аднагадовага ўзросту. Гэта вельмі рана. Трэба, каб маці заахвочвалася не толькі за нараджэнне, але і за добрае выхаванне дзяцей.

На пытанне: «За што, на вашу думку, трэба ўзнагароджваць мнагадзетных маці ордэнамі і медалямі?»,— з 44 выкладчыц, апытаных у Беларускім дзяржаўным універсітэце, 29 адказалі — «за добрае выхаванне дзяцей», а 9 меркавалі, што ўзнагароды наогул не патрэбна.

Ад стымулявання мнагадзетнасці варта перайсці да сістэмы мер, якая б звяла да мінімуму колькасць бяздзетных і маладзетных сем'яў. Зразумела, палітыка росту дабрабыту народа, якую праводзяць партыя і ўрад, стварае добрыя ўмовы павышэння нараджальнасці. Як вядома, у дзевятай пяцігодцы прадугледжана далейшае павелічэнне грашовых даходаў працоўных. Мінімальны заробак рабочых і служачых вырасце да 70 рублёў у месяц. Будуць павялічаны стаўкі і аклады сярэднеаплачваемых катэгорый





працаўнікоў. Сярэдняя месячная зарплата рабочых і служачых павысіцца да 146—149 рублёў, а аплата працы калгаснікаў — да 98 рублёў. Яшчэ большы размах набудзе жыллёвае будаўніцтва.

Акрамя таго, з мэтай стварэння лепшых умоў для выхавання падрастаючага пакалення Дырэктывамі XXIV з'езда КПСС па дзевятай пяцігодцы прадугледжана павелічэнне матэрыяльнай дапамогі сем'ям, якія маюць дзяцей, пашырэнне льгот для працуючых жанчын-маці. У прыватнасці, будзе аказвацца дапамога на дзяцей тым сем'ям, у якіх сярэдні даход на члена сям'і не перавышае 50 рублёў у месяц. Павялічыцца колькасць аплачваемых дзён для догляду хворага дзіцяці. Будзе ўстаноўлена аплата ў размеры поўнага заробку для ўсіх працуючых жанчын на перыяд цяжарнасці і родаў незалежна ад працоўнага стажу.

Нарэшце, на працягу пяцігодкі за кошт дзяржавы будуць пабудаваны дашкольныя ўстановы больш чым на 2 мільёны месц, а колькасць навучэнцаў з падоўжаным днём навучання павялічыцца на 1,5 мільёна чалавек.

Аднак гэтыя новыя важныя заваёвы савецкіх людзей не здымаюць з абмеркавання пытання аб комплексе мер, мэта якіх — павышэнне нараджальнасці.

У гэтай сувязі цікавым здаецца вопыт балгарскіх сяброў. Са студзеня 1969 года ў НРБ уведзена новая сістэма дапамогі і адпачынку па мацярынстве. На першае дзіця штомесячна плаціць 5 леваў, на другое — 15, на трэцяе — 35, а на чацвёртае і кожнае наступнае — зноў па 5 леваў. Гэтак жа рэгулюецца і выдача аднагасовай дапамогі: на першае дзіця — 20 леваў, на другое — 200, на трэцяе — 500, а на кожнае наступнае — зноў столькі ж, колькі на першае.

Аднак будучы савецкі закон аб стымуляванні нараджальнасці, вядома, не можа быць простай копіяй балгарскага. Савецкі заканадаўца выбера не толькі найбольш падыходзячы прынцып. Ён прыменіць яго з улікам умоў, якія скл аліся ў краіне. У прыватнасці, вышэй гаварылася, што сапраўдная колькасць дзяцей у сям'і заўсёды будзе менш нарматыўнай. Калі гэта сапраўды так, то, каб мець на сям'ю трое дзяцей, у якасці ўзору трэба прапагандаваць сям'ю, у якой чацвёра дзяцей. А гэта значыць, што значную дапамогу варта было б выплачваць і на чацвёртае дзіця.

Але для таго, каб мець трое дзяцей у сям'і, зусім не абавязкова чакаць выхаду новага закона. «Аднадзетная сістэма», як ужо гаварылася вышэй, шкодна не толькі для грамадства. Сярод адмоўных вынікаў гэтай сістэмы неабходна, у прыватнасці, назваць:

— меншую біялагічную жыццестойкасць дзяцей. Найбольш моцныя і здаровыя, гаворыць медыцына, бываюць іменна другія і трэція дзеці;

— павелічэнне цяжкасці выхавання ў дзіцяці пачуцця сацыяльнай адказнасці. А эгаізм, спажывецкія адносіны да жыцця робяць пасля нешчаслівымі і дзіця, і бацькоў.

Вывады з гэтых фактаў відавочныя.

# ЯНКА КУПАЛА Ў БАБРУЙСКУ

У адной з залаў Літаратурнага музея Янкі Купалы ёсць карта паездак народнага паэта па краіне. Адна са шматлікіх стрэлак, што праменнямі разыходзяцца ў розныя бакі, упіраецца ў жоўты кружок, побач з якім стаіць назва — Бабруйск.

Янку Купалу звязвала з Бабруйскам доўгая і моцная дружба. Завязалася яна на пачатку дваццатых гадоў. Вялікую ролю ў яе станаўленні адыгралі бабруйскія настаўнікі, страсныя прапагандысты купалавай творчасці.

Драматычны гурток педагагічных курсаў «Крыніца» адзін з першых у рэспубліцы пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ўзяўся за пастаноўку п'есы «Паўлінка». Як успамінае старэйшая беларуская актрыса Тацяна Андрэеўна Бандарчык (яна выконвала ў п'есе галоўную ролю), спектакль меў вялікі поспех у бабруйчан. Сустракаючыся на вуліцах з яго ўдзельнікамі, жыхары горада сардэчна называлі іх імёнамі тых герояў, ролю якіх яны выконвалі ў п'есе. На спектакль адгукнулася рэспубліканская прэса. Удзельнікі пастаноўкі сфатаграфаваліся і паслалі фота Янку Купалу. На адваротным баку фотакарткі было напісана: «У памяць аб «Паўлінцы» ў Бабруйску на Бярэзінскім фарштаце ў Народным доме 9 красавіка». Гэты здымак, відаць, згубіўся ў часе вайны. Пасля вайны Тацяна Бандарчык аддала свой экземпляр здымка Уладзіславе Францаўне Луцэвіч — жонцы Янкі Купалы. Ён і надрукаваны ў кнізе «Янка Купала ў беларускім мастацтве» (выдавецтва Акадэміі навук БССР, 1958), але памылкова адзначана, што зроблены ён на Случчыне.

У 1921 годзе дэлегацыя 1-й бабруйскай беларускай школы другой ступені прыехала да народнага паэта, каб прасіць дазволу назваць школу яго імем. Паэт ветліва сустрэў гасцей, разам са Змітраком Бядулем доўгі час гутарыў з імі, а на развітанне падарыў кожнаму свой першы зборнік вершаў «Жалейка» з аўтографам.

Упершыню народны паэт наведаў Бабруйск у лютым 1930 года ў сувязі з трохмесячнікам беларускай культуры. Ён сустракаўся з працоўнымі горада, выступаў на літаратурных вечарах.

Другі раз Купала прыязджаў у Бабруйск у канцы студзеня 1936 года, каб прыняць удзел у вечары, прысвечаным маючаму адбыцца пленуму праўлення Саюза пісьменнікаў СССР, які па ініцыятыве Максіма Горкага намечана было правесці ў Мінску. Разам з Янкам Купалам у Бабруйск прыязджалі беларускія пісьменнікі Міхась Клімковіч, Пятро Глебка, армянскі — Наіры Зар'ян, яўрэйскі — Зэлік Аксельрод.

Вясной і летам 1936 года ў Бабруйску на гастролях знаходзіўся БДТ-II (цяпер тэатр імя Якуба Коласа). Ён рыхтаваў вечар беларускіх вадэвіляў. Ставіліся п'есы «Паўлінка» і «Прымакі» Янкі Купалы і «Пінская шляхта» В. Дуніна-Марцінкевіча. Па просьбе артыстаў тэатра 13 мая 1936 года Янка Купала зноў наведаў Бабруйск, каб аказаць дапамогу ў падрыхтоўцы прэм'еры.

П. Малчанаў, рыхтуючы п'есы да пастаноўкі, хацеў дамагчыся, каб яны прагучалі проста і ясна, найглыбей выявіць іх асноўную накіраванасць і ў той жа час выкарыстаць багаты фальклорны матэрыял для стварэння па-сапраўднаму народнага спектакля.

Янка Купала ўважліва агледзеў эскізы мастацкага афармлення, праслухаў музыку, якую напісаў кампазітар М. Красеў, пабываў на рэпетыцыі, пасля якой даў некалькі парадаў артыстам. Як успамінае П. Малчанаў, аўтар застаўся задаволены работай артыстаў.

У гутарцы з карэспандэнтам баб-





На здымку: Янка Купала на рэпетыцыі сваіх п'ес «Паўлінка» і «Прымакі» ў Бабруйску. Трэці злева — П. Малчанаў, пяты — Янка Купала, шосты — Пятрусь Броўка, сёмая — Уладзіслава Луцэвіч. Сядзіць першая справа — Раіса Кашэльнікава. Стаіць — А. Ільінскі. (Фатаграфія з фондаў Літаратурнага музея Я. Купалы).

руйскай газеты «Камуніст» Янка Купала адзначыў тады: «Прысутнічаючы на рэпетыцыі маіх п'ес у БДТ-II, слухаючы музыку да іх, я мяркую, што спектакль будзе ўдалым. Акцёры для выканання роляў падабраны ўдала. Рэжысёр Малчанаў правільна трактуе змест п'есы».

Янка Купала пажадаў сфатаграфавацца з калектывам тэатра. Здымак быў зроблены на другім паверсе будынка, дзе да нядаўняга часу знаходзіўся Магілёўскі абласны тэатр музкамедыі.

Вечар беларускіх вадэвіляў адбыўся 12 чэрвеня 1936 года ў памяшканні тэатра. Янка Купала прысутнічаў на прэм'еры. Ролю Паўлінкі з вялікім майстэрствам выконвала артыстка Раіса Кашэльнікава. Барыс Мікуліч у сваёй рэцэнзіі на спектакль адзначаў, што ў артысткі «надзвычай прыемны голас, багата нюансаваны цэлай гамай пачуццяў. Са здзіўляючай сілай робіць актрыса пераход ад лірычна-жартаўлівай лініі ўсяго вобраза да трагічнай канцоўкі яе».

Раіса Мікалаеўна Кашэльнікава з хваляваннем успамінае пра незабыўную сустрэчу з беларускім паэтам. У той вечар Янка Купала, Пятрусь Броўка, Уладзіслава Луцэвіч выказалі Р. Кашэльнікавай сваё захапленне і зачараванне яе ігрой. Падтрымка аўтара натхніла актрысу, а сяброўскія парады дапамаглі ў далейшай рабоце над вобразам. З таго часу, выходзячы на сцэну ў ролі Паўлінкі, яна імкнулася іграць так, быццам з залы на яе глядзелі добрыя Купалавы вочы.

Вялікі поспех на вечары вадэвіляў спадарожнічаў п'есе «Прымакі», у якой былі заняты П. Малчанаў і Т. Бандарчык. Янка Купала ад душы, весела смяяўся.

Там жа, у тэатры, у антракце з народным паэтам сустрэліся ўдзельнікі літаратурнага гуртка Дома мастацкага выхавання дзяцей. Янка Купала сардэчна гутарыў з дзецьмі, чытаў ім свой верш «Хлопчык і лётчык».

У апошні час у Бабруйску шмат робіцца па ўвекавечанні памяці народнага песняра. Адной з вуліц прысвоена яго імя. У мясцовым краязнаўчым музеі аформлены аддзел, прысвечаны паэту. Купалаўцамі з гонарам называюць сябе навучэнцы пятай сярэдняй школы, адной з лепшых і прыгажэйшых у горадзе. Вучні з дапамогай супрацоўнікаў Літаратурнага музея Янкі Купалы стварылі куток народнага паэта. Плануецца ўстанавіць бюст Янкі Купалы ў школьным скверы.

Бабруйчане па праве ганарацца, што некаторыя старонкі купалавага жыцця звязаны з іх родным горадам.

**Цімох ЛІЯКУМОВІЧ.**




**СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ПАЭЗІЯ.**
**Выдавецтва «Навука і тэхніка», Мінск, 1970.**

# ПОШУКІ ЗАКОНАЎ ПАЭЗІІ

Падрыхтаваная групай супрацоўнікаў Інстытута літаратуры Акадэміі навук БССР, «Сучасная беларуская паэзія» ўяўляе сабой, аднак, не проста зборнік артыкулаў, а цэласнае і грунтоўнае даследаванне. Адкрываецца яно артыкулам Ул. Гніламёдава «Лірыка». Артыкул гэты не пра лірыку ўвогуле, а пра некаторыя моманты яе эстэтычнай прыроды, і то, як удакладняе аўтар, «у той ступені і таму, у якой яны звязаны з сённяшнімі назіраннямі» над сучаснай паэзіяй дзеля выяўлення шляхоў яе плённага развіцця. І хоць аўтар так і не выяўляе гэтыя шляхі, «сённяшнія» назіранні ягоныя і цікавыя і каштоўныя, асабліва над абагульненнем у лірыцы. Як вядома, адны прызнаюць толькі адзін спосаб лірычнага абагульнення—тыпізацыю, другімі не адмаўляецца ідэалізацыя, трэція вылучаюць яшчэ метафарызацыю і абстрагаванне агульнага ад асобнага. Беларускі даследчык тлумачыць такое разыходжанне тым, што існаванне спосабаў абагульнення звычайна звязваюць з рознымі напрамкамі, стылямі і сродкамі выражэння, а правільней было б звязваць яго «з самай эстэтычнай прыродай мастацтва, у якім спрадвеку ў пэўных суадносінах зліваюцца праўда і ідэал». Я. Купала ў «Безназоўным» паказаў радзіму такой, якая яна ёсць, і «адначасова ўклаў у гэтае «ёсць» нешта ад таго, якой яна яшчэ будзе, інакш кажучы, сапраўднае паэт прадставіў як ідэальнае. Таму Ул. Гніламёдаву бачацца толькі два тыпы лірычнага абагульнення—тыпізацыя і індывідуалізацыя.

Тэрмін «лірычны герой» мае для Ул. Гніламёдава пэўнае і сур'ёзнае значэнне, ён не пагаджаецца з тымі, хто раіць адкінуць гэты тэрмін, як непатрэбны «баласт». І справядліва, мне думаецца, папракае Л. Гінзбурга за залішнюю катэгарычнасць сцвярджэння:» ...літаратурны характар у яго заканамернасцях і супярэчнасцях наўрад ці можа быць пабудаваны сродкамі лірыкі» (Л. Гінзбург, «О лирике», М.-Л., 1964, стар. 130). Лірычны характар не «горшы», чым эпічны, проста ён больш спецыфічны, «сумарны», бо, праяўляючыся ў асобным вершы, вырастае ў сваёй паўнаце з усяе творчасці паэта.

Аднак не ўсюды дакладны ў сваіх фармуліроўках і Ул. Гніламёдаў: «Прадмет лірыкі — перажыванні і толькі перажыванні». Не, прадмет лірыкі ўсё ж—навакольны свет і перш за ўсё чалавек у ім, пазнаваемы праз перажыванне, якое адлюстроўвае той жа свет.

Пралікі аўтара пачынаюцца там (на шчасце, іх нямнога і не яны вызначаюць сутнасць ягонага артыкула), дзе ён ідзе не ад жыццёвага і літаратурнага матэрыялу, а ад гатовых тэзісаў. Не было патрэбы, да прыкладу, паўтараць пералічэнне і апісанне асноўных прыкметаў лірыкі, зробленае В. Сквазніковым.

Беларускай паэме, суадносінам паміж эпасам і лірыкай у ёй прысвяціла сваё даследаванне М. Барсток. Цяжкасці даследчыцы ў тым, што яна абрала не праблемны, а гісторыка-храналагічны прынцып выкладання матэрыялу: па парадку аналізуюцца ўсе больш-менш значныя паэмы, што паявіліся ў беларускай савецкай паэзіі на працягу ўсяго яе развіцця. Як пазбегнуць у такім выпадку паўтарэння? Барсток пазбягае, калі закранае якую-небудзь канкрэтную, яшчэ не вырашаную праблему, або калі палемізуе з ужо існуючымі ацэнкамі і азначэннямі паэм. Яна не пагаджаецца ні з Л. Цімафеевым, ні з В. Сарокіным, якія ўяўляюць сабе паэму як вершаваную аповесць або апавяданне; аповесць у вершах і паэма,—даказвае яна,—якасна розныя з'явы, і атаясамліваць іх не варта.

М. Лазарук разглядае паэму як жанр патэтычны. «Але ж эпас,—пярэчыць М. Барсток,—не вызначаецца якой-небудзь адной адзнакай». Да таго ж гаворка ідзе пра паэму XIX ст. «А яна,—прадаўжае даследчыца,—у большай меры зрасталася з народным эпасам, чым паэма сучасная». Не прымае яна і сцвярджэнне А. Лойкі, нібыта В. Р. Бялінскі разумеў паэму «як ідэалізаваны паказ» гістарычных падзей. Справа ў тым, што Бялінскі,—тлумачыць М. Барсток,—«прыводзіць гэта азначэнне як устарэлае, якое мела дачыненне да эпапеі». Пра новую ж паэму вялікі крытык гаварыў зусім інакш, як пра «эпапею змешаную, прасякнутую наскрозь і лірызмам, і драматызмам».

Абапіраючыся на выказванні Бялінскага і аспрэчваючы, поруч з аўтарамі акадэмічнай «Тэорыі літаратуры», «трыяду» Гегеля, Барсток праводзіць сваё разуменне спецыфікі літаратурных родаў: не драма, як лічыў Гегель, а хутчэй эпас яднае ў сабе і суб'ектыўнае і аб'ектыўнае, у тым ліку лірыку і драму; доказ гэтаму—вершаваны раман і паэма, якія «даюць прыклады драматызацыі перажывання і дзеяння і, такім чынам, нясуць у сабе ўласцівасці драмы».

Аб'ектыўна, памяркоўна піша Барсток і пра сучасную паэму—з улікам усіх спрэчак аб ёй. Так, паэму «Слова пра чалавечнасць» Ул. Караткевіча трактавалі адзін час як няўдачу. Гэта была аднабаковая ацэнка,—каменціруе даследчыца,—бо не ўлічвалася спецыфіка жанру і стылю. І таму зусім заканамерным з'явілася выступленне А. Лойкі ў абарону паэмы: ён лічыць яе цікавай як па задуме, так і па матэрыяле і маляўнічасці, хаця і не ўтойвае пэўных недахопаў твора. І ўсё ж, уяўляецца нам, М. Барсток занадта многа месца адвяла разбору гэтай паэмы, гэтак жа як і паэм «Кроў і попел» Ю. Марцынкявічуса і «Брацкая ГЭС» Я. Еўтушэнкі, якія, дарэчы, разглядаюцца без суадносін з беларускімі, а самі па сабе.

Маючы на ўвазе паэмы, падобныя па сваёй структуры да «Слова пра чалавечнасць» Караткевіча, Барсток, думаецца, зрабіла занадта катэгарычны вывад: «Сучасная беларуская паэма захавала традыцыйную сюжэтнасць». Справа абстаіць, нам здаецца, не так. І з сучаснай беларускай, як і з рускай, украінскай паэмай творыцца нешта «нядобрае»: яна траціць сваю ранейшую цэласнасць, рассыпаючыся часцяком на цыкл вершаў, фрагментаў, якія няцяжка пераставіць месцамі, колькасць якіх можна павялічыць або паменшыць—і паэма па сваім сэнсе застанецца той жа («Казанскі ўніверсітэт» Я. Еўтушэнкі, «Майстры» і «Ланжумо» А. Вазнясенскага, «Лінія перамены дат» Р. Барадуліна, «Сто вузлоў памяці» Н. Гілевіча, «Каліна» В. Вярбы і г. д.). Што гэта—проста неахайнасць або пошукі новай формы? М. Барсток было ўшчыльную падышла да гэтага пытання, распачаўшы цікавую гаворку пра шматступеньчатую і паслядоўную кампазіцыю. Вось бы і разгледзець гэтае пытанне, параўноўваючы тыя ж «Кроў і попел» («традыцыйны» сюжэт) і «Брацкую ГЭС» (сучасная фрагментарнасць), тады і разбор іх стаў бы ўнутрана неабходным і заканамерным у артыкуле.

Артыкул М. Арочкі, што ідзе трэцім у кнізе, вылучаецца сваёй надзвычайнай добразычлівасцю да аб'екту даследавання—сатырычнай паэзіі і яе творцаў. Даследчык не падзяляе песімістычны погляд А. Клышкі на сучасную байку, выказаны ў артыкуле з красамоўнай назвай «За мухай—з абухам». Праўда, захапіўшыся сваёй добразычлівай пазіцыяй, аўтар ні на мінуту не можа дапусціць што-небудзь адваротнае, а таму, цытуючы А. Клышку, мабыць, незнарок схапіўся за асобныя яго словы ў адрыве ад кантэксту і давай даказваць тое, з чым Клышка і не спрачаецца, над чым іранізуе: «Прастадушныя людзі адкрыта гавораць: рэалізм выганяе з сучаснай літаратуры байку». «Няпраўда, што «рэалізм выганяе з сучаснай літаратуры байку», ваюе Арочка і, як бачым, ваюе не з Клышкам, а з прастадушнымі людзьмі. Цалкам пры-

няць такі катэгарычны вывад Клышкі нельга,—заяўляе ён. Цалкам—не, а як—можна?

Сіла М. Арочкі як даследчыка—у канкрэтным аналізе мастацкага твора; тут ён паказвае і не абы-які густ, і тонкае ўменне пранікнуць у «ядро» вобраза, у самую яго «тайную тайных». Хораша і глыбока прааналізаваны байкі У. Корбана і Э. Валасевіча. Слушныя таксама заўвагі даследчыка пра пародыю і эпіграму.

Чацвёрты артыкул у кніжцы—«*Асацыятыўная вобразнасць*» І. Ралько. Праўда, сама назва яго выклікае сумненне, але ў гэтым, мабыць, віна не аднаго І. Ралько. «Нічога ў мысленні, акрамя асацыяцый, няма, у аснове разумнасці ляжыць асацыяцыя»,—пісаў акадэмік І. П. Паўлаў. Калі зыходзіць з таго, што мастацтва—мысленне ў вобразах, то вобраз, як дасціпна прыкмеціў П. Паліеўскі, і ёсць мастацкая думка. У аснове вобраза, выходзіць, таксама заключана асацыяцыя, таму няма неасацыятыўнай вобразнасці, уся вобразнасць асацыятыўная. Мабыць, больш дакладнай назвай артыкула было б—«Умоўная асацыятыўнасць». Для даследавання гэтай складанай і слаба вывучанай праблемы аўтар залучае багаты і самы разнастайны матэрыял з усіх сфер ведаў.

Істотнай рысай даследчыцкага таленту Ралько з'яўляецца ўнутраная палемічнасць, што не схіляецца ні перад якімі аўтарытэтамі, прага да яснасці і чоткасці, няўрымслівы пошук ісціны. Прызнаючы, услед за Леві-Брулем, што мысленне супрычаснасці (першабытнае сузіральна-пачуццёвае мысленне—**Я. Ш.**) мае больш даўнюю гісторыю, чым лагічнае, Ралько, аднак, не пагаджаецца з вядомым вучоным у тым, быццам патрэба ў супрычаснасці застаецца «нават у нашых грамадствах больш уладнай і інтэнсіўнай, чым патрэба ў пазнанні або ў «сообразовании» з патрабаваннямі лагічнай дысцыпліны».

Наадварот, падкрэслівае беларускі даследчык, супрычаснасць пападае ва ўсё большую залежнасць ад «лагізму». Бо інтуіцыя, як даказваюць вучоныя-спецыялісты, садзейнічае працэсу пазнання, а яна ёсць і ў мысленні супрычаснасці. Ралько, як бачна, вітае гэты факт. Але чаму тады, хочацца запытацца ў яго, многія паэты поруч з філасафічнасцю і інтэлектуалізмам імкнуцца адрадзіць—вядома, на новым, вышэйшым узроўні—найбольш каштоўныя моманты першабытнага мыслення (І. Драч, Р. Барадулін, В. Галабародзька, В. Зуёнак і іншыя).

Ралько лічыць, што вобразная асацыяцыя—заўсёды інтуітыўнае дзеянне. Не, не заўсёды і не ўсякая,—хочацца яму запярэчыць. Напрыклад, «спалатнеў з твару», інакш кажучы, твар стаў белы, як палатно; прыкмета «белы» ўласцівая абодвум прыпадабняемым прадметам, яна ляжыць «на паверхні», для яе тварэння не абавязковая інтуіцыя. Я. А. Панамароў падкрэслівае: «Творчасць не зводзіцца да інтуіцыі; інтуіцыя толькі адзін з момантаў творчай дзейнасці».

Інтуіцыя пачынаецца там, дзе ёсць сінкрэтызм адчуванняў, умоўная асацыятыўнасць, словам, тое, што А. Весялоўскі называў неўсвядомленай гульнёю логікі і чаму сам Ралько, аспрэчваючы А. Весялоўскага і абапіраючыся на І. Сечанава, дае матэрыялістычнае тлумачэнне. Мы даведваемся пра структурныя адрозненні мозгу і індывідуальныя дзівацтвы вялікіх людзей, пра тое, чаму ў Рымскага-Корсакава быў каляровы слых, а Гейнэ ўдары смычка Паганіні ўспрымаў у фантастычных вобразах. Мозг, піша Ралько, спасылаючыся на І. Земана, *прапускае праз парог свядомасці* самыя моцныя працэсы, больш слабыя падаўляе або выкарыстоўвае іх энергію для падсілкавання моцных. Некаторыя з іх, падкрэслівае І. Ралько, і маглі б перайсці ў свядомасць, але па тых ці іншых прычынах, часцей за ўсё сацыяльных, падаўляюцца кантролем («цэнзурай») свядомасці як непажаданыя.

Аналізуючы вершы, заснаваныя на ўмоўнай асацыятыўнасці, даследчык адначасова адзначае ступень іх мастацкасці і адшуквае прычыны недахопаў. «Я эту истину постиг на **берегу зари**, когда со мной схватился тигр у плёса Уссури» (І. Сяльвінскі); «на плёсы майскае зары—ляцяць і плачуць журавы» (А. Вялюгін), «налева чаўном *паплывеш*—аеру *зялёны бязмеж*, направа—крутыя віры, а проста—затокі зары» (М. Танк). Пры аднолькавай вобразнай мадэлі «бераг, плёсы, затокі зары» асацыятыўныя сувязі ў Танка і Вялюгіна атрымаліся больш багатымі, чым у Сяльвінскага. У Сяльвінскага,—тлумачыць даследчык,—удакладненне «у плёса Уссури» пакінула вобразу адну функцыю—вызначэнне часу дзеяння. У беларускіх жа паэтаў гарманічна спалучаюцца і прастора, і час, да таго ж катэгорыя прасторы мае тры вымярэнні.

Кніга пра сучасную беларускую паэзію напісана змястоўна і цікава. Яна вылучаецца грунтоўнасцю і навізной пастаноўкі праблем і іх вырашэння, тонкасцю аналізу літаратурнага матэрыялу.

***Янка ШПАКОЎСКІ.***







**В. ЛЕМЦЮГОВА.**
**БЕЛАРУСКАЯ АЙКАНІМІЯ.**
**Выдавецтва «Навука і тэхніка», Мінск, 1970.**

# ЯК ЗАВЕЦЦА ТВАЯ ВЁСКА?

Айканімія. Відаць, не кожны ведае, што азначае гэтае слова. Яно і не дзіва: як навука, айканімія робіць у нас першыя крокі. Гэта—састаўная частка тапанімікі, яна вывучае назвы населеных пунктаў, паходжанне гэтых назваў.

Айканімія належыць да мовазнаўчых навук. Але, тлумачачы паходжанне назваў селішчаў, яна мусіць звяртацца да гістарычнага, геаграфічнага і этнаграфічнага матэрыялу. Таму кніга В. Лемцюговай будзе цікавая не толькі для мовазнаўцаў, але і для шырокага кола чытачоў. Пры адносна невялікіх памерах яна багатая на змест, фактычны матэрыял, каштоўная сваімі вывадамі.

В. Лемцюгова даследуе назвы чатырох тысяч сучасных населеных пунктаў. Галоўная цяжкасць у рабоце, як адзначае даследчыца, заключалася ў тым, што «афіцыйныя формы беларускай айканіміі не заўсёды яшчэ строга ўнармаваныя, паколькі ніколі за ўсю гісторыю існавання Беларусі не было створана ніводнага спіска назваў населеных пунктаў на беларускай мове».

І гэта сапраўды так. У Бярэзінскім раёне, напрыклад, вёскі называюцца: Месцін, Міхалёў, Віляцін, Бычын, Божын, Ляшын, Жалін, Койцін і г. д. У афіцыйных жа дакументах гэтыя назвы амаль заўсёды падаюцца з дадаткам фарматаў -ова, -ева, -ына, -іна: Міхалёва, Бычына, Месціна і інш. А возьмем назву самога раённага цэнтра Беразіно. Ад мясцовых людзей яе не пачуеш, тут заўсёды скажуць: «Быў у Бярэзані», «Паеду ў Бярэзань».

Гэтую недакладнасць можна растлумачыць тым, што ў нас усё яшчэ няма даведніка геаграфічных тэрмінаў, а ён вельмі патрэбен.

Кніга В. Лемцюговай складаецца з дзвюх частак. У першай даецца характарыстыка лексіка-семантычных сродкаў асноў, што ўтвараюць айконімы, у другой гутарка ідзе пра словаўтваральныя сродкі і тыпы айконімаў.

Назвы нашых паселішчаў утвараліся ў большасці сваёй ад назваў дрэў, звяроў, птушак, мясцовасці, асаблівасцяў рэльефу, глебы, ад характару збудаванняў, прамысловых прадпрыемстваў, размяшчэння населенага пункта ў адносінах да іншага аб'екта і г. д. Для пацвярджэння сваёй думкі В. Лемцюгова шырока выкарыстоўвае матэрыял з помнікаў пісьменнасці і сучаснай беларускай літаратуры. У гэтым сэнсе тлумачэнне кожнай назвы—гэта своеасаблівы невялікі артыкул, якія мы прывыклі бачыць у энцыклапедыях: выгар, дражно́, пасадзец, старыца, сутока, хоўхла і інш.

Каб растлумачыць значэнне шмат якіх з гэтых слоў, мала быць проста лінгвістам, трэба яшчэ добра ведаць побыт народа. А тое, што В. Лемцюгова ведае побыт, відаць з яе кнігі. Толькі ў асобных мясцінах яе тлумачэнні не зусім дакладныя. Напрыклад, даследчыца тлумачыць, што слова «дрань» азначае ўпершыню распрацаваны ўчастак. Але шырока вядома і іншае значэнне гэтага слова: дрань, дранка—невялікія тоненькія дошчачкі з балотнай хвоі, якія «дзяруць» спецыяльнай сякерай і якімі крыюць страху.

У першай частцы разглядаюцца таксама назвы паселішчаў антрапанімічнага (ад уласных імёнаў, мянушак і прозвішчаў) і гідранімічнага (ад назваў рэк, азёраў і балотаў) паходжання. Тут таксама падаюцца вельмі цікавыя звесткі.

У другой частцы расказваецца пра ўтварэнне айконімаў на Міншчыне. Адсюль можна даведацца, якія прыстаўкі і суфіксы больш характэрныя для ўтварэння назваў беларускіх паселішчаў, якія менш, а якія наогул мала характэрныя. На Міншчыне ёсць, гаворыць даследчыца, вельмі шмат назваў безафікснага паходжання, простых і састаўных (Апчак, Блонь, Ляда, Літва, Ухвала, Бор, Дубовы Лог, Новая Ніва, Высокая Гара, Чорны Брод, Глыбокі Ручэй і інш.). Вельмі пашыраны назвы паселішчаў у множным ліку, асабліва на -ічы, -ычы, -ікі, -ыкі, -ыты (Клёнікі, Вачанічы, Грыневічы, Губічы, Мірычы і інш.).

Падаюцца ў кнізе В. Лемцюговай і тыя паселішчы, якім у апошнія гады дадзены другія назвы. У адных выпадках гэтыя назвы сапраўды ўдалыя: Малінаўка, Партызанскае, Кастрычнік і інш. У другіх—нават цяжка паддаюцца беларускаму вымаўленню: Труд, Атрада і інш.

Кніга В. Лемцюговай цікава чытаецца, і можна смела сказаць: хто загляне ў яе—не пашкадуе.

**Мікола ПРАШКОВІЧ.**

# МОВА КОСМАСУ

Дзве тысячы гадоў назад рымскі паэт і філосаф Ціт-Лукрэцый Кар пісаў: «Увесь навакольны свет не адзіны ў прыродзе... існуюць іншыя землі, іншыя істоты, іншыя людзі, у іншых месцах прасторы...» З таго часу думка пра існаванне разумных насельнікаў іншых светаў не пакідала чалавека. Аднак калі ў мінулым яна жыла толькі як філасофская канцэпцыя, то ў наш час абапіраецца ўжо на веды.

З'явіліся раней не вядомыя навукі — астрабіялогія, астрагеалогія, астрабатаніка, астрамедыцына.

Прымяненне радыёастраноміі пашырыла межы бачнага Сусвету да дзесяці мільярдаў светлавых гадоў. Вучоныя і там выявілі існаванне вялікай колькасці зорных астравоў і архіпелагаў, *накшталт нашай Галактыкі. Усе разам яны складаюць Мегагалактыку.*

Агульнымі намаганнямі створаны, напэўна, блізкі да ісціны малюнак пабудовы Галактыкі — Млечны Шлях. Мы наблізіліся да таямніц узнікнення і эвалюцыі нябесных цел. Усё гэта нанесла сакрушальны ўдар па тэорыі экалагічнай выключнасці Зямлі, па непарушным доўгі час антрапацэнтрызме, які лічыў чалавека вянцом тварэння прыроды. Цяпер людзям стала больш-менш зразумела, якое сціплае месца займае Зямля ў Сусвеце і нават у межах нашай Галактыкі.

Навукова-тэхнічныя дасягненні апошніх гадоў нарадзілі ідэю пошукаў у прасторах Сусвету нашых братоў па розуме. Падстаў для ўзнікнення такой ідэі было дастаткова. Некалькі дзесяцігоддзяў назад рускія астраномы заўважылі, што ў спектрах «маладых» зорак-гігантаў лініі размыты і нібыта размазаны, а ў «пажылых», старэйшых зорак яны больш акрэсленыя, выразныя. Вывучэнне загадкі пацвердзіла, што гэта залежыць ад хуткасці руху зорак. Экватарыяльныя раёны іх дыскаў, якія набліжаюцца да назіральніка, выклікаюць зрух спектральных ліній да фіялетавага колеру, а тыя, што аддаляюцца,— да чырвонага.

Па гэтых зменах у спектры, у адпаведнасці з эфектам Доплера, цяпер вызначаюць хуткасць вярчэння зорак. А яна, гэтая хуткасць, гаворыць пра многае. *«Маладыя» зоркі* яшчэ не завялі планетных сем'яў; гэта, напэўна, здарыцца ў будучым. А вось «пажылыя» зоркі вялікую долю часу вярчальнага руху паспелі перадаць планетам, якія каля іх сфармаваліся. Напрыклад, наша Сонца 98 працэнтаў свайго вярчэння аддало планетам і само цяпер рухаецца з хуткасцю толькі двух кіламетраў у секунду. Такім чынам, павольнае вярчэнне зоркі — прыкмета таго, што ў яе ёсць планеты.

*Як складана і як проста!*

Грунтуючыся на гэтым, польскі астрафізік Я. Гадомскі з дапамогай каталога зорных спектраў падлічыў, што восемдзесят-дзевяноста працэнтаў зорак Галактыкі маюць планетныя сем'і. Млечны Шлях аб'ядноўвае каля ста мільярдаў зорак. Пры ўмове, што сем'і складаюцца з чатырох-пяці планет, Млечны Шлях мае іх каля 320—360 мільярдаў. Калі ж у сям'і планет, як у Сонца, па дзевяць, то — 700—800 мільярдаў.

Амерыканскі астраном, дырэктар абсерваторыі Грын-Бенк Ота Струве, праўнук заснавальніка Пулкаўскай абсерваторыі, лічыць, што «планетныя сем'і ёсць у мільярдаў зорак Млечнага Шляху. Вялікая колькасць дадзеных даказвае, што большая частка аднатыпных з Сонцам зорак акружана планетнымі сістэмамі, якія нагадваюць нашу ўласную...»

Савецкія вучоныя член-карэспандэнт АН СССР І. Шклоўскі, акадэмікі В. Амбарцумян, В. Купрэвіч, В. Фесенкаў, В. Кацельнікаў, Я. Зяльдовіч і іншыя — больш асцярожныя ў сваіх прагнозах: гаворачы пра планеты, яны называюць меншую лічбу.

Жыццё існуе, безумоўна, не на кожнай планеце, а толькі на нямногіх, якія аказаліся ў найбольш выгадных для гэтага ўмовах. Асноўнай з іх з'яўляецца тэмпературны рэжым. Блізкае суседства з зоркай нясе спапяляючую гарачыню, а далёкае — ледзяны холад космасу. Акрамя тэмпературы, «шчаслівая» планета павінна мець газавую абалонку пэўнай шчыльнасці і дастатковую колькасць вільгаці. Ёй трэба быць і не вельмі цяжкай.

У 1956 годзе на VII з'ездзе Міжнароднай федэрацыі астранаўтаў у Рыме для навуковага ўжытку быў прапанаваны новы тэрмін «экасфера» (экалогія — навука пра ўмовы эвалюцыі жыцця). Пад экасферай дамовіліся разумець нейкі сферычны аб'ём прасторы вакол зоркі, у якой доўгі час пануе неабходная для жыцця тэмпература.





Калі ў экасферы той ці іншай зоркі знаходзяцца планеты, дык, па аналогіі з сонечнай экасферай, ёсць падставы лічыць іх носьбітамі жыцця — у самай рознай форме і на любой ступені развіцця. Напэўна, недзе ёсць цывілізацыі нашага, зямнога ўзроўню, а недзе — і больш высокага.

Вядомы амерыканскі астраном Х. Шэплі лічыць, што ў бачным цяпер Сусвеце налічваецца $10^{20}$ зорак, гэта значыць, сто тысяч мільёнаў мільярдаў. Гэтую цяжкую для вымаўлення велічыню нельга сабе ўявіць. Шэплі мяркуе: «Скажам, што толькі адна з тысячы зорак валодае планетнай сістэмай, што з тысячы такіх толькі ў адной будзе планета ў экасферы і адна з тысячы гэтых апошніх мае планету, здольную ўтрымаць вакол сябе атмасферу. Тады верагоднасць існавання падобнай планеты будзе складаць усяго адну мільярдную. Выходзіць, што адна з тысячы мільёнаў зорак адпавядае нашым меркаванням. Цяпер падзелім агульную колькасць зорак бачнага Сусвету на тысячу мільёнаў і атрымаем сто мільёнаў планет, прыгодных для жыцця ($10^{20} : 10^{9} = 10^{11}$). Гэта лічба мінімальная. На самай справе я асабіста павялічыў бы яе ў тысячу, а магчыма, і ў мільён разоў...»

Вось як! Х. Шэплі гатовы прызнаць, што ў Мегагалактыцы жыццё існуе на ста більёнах планет (більён — мільён мільёнаў). Ну, а колькі можа быць планет, на якіх жыццё дасягнула такога ўзроўню, што там з'явіліся і існуюць цывілізацыі? На жаль, адказу на гэтае пытанне няма. І не будзе! Бо Сусвет бясконцы. Мы толькі можам спадзявацца, што рана ці позна пачуем «касміцян» ці праз іх заклік да дыялогу, ці ў выглядзе адказу на наша запрашэнне «пагаварыць». Праўда, наш сучасны ўзровень тэхнікі можа аказацца недастаткова высокім. Варта помніць, што акрамя радыёхваль і светлавых праменняў высокаразвітыя цывілізацыі могуць карыстацца іншымі выпраменьваннямі, магчыма, нам пакуль зусім не вядомымі.

І ўсё ж дапусцім, што ў Галактыцы ёсць хаця б мільён планет, населеных разумнымі істотамі, і што ў радыусе пяцідзесяці светлавых гадоў іх знойдзецца некалькі. Гэта можа быць каля зорак: Праксіма, Альфа, Ляцячай, Вольф 359, Сірыуса, Рос 154, 61-й, што ў сузор'ях Цінтаўра, Кіта, Вялікага Пса і Лебедзя, якія знаходзяцца ад Сонца на адлегласці ад 4,3 да 10,5 светлавых гадоў.

Узнікае вострая патрэба ў сістэме сігналаў, з дапамогай якіх можна весці маналогі і дыялогі, перадаваць пазазямной цывілізацыі інфармацыю пра сябе і сваю планету.

У 1965 годзе ў Бюраканскай астрафізічнай абсерваторыі (Арменія) адбылася першая навуковая канферэнцыя, прысвечаная метадам і спосабам наладжвання кантактаў з пазазямнымі цывілізацыямі. Тут прагучэў заклік да псіхолагаў, лінгвістаў, кібернетыкаў, фізікаў і сувязістаў распрацаваць методыку перадач інфармацыі пра Зямлю і яе цывілізацыю.

Стварыць касмічную мову ўжо спрабавалі. Першым быў галандскі матэматык Г. Фройдэнталь, які выдаў сваю працу ў 1961 годзе.

Спосабы, якія ён прапануе, безумоўна, з цягам часу будуць палепшаны. А пакуль Г. Фройдэнталь шмат надзей ускладае на інтуіцыю дэшыфроўшчыкаў пазазямной цывілізацыі, спадзеючыся, што яны з некалькіх магчымых рашэнняў адгадаюць менавіта тыя, якія разумее ён. Але як растлумачыць жыхарам іншых планет нашы абстрактныя разуменні? Не дасягнуўшы гэтага, нельга і думаць пра карысць зносін.

Г. Фройдэнталь прапаноўвае складаныя ўяўленні перадаваць з дапамогай матэматычных скетчаў альбо інсцэніровак. Яны, мяркуе, дазволяць зрабіць недвухсэнсоўныя вывады з забаўных матэматычных штукарстваў.

Хочацца спадзявацца, што зямная цывілізацыя не праявіць бездапаможнасці, а прыдумае нешта лепшае.

І ўсё ж трэба сказаць, што галоўным спосабам перадач будуць матэматычныя сігналы і хутчэй за ўсё не ў дваічнай сістэме, а ў звычайнай нашай дзесяцічнай. Справа ў тым, што міжзорныя перадачы мэтазгодна весці толькі двума відамі сігналаў — кропкамі і паўзамі. Трэцяга няма. Але паўзы патрэбны як раздзяляльнікі паміж асобнымі знакамі, словамі, сказамі, а не для перадачы нуля, як гэта прапаноўваюць прыхільнікі дваічнай сістэмы. Бо тады любая паўза палічыцца як нуль і непазнавальна зменіць канчатковы вынік.

Напрыклад: лік 27 у дваічным кодзе гэта 11011, але вытрыманая за ім паўза, якую прымуць за нуль,ператворыць яго ў 110110, гэта значыць, у 54. Гэтая сістэма, зручная ва ўнутраным машынным асяроддзі вылічальнай тэхнікі, становіцца нязручнай у знешнім асяроддзі, таму што патрабуе пераходу цераз матэматычнае дзеянне ад сімвалаў да лікаў. Дзесяцічная ж сістэма мае шмат пераваг. Па-першае, у перадаючага ёсць цэлы арсенал азначальных паўз: вельмі кароткая, кароткая, сярэдняя, доўгая і надта доўгая; па-другое, усе лікі перадаюцца і прымаюцца прамым лічэннем, па-трэцяе, памылка, дапушчаная ў перадачы, не вельмі будзе ўздзейнічаць на вынік.

Адзіным недахопам дзесяцічнай сістэмы з'яўляецца павольнасць у перадачы, але ці варта бедаваць аб гэтым, ведаючы, што перададзены тэкст многія гады будзе вандраваць у касмічнай прасторы. А што мы хацелі б паведаміць пазазямной цывілізацыі? Пэўна, расказаць пра ўсё, чаго дасягнулі да цяперашняй мяжы развіцця — пра ўсю гісторыю культуры. Гэта значыць, пра $100 \times 10^{6}$ кніг і манускрыптаў (сто мільёнаў). Хай іх

сярэдні аб'ём — 10 аркушаў па 42.000 друкаваных знакаў у кожным. Тады ўсяго набярэцца $4,2\times10^{13}$ знакаў (сорак два більёны). Калі ўсе іх закадзіраваць у двайчнай сістэме, мяркуючы, што кожны лік будзе складацца ў сярэднім з пяці знакаў, то ўсяго атрымаецца $21\times10^{13}$ знакаў (дзвесце дзесяць більёнаў). Каб перадаць іх у паласе сігналу ў тысячу мегагерц на хвалях сантыметровага дыяпазону — такая паласа дазваляе перадаваць $10^9$ знакаў (мільярд) у адну секунду,— дык перадача зойме 60 гадзін. Пры карыстанні дзесяцічнай сістэмай, з сярэдняй колькасцю ў кожным ліку 15 знакаў, на перадачу будзе патрачана 180 гадзін, ці 7,5 сутак.

Хоць марудней, але затое прасцей і куды больш надзейна.

Першае, што неабходна зрабіць, гэта заявіць пра сябе з дапамогай сігналу выкліку. Каб не было сумненняў у яго паходжанні, выклік павінен складацца з сігналаў, на якія сляпая прырода не здольная. Пасылаць яго, мусіць, давядзецца на працягу многіх месяцаў, а магчыма, і гадоў, бо прыёмныя прыстасаванні пазазямных цывілізацый могуць не быць пастаянна наладжаны ў наш (сонечны) бок і на абраную намі хвалю.

## ВЫКЛІК

### Рад натуральных лікаў

1 .
2 .—.
3 .—.—.
4 .—.—.—.
5 .—.—.—.—.
6 .—.—.—.—.—.
7 .—.—.—.—.—.—.
8 .—.—.—.—.—.—.—.
9 .—.—.—.—.—.—.—.—.

### Арыфметычная прагрэсія

2 .—.
4 .—.—.—.
6 .—.—.—.—.—.
8 .—.—.—.—.—.—.—.

### Геаметрычная прагрэсія

2 .—.
4 .—.—.—.
8 .—.—.—.—.—.—.—.

### Велічыня П (да дзесятага знака)

3 .—.—.
1 .
4 .—.—.—.
1 .
5 .—.—.—.—.
9 .—.—.—.—.—.—.—.—.
2 .—.
6 .—.—.—.—.—.
5 .—.—.—.—.
3 .—.—.
5 .—.—.—.—.

Пасля водгуку на выклік, а ў выпадку перахвату дыялогу і не чакаючы адказу на сігнал, мы, напэўна, пашлём сваю лічбавую сістэму, з дапамогай якой у будучым перададзім мову Interstellum sermo і ўсю зямную інфармацыю. Трэба мець на ўвазе, што не абавязкова будуць прыняты прапанаваныя намі мова і код. Можа здарыцца, што пазапланетная цывілізацыя прапануе сваю мову і код, якія давядзецца вывучыць.

Першапачатковыя пасылкі лепш за ўсё, відаць, весці ў прамавугольных Дэкартавых каардынатах. Можна не сумнявацца, што яны будуць расшыфраваны без цяжкасцяў.

Варта расказаць пра адзін цікавы эксперымент, які быў пастаўлены ў навуковым студэнцкім таварыстве адной ленінградскай вышэйшай навучальнай установы. Групе студэнтаў прапанавалі дзве шпулі звычайнай тэлеграфнай стужкі, спісанай кропкамі. Іх папрасілі разгадаць, што гэта такое, і, калі можна, дэшыфраваць запіс. Праз чатырнаццаць дзён студэнты-матэматыкі ўрачыста ўручылі расшыфраваную імі сістэму матэматычнага кода і кропкавы партрэт лётчыка-касманаўта СССР Валерыя Быкоўскага. Вось як выглядаў кадзіраваны запіс на стужцы:





7—51 .—.—.—.—.—.—.———..—..—..—..—..—.———
8—52 .—.—.—.—.—.—.————..—..—..—..—..—.—.———
8—53 .—.—.—.—.—.—.—.————..—..—..—..—..———.—.—.———
8—65 .—.—.—.—.—.—.—.————..—..—..—..—..—..—.—.—.—.———
8—66 ———.—.—.—.—.—.—.——..—..—..—..—..—..—.—.———
8—67 .—.—.—.————.—.—.—.—.—.————..—..—..———
..—..—..———.—.—.—.—.—.—.—. **і далей**

усяго 1623 лікі, закадзіраваныя кропкамі пры X— y+




Мал. 1.




Мал. 2.

Такім чынам, накіраваўшы ў космас лікавую сістэму, услед за ёю мы паведамім нашым абанентам, дзе мы (мал. 2).

Планета на трэцяй арбіце ад зоркі, з праменнямі, што адыходзяць ад яе, пакажа месцазнаходжанне нашай цывілізацыі, пры гэтым аддаленне арбіт ад зоркі і адносная велічыня саміх планет раскрые будову сонечнай сістэмы. Вядома, калі нашы абаненты па гэтым малюнку зразумеюць, ад якой зоркі яны прымаюць сігналы. Затым пакажам, якія мы.

Адлюстраванне людзей — мужчыны, жанчыны, дзіцяці — пакажа натуральны выгляд чалавека, вызначыць яго пол з пэўнымі асаблівасцямі праз знакі-літары (без фанетыкі). Дэшыфроўшчыкі гэтых подпісаў, не ведаючы фанем, якія адпавядаюць кожнай літары, могуць надзяліць іх сваімі фанемамі. Гэта не мае значэння, важна, што ў далейшым такое спалучэнне сімвалаў (літар) будзе азначаць назву мужчыны, жанчыны, дзіцяці. Мы не ведаем фанем старажытнаегіпецкай і фінікійскай моваў, але, расшыфраваўшы іх пісанні, цяпер добра чытаем іх пісьмовую спадчыну. А вось як гучала іх жывая мова, даведацца мы ніколі не зможам.

У будучым такім жа спосабам можна будзе перадаць «адбіткі» зямной паверхні — флоры і фаўны, прадметаў быту, тэхнікі. Прычым кожны раз трэба будзе даваць тлумачальны подпіс словамі. Гэтак жа перадаецца сімволіка літар — алфавіт, без фанем. А вось што датычыць абстрактных разуменняў: мысленне, розум, шчасце, гора, цярпенне і інш., над гэтым варта падумаць усім, хто марыць пра Interstellum sermo — размову паміж зоркамі.

**Пятро ЮРЭВІЧ.**

# МАКЕТЧЫКІ

Размова пойдзе пра макетчыкаў, людзей, якія памагаюць мастакам-канструктарам ствараць прыгожыя і зручныя рэчы.

Каб убачыць будучую рэч у аб'ёме, звычайна робяць яе макет ці доследную мадэль. Макет дазваляе мастаку-канструктару наглядна ацаніць мэтазгоднасць той ці іншай формы вырабу.

Вось што расказвае начальнік вытворчасці Беларускага філіяла Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута тэхнічнай эстэтыкі Ілья Самуйлавіч Фрайнт:

— Многія, пэўна, думаюць, што рабіць макеты — лёгкая справа. Не зусім так. Вытворчасць наша надзвычай спецыфічная. Напрыклад, заводскі токар ці слесар робіць толькі пэўныя дэталі. У яго ёсць неабходнае абсталяванне, матэрыял. Нам жа даводзіцца мець справу з дэталямі і макетамі самага рознага профілю. Як толькі да нас трапляе праект, мы пачынаем меркаваць, прыкідваць, якія спатрэбяцца дэталі, з чаго іх зрабіць, які спатрэбіцца рыштунак для іх вырабу. Усё гэта спачатку робім па сваіх чарцяжах. Гэта значыць ствараем такую мадэль. Яна і павінна быць эталонам.

Да макетчыкаў пастyпаюць праекты з усіх аддзелаў інстытута. Новыя сельгасмашыны і станкі, матацыклы і трактарныя кабіны, электрычныя свяцільнікі і швейныя паўаўтаматы, дзіцячыя каляскі і посуд... І ва ўсім павінны дэталёва разбірацца макетчыкі. Многія з макетчыкаў яшчэ ў школьныя гады прывыклі канструяваць і будаваць. Яны могуць працаваць з любымі матэрыяламі і на любых станках, выконваць самыя разнастайныя тэхналагічныя аперацыі.

Вось мадэльшчык шостага разраду Леанід Корбут. Пасля дэмабілізацыі з арміі ён доўгі час працаваў на Мінскім аўтазаводзе. Слесар-універсал Аляксей Жыванаў пятнаццаць гадоў аддаў эксперыментальнаму цэху Мінскага мотавелазавода. Акрамя асноўнай працы, ён захапляецца водаматорным спортам. Сам будуе глісеры і выступае на іх у спаборніцтвах. Пятро Уткін да вайны працаваў у Маскве, пасля вайны пераехаў у Мінск і стаў мадэльшчыкам высокай кваліфікацыі. Ён робіць макеты з дрэва, сам шпаклюе іх, сам фарбуе. Віктар Бабенка — вядомы токар-рацыяналізатар. У свой час ён пабываў у многіх гарадах Беларусі, перадаючы свой вопыт. Не раз выступаў у Маскве на ВДНГ Анатоль Ласкевіч — слесар-універсал па вырабе тонкіх дэталяў. Падчас ён мае справу з такімі малюсенькімі дэталямі, якія нават нельга ў пальцах утрымаць. Лепшым мадэльшчыкам па пластмасе лічыцца Уладзімір Астрахан. Маючы дыплом тэхнолага-ліцейшчыка, ён працуе тут простым рабочым-мадэльшчыкам.

— Мне даўно хацелася займацца творчай справай, — тлумачыць ён. — І, здаецца, я знайшоў яе.

Бывае, што макет даводзіцца перарабляць па некалькі разоў, перш чым прыме яго мастацка-тэхнічны савет. Бо ў працэсе стварэння макета ўсплываюць пралікі і непаладкі, допушчаныя мастаком-канструктарам пры распрацоўцы праекта. Здараецца часам так, што ў ходзе работы ўзнікаюць новыя і зусім нечаканыя рашэнні.

— Неяк мы зрабілі макет прамысловага швейнага паўаўтамата ў натуральную велічыню, — успамінае Пятро Уткін. — Рабілі яго ў асноўным з дрэва, кожны элемент паасобку. А пасля падбіралі неабходную афарбоўку. Калі сабралі макет, то высветлілася, што ў аб'ёме рэч не глядзіцца. Давялося зноў перарабляць, шукаць больш дасканалую форму. Нарэшце, асобныя вузлы нібыта ўсім спадабаліся. Усе згадзіліся, што з іх можна збіраць макет. Сабралі і заўважылі, што нічога не выходзіць. Мастакі прызналі, што макет не адпавядае патрабаванням тэхнічнай эстэтыкі. Сёетое выкінулі, змянілі габарыты. Вельмі доўга ішлі пошукі знешняй формы. Апошні варыянт нібыта ўсім спадабаўся. Але тут высветлілася, што занадта высокі стол паўаўтамата. За ім нязручна працаваць. Вельмі глыбока пастаўлены педалі. І зноў пошукі...

— Або нядаўна, — працягвае Пятро, — рабілі макеты посуду для прадпрыемстваў грамадскага харчавання. Па задуме мастака-канструктара ён павінен быць поўнаштампаваны з нержавеючай сталі. Але мы не мелі такога матэрыялу. Вырашылі рабіць з пластмасы. Падрыхтавалі драўляныя матрыцы. Але каб на іх адштампаваць посуд, неабходна было нейкім чынам нагрэць пластмасу. Паспрабавалі паяльнай лямпай — не ўдалося. Вырашылі награвaць пластмасу ў гарачай вадзе. Атрымаўся посуд менавіта такі, які задумаў мастак. Але гэта яшчэ не ўсё. Трэба было надаць яму выгляд нержавеючай сталі. Скарысталі метад алюмініравання і атрымалі патрэбны эфект.

Каб мадэль стала рэальнай рэччу, якую будзе выпускаць завод, мастак-канструктар сумесна з макетчыкамі павінен давесці яе да дасканаласці. Бо не ўсякую ж прыгожую форму можна адліць ці адштампаваць. Патрэбны працяглыя пошукі, складаная творчая работа.

Цяпер у інстытуце закончана работа па стварэнні новай кабіны для трактара. Макет зроблены ў натуральную велічыню.

— А колькі давялося папрацаваць над ім, — прыгадвае мадэльшчык Леанід Корбут. — Кожны элемент рабілі паасобку. Усё было зроблена добрасумленна, згодна з мастацка-канструктарскім праектам. Але пачалі збіраць, і зноў многія элементы не падыходзяць адзін да аднаго. Давялося перарабляць, падпілоўваць, падганяць. Зрабілі мадэль, і выявілася, што рычагі кіравання засланяюць адзін з прыбораў. У старой кабіне шкло было занадта высока. Мы выправілі гэты недахоп. Пошукі вяліся ва ўсіх кірунках. Асноўную ўвагу звярталі на ўмовы працы трактарыста, на знешні выгляд кабіны. Цяпер у ёй больш зручна размешчаны рычагі кіравання, мяккія падрысорныя сядзенні, прыгожая ўнутраная абіўка, добрая бачнасць. Прыборы размешчаны па значнасці, па важнасці. Іх наблізілі да вадзіцеля так, што яму няма патрэбы нахіляцца. Усё перад вачыма.

Макетчыкі працуюць поруч з мастакамі-канструктарамі. Іх намаганні скіраваны да адной мэты — ствараць вырабы простыя, зручныя, прыгожыя. Настольная лямпа гэта ці станок, трактарная кабіна ці дзіцячая каляска — усякая рэч павінна быць эстэтычна дасканалай.

Васіль **СВЯТЛОЎ**.

# Ці ведаеце вы, што...

**...вялікі французскі матэматык Рэне Дэкарт:**

**...сказаў пра матэматыку як навуку: яна тлумачыць «усё, што датычыць парадку і меры, але не даследуе ніякія прыватныя прадметы»!**

**...удасканаліў алгебраічныя сімвалы і тым самым ліквідаваў разнабой у абазначэннях пастаянных і пераменных велічынь!**

**...адкрыў асноўны прынцып аналітычнай геаметрыі: магчымасць выражэння матэматычных велічынь геаметрычнымі элементамі, а геаметрычных элементаў — алгебраічнымі ўраўненнямі!**

**(Кажуць, што гэтыя тры вялікія адкрыцці вучоны зрабіў у ноч на 10 лістапада 1619 года, калі сасніў — адзін за адным — тры сны. Было яму тады 24 гады.)**

**...начартальная геаметрыя ў сувязі з адкрыццямі вялікага французскага матэматыка Гаспара Монжа была прызнана ваеннай тайнай, бо ёю шырока карысталіся пры пабудове крэпасцяў!**

**...у 14-гадовым узросце Гаспар Монж вынайшаў пажарную помпу і склаў план роднага горада, які і цяпер захоўваецца ў адной з гарадскіх бібліятэк!**

Сабраў **Валяр'ян ЛЯШЭВІЧ.**

## АБЫ-АБЫ...

Ёсць у штатных справах
Дзіўная наўвязка:
Перад намі ява —
Не якая казка.
Наш філолаг Сёма —
Аж бярэ здзіўленне! —
У крэсле агранома
«Зеленаўпраўлення».
Аграном жа Уладзя —
Тут не меней дзіва! —
Тэхнік на акладзе
Кааператыва.
Заатэхнік Вацік
Ходзіць сабе франтам:
Ён у інтэрнаце
Робіць камендантам.
А тавараназнаўцы
Вышэйшага класа
Заняліся працай
У білетных касах.




Ёсць у штатных справах
Дзіўная наўвязка:
Перад намі ява —
Не якая казка.

Васіль МАЕУСКІ.




## «СПРЫНТЭР»

Спартсмен незвычайны:
Любіць адчайна
Бегаць ад дома
Да гастранома.

## МУЖЧЫНЫ ЁСЦЬ МУЖЧЫНЫ

Заўжды была з суседкай на нажах,
А муж дружыў з суседам — ёй на жах.

## ПРЫЧЫНА РАЗВОДУ

Заўжды імкнуўся ён да волі,
Ды жонка запярэчыла:
— Даволі!

Мікола ВЯРШЫНІН.

## ПЕРАСЦЯРОГА

Найлепей язык
за зубамі трымаць:
Лепш дрэнна падумаць,
чым дрэнна сказаць.

Яўген ВЕРАБЕЙ.





## КОТ І ПРАГРЭС

Прагрэс я ў жыцці не хвалю:
Мышэй уручную лаўлю!

## МЕТАМАРФОЗА

У рэстаран заходзіў ён бадзёра —
Назад выносілі чацвёра.

## СЯБРАМ-БАЙКАПІСЦАМ

Лісе, Аслу, Мядзведзю
Нам біць паклоны трэба:
Каб не яны, былі б мы
Без баек і без хлеба.

Павел ШЫБУТ.

## БАЛЕЛЬШЧЫК

Імпэтны я без меры:
На матчах — ого-го! —
Раву калі не зверам,
Дык блізка да таго.

Спартыўны я хлапчына,
Люблю я стадыён.
Але адна дзяўчына
Мяне ўзяла ў палон.

— Крычаць на матчах годзе,—
Зацвердзіла адно.
І разам з ёю ходзім
Штодзённа мы ў кіно.

О, стадыён «Дынама»,
Дзе я рычэў, як леў!
Гляджу я кінадрамы,
Як матчы я глядзеў.

Калі кіно пра гора,
Прыпраўлена слязой,—
«На мыла рэжысёра!» —
Крычу я, сам не свой.



Вайна. Мы гонім белых.
Паддай, артылерыст!
Крычу я «шайбу!» смела,
Каб лепш страляў артыст.

За воклічы такія
Я непрыемнасць меў:
Я атрымаў па шыі —
Балельшчык побач сеў.

Мікола АЛТУХОУ.

Мал. С. ВОЛКАВА.

# нашы аўтары

●

**ГІЛЕВІЧ Ніл** нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Слабада Лагойскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна. Кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускай літаратуры ў БДУ.
Аўтар зборнікаў паэзіі «Песня ў дарогу», «Прадвесне ідзе па зямлі», «Неспакой», «Бальшак», «Перазовы», «Лісце трыпутніку» і інш.

●

**УС Аляксандра** нарадзілася ў 1909 годзе ў Віцебску. Скончыла Камуністычны інстытут журналістыкі імя С. М. Кірава. Звыш дваццаці гадоў рэдагуе часопіс «Работніца і сялянка».

●

**ПАНІЗНІК Сяргей** нарадзіўся ў 1942 годзе ў в. Бабышкі Міёрскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў Магілёўскае медыцынскае вучылішча і працаваў фельчарам. Пасля службы ў Савецкай Арміі закончыў факультэт журналістыкі Львоўскага ваенна-палітычнага вучылішча. Аўтар кнігі вершаў «Кастры Купалля».

●

**ДАЛІДОВІЧ Генрых** нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Янковічы Стаўбцоўскага раёна. Скончыў філфак БДУ імя У. І. Леніна. Служыў у радах Савецкай Арміі. Зараз працуе настаўнікам на Барысаўшчыне.

●

**ПУШКІН Яўген** нарадзіўся ў 1939 годзе ў Оршы. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна. Працаваў на будаўніцтве Волжскай ГЭС, служыў у арміі. Зараз—загадчык аддзела газеты «Чырвоная змена».

●

**ФАМІН Уладзімір** нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Старынка Мсціслаўскага раёна. Служыў у Савецкай Арміі. Скончыў Мінскую вышэйшую партыйную школу. Працаваў у Міністэрстве аховы грамадскага парадку, зараз працуе ў рэдакцыі газеты «Мінская праўда».

●

**ПАРАХНЕВІЧ Міхась** нарадзіўся ў 1934 годзе ў вёсцы Мінкавічы Старадарожскага раёна. Скончыў БДУ імя У. І. Леніна і ВПШ пры ЦК КПСС. Працаваў у газеце. Зараз — на партыйнай рабоце.

●

**ЮРКЕВІЧ Мікалай** нарадзіўся ў 1928 годзе ў вёсцы Сяргеевічы Пухавіцкага раёна. Скончыў Мінскі юрыдычны інстытут у 1950 годзе. Доктар юрыдычных навук, прафесар Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Аўтар кніг «Основания развода», «Заключение брака», «Семья в современном обществе», «Советская семья».


**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 6**

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.**
Карэктары **Пятро ЛІПАЙ** і **Марыя ВАСІЛЕЎСКАЯ.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, ГСП, вул. К. Маркса, 40.
Тэлефоны: 2-98-854—сакратарыят і аддзел крытыкі, 2-93-592—аддзелы паэзіі і прозы, 2-93-892—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 2-93-775—аддзел інфармацыі.

АТ 01085. Здадзена ў набор 27.IV.71 г. Падпісана да друку 1.VI.71 г.
Тыраж 15863 экз. Зак. 237. Цана 40 кап. Папера 70×108¹/₁₆. Фіз. друк. арк. 10.
Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.выд. арк. 14,5.

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Мінск, Ленінскі прасп., 79.**




**Валянцін ЯГОРАЎ. Сяброўкі.** (Лінагравюра).